# ІВАН ЧЫГРЫНАЎ

## Выбраныя творы ў трох тамах

ТОМ 1

АПАВЯДАННІ

Мінск «Мастацкая літаратура» 1984

# НЕПАДМАННЫ ПОКЛІЧ ЭПІКІ

Адзін з самых вядомых і таленавітых сучасных беларускіх празаікаў Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў нарадзіўся 21 снежня 1934 года ў вёсцы Вялікі Бор Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Сямігодку закончыў у сваёй роднай вёсцы, а сярэднюю адукацыю набываў у вёсцы Саматэвічы, дзе нарадзіўся выдатны паэт А. Куляшоў. Думаецца, шырокая вядомасць імя А. Куляшова, усведамленне, што ваколіцы Саматэвіч і людзі гэтай мясцовасці жывілі яго паэтычнае натхненне, паглыблялі зацікаўленасць здольнага юнака да літаратуры, садзейнічалі сур'ёзным адносінам да яе.

У 1952 годзе І. Чыгрынаў пасля паспяховага заканчэння Саматэвіцкай сярэдняй школы паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта. Вучоба ва універсітэце, дружба з сябрамі, якім таксама было ўласціва шчырае захапленне літаратурай, гарачае абмеркаванне літаратурных праблем, першыя ўласныя пісьменніцкія спробы павышалі веданне мастацкай творчасці да прафесійнага ўзроўню. Пасля заканчэння універсітэта І. Чыгрынаў працуе на пасадах, якія патрабуюць грунтоўнай падрыхтоўкі ў галіне літаратуры. Ён працаваў рэдактарам, а пасля загадчыкам рэдакцыі літаратуры і мастацтва выдавецтва Акадэміі навук БССР, рэдактарам аддзела публіцыстыкі і нарыса часопіса «Полымя», намеснікам старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Цяпер І. Чыгрынаў — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі.

Як пісьменнік пачаў стала выступаць у друку з 1961 года. У 1965 годзе выйшаў у свет першы зборнік апавяданняў І. Чыгрынава «Птушкі ляцяць на волю». Былі выдадзены зборнікі апавяданняў «Самы шчаслівы чалавек» (1967), «Ішоў на вайну чалавек» (1973). У 1972 годзе апублікаваны першы раман «Плач перапёлкі» з цыкла раманаў пра разгортванне партызанскай барацьбы ў Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Раманы «Апраўданне крыві» (1977) і «Свае і чужынцы» (1983) працягваюць апісанне падзей і раскрыццё людскіх лёсаў, адлюстраваных у рамане «Плач перапёлкі».

* * *

У адным з артыкулаў, якія напісаны на падставе даклада на пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў БССР у 1979 годзе, І. Чыгрынаў заявіў, што «раман — гэта народ». Такое прынцыповае творчае перакананне пісьменніка з'явілася, відаць, не гэтак на аснове знешне засвоеных разваг аб асаблівасцях пэўнага літаратурнага жанру, колькі з блізка знаёмай уласнай творчай практыкі. Так, І. Чыгрынаў, які пачынаў літаратурную творчасць з жанру апавядання, прыйшоў да рамана, а гэта сапраўды азначае, што па лініі ўзрастаючай мастацкай абагульняючай сілы ён рухаўся ад зацікаўленасці лёсам асобных людзей да спасціжэння лёсу народа. І гэты рух не быў у яго фармальным: пройдзены пісьменнікам шлях з'яўляецца ўвасабленнем складанага росту ў галіне майстэрства, якое адкрывае здзіўляючую магчымасць наглядна паказаць асобу аднаго чалавека як засяроджанне народнай душы і волі.

Непасрэдна звязаўшы ў творчым плане жанр рамана з лёсам народа, І. Чыгрынаў не прынізіў гэтым самым літаратурнага і грамадскага аўтарытэту іншых жанраў і перш за ўсё апавядання, з якога пачыналася яго ўласная пісьменніцкая дарога. У кожнага жанру свае адлюстравальныя магчымасці, свае перавагі, аднак раман, безумоўна, валодае самымі дасканалымі аналітычна абагульняючымі формамі мастацкага ўзнаўлення жыцця народа і яго гісторыі. Але да рамана, які можа лічыцца мастацкім аналагам народнага лёсу, народнай гісторыі, трэба абавязкова прыйсці. І. Чыгрынаў належыць да тых пісьменнікаў, якія прыйшлі да такога рамана з непазбежнасцю, якая вынікае толькі з вялікага, мэтанакіраванага і няспыннага творчага самапераадолення.

Першыя апавяданні І. Чыгрынава вызначаліся сур'ёзным поглядам на свет, даволі прыстойнай аналітычнай культурай дум-

кі, адносна высокім узроўнем мастацкага выказвання. Аднак, бадай што, нельга сказаць, быццам раннія апавяданні пісьменніка былі ўжо загатоўкамі будучай эпічна-раманнай задумы, хоць, праўда, і на пачатку творчага шляху І. Чыгрынаў умеў не толькі стварыць характэрны жыццёвы малюнак, але і выразна падкрэсліць яго абагульняючы змест, суаднесці яго з рухам народнай гісторыі. Усё-такі ўнутраны пафас маштабнай эпічнасці адчуваецца і ў ранніх апавяданнях пісьменніка.

Здаецца, так мала падзей уведзена ў апавяданне «Шукаючы скарбы», але яго змест раскрывае цэлую эпоху развіцця савецкага грамадства з яе супярэчлівымі працэсамі, галоўны кірунак якіх складваўся пад уздзеяннем велічных мэт сацыялістычнай рэвалюцыі. Не ўсё было зразумелым, не ўсё ўдавалася на першым этапе рэвалюцыйных перамен іх удзельнікам.

Асабліва цяжка было правільна арыентавацца і дзейнічаць згодна сапраўдных інтарэсаў працоўнага народа людзям малаадукаваным, якія да таго ж не мелі раней дастатковай практыкі грамадскіх паводзін. Салдату Сямёну Патапчыку, які атрымаў загад узяць пад ахову мастацкія карціны ў панскім доме, цяжка здагадвацца, што каштоўнасць для рэвалюцыі маюць самі карціны, дзе намаляваны, як здаецца Сямёну, нейкія там буржуі, а не пазалочаныя рамкі ад карцін. Узяўшы пад ахову рамкі і аднёсшыся да саміх карцін як да непатрэбных рэчаў, Сямён Патапчык нанёс несвядома шкоду інтарэсам рэвалюцыі, бо ў выніку яго дзеянняў карціны згубіліся і народ аказаўся пазбаўленым значных духоўных каштоўнасцей.

Герой апавядання ўжо ў наш час едзе па слядах даўняга выпадку, каб знайсці згубленыя мастацкія каштоўнасці і зрабіць іх здабыткам народнага жыцця. Ідэя гэтага твора — у сцвярджэнні неабходнасці разумнай пераемнасці часоў пры рэзкіх рэвалюцыйных пераменах жыцця, у глыбінным пафасе духоўнага прагрэсу, які апіраецца на лепшыя традыцыі мінулага і без якога працоўны народ, ажыццявіўшы сацыялістычную рэвалюцыю, не здолее дасягнуць усіх пераўтваральных мэт, накрэсленых гэтай рэвалюцыяй. Галоўная аўтарская думка апавядання «Шукаючы скарбы» накіравана не гэтак супраць спрошчанасці і абмежаванасці сацыяльных уяўленняў, уласцівых частцы народных мас у якасці гістарычнай непазбежнасці, бо яна несла з сабой у рэвалюцыю душэўныя сляды спрадвечнай унутранай прыгнечанасці, колькі ў абарону высокага ўзроўню рэвалюцыйнай свядомасці, здатнай апірацца ў сваім развіцці на ўсе здабыткі прагрэсіўнай культуры мінулага. Мінулае не павінна супрацьпастаўляцца рэвалюцыйнаму абнаўленню жыцця, наадварот — яно ў сваіх спрадвечных народных імкненнях да святла і шчасця прадвыз-

начае магутнасць наступальнай сілы рэвалюцыі. Урэшце і ўчынак салдата Патапчыка быў няправільны па сутнасці, а не па імкненню, бо ў яго імкненні бескампраміснага адмаўлення мінулага грамадскага ладу таксама выяўлялася магутнасць рэвалюцыйнага парывання народных мас. Унутраны напал абнаўлення ў душы салдата стварае такую сітуацыю, калі хочацца выперадзіць час, калі адбываецца ў грамадскім сэнсе наіўны адрыў ад рэальных патрэб і задач рэвалюцыйнага сцверджання жыцця. Гэты адрыў пераадольваецца ўсенароднай практыкай будаўніцтва новага грамадства, пераадольваецца, на жаль, часам, як у апавяданні «Шукаючы скарбы», без узнаўлення страт, нанесеных у час наіўна спрошчаных уяўленняў аб задачах рэвалюцыйнай перабудовы свету.

Такім чынам, ідэя апавядання «Шукаючы скарбы» даволі маштабная, можна сказаць, яна ў значнай меры раманная ідэя. І ў некаторых іншых апавяданнях І. Чыгрынава ёсць гэтая эпічная шырыня творчай задумы, імкненне і ўменне аўтара ўбачыць у звычайных праявах жыцця гістарычную праясненасць часу, эпохі («Адна ноч», «Па сваіх слядах»). Падкрэслена эпічныя абрысы паказаных падзей пісьменнік стварае шляхам пастаяннага ўзбуйнення ідэі аб ролі мінулага ў сучасным лёсе людзей, шляхам устанаўлення звенняў гістарычнага ланцуга ў ходзе часу. Гэтая ідэя поўнасцю фармуе змест апавядання «Адна ноч», у якім выказваецца трывога за паспешлівы разрыў паміж спрадвечным складам жыцця і раптоўнай яго пераменай. Стары цыган Мікала ў нечым вельмі імпануе аўтару, калі адважваецца на адзіноцтва — абы не паддацца адразу рашучай перамене, якая можа парушыць унутраную раўнавагу і ўсталяваную натуральнасць адносін да свету. У вобразе Мікалы даволі выразна праглядваюцца рысы рамантычнай паэтызацыі.

У шмат якіх іншых апавяданнях І. Чыгрынава таксама часта паэтызуецца тып паводзін, нязгодны з распаўсюджаным, звыклым станам жыцця. Вобразы людзей, здатных на рамантычную адмежаванасць ад звычайнага існавання, былі вельмі характэрныя для ўсёй савецкай літаратуры рубяжа 50—60-х гадоў, і змест іх вызначаўся агульнай атмасферай тагачаснага грамадскага развіцця, калі ўзрастала сацыяльная роля асобы чалавека, калі на поўна выяўленую і баявую асабістасць ускладаліся вялікія надзеі ў працэсе абнаўлення ўсіх сфер жыцця і дзейнасці савецкага чалавека. Аднак вось што цікава: як гэта сёння можна заўважыць, у апавяданнях І. Чыгрынава вобразы адзінокіх рамантыкаў, людзей, якія імкнуцца ў нечым узвысіцца над звыклым асяроддзем, разам з прывабнымі асаблівасцямі натуры маюць і нешта такое, што насцярожвае, прынамсі, выклікае эмацыянальную стрыма-

насць у адносінах да іх. У душы Мікалы з апавядання «Адна ноч» побач з пачуццём уласнай годнасці і рашучасцю паводзін наглядна праступае патрыярхальная ўпартасць, старэчая залішняя ізаляванасць ад новых форм жыцця, нелюбоў да перамен наогул.

А ў апавяданні «Ці бываюць у выраі ластаўкі?» ужо даволі пэўна ў паводзінах Аляксея Кузьмянка, здатнага на ўчынкі неардынарныя, на супрацьпастаўленне сябе астатнім людзям, адкрываюцца спробы бяздумнай агрэсіўнасці ў адносінах да іншых, якая мяжуе са здзекам. Сама назва апавядання «Ці бываюць у выраі ластаўкі?» сваёй запытальнай інтанацыяй ставіць пад сумненне чысты рамантычны змест рамантычнага вобраза «выраю», які азначае ўзлёт і ўзвышэнне, але і зварот да звыклага, ранейшага, свайго, мясцовага. Згодна мясцовай легендзе, выраю наогул не бывае — ластаўкі зімуюць у возеры, не пакідаючы тутэйшай зямлі. Таму і запытанне: ці бываюць у выраі ластаўкі?

Чым жа тлумачыцца гэтая асаблівасць ранняй творчасці І. Чыгрынава, яго такі ледзь не адкрыта заяўлены недавер да рамантычнага парывання? Пісьменнік і прымае ўзвышэнне над звыклым як вынік імкнення да асабістай незалежнасці і самастойнасці і ў той жа час нібы трымаецца ад яго, ад гэтага ўзвышэння, на даволі прыстойнай маральнай дыстанцыі, нібы здагадваючыся наперад пра яго слабасць, непаслядоўнасць і нават бесперспектыўнасць.

Думаецца, у гэтай своеасаблівасці пазіцыі пісьменніка перш за ўсё выявілася яго дакладнасць сацыяльнага адчування часу. Нейкай часткай душы ён чула рэагаваў на палавінчаты, не паслядоўны характар узнёслых уяўленняў таго часу, калі ствараліся апавяданні. Жаданне ўзляцець у рэчаіснасці тых гадоў дзіўным чынам перапляталася, ужывалася з жаданнем астацца. Рамантычна настроены герой часу, які ішоў на пратэстуючы разрыў са звыклым, заставаўся больш ва ўладзе эмоцый, чым канкрэтнага, прадуманага, вынашанага ўчынку. Недзе ва ўнутраным абліччы такога героя адкрываўся сваёй нізкай сутнасцю індывідуалізм.

Заўважыць гэтую супярэчлівасць у характары і ў імкненнях пэўнага тыпу сучасных людзей лягчэй было, відаць, якраз І. Чыгрынаву — пісьменніку, якому з самага пачатку творчай дзейнасці ўласцівай аказалася схільнасць да шырокаахопнага, эпапейнага бачання жыцця. А ўсёахопная, эпапейная шырыня пісьменніцкага зроку абавязкова павяртае гэты зрок да праблем і падзей усенароднага значэння. З пункту ж погляду ўсенароднага лёсу, індывідуальны намер адарвацца ад звыклага, не ўзгоднены ці малаўзгоднены з агульным станам грамадскай жыццядзейнасці,

паграджае індывідуалістычнай ізаляцыяй і фактычнай бесперспектыўнасцю самага актыўнага і ўзнёслага настрою душы.

Натуральна, што для І. Чыгрынава, які пастаянна пашыраў эпічнае бачанне свету да ўсенароднага абсягу, вобраз індывідуальнага ўзвышэння асобы, не падмацаванага імпульсамі народнага ўздзеяння, павінен быў паступова страчваць маральную і грамадскую прывабнасць і пераўтварыцца ў з'яву няпэўнай або і выразна адмоўнай маральна-якаснай ацэнкі. У выніку ў творчасці І. Чыгрынава на нейкім этапе развіцця стала рашуча перадольвацца нават частковая, нясмелая сімпатыя да актыўнай, але пазбаўленай унутранай узгодненасці з перадавым народным светаадчуваннем, асобы.

Больш таго, з цягам часу, у перыяд напісання раманаў «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві» і «Свае і чужынцы», вобраз чалавека, схільнага адрывацца ад народнай глебы, пагарджаць правераным вопытам шматлікіх пакаленняў, хай сабе і ў імкненні да суб'ектыўна добрых намераў, эвалюцыяніраваў да непрыкрыта эгаістычнай канцэпцыі жыццёвых паводзін. Такі ў раманах І. Чыгрынава Чубар — непахісна верны раз і назаўсёды засвоеным устанаўленням і гатовы ў гэтай вернасці стаць над усімі людзьмі з пачуццём аўтарытэтнай сваёй праваты.

Суровы маральны і грамадзянскі суд над асобай такога эмацыянальна-псіхалагічнага складу, у якой закладзена супярэчнасць узнёслага парывання і нізка зямнога прыцягнення, якое ў рэшце рэшт паралізуе парыванне і ўзлёт, дыктуецца ўсім сэнсам ідэйна-мастацкай эвалюцыі пісьменніка. Звярнуўшыся ў сваіх раманах да тэмы партызанскага руху на акупіраванай тэрыторыі Беларусі, які быў глыбінным народным рухам, ідэйна і арганізацыйна кіруемым воляй партыі, І. Чыгрынаў яшчэ больш узмацніў традыцыйна-народны крытэрый маральных і грамадзянскіх каштоўнасцей. Згодна гэтага крытэрыю тып паводзін, адарваны ад агульна-народнай арыентацыі, хоць і даволі актыўны ў самасцвярджэнні, выраджаецца ў самаўпэўненага эгаіста, няздатнага колькі-небудзь сур'ёзна павярнуць сваё жыццё ў бок калектыўнай справы. Тым больш цяжка яму, аднабаковаму і прадузятаму ў сваіх жыццёвых уяўленнях, спасцігнуць жывую надзённасць часу і адчуць сваю прыналежнасць да важных падзей народнага жыцця.

У апавяданні «Шчаслівае месца» І. Чыгрынава ёсць ледзь не алегарычны эпізод, у якім раскрываецца бяссілле індывідуальных намаганняў чалавека, калі яны не супадаюць са штодзённымі, звычайнымі патрэбамі іншых людзей. Герою гэтага апавядання трэба вясною ў разводдзе перабрацца на другі бераг ракі, але ён гэтага зрабіць не можа, бо вымушаны чакаць, пакуль у каго-небудзь з мясцовых людзей узнікне неадкладная патрэба таксама

быць на другім беразе ракі. І тады будзе зроблены далёкі аб'езд на мост. Сэнс гэтага завостранага сюжэтнага моманту вельмі празрысты: сувязь асабістых намаганняў чалавека з народнымі інтарэсамі гарантуе сапраўдны поспех і рэальны вынік.

Асабліва мэтанакіравана і ў шырокім маштабе шукаў І. Чыгрынаў у апавяданнях жывога ўвасаблення станоўчага ідэалу ў канкрэтным чалавечым лёсе. Многія героі яго апавяданняў — людзі з глыбокай унутранай верай у праўду і справядлівасць чалавечай волі. Задача паказаць у пераканальных і жывых рысах вобраз высокамаральнага, прыгожага душой чалавека цяжка даецца кожнаму пісьменніку. У. І. Чыгрынава таксама не ўсё ўдавалася адразу.

Падкрэслена прывабнае аблічча станоўчага героя, напрыклад, у апавяданні «Народны камісар» надзелена стандартнымі прыгожа кніжнымі рысамі: «Быў ён моцнага складу, шыракаплечы, вышэй сярэдняга росту і з твару нечым нагадваў пажылога акцёра — пасівелага, з сумнымі запалымі вачамі, але з выгляду яшчэ — на пэўнай адлегласці — як маладога...»

Найбольш бянтэжыць тут, бадай, параўнанне героя з пасівелым акцёрам — выразная адзнака знешняй паэтызацыі. Але такіх выпадкаў нават у ранніх апавяданнях пісьменніка няшмат. І. Чыгрынаў усё больш і больш паслядоўна павышаў узровень эпічнай аб'ектыўнасці ў стварэнні вобраза дзейснага героя. Як глыбокі рэаліст ён бачыць характар паводзін чалавека ў выразным індывідуальным праяўленні і разам з тым у тыповым грамадскім значэнні. Пры неабходнасці І. Чыгрынаў даводзіць выразнасць рысы да стану аголенасці і знешняй непрывабнасці, але ўсё гэта не толькі не прыніжае героя, але ўзбуйняе эпічна яго агульнае аблічча, бо яно, гэтае аблічча, атрымлівае шматграннасць унутранай характарыстыкі. У апавяданні «Самы шчаслівы чалавек» Аляксея, напрыклад, зусім не прыніжае той факт, што пасля першага артабстрэлу ён устае з зямлі на карачках. «Артналёт скончыўся раптоўна, таксама як і пачаўся. Аляксей, яшчэ не верачы сабе, падняўся спачатку на карачкі, пасля стаў хістаючыся на ногі; твар яго ў гэты момант быў як у нежывога». Гэтае «падняўся спачатку на карачкі», «твар яго ў гэты момант быў як у нежывога» якраз і патрэбна пісьменніку, каб наглядна паказаць вялікі пафас «уставання» савецкага чалавека пад моцным ударам ворага дзеля ўпартай, гераічнай барацьбы з ім.

Заўважаецца, што ў пошуках духоўна велічнага стану чалавека І. Чыгрынаў ужо ў апавяданнях усё часцей і часцей звяртаецца да тэмы Вялікай Айчыннай вайны. З гэтай творчай сітуацыі, відаць, і вырастала задума пра зараджэнне партызанскага руху на тэрыторыі Беларусі, пра простых, але душэўна багатых

і гераічных людзей мужнай і складанай партызанскай барацьбы. Вобраз Дзяніса Зазыбы з раманаў пісьменніка, чалавека, які вельмі натуральны ў сваёй еднасці з народам, антыпода Чубара — вышэйшае дасягненне аўтара ў мастацкім сцвярджэнні дзейснага народнага характару.

Такім чынам, у апавяданнях І. Чыгрынава ўжо вельмі пэўна і моцна выявіліся творчыя імпульсы, якія вялі да ўмацавання пачуцця гістарызму і народнасці ў аўтарскай ідэйна-мастацкай пазіцыі. У выніку паступова фармаваліся і адпаведныя жанравастылёвыя асаблівасці яго твораў. Выспяванне раманнай задумы ў І. Чыгрынава адбывалася вельмі натуральна, праз пераадоленне ўжо дасягнутага і заваяванага, у імкненні да новых вышынь. Гэтая задума сапраўды азначала перш за ўсё новае, больш шырокае і пранікліваае адчуванне зрухаў у народнай свядомасці. Пісьменнік таксама вызваляўся паступова ад усяго, што было неарганічна яго таленту. Яго поўнасцю захапіў эпічны размах гісторычна-аб'ектыўнага адлюстравання народных імкненняў у час вялікіх выпрабаванняў і барацьбы.

* * *

Літаратура ва ўсе часы імкнулася паказваць вайну ў шырокім эпічным адлюстраванні, выкарыстоўваючы мастацкія сродкі буйных жанраў. Дастаткова нагадаць у якасці прыкладу «Іліяду» Гамера, «Песню пра Раланда» і «Слова аб палку Ігаравым», паэму Яна Вісліцкага «Пруская вайна», раман Л. Талстога «Вайна і мір», раман М. Шолахава «Ціхі Дон». У такой унутрана-жанравай схільнасці бачацца зусім пэўныя прычыны, бо вайна нясе з сабой такія грандыёзныя і сур'ёзныя грамадскія зрухі, такія рашаючыя перамены ў лёсе народа і чалавека, што асэнсаванне іх сутнасці патрабуе грунтоўнай засяроджанасці думкі, маштабнага ахопу з'яў, усебаковай іх увязкі з агульнай хадой часу, з галоўнымі тэндэнцыямі эпохі. А ўсё гэта ў сваю чаргу чакае ўвасаблення ў адпаведнай мастацкай форме, дзе скорагаворка, аднапланавасць сюжэтных ліній, вузкасць пачуццёвых перажыванняў, падзейная абмежаванасць не садзейнічаюць дасканаламу выяўленню ідэі і наўрад ці забяспечваюць творчы трыумф самой задумы пісьменніка.

Мабыць, у творах пра вайну шырокая эпічная выяўленчасць валодае нейкай асаблівай, дадатковай эстэтычнай апраўданасцю.

Эпапейнасць — не толькі фармальна-жанравая асаблівасць раманаў І. Чыгрынава, не толькі знешняя прыкмета творчай задумы, як гэта часта здаралася ў беларускай прозе 40-х і пачатку 50-х гадоў. Гэта сама канцэпцыя мыслення пісьменніка. Усё, што

трапляе ў поле зроку аўтара, прасякнута ідэяй велічы жыцця, адчуваннем яго магутнай хады, імкненняў усенароднай сілы.

Жыццё — самы галоўны, бадай, персанаж раманаў І. Чыгрынава. Таму нават звычайны жыццёвы выпадак, здарэнне ў яго маюць статус дзеючых асоб. Сутыкнуўшыся з імі, станоўчыя героі раманаў «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужынцы» вядуць сябе так, нібы сустрэлі незнаёмага чалавека, стараюцца вызнаць яго характар і прадугадаць магчымыя вынікі сустрэчы.

Гэта вельмі важны момант у паэтыцы раманаў І. Чыгрынава, ва ўсім светапоглядным адчуванні пісьменніка. Ён завяяваны развіццём усёй беларускай літаратуры пасляваеннага часу, якая звярталася да тэмы вайны. На аснове папярэдніх рэалістычных традыцый пастулова выпрацавалася ўнутранае чуццё, што героем на вайне з'яўляецца не той, хто імкнецца ўзняцца над падзеямі, а той, хто ўмее разгадваць кірунак іх развіцця і скарыстаць гэтае еданне дзеля задач перамогі. Сапраўдны герой не будзе ігнараваць выпадак як дробязь, якая не заслугоўвае ўвагі, а пастараецца яго «асядлаць» і гэтым самым уплываць на галоўны зрух жыцця.

Трэба сказаць, што выпадак вельмі шмат значыць у лёсе ўсіх герояў І. Чыгрынава. Галоўны герой яго раманаў Дзяніс Зазыба — сельскі актывіст з рэвалюцыйным мінулым, які некалі ваяваў пад камандаваннем Шчорса, ардэнаносец, намеснік старшыні калгаса — абавязаны сваім жыццёвым становішчам звычайнаму выпадку. «Можа б, ён тады і не падаўся да Шчорса, але пасварыўся з бацькам: цыганы ўкралі на лузе іхнюю жаробку, на якую спадзяваліся ў гаспадарцы, і вінаваты быў Дзяніс, бо не застаўся на начлезе, а прывалокся начаваць у вёску да жонкі». Жаробка, цыганы, жонка, сварка з бацькам і, нарэшце, Шчорс — якая далёкая сувязь паміж падзеямі і людзьмі! Але ў гэтай стыхійнай сувязі выпадковасцей ёсць свая заканамернасць, логіка жыццёвай плыні. Сэнс жыцця часцей за ўсё выяўляецца скрытна, ён, бывае, зацямняецца нагрувашчваннем выпадковасцей, але ён і праяўляецца ў іх, выпадковасцях. Яны таксама складаюць сапраўдны твар жыцця. Што Дзяніс Зазыба апынуўся ў Шчорса — гэта і выпадковасць і адначасова заканамернасць. Так, трапіў ён туды выпадкова, але заканамернасць была ў тым, што ён застаўся ў Шчорса і ваяваў самааддана, бо справа, за якую змагаліся байцы Шчорса, адпавядала жыццёвым інтарэсам такіх людзей, як Зазыба.

У час крутых перамен асабліва ўзрастае ўлада сляпога здарэння над лёсам чалавека. Аказваецца, што звычайная бадня, якой чэрпаюць ваду з калодзежа, можа дачыніцца да зыходу, жыць ці не жыць людзям цэлай вёскі. Няўмелае карыстанне бадняй прывяло да таго, што ў калодзежы ўтапіўся нямецкі салдат.

Але за гэта ледзь не былі расстраляны ўсе жыхары Верамеек.

Справа ў тым, што, згодна агульнай эстэтычнай канцэпцыі пісьменніка, выпадак хоць і сляпая, але праява жыцця. Зразумела, што рэакцыя на выпадак з'яўляецца рэакцыяй на ход самога жыцця. Таму І. Чыгрынаў апісвае не столькі здарэнне само па сабе, колькі паводзіны немцаў у сувязі са здарэннем, раскрывае іх рэакцыю на выпадак. Гэтым самым у яго раманах ставіцца праблема суадносін акупацыйнай сілы і ўсяго ўкладу тутэйшага, мясцовага жыцця.

У жыцці здараецца такое, што мала залежыць ад свядомых жаданняў людзей. Гэта знак яго глыбіннай сутнасці. І каб не сутыкнуцца слепа з яго няўмольным напорам і імпэтам у трагічнай сітуацыі, каб засцерагчыся ад непажаданага збегу абставін і ўласных памылак, трэба мець цярпенне і здольнасць знайсці аб'ектыўныя прычыны таго, што здарылася, трэба мець давер да жыцця.

Знік салдат — нечаканы выпадак. Як жа немцы рэагуюць на яго? З самага пачатку яны і не думаюць высвятляць сур'ёзна абставіны, дазнавацца праўды. Яны дзейнічаюць паспешліва, авантурна і груба: зганяюць усіх жыхароў у адно месца і пагражаюць расстрэлам, хочучы ад іх даведацца, дзе падзеўся іхні салдат, зусім не ўлічваючы таго, што жыхары могуць і не ведаць гэтага. Значыць, яны дзейнічаюць наперад зададзена, нібы заведзены механізм, дзейнічаюць пагардліва і эгаістычна, поўнасцю ігнаруючы аб'ектыўную дадзенасць. А гэта вядзе да злачынства.

І злачынства здарылася б — жыхары Верамеек былі б расстраляны, каб зноў не выпадак, на гэты раз выратавальны для верамейкаўцаў,— конь, на якім ездзіў салдат, аказаўся разумным і «падказаў», дзе застаўся яго гаспадар. Але такая акалічнасць ужо нічога не змяняе ў маральна-псіхалагічнай і сацыяльнай характарыстыцы акупантаў, бо выратавальнага выпадку магло б і не быць. І тады...

Звычайная дзеравяная бадня — несамавіты, цяжкі, груба апрацаваны прадмет спрадвечнага ўжытку — ператвараецца ў сімвал усяго тутэйшага, мясцовага, якое мае сваю спецыфіку, свае норавы, звычаі. Яна па-свойму, няроўна хадзіла, гэтая бадня, «на ўзроўні апошняга вянка ў зрубе» яна «раптам моцна, рыўком тузалася да другой сценкі, і чалавек, які не ведаў пра гэта, мог не ўстаяць на нагах і лёгка пашаснуцца, паляцець галавой уніз. Акурат так і здарылася з немцам». Здарылася, бо ён, немец,— чужы, прышлы.

Пісьменнік знаходзіць яшчэ адну дужа яскравую і характэрную дэталь, праз якую добра відаць няздатнасць салдат акупацый-

нага войска ўлавіць рэальную сітуацыю тутэйшага жыцця, стаць на цвёрды грунт аб'ектыўнасці. Урэшце, яны і не хочуць дазнавацца праўды. Шукаючы прапаўшага таварыша, яны спяшаюцца, нібы пастаянна падганяюць сябе, хапаюць без разбору таго, хто трапляе на вочы. Гэтак быў заарыштаваны імі і ўсур'ёз прыняты за вясковага тэрарыста няшчасны юродзівы Ціма. Сітуацыя ўзнікла недарэчная, і ў ёй нібы ўраўніваюцца і Ціма і яго канваіры, бо ні ў яго, ні ў іх няма здаровага адчування сапраўднага стану рэчаў. Людзі ўвесь час адчуваюць у сабе нейкую даўкую напятнасць, пастаянны душэўны страх, бо нельга ведаць і прадбачыць, як будуць паводзіць сябе акупанты ў тым ці іншым выпадку. Простая вясковая жанчына Варка Касперукова кажа: «Ета ж каб і праўда в нармальнымі людзьмі справу меў. А то ж немцы!»

Ад усяго гэтага павявае смяртэльнай небяспекай, і яе адчуваюць мясцовыя жыхары, унутрана сцяўшыся ў напружанні. Ці не ад гэтага душэўнага зруху пачыналася ўсенароднае непрыняцце акупацыйнага рэжыму?

Вельмі паслядоўна пісьменнік паказвае, што акупанты рэагуюць на ўсё ім незразумелае, нечаканае і новае для іх уяўленняў з раздражненнем і непрымірымасцю, якія дыктуюцца фанабэрыстым усведамленнем вышэйшасці, даходзяць да індывідуалістычнага эмацыянальнага ўзрыву, які агрэсіўна накіраваны супраць мясцовых жыхароў. Жаданне знішчыць, скінуць са свайго шляху ўсё, што выклікае ў іх недаўменне, няўцямнасць ці абразу, у такой ступені моцнае, ужо выспелае, што ў гэтым перш за ўсё адчуваецца і бачыцца душэўная прасякнутасць, набрыняласць ідэалогіяй выключнасці — ідэалогіяй фашызму. Нават паліцэйскага Брава-Жыватоўскага, які хоча служыць ім верай і праўдай, афіцэр агрэў бізуном, раздражнёны яго бесталковасцю. Але пакуль што фашысты дужа ўпэўненыя ў сабе, бо яны яшчэ не бітыя, і на такія дробязі не звяртаюць увагі. Але яны ўжо асуджаны жыццём. Час ужо лічыць першыя хвіліны іх паражэння на гэтай зямлі і адмервае ім першыя крокі ў небыццё.

Вайна вылілася ў каласальнае сутыкненне дзвюх армій, у супрацьборства дзвюх ідэалогій, але барацьба ідзе і тут, у малых Верамейках, на тым спрадвечным жыццёвым полі, дзе выяўляе сябе штодзённая мараль: як зрабіць, што сказаць, каму сімпатызаваць.

Недзе далёка на фронце грымяць выбухі, не сціхае страляніна, салдаты ідуць у атаку, а на акупіраванай тэрыторыі пакуль што ціха. Але гэта абманлівая цішыня, бо прарастаюць ужо зерні пратэсту, а значыць, і змагання. Першая душэўная рэакцыя пры сустрэчы з акупантамі прадвызначае выбар. Раней чым узнікла па-

чуццё ўсенароднага непрыняцця акупацыйных парадкаў, людзі адчулі ў акупантах чужынцаў. Тут — галоўнае. З гэтага пачнецца супраціўленне і партызанская барацьба, на гэту падрыхтаваную ўжо глебу будуць плённа падаць словы партыйнага закліку да ўсенароднай вайны з ворагам.

Можна падумаць, аднак, што такая страхатлівая першая сустрэча верамейкаўцаў з немцамі выйшла па той прычыне, што нейкай вайсковай часці, перад якой стаіць свая мэта і якая запынілася каля Верамеек зусім выпадкова, і сапраўды няма часу падрабязна разбірацца ў абставінах, шукаць праўду, прыстасоўвацца да мясцовых умоў. На гэта ёсць мясцовая акупацыйная ўлада ў асобе каменданта Адольфа Гуфельда, які асталяваўся ў Бабінавічах. Камендант сапраўды стараецца зразумець асаблівасці тутэйшага жыцця і часам аддае талковыя распараджэнні. Характар і змест яго першых загадаў нават наводзяць Зазыбу на думку, што Гуфельд з'яўляецца тайным нямецкім камуністам. Ён вітаецца патутэйшаму і нават робіць спробу гаварыць па-беларуску. Але не, не памыліліся верамейкаўцы ў сваіх уражаннях ад першай сустрэчы з немцамі, калі яны набраліся страху, калі назаўсёды пахіснулася ў іх упэўненасць у сваім лёсе. Дзяніс Зазыба таксама хутка пераканаўся ў сваёй памылковай ацэнцы дзеянняў каменданта. Убачыўшы Гуфельда на нарадзе з шомпалам у руках, які ён носіць на манер стэка, ён адразу здагадваецца, што і Гуфельд такі ж самы, як і тыя немцы, што сустрэліся верамейкаўцам. Прыстасаванне да мясцовых умоў у каменданта знешняе і паказное, а ва ўсёй сваёй палітыцы да мясцовага насельніцтва ён апіраецца на сілу. «Тым часам камендант спыніўся за сталом, акурат пасярэдзіне, і ўзмахнуў зусім над стальніцай шомпалам, мусіць, ім гэтакі жэст узяты быў за звычай, але прысутнымі ён успрыняты быў як для пастраху». Ілюзій у Зазыбы больш няма. Шомпал — вельмі красамоўны сімвал грубага падаўлення і страху.

На гэтай жа нарадзе камендант паведамляе, што за напад невядомых асоб на машыну начальніка раённай жандармерыі расстраляна сем чалавек з навакольных вёсак, паведамляе так, што адразу відаць — ён, камендант, лічыць, што так і трэба, што ў такой акцыі няма ні бесчалавечнасці, ні бессэнсоўнасці. Караюцца ж невінаватыя людзі! Зазыба ўражваецца гэтым, і таму ў яго, як і ва ўсіх разумных і сумленных людзей, што прысутнічаюць на нарадзе ў каменданта, адразу за недаўменнем з'яўляюцца ў душы холад, трывога, адчуванне вялікай небяспекі, якая насунулася на народ.

Дзяніс Зазыба як чалавек і вясковы кіраўнік — увасабленне ўсяго лепшага, што было ў сялянстве, якое на працягу стагоддзяў жыло сваім, адасобленым, патрыярхальным жыццём. Адука-

цыя ў яго невялікая, але ён мае не абы-які прыродны розум, салідны жыццёвы вопыт, унутраную загартоўку і цвярозасць погляду на свет. Ёсць у ім той сялянскі практыцызм, які не з'яўляецца голым, жорсткім практыцызмам, калі сутнасць рэчаў засланяецца выгадай і разлікам. Не, практыцызм Зазыбы такі, што ў ацэнцы падзей не страчваецца спрадвечная народная мараль. На глыбокі аналіз навакольнага жыцця Зазыба, бадай, не здатны, але яму зусім дастаткова тых разумовых і душэўных вартасцей, якія ў яго ёсць, каб распазнаць простую праўду таго, што дзеецца, угадаць, чаго варты чалавек. А на большае ён і не прэтэндуе.

Нялёгка жылося і жывецца Дзянісу Зазыбу, бо ён належыць да тых рэдкіх людзей, якія заўсёды патрэбны іншым — суседзям, грамадзе. Ён больш справядлівы душой і больш здагадлівы розумам за іншых, і таму людзі хочуць, каб ён хадзіў у кіраўніках. Адным словам, да вайны Зазыба — тыповы сельскі актывіст, які працаваў на Савецкую ўладу не за выгаду і набыткі, а па душэўнай і практычнай патрэбнасці. І нават пасля таго, як несправядліва быў арыштаваны яго сын Масей, які вучыўся ў горадзе, Дзяніс застаўся ранейшым — працаваў з поўнай аддачай сіл. Толькі пацяжэла і пацямнела ў душы, але гэтага людзі не бачаць. У такой яго ўнутранай раўнавазе і паслядоўнасці — не проста звычка да кіраўніцтва, да начальніцкага становішча, а глыбокае адчуванне, што ён патрэбен людзям.

І вось вайна. Калі б Зазыба быў прагны да ўлады над людзьмі за выгаду, то акупацыя давала яму магчымасць скарыстаць сваё становішча і пайсці служыць немцам. Яны не пашкадавалі б яму «добрай пасады», бо ён у іх вачах мог лічыцца пацярпеўшым ад бальшавікоў: арыштаваны і пасаджаны ў турму сын, яго самога знялі з пасады старшыні калгаса і панізілі. Але ў Зазыбы нават думкі не ўзнікае, каб скарыстаць раптоўны паварот жыцця для нейкіх разліковых мэт, бо жыве ён натуральна і сумленна.

Прычым найбольш упэўнена адчувае сябе Зазыба сярод сваіх людзей, якіх ён добра ведае. Адагнаўшы калгасны статак на ўсход, ён вяртаецца назад, дадому, пад акупацыю. Вядома, такі чалавек, як Зазыба, знайшоў бы сабе месца і карысны занятак там, за фронтам. Але дома засталася жонка, і кідаць яе адну Дзянісу ніяк не выпадала. Ды, урэшце, такі ўжо склад яго натуры — не адрывацца ад дому, ад родных гоняў і каранёў. Тут ён разумнейшы і мацнейшы духам.

І ўсё ж атрымліваецца так, што Зазыба, не хочучы служыць акупантам, пачынае ім служыць. Схаваўшы дома, а пасля ўладкаваўшы ў мястэчку савецкую разведчыцу, ён пры немцах зноў апынаецца на пасадзе старшыні калгаса, які немцы не распусці-

лі, і вымушаны выконваць іхнія распараджэнні. Фармальна як быццам так і выходзіць, што Зазыба па звычцы ходзіць у начальстве і пры немцах не адмаўляецца ад пасады, хоць мог бы адмовіцца. Сапраўды, можна падумаць, што калі ён праўдзівы патрыёт, то яго абавязак быў не згаджацца браць пасаду. А ён згаджаецца ды яшчэ добраахвотна. Больш таго, Зазыба таксама, можна сказаць, добраахвотна паехаў на нараду, якую склікае камендант, і арганізуе калгаснікаў па загаду каменданта ехаць рамантаваць мост, які пры адступленні спалілі чырвонаармейцы.

Што стаіць за гэтымі ўчынкамі героя і як іх расцаніць? Можа, гэта ціхая, палахлівая здрада? Можа, на Зазыбу падзейнічаў страх, што немцы за верную службу Савецкай уладзе пакараюць яго? Ён жа быў узнагароджаны баявым савецкім ордэнам за гераізм у грамадзянскую вайну. Нездарма дэзерцір Раман Сёмачкін пагражае Дзянісу («цяпера табе трэба маліцца»), нездарма палохае паліцэйскі Брава-Жыватоўскі («мо забыў, пра што ўчора з табой гаварылі?.. Ну што ж, наракай пасля на сябе»). Але не, няма ў Зазыбы страху. І яго ўчынкі — не здрада, бо ён не мяняе сваіх думак, ацэнак людзей, пераконанняў.

А можа, паводзіны Зазыбы тлумачацца душэўнай стомленасцю, вынікам якой з'яўляецца ўнутраная згода плысці туды, куды нясе жыццёвая плынь? Ці, можа, ён свядома разлічвае стаць бліжэй да немцаў, каб нечым памагчы савецкай разведчыцы? Думаецца, не тое і не другое. Герой проста дзейнічае згодна сваёй натуры, згодна ўласнаму адчуванню жыцця. І ў вайну ён застаецца верным тым жыццёвым прынцыпам, якімі ён кіраваўся ў мірны час. Зазыба робіць так дзеля сваіх, вясковых людзей, якім верна служыў і да вайны. Ён хоча служыць ім гэтак жа верна і цяпер. Змяніліся толькі ўмовы. Адчуванне ў Зазыбы гэтых умоў такое: раз пад акупацыяй засталіся жыць людзі, то пражыць гэты час яны павінны па магчымасці найбольш правільна, з найменшымі стратамі і яго, Зазыбы, абавязак дапамагчы ім у гэтым. А дапамагчы ён можа толькі не ўхіляючыся ад падзей, якія ідуць насустрач, толькі будучы там, дзе першаму можна даведацца, куды кіруюцца падзеі.

І Дзяніс Зазыба адважваецца ехаць на нараду, гэтым самым беручы на сябе пасаду, якую ён павінен будзе пэўніць па загадах акупацыйных улад.

Фармальна ўчынак Зазыбы з'яўляецца здрадай свайму ранейшаму жыццю, Савецкай уладзе. Але толькі фармальна. Справа ў тым, што Зазыба зусім не думае пра тое, як будзе расцэнены яго ўчынак іншымі. Будзе ён абвінавачаны ў здрадзе ці не будзе — для яго не важна. Галоўнае для яго рабіць так і жыць так, як ён лічыць правільным і каб ад гэтага была карысць лю-

дзям. Таму ён і не прамінае выпадку быць на тых рубяжах жыцця, дзе вырашаюцца лёсы яго аднавяскоўцаў. Каб зноў служыць ім, гэтым людзям, служыць якім ён ужо звык, яму патрэбна перш за ўсё разуменне новай жыццёвай сітуацыі, якая ўзнікла з прыходам немцаў, разуменне іх саміх, іх намераў, усёй сутнасці іхняй палітыкі на занятай імі зямлі. І ён едзе на нараду, каб убачыць каменданта, прыгледзецца да яго паводзін, прасачыць ход нарады і вынесці з усяго гэтага сваё ўражанне, якое і паслужыць практычнай асновай яго далейшых дзеянняў.

Заслуга І. Чыгрынава ў распрацоўцы сацыяльна-маральных праблем мінулай вайны заключаецца яшчэ і ў тым, што ён у цэнтры раманаў паставіў чалавека з народа, тыповага прадстаўніка сялянскай масы. Дзяніс Зазыба з тых, хто пакуль што не бярэцца за зброю, але ён — будучая апора партызан, іх незаменны памочнік. Ён з таго асяроддзя, з якога партызаны будуць чэрпаць сілы, атрымліваць дапамогу. Але роля і значэнне гэтага асяроддзя ў зыходзе вайны — не толькі ў тым, што яно актыўна дапамагала адкрытай узброенай барацьбе партызан супраць ворага. Справа ў тым, што яно само ўяўляла рэальную сілу і яго зброяй былі ўнутраная непакора і тайнае супраціўленне ўсім намаганням акупантаў. Менавіта тут, у гэтым асяроддзі, стрымліваліся і нейтралізаваліся іх самыя суровыя загады, гасіліся самыя напорыстыя адміністрацыйныя распараджэнні. Зазыба ўсім ладам сваіх адносін да падзей у час акупацыі вучыцца сам і вучыць іншых не гэтак таму, як ваяваць з ворагам, колькі як жыць ва ўмовах акупацыі. Але, як аказваецца, гэта па сутнасці адно і тое ж.

Такім чынам, у раманах І. Чыгрынава «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужынцы» вобраз Зазыбы вырастае ў вельмі тыповую на акупіраванай тэрыторыі фігуру чалавека, які аказвае канкрэтную дапамогу ўсім, хто змагаецца з ворагам, і сам пастаянна жыве і дзейнічае насуперак планам і намерам акупантаў, ствараючы агульную атмасферу непрынняцця ўсяго таго, што нясе з сабою вораг.

У выніку ў жыццёвым лёсе Дзяніса Зазыбы ўжо накрэсліваецца выразная лінія трагізму. Дапамагаючы вялікай усенароднай справе толькі па сумленню і тайна, яму цяжка будзе цяпер ці ў будучым даказаць пры неабходнасці свой удзел у гэтай справе, цяжка будзе дабіцца, каб яму паверылі. Тым больш цяжка будзе растлумачыць сапраўдныя матывы сваёй прысутнасці на нарадзе ў каменданта. Яму ж такога задання ніхто не даваў. Нездарма паліцэйскі Брава-Жыватоўскі ўжо лічыць Зазыбу трохі сваім. Але ж так могуць думаць і іншыя, бо знешняе ў людскіх

вачах заўсёды бясспрэчнае, а нябачнае, скрытнае — праблематычнае. Яму можна верыць і не верыць.

Яшчэ больш ускладняецца жыццёвае становішча Зазыбы пасля таго, як вярнуўся дадому арыштаваны перад вайной сын Масей. Вярнуўся ён не па закону, а ў выніку выпадковасці, якую яму прадаставіла вайна. Па сутнасці, зварот з турмы сына азначае не што іншае, як уцёкі. З аднаго боку, Зазыба рады, што Масей вярнуўся, што ён не пакутуе, з другога боку — зварот сына як быццам блытае яго жыццёвыя імкненні, падрывае асабістую аснову ў яго дзеяннях. Зазыба дастаткова разумны чалавек, каб не зразумець, што перамога той справы, за якую ён змагаецца, азначае для яго ўласнага сына зварот да ранейшага пакутлівага стану, зварот у турму, бо пасля вызвалення ў Масея спытаюць, якім чынам ён апынуўся на волі і, вядома ж, не пахваляць за ўцёкі. Вось як востра павернута сюжэтная лінія! І як шмат сацыяльнага і маральнага сэнсу стаіць за гэтым паваротам! Дзе ж выхад, дзе ратунак для бацькі?

Цяжкі збег абставін не абяцае Зазыбу лёгкага выйсця. Найвялікшы драматызм яго становішча заключаецца ў тым, што жаданне волі для сына азначае для яго адмову ад усяго свайго ранейшага жыцця і нават змірэнне з акупацыяй, на што ён пайсці не можа. Але і другі жыццёвы варыянт, які і выбірае герой, таксама супярэчлівы, таксама драматычны. Усё глыбей і глыбей уцягваючыся ў рух супраціўлення немцам у імя перамогі савецкага ладу жыцця, ён вымушаны нібы забыцца пра пакуты сына, пра яго пакалечаны лёс, бо няшчасце з сынам сталася пры Савецкай уладзе. Вядома, пакуты Масея баляць яму, бацьку, але ён працягвае верыць у нейкі вышэйшы ідэал мінулага жыцця, які назаўсёды зліўся ў яго душы з уласнай маладосцю, з перыядам грамадзянскай вайны. Таму ён так настойліва дабіваецца ад сына, каб ён у такі складаны час душэўна не засяроджваўся на ўласнай бядзе. Ён баіцца, што Масей можа зрабіць цяпер, не па сваёй нават волі, няправільны жыццёвы крок, які не толькі яшчэ больш сапсуе яму жыццё, але ў нечым істотным канчаткова развядзе яго з бацькам.

У рэакцыі Зазыбы на выпадак звароту сына ў найвышэйшай меры, выявілася прыроджаная разважлівасць героя, яго здольнасць да непаспешлівых, цвярозых учынкаў. І ён гэтым перамог хоць бы часова неспрыяльны збег абставін. У рамане «Свае і чужынцы» Зазыба пераконваецца, што сын Масей паважае разважлівасць і кола інтарэсаў бацькі, адмаўляецца супрацоўнічаць з акупантамі на аснове нацыяналістычнай ідэйнай пазіцыі, да чаго спрабуе схіліць Масея яго былы сябар Астрашаб.

Такім чынам, прынцыповая паслядоўнасць і стойкасць да-

юцца Зазыбу нялёгка. Яго душа раздзіраецца супярэчнасцямі. Ён адчувае, што недастаткова ўважлівы да складанага становішча сына, і перажывае з-за гэтага. Масей, у сваю чаргу адчуўшы душэўную адчужанасць бацькі, замыкаецца ў сабе, перажывае сваю вымушаную адвержанасць і баіцца адзіноты.

Хто ж тады ўсё-такі Дзяніс Зазыба? Чалавек, які гэтак жа, як і Чубар, здольны прынесці ў ахвяру раз і назаўсёды засвоенаму прынцыпу жывыя інтарэсы людзей, калі яны не супадаюць з гэтым прынцыпам?

Падабенства ў паводзінах герояў абодвух раманаў І. Чыгрынава Зазыбы і Чубара чыста знешняе і толькі маментальнае. Розніца паміж Зазыбам і Чубарам у тым, што прынцып для кожнага з іх значыць не адно і тое ж. Для Зазыбы прынцып з'яўляецца метадам разумення жыцця, адшукання разумнага сэнсу, каб не заблытацца ў стыхіі падзей і здарэнняў — рыса, уласцівая, дарэчы, далёка не кожнаму селяніну, а толькі лепшым прадстаўнікам вясковага люду. Для Чубара прынцып — зручны сродак ухіліцца ад складаных стыхійных праяў жыцця, зрабіць сабе палёгку, сродак мераць механічна, як метрам, жывую рэчаіснасць. Прынцып становіцца ў паводзінах Чубара прыкрыццём боязі вечна зменлівага ходу жыцця, адзін на адзін, з якім Чубар аказваецца бездапаможны. Ён адразу смялее, калі ёсць хтонебудзь побач з ім, хто дае распараджэнні. Калі з надыходам немцаў з раёна перасталі паступаць інструкцыі, Чубар проста разгубіўся, страціў апору, грунт і стаў перакаці-полем. Яго адразу падхапілі падзеі і пацягнулі за сабой. Ад гэтага ён стаў не патрэбным нікому. І таму ён дужа рад, калі ў час свайго недарэчнага блукання сустрэў двух чырвонаармейцаў: «Цяпер не трэба было са страхам думаць пра тое, што рабіць».

Чубар перакананы, што прынцып заўсёды непрымірыма варожы жыццёвай стыхіі і таму яе і не трэба імкнуцца зразумець, а лепш адкінуць. Адсюль жорсткасць і дагматызм гэтага героя ў практычным ажыццяўленні свайго пастулату паводзін, засвоенага з дырэктывы. Ён нават у думках не дапускае такой магчымасці, што можна змяніць ці падправіць загад або распараджэнне з улікам новых, раней не прадугледжаных абставін.

Несупадзенне адносін да жыцця Зазыбы і Чубара, хоць яны і робяць адну справу, выразна накрэсліваецца на першых ужо старонках рамана «Плач перапёлкі». Вельмі характэрная размова адбываецца паміж старшынёй калгаса Чубарам і яго намеснікам Зазыбам пасля таго, як калгас выканаў дырэктыву раёна адагнаць калгасны статак на ўсход:

«Тады спытаў Зазыба:

— Кароў да аднае пагналі?

— А ты думаў, тут пакінем?

Зазыба паляжаў і зноў спытаў:

— Неяк Марфа мая казала, што ў Палагі Харытонавай карова падавілася бульбінай, дак ці даў ты ёй карову?

— Не.

— А Бахньку? У яго ж старая; да і ялаўка ў етым годзе. Калі па-справядліваму, дак і яму варта было б замяніць яе.

— Надумаліся калі мяняць!..

— А ён, помніш, прасіў даўно, яшчэ ў маі пісаў на праўленне.

Чубар паморшчыўся, як ад прыкрасці.

— Дарэмна,— сказаў Зазыба.

Гэта нечакана ўзбурыла Чубара:

— Але ж мы не павінны за кошт калгаснага статка папаўняць прыватны сектар.

— Пры чым тута прыватны сектар? — заварушыўся ў ложку Зазыба.— Калі ў калгасніка няма каровы, дык хто яму паможа, як не мы?»

У гэтай размове ўвесь Чубар і ўвесь Зазыба. Для аднаго фармальнае выкананне дырэктывы прыносіць радасць па той прычыне, што не патрабуе ніякай уласнай ініцыятывы, забяспечвае душэўны спакой, для другога — усякае дзеянне, нават калі яно дырэктыўнае, павінна суадносіцца, па яго перакананню, з штодзённымі інтарэсамі канкрэтных людзей. У пазіцыі Зазыбы няма ні паказнога шкадавання, ні сентыментальнай жальбы. Гэта ўменне ўлічыць адзінкавы лёс і ўключыць яго ў складаную агульнасць людскіх інтарэсаў з разуменнем асабістых патрэб чалавека.

Разыходжанне паміж Чубарам і Зазыбам у разуменні свайго абавязку перад людзьмі, як акажацца далей, будзе мець не толькі маральнае, але і палітычнае значэнне. Чубар, у якога за гады яго начальніцкай службы зусім атрафіравалася здольнасць разумець і ўлічваць разнастайнасць, складанасць і нечаканасць жыццёвых праяў, дапускае палітычнае злачынства, забіваючы доктара-акружэнца, які, трапіўшы ў незвычайнае становішча, вёў сябе незвычайна і, як здалося Чубару, падазрона.

Чубару асабліва цяжка арыентавацца ўнутрана ў час вайны, калі новыя складаныя абставіны ствараюць нябачныя дагэтуль сітуацыі, калі адзін за адным узнікаюць непрадбачаныя выпадкі, якія не маюць яшчэ агульнапрынятай ацэнкі, калі гэтую ацэнку трэба рабіць самому, і рабіць неадкладна. Гэта нервіруе і злуе Чубара. Злосць за сваю бездапаможнасць ён пераносіць на іншых. Кульмінацыяй маральнага і разам з тым палітычнага

змізарнення характару Чубара з'яўляецца яго дзікі ўчынак, калі ён паліць на верамейкаўскім полі толькі што зжатае калгаснікамі жыта, каб яно не дасталося ворагу.

Фармальна былы старшыня выконвае дырэктыву — нічога каштоўнага не пакідаць на акупіраванай тэрыторыі, аднак пры гэтым ён яшчэ і помсціць сялянам, што яны паводзяць сябе не гэтак, як яны павінны былі сябе паводзіць па ўяўленнях Чубара. Яму зусім не шкода ні калгаснікаў, ні іхняга набытку, раз ён упэўніў сябе, што яны недастаткова адданыя Савецкай уладзе, бо не кінулі сваіх хат і не ўцяклі на ўсход. Ён глядзіць, вярнуўшыся, на вёску і дзівіцца, што ў ёй нічога, як яму здаецца, з прыходам немцаў не змянілася.

Чубар толькі тады паверыў бы, што людзі змяніліся і рыхтуюцца да барацьбы, калі б вясковы побыт у акупацыю перавярнуўся дагары. Зазыба ж, наадварот, перакананы, што ўвесь пабытавы лад вёскі павінен застацца непарушным, бо сталая душэўная зрошчанасць чалавека з домам, з роднай зямлёй з'яўляецца, па яго адчуванню, грунтоўнай унутранай апорай у складаны, пераменлівы час, калі безліч нечаканых падзей гатовы выбіць чалавека з наезджанай каляіны, завярцець яго і кінуць у бурлівы вір, дзе лёгка страціць арыентацыю і памыліцца. Роднае асяроддзе надае ўпэўненасці і паскарае правільную ацэнку падзей. Нагаданыя Зазыбам словы «Хто родную зямлю кідае, той ворага не перамагае» — квінтэсенцыя ўсяго ягонага светаадчування.

Поўным антыподам Зазыбы і ў гэтым моманце адчування жыцця з'яўляецца Чубар, якому здаецца, што з наступленнем немцаў усе абавязкова павінны зняцца з родных месц і рушыць на ўсход. Ён і сам робіць гэтак. Аднак бесталковае і бессэнсоўнае бадзянне прыводзіць яго ў тупік. Адарваны ад тых людзей, якія яго ведаюць, з якімі ён доўга жыў і працаваў, ён апынаецца адразу ў фальшывым становішчы, пры сустрэчы з людзьмі выклікае да сябе нават падазронасць, бо яго ніхто не ведае. Яго праганяюць ад сядзіб, не хочуць даць есці.

Чубар, у сваю чаргу, вымушаны насцярожана ставіцца да кожнага сустрэчнага і кожнаму тлумачыць, хто ён сам, адводзіць недавер ад сябе. «Чырвонаармеец спачатку слухаў сапраўды цярпліва, але як толькі высветліў для сябе, што чалавек на кані зусім не тутэйшы, а таксама закінуты ў гэты лес вайной, занёс яго ў разрад падазроных і рашыў затрымаць».

Натрапіўшы на групу савецкіх байцоў, якая на чале з параненым палкавым камісарам прабіваецца да фронту, Чубар не здолеў прыстаць да іх якраз таму, што ён чужы для іх, яны не зусім яму давяраюць. І вуснамі палкавога камісара Чубару гаворыць сам лёс, логіка вайны: «І, далібог жа, не бадзяйцеся па

незнаёмых закутках. Падавайцеся ў свае лясы. На месцы адчуеце сябе другім чалавекам. Самі абставіны падкажуць, што рабіць. Вас там ведаюць, і вы таксама ўсіх ведаеце».

Перспектыва, намаляваная палкавым камісарам, не вельмі радуе Чубара, бо толькі тады, калі над ім ёсць нехта іншы, хто кіруе і загадвае, ён набывае душэўную раўнавагу і спакой. І ўсё ж Чубар паслухаўся, хоць і вымушана, бо само жыццё яго штурхае на гэты, адзіна правільны для яго шлях.

Аднак першая спроба Чубара завербаваць у свой будучы партызанскі атрад вайсковага доктара закончылася трагічнай няўдачай таксама па той прычыне, што яны сустрэліся ў дарозе і не давяраюць адзін аднаму.

Праз нейкі час Чубар усё ж пачынае з прыемнасцю ўспамінаць і людзей з Верамеек, і — асабліва — сваю сяброўку Аграфену. Гэта ўжо шмат значыць для Чубара, бо накрэсліваецца паварот у ягоных уяўленнях аб сваім месцы на вайне, аб сваіх абавязках у сувязі з вайной.

Праўда, вярнуўшыся патаемна ў Верамейкі, Чубар рэзка не пераменьваецца. Яго рашэнне спаліць нажатае калгаснікамі жыта ў полі паказвае, што доўгае бадзянне і суровыя ўрокі гэтага бадзяння яшчэ мала чаму навучылі яго.

Магчыма, перавага Зазыбы над Чубарам нідзе так адчувальна не выяўляецца, як пры іх сустрэчы пасля вяртання Чубара ў Верамейкі. Гэтая перавага не толькі ў чалавечых якасцях, але і ў агульнай жыццёвай арыентацыі. Чубар вельмі дзівіцца, што Зазыба ведае пра яго зварот. Ён жа вярнуўся патаемна! Але, аказваецца, Зазыба ведае пра ўсё, што адбываецца ў ваколіцы. Няма сумнення, што гэта адна з першых умоў паспяховай падпольнай дзейнасці.

Менавіта ў час гэтай сустрэчы Чубар, даведаўшыся ад самога Зазыбы, што ён быў на нарадзе ў каменданта, папракае яго за дапамогу акупантам. Чубару проста няўцям, што Зазыба, «дапамагаючы» ворагу, ужо жыве дзейснымі інтарэсамі барацьбы. Зазыба шмат чаго вызнаў на нарадзе: лепш уведаў, хто такі нямецкі камендант, вылучыў сярод прысутных тых, хто непрыязна настроены супраць акупацыйнай улады.

І ўжо ніяк не можа дараваць Чубар Зазыбу яго намеру ехаць па загаду немцаў адбудоўваць мост:

«— І ты, чырвоны ардэнаносец, паедзеш адбудоўваць мост? — наперад здзіўлена спытаў ён».

На гэта Зазыба адказвае:

« — Паеду,— упарта крутануў галавой Зазыба.— І справа не ва мне. Я хоць зараз смерць гатовы прыняць, але каб ад гэтага карысць была. А то што з таго будзе, калі я ахвярую сабой,

ся. Прыйшоў на камбінат мокры, руччом вада цячэ. І ўсё роўна не верацъ. Дырэктар, можа б, і прасціў мне, але ж Падвозаў, начальнік аддзела кадраў... Яго нават дырэктар баяўся.

— І доўга быў там?

— А лічы, год цэлы там розуму набіраўся ды ў дарозе яшчэ каля месяца быў.

Міцька на хвіліну задумаўся.

— Эх і людзей там,— нарэшце сказаў ён.— Адны, канечне, сапраўды вінаватыя, а другія таксама ж, як і я. Быў там Андрэй Ваганаў, настаўнік з Варонежа. Дзіўны ён, гэты Ваганаў. Нас выпусцілі з лагера ў адзін дзень. Плылі па моры і ехалі мы да Масквы разам. Пра вайну пачулі яшчэ на баржы. Але не ведалі, што немец зайшоў далёка на нашу тэрыторыю. У цягніку ўжо людзі расказалі нам. Гляджу я на Ваганава, а той усміхаецца. Я і кажу яму: «Няўжо ты, Андрэй, рады?» А Ваганаў ківае галавой: «Супакойся, Міцька,— і ляпае мяне па плячы.— Гітлеру мы галаву скруцім, абавязкова скруцім, нікуды ён ад гэтага не дзенецца. Затое пасля адзін аднаму ўжо дарма не станем горла грызці. Паразумнеем».

— А Гітлеру мы сапраўды галаву скруцім,— сказаў Кажанаў.

— Далёка ён зайшоў...

— Другія яшчэ далей заходзілі. Напалеон нават у Маскву прарваўся.

— Але нашы ўсё лататы ды лататы. Гэта ж як я апынуўся ў вайсковым адзенні! То хадзіў колькі разоў у ваенкамат, не бралі. Як жа, вярнуўся з заключэння!.. Не давалі ў рукі вінтоўкі! А сёння пайшоў я загнаць карову ў статак, то сустрэлі мяне за вёскай нейкія. Раздзелі, разулі. Добра, што хоць не голага пусцілі, адзін аддаў сваё. Тады вы мяне і пабачылі ў вайсковым.

Міцька гаварыў яшчэ доўга, да самай поўначы, і нават не клапаціўся, ці слухае яго капітан.

...Уначы Міцька прахапіўся ад моцнага крыку. Крычаў капітан. Паранены кідаўся на сваёй пасцелі, трызніў, намагаючыся парваць бінты. Ён паміраў, і ніхто не мог памагчы яму.

Міцька схаваў пад ватоўку сваю галаву і плакаў наўзрыд ад таго, што быў бяссільны што-небудзь зрабіць для чалавека. Нарэшце, знясілены, заснуў. А ка-

лі прачнуўся, была раніца. Капітан Кажанаў ляжаў на сене і не дыхаў...

Над лесам падымалася сонца. Яно было мутнае, невясёлае, быццам праплакала ўсю ноч над чалавечым горам.

## Вадалазы Сухавы, Віцька Картыжоў і нафтаправод

Я чуў ад людзей, дзе пракладваюць нафтаправод, і таму ўпэўнена ішоў ад вусця Жадунькі, маленькай, ціхай рачулкі, проста паўз Бесядзь — па той бок, за якога паўкіламетра ад вусця, быў высечаны лес, і ладная прагаліна, як на шырокую шашу, адкрылася позірку яшчэ здаля. Над ракой навісаў шэры, быццам запылены вербалоз. Трохі воддаль стаяў густы арэшнік. Было чуваць, як валтузіліся там маладыя дразды, пырхалі па самым нізе стрывожаныя арэхаўкі. На лузе, што зелянеў за ракой, пахаджаў паміж белага блёкату заклапочаны бусел.

Ужо добра ўднела. Асмужанае сонца высока паднялося над лесам, і мой цень за спіною быў кароткі.

Я прамінуў затоку, дзе на круглым зялёным лісці сушыліся жоўтыя гарлачыкі даспеўшых лілей, падняўся па няроўнай сцежцы на адхонны бераг, прайшоў яшчэ і ўбачыў горы намытага і наварочанага пяску. Трубы, абматаныя прасмоленай паперай, ужо ляжалі ў глыбокіх траншэях. Бульдозеры стаялі ля самай ракі. На вадзе, крокаў за дзесяць ад берага, пагойдваліся паміж абшарпаных пантонаў чырвоныя балоны земснарада. Пахла мазутам і пратухлай рыбай. Луг за ракою быў знявечаны тракамі гусеніц. На ім не асталося ніводнага зялёнага лапіка — усё стаптана, з'езджана.

Людзей на гэтым беразе не было. Не хадзіў ніхто і па тым беразе — адно стаялі ўздоўж берага, парослага аерам, блакітныя, на гумавых колах, вагончыкі з белымі квадратнымі вокнамі ды вытыркаліся з густога сітняку шырокія, як у восеньскіх качак, зады жалезных лодак, прывязаных да чорных караг.

Правальваючыся ледзь не па самае калена ў пясок, я дабраўся да траншэй, скочыў на трубу і пайшоў па

ёй зноў да Бесядзі, асцярожна стаўляючы ногі. Траншэя ўсё паглыблялася, і хутка я ўжо не бачыў па баках нічога — схаваўся ў ёй з галавой. Нарэшце труба скончылася, і я апынуўся перад высокай сцяной з сівога глею; сцяна гэтая і аддзяляла траншэю ад ракі. Я паглядзеў угору — не ўскарабкацца. Давялося павярнуць назад.

Я доўга ішоў па трубе, якая нават не звінела пад нагамі, а толькі глуха бомкала. Праз колькі хвілін выбраўся на сцежку, абышоў па арэшніку разрыты бераг і наблізіўся да ракі з другога боку. Сонца цяпер было насупраць і сляпіла вочы, але на паваротку, дзе Бесядзь агінала блакітныя вагончыкі, я неспадзявана заўважыў чалавека, які сядзеў на лодцы і вудзіў рыбу.

— Давай-ка перавязі,— гукнуў я.

Рыбак паглядзеў і адвярнуўся. Я пастаяў трохі і зноў паклікаў.

— Пастой там,— пачуўся нездаволены голас.— Вось зараз...

Чалавек выцягнуў вудачку, злавіў левай рукой леседзь, паклаў кароткае вудзільна ў лодку і ўзяўся за вёслы: бразнулі ўключыны, жалезная лодка крута павярнулася і паплыла да майго боку. Неўзабаве яна тыцнулася з разгону ў травяністы бераг, адскочыла ад яго, і рыбак, заграбаючы адным вяслом, пачаў падганяць яе бокам.

— Садзіся,— нарэшце сказаў ён.

Я зняў з пляча сваё ружжо, злаўчыўся і скокнуў у лодку, зусім не турбуючыся, што яна можа перавярнуцца: барты ў лодцы былі высокія і дно — шырокае, ледзь не круглае. На дне плёскалася мутная вада. Пасярэдзіне стаяла закопчанае вядро, у якім пад аерам у вадзе ляжала некалькі ўжо нежывых рыбак — ці то верхаводак, ці то плотак. Колькі часу лодка рухалася паўз бераг па плыні сама, але неўзабаве перавозчык мой пачаў веславаць, і лодка, пакідаючы за сабой ступкі-вірунчыкі, зрабіла імклівы паўкруг, вынеслася на сярэдзіну ракі. Я сядзеў на цыпачках і любаваўся, як увішна ўпраўляўся з пасудзінай рыбак. Ён быў не тое каб здаравяк, але дужы, шырокай косці чалавек. Гадоў яму было, можа, трыццаць з гакам, але твар быў да чарнаты загарэлы і гладка паголены, і гэта прыкметна маладзіла яго.

На верхняй губе значыўся глыбокі шрамок, які, мусіць, ніколі не зарастаў у яго шчэццю: тут губа была трохі таўсцейшая і нібы перакошвала твар.

Мы яшчэ не даплылі да берага, а я ўжо асвойтаўся ў лодцы, заглянуў у вядро, рассунуўшы рукою аер, і паспачуваў:

— Не ловіцца?..

— На юшку до. Сёння нядзеля. Нашы параз'язджаліся, а на двох дык і па самае горла. Не, на юшку якраз.

— Мусіць, будзе,— згадзіўся я.

Перавозчык падняў левае вясло, і мы на адным сталі падплываць к паваротку.

— Дзякуй,— сказаў я.

— А-а-а, нічога,— неяк з неахвотаю адказаў ён.

Лодка зашуршала па нізкім сітняку, падмяла пад сябе аер і прыстала да берага. Пакуль рыбак прывязваў лодку, я сеў на таўшчэзны, у некалькі абхватаў, мораны дуб, які ляжаў камлём да вады, скінуў свае запыленыя боты, высыпаў пясок, што набраўся на тым беразе, паставіў іх побач і закурыў. Рыбак таксама выняў з задняй кішэні штаноў пачак, пстрыкнуў па ім, дастаў папяросу, трохі памяў яе пальцамі і падышоў да мяне, каб прыкурыць.

— Ну і дуб,— пакруціў галавой я,— недзе гадоў пяцьсот было, а?

— Бяры больш.

— Цяпер тут не знойдзеш такога.

— Не ведаю.

Рыбак зацягнуўся папяросай, выпусціў дым, падумаў трохі.

— Мы тут іх напавыцягвалі з вады. Па ўсім беразе ляжалі. Дык хлопцы пазавезлі ў вёску, бабам аддалі. Дровы, кажуць, харошыя. А гэты... гэты мы пакінулі. Дужа вялікі. Паляжаў колькі тыдняў, і глядзі, як высах. Здаецца ж, і ў вадзе пабыў нямала, можа, сто ці болей гадоў, а стаў быццам косць, не згніў.

— Некалі даставалі такі вось мораны дуб, рэзалі і ў штабялі складвалі, каб сох. Пасля сплаўлялі. Зараблялі ндрэнна на ім. Уявіце, шафа з моранага дуба...

— Ага... а тут на дровы яго. А што? — Ён з нейкім задавальненнем засмяяўся, сплюнуў пад дуб і ады-

шоўся да лодкі,— сеў там, павярнуўшыся спіной да мяне.

— Дык гэта вы тут і працуеце? — спытаў я.

— Тут.

— І многа вас?

— Не, адна група. А наогул — нашых многа. І на Украіне, і на Волзе — усюды. А мы тут. Гэта наш участак ад Унечы да Полацка. Зробім і таксама паедзем. Мы ж падводнікі. Мы толькі на рэках. А так трубы цягнуць другія.— Ён дастаў з кішэні кавалак хлеба, адшчыпнуў крошку, кінуў яе ў ваду перад сабой — падманьваў рыбу, затым счакаў трохі і закінуў вудачку.— А ты не да Аўдзеева нашага? — раптам пацікавіўся ён.— Не? А то паехаў Аўдзееў у Крычаў. Учора прыйшла тэлеграма. Відаць, і ўзрыўчатку адтуль прывязе. Надакучыла загараць. Купаемся тут ужо каторы месяц, а толку ні на іголку. Заробку няма—адзін шчот той. Бесядзь вось гэтая падвяла. За цэлае лета адну нітку паклалі. А цяпер ужо дык і зусім выдахліся. Экскаватары пабілі, вадалазы не могуць вапну распілаваць. Разумееш, у гэтым месцы, дзе нам трубы ўкладваць, дно з вапны. І яна так зляжалася там, спрасавалася з ракавінкамі, чаротам, што ні ўкусіць, ні адрэзаць. Пасылалі некалькі проб у лабараторыю — там разводзяць рукамі: вапна цвярдзей за граніт. Я сам вадалаз. Мы з жонкай тут. Больш вадалазаў у нас няма. Часам думаеш, кінуць бы ды падацца ў іншае месца. Але жонка мая не хоча. Жонка, брат, такая, што... Сёння мы з ёй тут адны асталіся. Усе параз'язджаліся, а мы нікуды не сабраліся. Будзем зараз юшку варыць.

Рыба не клявала, і круглы чырвоны паплавок нерухома ляжаў на вадзе. Ані ўсплёску. Было горача, над лугам стаяла паўдзённая цішыня, ажно чуваць, як шуршала па аеры сваімі перапончатымі крыламі вялікая страказа: яна то садзілася на аерыну, згінаючы яе да вады, то зноў павісала ў паветры. Над намі ўжо колькі разоў пралятаў бусел, можа, той самы, што хадзіў там, паміж белымі шапкамі блёкату, і калі ён ціха праплываў у небе, цяжка махаючы крыламі, па зямлі хутка-хутка праносіўся яго гарбаты цень.

На тым баку, за лесам, на бальшаку, пачуўся трэск матацыкла. Відаць, хтосьці павярнуў на прагаліну, на

якой ляжалі трубы, і цяпер імчаў да ракі. Але ні праз хвіліну, ні праз другую ні матацыкла, ні чалавека, які ехаў на ім, мы не ўбачылі: тым часам матор то аж захлёбваўся, то спакайнеў раптам, гурчаў роўна, быццам матацыкл стаяў на адным месцы, пасля зноў пачынаў шалець.

— Віцька Картыжоў глузды ўганяе,— сказаў рыбак.— Другі б ужо даўно шыю зламаў на тых ямках, а Картыжоў...— Ён паляпаў нечага левай рукой па плячы сябе, цыркнуў на ваду.— Гэта наш экскаватаршчык. Пераскоквае на матацыкле цераз траншэі — спачатку цераз адну, пасля цераз другую і так ажно да самай ракі. За лета ўжо другі матацыкл дабівае на гэтай прагаліне.

Нарэшце матацыкл выруліў на паляну, хутка прамчаўся па сцежцы ўздоўж Бесядзі, затым крута павярнуў назад, амаль на поўным ходу падскочыў да ракі і спыніўся: абяссілены матор колькі разоў чмыхнуў, заглох. Матацыкліст крыкнуў:

— Здароў, Сухаў!

— Здароў! — мой перавозчык павітаўся, не паднімаючы галавы,— знарок глядзеў на паплавок.

Картыжоў ступіў колькі крокаў да вады, укленчыў там і пачаў мыць рукі — доўга і старанна, быццам на далоні што папрыліпала.

— Дзе ж гэта нашыя? — спытаў нарэшце ён.

— Хто дзе.

— А ты?

— А я жанаты.

Размаўлялі яны паціху, быццам баяліся, што іх падслухае хто.

— А твая благаверная?

Сухаў пацягнуў вудзільна — угору падскочыў чырвоны паплавок, але над вадой павісла адна насадка.

Картыжоў дарэмна чакаў адказу. Сухаў маўчаў — быццам сапраўды заняты быў. Тады Картыжоў зноў спытаў:

— Дык што тут новага?

— Нічога.

— Казалі, Аўдзееў паехаў у Крычаў.

— Значыць, правільна табе казалі.

— Узрыўчатку прывязе?

— Можа, і прывязе.

— Ну добра...— Картыжоў адышоўся да мата-

цыкла, зняў з сябе пінжак, кінуў яго на траву і сам лёг, выцягнуўшы ногі і раскінуўшы рукі.— Не выспаўся,— сказаў ён і пазяхнуў.

За маёй спіной нечакана пачуліся крокі. Я павярнуў галаву. Міма моранага дуба, на якім я сядзеў, ішла маладая жанчына — невысокая, але самавітая; на ёй была лёгкая суkенка з каляровага — зялёны гарох — паркалю, якая ладна аблягала яе стан, выдаючы шырокія бёдры і тугія высокія грудзі. Твар у жанчыны быў круглы, але невялікі; вочы па-татарску раскосыя, пад вачамі шырокія скулы. На галаве была павязана чырвоная касынка. Белыя кольцы густых валос выбіваліся з-пад яе. Жанчына з твару не была прыгожая, але ва ўсёй ёй — ад ног з налітымі лыткамі і да гладкіх пакатых плячэй — была тая жаноцкая дужасць, якая робіць жанчыну прывабнай. Жанчына ішла да ракі і ўсміхалася.

— Добры дзень, Віцечка! — гукнула яна праз раку.— Што ж гэта, хлопча, дасыпаць сюды прыехаў? Мусіць, дзеўкі трымалі да самае раніцы, а?

Картыжоў заварушыўся, сеў і зноў пазяхнуў:

— Падказала б свайму Сухаву, каб хоць перавёз мяне.

— А я сама перавязу.

— Ну, канечне, сама.— Сухаў нібы толькі цяпер пачуў голас жонкі.

— Тады плыві сам,— пацiснула плячыма здзіўленая жанчына.

— Не, табе аддам вёслы,— з'едліва сказаў Сухаў; твар у яго быў недавольны; чалавек нават не глянуў на жонку.— Цяпер цябе хоць і не кармі, толькі дай... На, вазьмі вядро. Ды не стой тут, лепш ідзі пачысці рыбу.

Жанчына ўзяла вядро, але засталася стаяць на беразе. Муж яе тым часам сабраў ланцуг, якім была прывязана лодка да карагі, адпіхнуўся вяслом і паплыў на сярэдзіну ракі.

— Віцечка, ну дык як жа вы там, а? — не ўтрымалася, загаварыла жанчына.— Дзе твой напарнік, Падгурскі?

— Пайшоў да сваёй настаўніцы.

— Што, ён ужо і там завёў?

— Гэта ў яго палучаецца хутка. А што ж вы ду-

малі, каб Мішка Падгурскі ды на сухую паехаў адсюль? Не, такога, здаецца, яшчэ не здаралася.

Жанчына засмяялася.

— І зайздросны ж ты, Віцечка,— сказала яна.

Картыжоў прытворна ўздыхнуў:

— Далібог, не...

— Ой і хлусіш, Віцечка!

— Праўду кажу...

Жанчына чамусьці зноў засмяялася, быццам успомніла што.

— А ўчора на танцах у эрдэка адна нішто сабе была,— сказаў Картыжоў.— Згуляў я з ёю пару танцаў. Умее, халера. І сама непаганая з выгляду. Нават вочы зялёныя. А вось ногі тонкія. Затое першы раз пабачыў такія вочы. Ты бачыла, каб у каго былі зялёныя вочы?

— А няўжо ж! У нашай коткі зялёныя вочы. Прыйдзі пабач.— Сказала і зноў, здаволеная сабой, засмяялася.

— Не, што ні кажы, а вялікія зялёныя вочы — гэта прыгожа! — з нейкім шкадаваннем у голасе прамовіў Картыжоў.— Такія вочы каго хочаш уразяць.

— Каго-каго, а цябе дык ужо!

Я сядзеў сабе на дубе і слухаў, як перагаворваліся між сабой гэтыя людзі. Мяне яны не заўважалі — я для іх быццам не існаваў, у іх былі свае інтарэсы, сваё жыццё, якое яны не збіраліся ўтойваць ад другіх.

Сухаў між тым спакойна прычаліў да берага, памог Картыжову завесці ў лодку матацыкл. Плылі яны адтуль хутка. І, здаецца, не сказалі за дарогу ніводнага слова. Сцішылася таксама і Сухава жонка. Яна стаяла блізка да вады і не адводзіла раскосых вачэй ад мужчын, якія сядзелі ў лодцы.

Мне чамусьці думалася, што экскаватаршчык Картыжоў будзе адных гадоў з вадалазам Сухавым. Але той аказаўся яшчэ зусім маладым хлопцам — трохі вышэй сярэдняга росту, чарнявым, з рухавым тварам. Як толькі ён ступіў на бераг, то адразу ж падышоў да жанчыны і манерна пакланіўся ёй, зняўшы з галавы казюлістую кепку:

— Маё вам, Надзея Іванаўна...

— Добры дзень, Віцечка! Значыць, вярнуўся... — Яна быццам дражніла яго.

— Значыць, вярнуўся,— ён падміргнуў ёй, развёў

рукамі і кіўнуў галавой, як змоўшчык, на Сухава, які прывязваў да карагі лодку.

Экскаватаршчык заглянуў у вядро, якое паставіла Надзея Іванаўна ля сваіх ног, свіснуў ад здзіўлення, адышоўся да моранага дуба.

— Во, пакіну тут па сабе хоць гэту памяць. Каб жа не я, то і ці выцягнулі б вы яго з гэтай Бесядзі,— сказаў ён.

— Ты думаеш, дзеравіна гэта доўга ўлежыць тут? — паківала галавой жанчына.

— Няхай паспрабуюць забраць. Ды тут наўкол ва ўсіх дзесяці вёсках не знойдзеш такой пілы, каб парэзаць яго.

Хлопец падышоў да дуба, стаў трохі воддаль ад мяне, пакратаў рукою гладкую, нібы паліраваную, паверхню дрэва. Нарэшце моцна стукнуў па ім кулаком — ці ад задавальнення, ці ад прыкрасці.

— Паслухай, Сухаў,— глянуў ён на вадалаза,— а што, калі я зараз завяду трактар і адтарабаню дуб каму-небудзь у Калодліва? Няхай там папацеюць над ім.

Сухаў стаяў бокам да нас і бяздумна глядзеў на ваду. Экскаватаршчыкавых слоў ён быццам і не чуў. А той яго больш не чапаў — ён нібы ведаў тую мяжу пры размове з ім, за якую падавацца нельга.

Сонца праз якую гадзіну ачысцілася ад смугі, пабялела неўзаметку, і ад гэтага на лузе зрабілася яшчэ гарачэй. Вецер быў трохі прачнуўся, як не свой, пашумеў у прыбярэжных кустах і зноў сціх. Вада на рацэ па-ранейшаму была гладкая і спакойная, як нежывая.

Мне надакучыла сядзець на дубе, і я саскочыў на зямлю, пачаў нацягваць боты.

Картыжоў пакасіўся на мяне.

— Сумна тут у вас.— Ён абвёў позіркам абодвух Сухавых, засмяяўся раптам і цыркнуў сабе пад ногі.— А ці не здаецца вам, што сёння нядзеля? Няблага было б пасля трудоў праведных і шклянку віна ўзяць, а? Як ты, Сухаў? Мне думаецца, што шклянка віна ў выхадны дзень з маральным кодэксам не разыходзяцца.

— Рыба ж во, я налавіў ужо.— Вадалаз паказаў на вядро і, здаецца, упершыню за ўсю іхнюю размову паглядзеў на Картыжова.

Экскаватаршчык шчоўкнуў пальцамі.

— Ладна, Надзька, ступай вары юшку, а мы тут ужо як-небудзь дадзім рады,— неспадзявана рашыў Сухаў.

Жанчына, як ад радасці, пляснула рукамі — ну і Сухаў! — падхапіла з зямлі вядро і хуценька пайшла па сцежцы.

— Вазьміце і мяне ў свой гурт,— раптам папрасіўся я: ісці далей было горача, хацелася пачакаць хоць бы да той пары, як пачне паварочваць па большаму сонца, і яшчэ хацелася — і гэтае жаданне, бадай, было самае моцнае — пабыць даўжэй з гэтымі людзьмі, бо ў мяне на душы нават зрабілася ніякавата, калі маўклівы і насцярожаны нечым Сухаў неспадзявана даў сваю згоду: вось зараз яны пойдуць, а я застануся сам-насам, я тут чужы і лішні.

Абодва яны — Картыжоў і Сухаў — спачатку былі сумеліся ад маёй нечаканай прапановы. Картыжоў насцярожана выцягнуў сваю доўгую шыю, схіліў набок, як здзіўлены бусел, галаву, і на твары яго застыла вінаватая ўсмешка, якая бывае хутчэй ад раптоўнай разгубленасці. Сухаў жа густа пачырванеў і адвярнуўся, быццам не захацеў, каб кінулася мне ў вочы яго збянтэжанасць.

«От халера»,— папракнуў я сябе за сваю назойлівасць і тут жа сам пачырванеў — адчуў, як хлынула кроў да шчок,— ад таго, што прымусіў людзей хвалявацца.

Але Сухаў не стаў зацягваць няёмкасць.

— Ладна, давай і ты ў долю! — згадзіўся ён.— Пасля разбяромся.

Сухаў павёз Картыжова на той бераг — яны рашылі, што па віно Картыжоў паедзе на матацыкле ў Студзянец. Неўзабаве Сухаў вярнуўся. Паслухаў, як паступова аддаляўся і заціхаў на лясной дарозе матацыкл, сеў на дуб.

— Віцька хутка звернецца,— расцягваючы словы, загаварыў вадалаз.— Ён на матацыкле, як на самім чорце. Шуміць хлопец... пакуль малады.— Падумаў, махнуў рукой: — І няхай шуміць. Яго тут усе любяць. І таварыскі, і харошы. І робіць добра, і настырны, не пабаіцца нават з начальствам счапіцца. Гэта ж каб не ён, то, можа б, і пасюль наш Аўдзееў не паехаў па ўзрыўчатку. Віцька першы на дыбкі падняўся. Кажа, ні вадалазы са сваімі піламі, ні экскаватар каўшом

гэтай вапны не судолеюць. Аўдзееў спярша не слухаў яго і толькі потым, калі каўшы экскаватараў пабілі, пачаў чухаць патыліцу. Ну, тады і мы ўжо, усім гамузам, на яго. А тут як на тое і начальства з трэста прыехала. Пагаварылі. Цяпер вось па тэлеграме адтуль паехаў Аўдзееў у Крычаў. Відаць, тол прывязе. Хутчэй бы ўжо. Дзіўна, колькі жыў, не чуў пра гэту Бесядзь, а цяпер запомню, уелася ў пячонкі!

Сухаў адкінуўся на спіну, закрыў далонямі вочы, паляжаў так моўчкі з падкурчанымі нагамі.

— Праўда, заробкі ад гэтага з'едуць,— пашкадаваў ён.— Падрыўнікі нашыя грошы забяруць. І дзе толькі наша не прападала... А трубы гэтыя трэба пакласці. Земляныя работы ўжо амаль скончаны, а праз рэчку... Тут бы Аўдзеева за гэта патрэсці... І за тое, што зацягнуў работы, не паслухаўся, і за тое, што прамарынаваў нас.— Вадалаз на момант задумаўся і ўжо зусім весела сказаў: — Трэба, мусіць, такім быць, як гэты Віцька Картыжоў. Яму па-ўсякаму добра — зарабіў дык зарабіў, а не — і так няблага. Нават пазайздросціць можна. Ажно смешна. Помню, прыехалі мы сюды ў пачатку лета. Ну, вядома, пакуль даставілі на бераг наш скарб, карабкі гэтыя, то першыя дні, здаецца, ажно цэлы тыдзень жылі ў вёсцы, па хатах. Пасяліліся мы ў адной бабкі — я, Надзька і Картыжоў. Наогул, ён каля нас... Адным словам, жывём мы сабе дзень, другі. А тут пятро-о-оўка, гэта па-вясковаму. Ну, і зразумела, якая трасца. У магазіне адна квасоля ў кансервах ды яшчэ рыба-часцік калі. А бабка наша ў госці сына чакае. Не вельмі разганяецца, каб нам чаго даць, нават калі і ёсць. А Віцька паддобрыўся. Ды як? Аднойчы гэта мы палеглі спаць, і старая кладзецца на сваім тапчане. Але перад сном пачала маліцца. Бубніць сабе штосьці, уздыхае. Я дык гэтых малітваў і не ведаю, здаецца, як дзед маліўся, то пасля яго ўжо ніхто і не спрабаваў. А Віцька раптам, калі старая скончыла і сцішылася на пасцелі, вазьмі ды і скажы: «Бабка, вы ж малітву не так чытаеце».— «Адкуль ты, сатана, ведаеш?» Набожныя не любяць, калі ўмешваешся ў іх справу, становішся паміж богам і імі. Ну, Віцька, канешне, памаўчаў трохі для прыліку і давай сваё.

«Вось вы, кажа, гаворыце — «Отча наш іжа ясі на небясах хлеб наш насушны...» Грэх гэтак да бога. Ён жа адно злуе, калі вы гэтак моліцеся і просіце яго.

ды і хто вас пачуе. Вы ж дармаедам яго называеце, дакараеце, што ён ваш хлеб есць на небясах. Не, бабка, бог ад вас, а не да вас. Вы не так малітву чытаеце. Вось паслухайце». І пачаў гэтак ціхмяным голасам ды па складах з націскам: «Отче наш иже еси на небесах... да светится имя твое...» Ну, а далей — кажа — па-вашаму ўжо...» Старая паслухала і прыціхла. Нават слова не сказала больш. А Віцька нацягнуў на сябе коўдру і засоп. І што ты думаеш, назаўтра ўранні старая зусім іншымі вачамі глядзіць на Картыжова. За стол саджае. І адкуль ён, халера, знае тую малітву. Здаецца ж, і малады, дзе толькі пачуў, а дагадзіць жа дагадзіў цётцы. Праз яго і нам з Надзькай сёе-тое перападала. На вачах раптам перамянілася старая. Нават цяпер, калі праходзіць па сцежцы міма — у яе тут недзе за рэчкай, ці то ў Ліпаўцы, ці то яшчэ дзе, дачка замужам, дык яна часта наведваецца туды,— то абавязкова не праміне першая павітацца з Картыжовым. Па душы ёй стаў. Самы паважаны чалавек у яе. Смяшно-о-о.

Сухаў прыўзняў галаву, абхапіў аберуч каленкі, падцягнуўся — ажно хруснулі косці — і сеў.

— Мда, весела, дужа весела... Ідзе па зямлі чалавек,— з зайздрасцю сказаў ён. — Бывае ж, патрапіць...

Мы гаварылі з Сухавым доўга, аж пакуль не прыехаў Картыжоў.

Віцька вярнуўся ўзрушаны — можа, ад хуткай язды. Ішоў з намі да вагончыкаў і ўсё ляпаў кепкай па далоні левай рукі.

Сухавы жылі ў тым вагончыку, што стаяў ад краю, метраў за пяць да ракі. Было ў іх утульна і чыста: звычайны, мусіць, самаробны стол, засланы надта белым, бы накрухмаленым абрусам, блішчасты жалезны ложак, на якім ляжала гара падушак, і тры табурэткі, пафарбаваныя ў зялёны колер; на сценах — і на той, што па правы бок ад дзвярэй, і на той, што насупраць, вісела ажно пяць няроўных зашклёных рамак з фотакарткамі; на самым відным месцы — паміж вокнамі — павялічаная фотакартка Сухавых.

— Сёння нашай паварыхі няма, дык мы тут абыяк,— сказала гаспадыня і паглядзела на мужа.

Той усміхнуўся, махнуў рукой:

— Ладна, стаўляй што ёсць!

Пакуль Картыжоў ездзіў па віно, а мы з Сухавым гаманілі на беразе, гаспадыня паспела зварыць юшку, нарэзала свежых гуркоў, хлеба, і цяпер толькі заставалася паставіць на стол.

Віно ў шклянкі наліваў сам Сухаў. Рабіў ён гэта спакваля, нагінаўся і доўга прымерваўся на вока, каб ненарокам не абдзяліць каго, пасля паставіў бутэльку на стол, пацёр ад задавальнення рукі і цмокнуў языком:

— Ну, як тэй казаў...

— Паехалі,— падхапіў Картыжоў.

— Ага.

Выпілі яны са смакам і сталі хрумстаць гуркі.

Гаспадыня пачакала трохі і таксама выпіла.

Выпіў і я.

Нарэшце пачалі есці юшку. І зашумелі, загаварылі. Зноў, як і тады, на беразе, яны забыліся пра мяне.

— Ты мне вось скажы, Сухаў,— дапытваўся экскаватаршчык, быццам працягваў даўно пачатую гаворку,— чаму вы мяне тады, з самага першага разу, не падтрымалі?

— Бачыш, Віця, цяжка табе растлумачыць гэта.

— Што, не зразумею?

— Як табе сказаць...

— А вось так і скажы!

— Дык я ж табе ўжо казаў. Ты ўсё роўна не паверыш.— Сухаў памяў пальцамі хлебны мякіш, наморшчыў лоб.— Прабач, але ты... Нам, Віця, грошы патрэбны. Табе напляваць на грошы, а ў мяне скора лысіна будзе. Ты яшчэ малады. Табе яшчэ ажно цэлых,— і ён падняў угору дзве растапыраныя рукі,— ажно цэлых... колькі гадоў яшчэ...

— Пры чым тут гады? — раззлаваўся Картыжоў.

— Ну ладна, дапусцім, гады тут, можа, і ні пры чым. Тады ты па-другому злеплены, разумееш? Ты не злуйся, я табе ўжо не адзін раз казаў. Што было б, каб Аўдзееў адразу паслухаўся цябе? Так мы зараблялі па колькі? Па чатырыста рублёў, так? Так. А каб пачалі падрываць дно, то па колькі б палучылі? Па сто, вось так, Віця! І табе, Картыжоў, крыўдаваць няма чаго, урэшце цябе ж падтрымалі...

— Ага, падтрымалі, праз два месяцы спахапіліся.

— А хоць бы і праз два месяцы, то што?

— А то, што мы падманвалі дзяржаву. І першы ж твой дабрак Аўдзееў.

— Ну, гэта яшчэ як сказаць.

— Ну вось так і сказаць.

— Але ж тэрмін яшчэ не прайшоў. Паспеем тыя трубы палажыць.

— Дык паспець жа мы абавязаны... Каму-каму, а Аўдзееву за гэта...

Я слухаў іхнюю сварку і думаў, чаму Сухаў на беразе казаў адно, хваліў Картыжова, а цяпер, за сталом, калі сядзеў насупраць, спрабаваў хітрыць і нават злаваўся.

Сухаў неяк абмяк, пастарэў і прыціх, схіліўшы над сталом пацяжэлую галаву.

А жонка яго раптам запела. Голас у яе быў прыгожы, і яна неяк спявала надта па-дамашняму, ад гэтага рабілася хораша, нават журботна на душы.

Она встала, зашаталася,
Не издала ни стону, ни звука единого,
Не смогла жакет надеть, сердешная,
Помогала ей хозяюшка...

Сашчапіўшы рукі на жываце, яна паволі пагойдвалася на табурэтцы, і вочы яе адкрыта і закахана глядзелі на Віцьку Картыжова, які сядзеў бокам да яе і ці то ўважліва слухаў, як яна пела, ці проста задумаўся.

И завыли, и завыли тут пурги-погодушки,
И завыли, и завыли ветры буйные,
Завыли, закружились и заплакали...

— Надзька, не трывож душу,— раптам падняў на яе асалавелыя вочы Сухаў і нячутна апусціў на стол свой вялізны кулак.— Заспявала б што вясёлейшае...

І тады яна страсянула галавой і, радасная, запела зноў:

На долине, луговине
Девушки поют,
По долине, луговине
Хоровод ведут...

Спявала яна з ахвотаю, лёгка і доўга, быццам ёй гэта нічога не каштавала — ні напружання, ні душэўных сіл. І калі яна змоўкла, у вагончыку настала такая глухая цішыня, што нават пачулася праз адчыне-

нае акно, як булькоча ў віры пад альховымі кустамі вада. Картыжоў узяў са стала бутэльку, адкаркаваў відэльцам і падаў цераз стол Сухаву:

— На, налівай!

Сухаў утаропіў на яго свае затуманеныя, бы заспаныя, вочы і паморшчыўся, як ад зубнога болю — твар яго яшчэ больш перакасіўся, і шрамок на верхняй губе падскочыў угору. Бутэлькі Сухаў не ўзяў, адпіхнуў локцем.

— Слухай, Картыжоў... Віктар Картыжоў...— пачаў ён злавесна цадзіць скрозь зубы.

— Ну? — Картыжоў падаўся наперад і аблакаціўся на край стала.

— Дык што я табе хацеў сказаць...— І Сухаў пакутліва пацёр сціснутым кулаком свой лоб...— А-а-а, вось што я табе хацеў сказаць, Картыжоў. Я сёння выпіў шклянку віна. Будзем лічыць, што я п'яны. Але калі ўжо ты нам з Надзькай перастанеш назаляць... Ты яшчэ ніводнай нядзелі, ніводнага свята не даў нам пабыць адным. Усё тут і тут. Я, грэшны, было падумаў уранні, што хоць сёння ты затрымаешся недзе, не вернешся. А ты і сёння...

Картыжоў спярша наліўся чырванню, пасядзеў так, натапыраны, і раптам лёгка і расслаблена, гледзячы проста ў вочы Сухаву, засмяяўся.

Засмяялася таксама і гаспадыня, але адчувалася, што яе смех вымушаны. Нясмела сказала:

— Ну што ты выдумляеш!..

Сухаў крутануў галавой:

— Што, смешна? Ну-ну, смейся...

Ён падняўся з-за стала, ступіў колькі крокаў да дзвярэй і сеў там на нізкі парог, прыпёршыся спіною да лутکі.

Тады вылез з-за стала і Картыжоў. Ён падышоў да Сухава, пастаяў над ім і моўчкі пераступіў парог. Сухаў пачакаў і праз якую хвіліну падаўся за ім.

У вагончыку засталіся мы адны. Яна сядзела на сваёй табурэтцы прысаромленая і, здаецца, не ведала, што рабіць. Праз акно нам было відаць, як спярша прайшоў да ракі Картыжоў, пасля, ступаючы след у след, Сухаў. Яны пастаялі там, над вадой, блізка адзін да аднаго, амаль поплеч, і загаварылі. Але слоў нам не было чуваць.

Надзея Іванаўна ўздыхнула і сказала:

— Але вы хоць даруйце ўжо. Можа, Сухаў мой і сапраўды п'яны. У нас ён не часта садзіцца за стол з бутэлькай. Не прывык ён.

* * *

Развітваўся я са сваімі новымі знаёмымі — здаецца, мы нават пасябравалі — пад вечар, калі сонца зрабілася чырвонае і за пясчанымі гарбацінамі, у заценёных лагчынах, пахаладнела, ажыла трава. Яны праводзілі мяне аж да калодліўскай дарогі — двое Сухавых і іх таварыш Віцька Картыжоў.

— Вось прывязе наш Аўдзееў тол, і мы яшчэ наробім тут такога грукату,— пахваліўся напаследак павесялелы Сухаў.— Слухайце там, мо пачуеце...

## Народны камісар

Сцежка вяла ад прыстані ўгору, і я неўзабаве перайшоў па дашчаным мастку глыбокую аўражыну, на дне якой цёк ледзь прыкметны ручай. Далей сцежка ішла праз гароды, дзе расла бульба і былі грады з высокай бурачнай батвой. З узгорка ўвесь гарадок быў як на далоні. Раней такія гарадкі называлі пазаштатнымі. Цяпер — гарадскімі пасёлкамі. Белы будынак, які я ўбачыў яшчэ з парахода, аказаўся школай. Трохі воддаль узвышалася пажарная каланча. Гэта быў самы цэнтр гарадка. А ўжо ад цэнтра разыходзіліся вуліцы з драўлянымі дварамі. Уласна кажучы, вуліца тут была адна. Пачыналася яна ля самага моста, што вісеў над ракой, пасля паварочвала ўправа, абмінаючы вялікі сад. У цэнтры яна шырэла, пераходзячы ў пляц з невялічкім скверыкам. Ад пляца ішла паўз раку і рабіла тыя ж павароты. Гэтую, галоўную вуліцу ў кольніх месцах перасякалі яшчэ вуліцы, але канчаліся яны хутка, заходзячы апошнімі дварамі ледзь не ў самую збажыну, што расла на ўзгорках аж да лесу, які сінеў кіламетры за тры. Сам гарадок мне падабаўся — можа, перш за ўсё сваёй разамлелай цішынёй і тым нязвыклым для гарадскога чалавека напаўвясковым спакоем, які, бывае, спачатку цяжка ўспрыняць — так і здаец-

ца, што ўсё наўкола знаходзіцца ў сне: заснула яшчэ не за нашай памяццю і дасюль ніяк не прачнецца. Над гарадком, нягледзячы на паўдзённую спёку, ад якой паветра пагусцела, стаяў прыемны пах рошчыны, кропу і цвілой вады.

Праз паўгадзіны я ўжо стаяў ля ганка на адным двары і размаўляў з гаспадыняй. З выгляду яна здавалася мне настаўніцай, але якая ўжо адвучыла сваё, бо ўзрост у яе быў пенсіённы, альбо проста канторшчыцай, але якая яшчэ не забылася, што некалі была гімназісткай. Была яна не па гадах стройная, ніколечкі не атлусцелая, не па-нашаму ахайная, і, можа, адным ужо гэтым выклікала да сябе павагу і прымушала гаварыць з унутраным хваляваннем. Яна нават не даслухала мяне, далікатна і зразумела ўсміхнулася, акінуўшы ўсяго кароткім позіркам блізарукіх вачэй — добрых і трошачкі насмешлівых.

— Што ж, і нам весялей будзе. Пажывіце ў нас. Вось вам ключ.— Яна дастала з сумачкі ключ і падала мне.— Адмыкайце кватэру і займайце бакавы пакой. Уладкоўвайцеся, як вам будзе зручней. А мне даруйце. Спяшаюся. К вечару і Аляксей Васільевіч прыедзе. Гэта муж мой. Адным словам, ключ у вас.

— Дзякуй,— сказаў я.

— А вы спачатку, малады чалавек, пажывіце, пасля дзякаваць будзеце.

Яна падышла да форткі, узялася за клямку.

Тады я кашлянуў і, нібы між іншым, сказаў:

— Мне б таксама трэба ісці.— У самы апошні момант я раптам нечага сумеўся — відаць, бянтэжыла тая прастата і лёгкасць, з якой я атрымаў у свае рукі ключ ад чужой кватэры.

Жанчына падняла здзіўлена бровы.

— А вы гэта дарма,— з жартаўлівым дакорам сказала яна; падумала трохі, паківала галавой — вочы яе ў гэты час сталі яшчэ больш насмешлівыя.— Тады давайце ключ. Я сама пакажу ваш пакой. А то, бачу, так і прастаіце тут, на двары. Эх вы!..— Яна, мусіць, ужо мела на ўвазе не аднаго мяне.— І як вы будзеце жыць на свеце?

Праз калідор, які меў выгляд вясковых сенцаў,— квадратны, застаўлены старымі куфрамі,— мы прыйшлі ў пярэдні пакой. Пасярэдзіне яго, на падлозе, ляжаў пацёрты прадаўгаваты коўрык, якога хапала аж

да канапы, што стаяла ля сцяны паміж занавешаных вокнаў. Была тут і вялікая шафа з люстрам. Паміж шафай і сцяной стаяў нізкі, старадаўняй работы стэлаж, на дзвюх паліцах якога блішчалі фольгай і золатам кнігі. А ўжо з гэтага вялікага пакоя мы трапілі ў другі — маленькі, у якім ледзь памяшчаліся стол, крэсла і жалезны ложак, засланы суконнай коўдрай. Стол быў пастаўлены насупраць акна, упрытык да падаконніка; на стале стаяла гліняная паліваная ваза з кветкамі.

— Ну, вось вам,— сказала гаспадыня,— стол пісьмовы і крэсла.

Яна пастаяла яшчэ.

— Забыла папярэдзіць. Вы ж, мусіць, і на раку пойдзеце? То ад нашага дома туды дзве дарогі. Вось глядзіце,— і яна паказала ў акно, дзе паміж платоў віднелася пясчаная сцежка,— гэта адна, сюдой мы ходзім і па ваду, там студня, але цяпер пакуль лепей не хадзіць па гэтай, бо пчолы пакусаюць. У нас, тут, у суседа, пчолы, дык ён катаў мёд, патрывожыў іх. І яны цяпер лютуюць, ужо былі пакусалі дзяўчынку адну, ажно ў бальніцу вазілі. Так што лепш не хадзіць па гэтай дарозе. Я вам пакажу другую.

Гаспадыня растлумачыла ўсё і пайшла, а я запіхнуў пад ложак чамадан свой, павесіў плашч на спінку і, адчуўшы адразу стому, сеў на крэсла, паклаў пацежалелыя рукі на стол. У доме настала спакойная цішыня. Сонца свяціла ў глухую сцяну, і ў пакоях было нават па-летняму халаднавата. Я расчыніў акно і адчуў, як тхнула з вуліцы гарачым паветрам.

Акно з майго пакоя выходзіла ў невялікі сад, які цягнуўся вузкай палоскай да самага зялёнага выгану з круглай лужынай пасярэдзіне. У канцы саду, ля плота, стаяла пад саламянай страхою лазня. У садзе гэтым акрамя яблыняў была таксама адна груша, якая ледзь не стукалася сваім голлем у шыбіны, але расла яна трохі збоч, злева, і не замінала глядзець. Пад грушай стаяў стол, на якім ляжалі падалкі — нехта пазбіраў.

Я доўга, з нейкай лянівай абыякавасцю глядзеў на шырокія дрэвы, на густое зялёнае лісце, папудранае пылам, на яблыкі, якія яшчэ не паспелі і якія адным выглядам сваім наганялі аскоміну, на грушы, якія пабрала ўжо чырвоная сыпка, на пабялелы блакіт, што

млеў угары над невысокім драўляным домам і ціхім садам. Затым падняўся з крэсла, яшчэ раз агледзеў пакой, дзе павінен быў цяпер жыць, і выйшаў у пярэдні пакой. Мяне адразу ж зацікавілі кнігі на стэлажы. Я пачаў аглядаць. Былі тут акрамя разрозненых (ад 17-га да 25-га) тамоў Леніна выбраныя творы Фрунзе, Брэм — «Жыццё жывёл», «Жыццё птушак» і «Звяры лесу», розныя слоўнікі, пачынаючы ад тоўстага арфаграфічнага, затым васьмітомнік Ключэўскага, гісторыя Турчыновіча, тры кнігі Халіфмана і некалькі сучасных раманаў. Падбор кніг быў не выпадковы. І неўзабаве я ўжо з нейкім неўсвядомленым адчуваннем, якое межавалася, можа, нават з захапленнем, чакаў сустрэчы са сваім гаспадаром. Але ў той вечар Аляксей Васільевіч прыйшоў дамоў позна. Пакуль Ядвіга Антонаўна — так звалі гаспадыню — недзе хадзіла па справах, я паспеў схадзіць на раку і папрацаваць за сталом. Нарэшце лёг на ложак, не запальваючы святла. У чужых людзей мне было спакойна. Я пражыў у іх усяго паўдня, але гэтага паўдня ніхто не назаляў мне і, вядома ж, не таму, што нікога не было ў доме. Не, проста, відаць, тут была акрамя ўсяго яшчэ і звычайная чалавечая... ну... прыстойнасць, ці як гэта. Гаспадыня тупала па двары, брала вёдры ў калідоры. Пасля доўга размаўляла з некім пад вокнамі. І, мусіць, было ўжо гадзін адзінаццаць, як у пярэднім пакоі раптам пачуліся мужчынскія крокі, шчоўкнуў уключальнік, і святло пырснула ва ўсе бакі, перасекла амаль па дыяганалі пакой мой (дзвярэй сюды не было, адна палатняная шырма вісела на дзвярным праёме) так, што сталі відны паклееная шпалерамі сцяна ледзь не да самае столі, левы кутох стала. Начны матылёк рынуўся з вуліцы на зыркае святло і заміт усіўся па пакоі — то залятаў на відную палавіну, то губляўся ў цемнаце, і тады было чуваць, як біўся ён мяккімі крылкамі аб сцяну над маім ложкам.

Чалавек загаварыў і запоўніў сваім раскацістым голасам усю кватэру.

З калідора падала голас гаспадыня.

Аляксей Васільевіч сказаў цішэй:

— Прабач... Я забыў... Прабач.

А яшчэ праз момант спытаў:

— Ты ж хоць яго прывячала ўжо?

Пэўна, гаворка ішла пра мяне, але мне не чуваць

было, што адказвала гаспадыня,— з калідора голас яе да мяне амаль не далятаў.

Нарэшце Аляксей Васільевіч выключыў святло:

— Раз ты кажаш, то будзіць не станем. Няхай спіць. Павячэраем адны.— І дадаў: — Пад грушай.

Неўзабаве пад акном пачуліся крокі. Бліснула, загарэлася святло. У маім пакоі зноў стала відна, але цяпер святло ўпала ўжо на сцяну, да якой быў прыстаўлены ложак: на асветленую частку столі ляглі карункавыя цені ад грушавага голля.

Трэба было зачыніць акно — не хацелася стаць непатрэбным сведкам пры чужой размове, якая мелася адбыцца за вячэрай, але я не хацеў выдаваць сябе — яны ж паміж сабой парашылі, што я сплю,— і таму сарамліва астаўся на ложку.

Вячэралі гаспадары моўчкі і доўга. Нарэшце Ядвіга Антонаўна спытала:

— Як жа табе з'ездзілася?

— Няблага. Зрабіў усё.

— Вось будуць рады бабы... асабліва Тунцэвічыха...

— Тунцэвічысе хацелі даць пяць метраў, але я ўжо да канца заўпарціўся. Далі сем. Якраз хопіць на падруб і... Я глядзеў яе хату. Там ажно некалькі вянкоў трэба мяняць. Грыбок паеў.

— Цяпер яна памяняе...

— Лесу хопіць.

Памаўчалі.

— Але бяда тая, што хутка не адным гэтым жанчынам спатрэбіцца лес. Я неяк размаўляў з Болбасам. Аказваецца, у нас тут у вайну шмат пагарэла вёсак. Будаваліся тады — абы вылезці з зямлянак. Пад даждждом. У снег. З мокрага дрэва. Не паспявалі нават акарыць бервяно. Дык ці ж такая хата доўга стаяць будзе?

— Я ж табе, здаецца, пісала?

— Не ўсё да мяне даходзіла. Бывала, прыйдзе пісьмо, а радкі — выкраслены. Іншы раз не ведаеш, пра што і пісьмо тое.

Пад грушаю зноў настала цішыня.

Я ўжо быў задрамаў, але Аляксей Васільевіч нечакана сказаў:

— Дык вось Болбас і гаворыць — будавацца трэба, а лесу няма. Не паспелі і азірнуцца, як спляжылі. А пройдзе яшчэ год-два, пачнецца такое... Можа, таму яны і ашчадныя цяпер. Не, гэта цэлая праблема... Вя-

лікая праблема. Яе, відаць, трэба рашаць не ў райвыканкоме і не ў аблвыканкоме. Добра, няхай будаўнічага лесу няма. Але ж тады трэба навучыць тутэйшых людзей будавацца з іншых матэрыялаў. Неяк жа жывуць людзі ў іншых месцах, дзе наогул лесу няма і не было. Трэба толькі навучыць людзей.

Ядвіга Антонаўна ўздыхнула, і муж, нібы спахапіўшыся, ласкава спытаў:

— Стамілася?

— Не, гэта я ўспомніла.— Памаўчала і дадала: — Прыходзіла Селязнёва, яна думала, што ты ўжо ў сталіцу паехаў.

— Заўтра паеду.

Праз нейкі час гаспадыня занепакоілася, пачала саставуляць посуд.

Падняўся з-за стала і гаспадар. За акном калыхнуліся цені. Святло пад грушай пагасла, і мой пакой патануў у цемнаце.

Назаўтра я прачнуўся позна: ужо даўно была раніца. Заспаны, выйшаў на ганак.

— Добрай раніцы,— убачыла мяне гаспадыня — яна была на гародзе.— Як вам спалася ў нас?

Я павярнуўся на яе голас, падзякаваў.

— Пачакайце, я вас пакармлю,— усміхнулася яна.

Але чакаць амаль не давялося. Неўзабаве мы сядзелі за круглым сталом — яна глядзела на мяне сваімі мрыйнымі вачамі і карміла: падала яешню з цалкоў, тварог на сподку і шклянку салодкага малака.

— А Аляксей Васільевіч зноў паехаў,— сказала яна, нібы просячы прабачэння.— Ён у мяне непаседа. Учора ў раён ездзіў, а сёння... Пенсіянер, дык што яму. Мы цяпер абодва на пенсіі. Я адвучыла сваё... А ён і адседзеў.

— Як гэта?

— А так, як і людзі.— Гаварыла яна без злосці ў голасе і ценю на твары.— Мой у Мінску яшчэ з таварышам Фрунзе, Міхайлам Васільевічам, працаваў. Абое Васільевічы. Пасля наркомам быў. Ну, а пасля... адседзеў вось, прыйшоў — і на пенсію па старасці. Здавалася б, адпачываць трэба, а ён кідаецца, як галодны, на работу. Балазе, што часу шмат. А ў людзей клопатаў шмат, а часу няма, вось яны і ідуць да яго. Учора памагаў лесу даходзіць нашым жанчынам, з суседняй вёскі. З будаўнічым лесам у нас цяжка. Па разнарад-

цы толькі. Дык ён спярша дабіваўся ў вобласці, каб дадаткова далі, пасля — у райвыканкоме. І далі. З ім тут лічацца.— Яна прастадушна засмяялася.— Як жа, былы нарком! І людзі мясцовыя пра гэта ведаюць. Вось і ідуць. А Аляксею Васільевічу быццам аднаго гэтага і не хапала. Ажно памаладзеў. Вось і сёння паехаў, здаецца, у архіў, пасля — у міністэрства.

Яна пасунула бліжэй да мяне сподак з тварагом, весела сказала:

— Вы ешце, ешце, калі ласка!

Затым паклала рукі перад сабой — адна на адну.

— А я як падумаю, дык гэта ж усё роўна — ці ён бы, седзячы ў кабінеце, памагаў людзям, ці так вось, як цяпер. У нас тут суседка ёсць, Каця Селязнёва. Пражыла амаль дваццаць гадоў побач, думалі — звычайная жанчына, пакалечаная, а цяпер, як сама расказвае, дык, выходзіць, гераіня. Партызанка. Адна нямецкую камендатуру ўзарвала. Палічылі, што загінула. А выйшла — жывая. З канцлагера вярнулася. Пасля вайны была хацела аб'явіцца, паехала ў сталіцу, да сваіх былых камандзіраў, але штосьці ў яе там здарылася. Гаварыла, што не пабачыла тады сваіх камандзіраў. Прасядзела ў прыёмных пакоях, а ў кабінет ні да аднаго не трапіла. А як было там — невядома. Тады ўсякае магло быць. Разгубілася, прыехала і стала жыць тут. Чалавек ёй харошы знайшоўся. Пажаніліся. Дзяцей ужо амаль вырасцілі. Цяпер Каця надумала пенсію даходзіць. А даведак няма. Дык Аляксей Васільевіч і паехаў за гэтым. Кажа, архівы партызанскія падыме, можа, пагаворыць і з яе камандзірамі.

Ядвіга Антонаўна заўсёды гаварыла пра свайго мужа з нетаропкаю любасцю ў голасе і з той прыгожай прыстойнасцю, якія магчымы, мусіць, толькі ў іхнія гады. І я паступова пачаў заўважаць, што ў ёй неяк непрыкметна для чалавечага вока спалучаліся і прыроджаная інтэлігентнасць і сялянская спагадлівасць, адным словам, было ў ёй штосьці адначасна і ад настаўніцы і ад вясковай кабеты, асабліва гэта адчувалася ў гаворцы.

Яна была яшчэ зусім маладая, калі пайшла за Аляксея Васільевіча. Здарылася гэта ўлетку семнаццатага года. Тады Аляксей Васільевіч працаваў у Мінскім Савеце. Маладая настаўніца адразу далучылася да падзей і прайшла разам з мужам, бальшавіком, па

гарачых дарогах рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Пасля зноў вучыла дзяцей, а калі ў трыццаць сёмым пасадзілі Аляксея Васільевіча, падалася сюды, у ціхі гарадок на Бярэзіне. Тут жыла яе сяброўка па гімназіі. Тая дачулася пра яе бяду і запрасіла беспрацоўную жонку «ворага народа» да сябе. Удзвюх яны і пражылі шмат гадоў у гэтым доме. Ядвіга Антонаўна паступова ачуняла, пачала працаваць. Пасля вайны памерла сяброўка. Але праз некалькі гадоў вярнуўся рэабілітаваны Аляксей Васільевіч. Яму прызначылі пенсію, давалі кватэру ў Мінску, але яны адмовіліся.

Пра свае пакуты Ядвіга Антонаўна звычайна гаварыла з неахвотай, і то, можа, толькі таму, што часам пытаўся я. Больш яна любіла гаварыць пра свайго Аляксея Васільевіча. І слухаць яе нельга было без зайздрасці: яна ведала ўсё, літаральна ўсё пра свайго мужа.

Паступова ў маім уяўленні складваўся вобраз Аляксея Васільевіча — чалавека з кагорты шчырых наркомаў ленінскай гартоўкі.

Прыехаў ён з тае паездкі аднойчы ўранні, і тады я першы раз убачыў яго. Быў ён моцнага складу, шыракаплечы, вышэй сярэдняга росту і з твару нечым нагадваў пажылога акцёра — пасівелага, з сумнымі запалымі вачамі, але з выгляду яшчэ — на пэўнай адлегласці — як маладога...

Я сустрэў яго з радасцю, быццам даўняга знаёмага. Сказаў усміхаючыся і, як мне здавалася, па-добраму, па-дамашняму:

— Нарэшце, Аляксей Васільевіч, скончылася ваша камандзіроўка.

Ён паглядзеў на мяне як бы здзіўлена і расслаблена, але здаволена засмяяўся:

— Камандзіроўка!.. Ну, вядома ж, камандзіроўка! Ваша праўда, камандзіроўка...

Памаўчаў і дадаў:

— М-да, у мяне зацягнулася камандзіроўка. Адбыццё адзначана, а прыбыццё — не. Адной, апошняй, пячаткі на маім камандзіровачным пасведчанні яшчэ няма.

Ён сеў на канапу, развязаў гальштук і расшпіліў верхні гузік.

— А мы ўжо тут прачакаліся,— сказала Ядвіга Антонаўна.

Аляксей Васільевіч пацёр адна аб адну рукі:

— Схадзіла б ты паклікала Кацярыну. Я ёй прывёз і даведку і... ведаеш, што яшчэ? Навіну! Хутка ёй павінны ўручыць узнагароду. Аказваецца, яе пасмяротна ўзнагародзілі ордэнам Леніна. Цяпер ёй ад журналістаў не адбіцца. Сенсацыя.

## Самы шчаслівы чалавек

Сонца забарылася нечага і пакуль разлівала па небасхіле адну ружовую чырвань. Была нядзеля, і ніхто не адважваўся парушаць ранішняй цішы. Толькі дзявальныя ляніва сноўдалі паміж парусінавых палатак, падчышчалі, мякка шоргаючы мётламі, пясчаныя лінейкі, налівалі ў дубовыя двухдонкі халодную ваду.

Ад дзяржаўнай граніцы, што была не больш як за паўтара кіламетра ад лагера, сёння чамусьці не даляталa ніводнага гуку, які мог бы насцярожыць чалавека.

Палаткі стаялі ўздоўж самай шырокай, пасыпанай жвірам лінейкі. У рэдкім тумане яны нагадвалі нечым парусы, што паднялі над сваімі лодкамі рыбакі, перад тым як адплысці ад берага.

Аляксей Балаш стаяў пад абшарпаным, выцвілым грыбком і чакаў, пакуль чырвонаармеец Казакоў, з якім яму выпала гэты раз дняваліць, падмятаў пляцоўку. Казакоў павінен быў стаць замест яго пад грыбок. Але той усё, нібы наўмысна, марудзіў, і Аляксея гэта злавала. Аляксей не вытрымаў, гукнуў:

— Варушышся ты там, як мяла!

— А што? — пазяхнуў Казакоў.

— Можа, яшчэ і памагчы?

— Я сваё сам зраблю...

Абодва злавалі ціха, каб не разбудзіць каго.

Нарэшце вынырнула з-за пагоркаў сонца. Макаўкі маладых сасонак — смалістыя шышкі, што не паспелі задзеравянець,— заблішчалі, як пазлачаныя, і першыя промні нячутна скочылі на пахаладзелую зямлю. Тады скалыхнуўся, нібы ад ветру, туман, які плаваў на ўзлеску, стала відно, як там, дзе яго секанулі сонечныя промні, замітусіліся драбнюткія пылінкі.

Аляксей зняў з пояса нож, аддаў Казакову.

— Цяпер ты загарай,— засмяяўся ён.— Ды глядзі, каб нос зноў не аблупіўся.

Аляксей прайшоўся па лінейцы, размінаючы ногі, адшпіліў полаг палаткі — там соладка спалі, пасоп-ваючы, таварышы. Аляксей пастаяў, паглядзеў, але зноў зашпіліў полаг. Яму раптам не захацелася лезці ў палатку з цяжкім паветрам, і ён адышоўся, сеў на лаўцы.

Мусіць, Аляксей ужо апошні раз быў за днявальнага. Праз тыдзень у яго канчаўся тэрмін службы — бралі яго ў армію не тады, як і аднагодкаў, і дэмабілізоўвалі не ўвосень, як звычайна, а ўлетку. Гэта яго радавала. Не тое каб служба ў цяжар была — проста хлопец спяшаўся дамоў.

Яшчэ нядаўна шмат гаварылі пра вайну, і Аляксей палохаўся, што яго дэмабілізуюць раней, чым пачнецца яна. У іхняй сям'і ўсе мужчыны былі на вайне: дзед — на японскай, бацька — на германскай, старэйшы брат таксама ваяваў — Аляксей ведаў, што ордэн брат атрымаў за Іспанію. Аляксею таксама хацелася мець ордэн — было такое тайнае жаданне. Тым больш што вайну ён уяўляў сабе такою, якой паказвалі яе ў фільмах. Нават думалася, больш таго — хлопец быў упэўнены, што ў вайне ўдзел прымуць, можа, адны толькі пагранічнікі — за якое даабеддзе, калі пачнецца раніцой, яны разаб'юць немцаў, а там падымецца рабочы клас у самой Германіі, і тады... Хто ведае, можа, гэта самы зручны выпадак паквітацца з фашызмам! Але чатырнаццатага прыйшлі газеты, і там чорным па беламу напісана, што Германія таксама няўхільна захоўвае ўмовы савецка-германскага пакта аб ненападзенні, як і Савецкі Саюз... Пасля гэтага на граніцы нібы паспакайнела, чуткі і сапраўды больш не «мусіраваліся» — у арміі проста было забаронена гаварыць аб хуткай вайне,— і чырвонаармейцы перасталі падазрона прыслухоўвацца да гулу матораў, якія ўвесь час даносіўся з таго боку.

* * *

Дзяжурным па лагеры быў Аляксееў зямляк, капітан Сітны, і Аляксей пазнаў яго па голасу, як той загаварыў з днявальнымі. Аляксей ведаў яго малодшага

брата — вучыліся разам, нават у адзін дзень прызываліся,— і праз таго Сітнага пазнаёміўся з гэтым. Яны часта размаўлялі, і Аляксей ніколі не адчуваў над сабой капітанавай вышэйшасці. Паміж імі заўсёды была зямляцкая прыязнасць. Сітны нават чырванеў, калі чырвонаармеец Балаш выцягваўся перад ім.

Сітны падышоў і да Аляксея.

— Адстаяў сваё?

— Так точна.

Сітны ўсміхнуўся:

— Нябось адна твая нага яшчэ тут, а другая ўжо на Волзе?

— Цяпер паеду, таварыш капітан.

— Зайздрошчу я табе...

— Праўда?

— Праўда, Алёшка...

Памаўчалі. Тады Аляксей сказаў:

— Сёння ж самая кароткая ноч.

— Але.

— Ды сонца неяк не спяшаецца ўгору, нібы хто стрымлівае яго...

Капітан Сітны паглядзеў на гадзіннік:

— Хутка ўжо чатыры.

— Учора Максім прыслаў ліст — яго таксама пускаюць дамоў.

— Мы, здаецца, таксама...

— Што, зноў у Баранавічы?

— Тут пакідаюць адзін батальён.

— Правільна, раз не патрэбны, навошта трымаць...

— А ты і сапраўды думаеш, што не патрэбны мы тут? — раптам зірнуў Аляксею ў вочы Сітны.

— Калі верыць паведамленню...

— Вось, вось!.. Калі верыць!

Аляксей пацiснуў плячамі.

— Паслухай, Алёшка, мы з табой камуністы і будзем шчырыя ў нашай гаворцы, раз яна пачалася.— Сітны нібы зазлаваў.— Я не баюся ні за цябе, ні за сябе. Але баяцца, што і дрэва мае вушы, таксама не трэба. Вядома, там, наверсе, відаць лепш... Але ж учора начальнік палітаддзела ездзіў да пагранічнікаў. Тыя гавораць зусім адваротнае. Немцы рыхтуюцца да вайны і вось-вось пачнуць. Так і лезуць да нас, адных правакацый не злічыць...

— Значыць, пісалі няпраўду?

зруб. Астатнія пагарэльцы пачалі будавацца ў пасёлку пасля вайны ўжо. Каб вывесці людзей як хутчэй з зямлянак, дзяржава стала даваць пазыкі на будаўніцтва хат. У раёне пачалася яшчэ адна народнагаспадарчая кампанія — кампанія «па высяленню пагарэльцаў з зямлянак», прынамсі, так яна называлася ў пратаколах пасяджэнняў розных устаноў. Вобласць націскала на раён, раён у сваю чаргу на сельсавет, а сельсавет... на ўдоў. У вёску прыязджалі нават спецыяльныя ўпаўнаважаныя. Па Зялёнаборскаму сельсавету такім упаўнаважаным быў цыбаты Галуза, старшыня раённага ДТСАРМа, чалавек, аднолькава ласы як да гарэлкі, так і да баб. І вось аднаго разу гэты ўпаўнаважаны прыходзіць пад мухай да Галкоўскіх.

— Пазыку брала? — пытае ветэрынарыху.

— Брала,— адказвае тая.

— А чаму ж... тваю маць, не пабудавалася дасюль? — ускіпеў неспадзявана Галуза, выкатваючы пачырванелыя вочы.— Ты што нам зрываеш план? З цялітыкай надумала гуляць? Ты ведаеш, якая ў нас цяпер задача?

— Але ж дзе я паспею? — пачала апраўдвацца разгубленая Галкоўская.— Вунь хлопец ляпае сякерай.— Усміхнулася.— Ужо на шосты вянок ускацілі па бервяну. К зіме будзем ставіць.

Галузу нібы за жывое зачапілі.

— Нам трэба, каб ты зараз паставіла! — закрычаў ён.— А можа, пазыку пражрала?

— Ды не, ляжыць яна ў мяне, пазыка тая, але ж гэта каб да пазыкі ды цесляроў дзе знайсці. А то дзе ён адзін, хлопец мой? Будзе доўга ляпаць там...

— Значыць, не хочаш высяляцца,— шалеў Галуза.— Пазыку ўзяла і адмаўляешся будавацца? План зрываеш нам? — Галуза, як укушаны, забегаў па зямлянцы, пасля выскачыў на двор, схапіў там жалезны лом і пачаў разбураць чалеснік у печы.

Тады Галкоўская нарэшце загаласіла, ламаючы рукі. А Янка якраз быў за гародам, сядзеў на зрубе. Адразу пачуў матчын плач, кінуўся бегчы ў зямлянку. На парозе ён паявіўся з сякерай у руках і, доўга не думаючы, замахнуўся на раз'юшанага Галузу. Той павярнуўся, ударыў па сякеры ломам, выбіў яе з Янкавых рук і выскачыў сам з зямлянкі.

Праз гадзіну ў Зацішша на кані прыехаў участко-

вы міліцыянер. А к вечару з раённай міліцыі прыслалі яму падмогу — яшчэ двух міліцыянераў. Шукалі Янку Галкоўскага. І ўжо ўсе ведалі — і ў сельсавеце, і ў раёне,— што той «аказаў супраціўленне тав. Галузу, маючы на мэце забіць яго». Так было запісана ў першым пратаколе, які пасля пачаў усю тую справу. Але хлопца тады не знайшлі. Першую ноч ён прасядзеў з курапамі ў яме, за дваром, дзе хавалі на зіму бульбу, а ўранні, калі нарэшце некуды сышла з двара міліцыя, Янка вылез са свайго сховішча і адразу даў цягу ў лес.

Цяпер невядома, чым бы скончылася ўся тая гісторыя, але праз колькі дзён па ўсім наваколлі прайшла чутка — паявіўся ў раёне новы разбойнік, нават горай за самога Пялінку (быў такі пад канец вайны, дэзерцір). А некаторыя несумленныя людзі нібыта аднаго гэтага і чакалі. Нап'ецца хто-небудзь, засне дзе папала — яго і раздзене хто п'янага і соннага. Тады чалавек, каб сораму было меней, заяўляе міліцыі, што гэта Янка зацішанскі перастрэў яго па дарозе і абрабаваў, прыставіўшы да жывата рэвальвер. Прагандлюецца які-небудзь лавачнік — зноў пускае чутку, што на яго напаў зацішанскі Янка. Благая слава разносіцца хутка. Асабліва калі гэта яшчэ і выгадна сяму-таму. Адам Ружанцоў, можа, самы першы пераканаўся ў гэтым.

Тады якраз загаварылі, што недзе ў Ключах, што непадалёку ад ракі, быў абрабаваны жаркоўскі заўмаг, які вёз з сельпо тавар. Крамнік з ахвотаю расказваў, як перастрэў яго Янка — «узброены двума наганамі, зарослы шчэццю і ў бліскучых хромавых ботах»,— ачысціў воз, і «добра яшчэ, што адпусціў падобраму і па-здароваму».

Адам тыя дні даходзіў сабе метрыкі ў загсе — пасля вайны былі вялікія чэргі па розныя даведкі, таму ён выбраўся ў райцэнтр нанач, каб сярод першых стаць ля дзвярэй загса. На дарозе яго нехта паклікаў. Адам азірнуўся і ўбачыў свайго сябра.

— Здароў,— сказаў Янка, чырванеючы.

— Ну, здароў,— Адам падаў руку.

— Ты ета куды? — спытаў Янка.

— Метрыкі дахаджу. Трэба ў школу здаць. У восьмы клас іду, у мястэчка. Дык дакументы сабіраю. Метрыкі таксама патрабуюць там. У загс іду вось.

Янка пакалупаў вялікім пальцам правай нагі пясок, спытаў:

— Есці хочаш?

— Хачу,— прызнаўся Адам — быў самы галодны пасляваенны год.

— Тады хадзем.

Неўзабаве яны трапілі на сцежку, і яна прывяла да закінутага партызанскага будана, што быў на краі балота. Адам агледзеўся, усміхнуўся.

— Тут і хаваешся? А дзе ж твая зброя?

— Навошта яна мне? — здзівіўся Янка.

— А кажуць жа, што ўзброены,— сказаў Адам.

Тады Янка ўсміхнуўся — здавалася, яму даспадобы прыйшлося тое, як сказаў Адам пра зброю.

— Яно, вядома, можна было б знайсці якую ламачыну, але я ваўкоў не баюся. Ды я і не збіраюся доўга жыць так. Вось пажыву яшчэ ў будане, пакуль цёпла спаць, пасля пайду на станцыю, сяду на поезд і паеду.— Янка падумаў і з сумам спытаў: — А міліцыя часта бывае?

— Ага,— кіўнуў галавой Адам.

— Тута мяне ніхто не знойдзе,— засмяяўся Янка.— Чортеты Галуза. Праз яго ўсё. Але каб ведаў, што так выйдзе, то хоць бы ўжо...

— Дык ты тут і жывеш? — Адам стаяў ля будана, пераступаючы з нагі на нагу.

— А што? Вось зараз я цябе пакармлю. У мяне тута ўсяго хапае.— Янка палез у будан і вынес адтуль два паржавелыя селядцы, пачак пячэння і кавалачак халвы на прамасленым шматку паперы.— На, еш,— сказаў ён, глытаючы сліну.— Ты на мяне не глядзі. У мяне яшчэ ёсць... селядзец адзін, вялікі, і пячэння трохі. А халвы я не хачу. У мяне ўжо горка ад яе.

Адам сеў на траву, раздзёр селядца, запэцкаўшы пальцы аб вантробы, і пачаў з галадухі аплятаць, заядаючы сухім пячэннем.

— Смашна? — спытаў, пачакаўшы трохі, Янка.

— Ага,— прызнаўся Адам.— Гэта з жаркоўскай лаўкі?

— Ага,— заварушыўся ўзрадаваны Янка.— Ета ж як было. Ты толькі паслухай. Выйшаў я раз на дарогу, надакучыла сядзець тут аднаму, дый камары не даюць, дык я і пайшоў. Бачу, едзе еты лавашнік. Убачыў і ён мяне. Кліча. Я падыходжу, а ён і кажа, што бацьку майго яшчэ ведаў. Ну, і надаваў мне цэлае бя-

рэма селядцоў, пячэння, халвы кілаграм цэлы. Вось я і кармлюся гэтымі запасамі.

Адам перастаў ад здзіўлення есці.

— А там жа ён усім кажа, што ты абрабаваў яго па дарозе. Забраў усё, што было на возе. І ў міліцыю заявіў так. Нават сказаў, што ў цябе з сабой было два наганы.

— Хы, наганы! Яму ўжо наганы сняцца. Можа, забраў усё, што палучыў у сельпо сабе, а сказаў, што ета я.— Янка падумаў і спытаў пра другое: — А матку маю бачыў калі?

— Бачыў.

— Што яна?

— Плача.

Янка апусціў галаву, пасядзеў так, абшчапіўшы каленкі рукамі, пасля сказаў, задуманы:

— А я вось забяру яе ноччу і павязу куды-небудзь. І няхай тады Галуза са сваёй міліцыяй ловіць мяне... Ты вось што, скажы-ка матцы, каб яна прыйшла сюды, а?

— Ладна.

Але Адаму не давялося перадаць старой Галкоўскай сынаву просьбу.

Пакуль ён вяртаўся на другі дзень з райцэнтра, Янку арыштавалі. Вялі яго два міліцыянеры, пад канвоем і чамусьці без штаноў — як засталі соннага ў будане, так і павялі. А вясковыя людзі глядзелі на канвой, ківалі галовамі, уздыхалі: дзіву даваліся.

З таго часу Адам Ружанцоў і не бачыў Янку Галкоўскага.

Казалі тады, што Янку спярша трымалі пры раённай міліцыі, бо вялося следства, але ўсё чамусьці не сыходзіліся ў пратаколах канцы, і яго забралі ў Магілёў.

І вось цяпер Ружанцоў неспадзявана ўбачыў у альбоме мастака Бараноўскага знаёмы твар. За лічаныя хвіліны ў яго перавярнулася ўсё ўсярэдзіне. Верылася і не верылася. А раптам яшчэ не ён?

* * *

Вядома, Адам Ружанцоў павінен быў неадкладна ехаць на будоўлю азотнатукавага завода, каб адшукаць там Галкоўскага і не губляцца ў здагадках. Ак-

рамя гэтай, хутчэй за ўсё чыста зямляцкай патрэбы, якая падагравалася даўняй дружбай, былі і яшчэ прычыны. Справа ў тым, што ўвесь гэты час (а мінула ўсё-такі шмат гадоў) Ружанцоў жыў з адчуваннем унутранай віны і нявыкананага абавязку. Яму чамусьці здавалася — і чым далей, то ўсё болей,— што Галкоўскі, якога арыштавала міліцыя адразу ж пасля таго, як яны развіталіся ля будана, падумаў недзе тады — гэта Адам пайшоў у раённую міліцыю і заявіў на яго. Прынамсі, так павінен быў, меркаваў Адам, падумаць Галкоўскі, бо адзін ён ведаў пра той будан і аднаму яму даверыўся па дружбе «злачынца», які не меў за сабою ніякіх злачынстваў. І Адам, вядома, пакутаваў, на душы ў яго было неспакойна заўсёды, як агортвалі ўспаміны пра тое пасляваеннае лета. Але ён ніколі не сказаў нават самым блізкім сябрам, што бачыў у лесе Галкоўскага: адным часам баяўся сам, каб не зачапіліся пасля, і не хацеў, каб пра яго кепска падумалі. Калі Галкоўскага вялі пад канвоем па вясковай вуліцы, Адама не было ў вёсцы — яшчэ не вярнуўся з райцэнтра. Але каб ён і быў, то наўрад ці выйшаў бы насустрач: мусіць, не здолеў бы па маладушнасці глянуць сябру ў вочы, ведаючы, што той мог западозрыць яго. Пра большае тады не думалася. Нават не думалася, што Янку нечым можна дапамагчы наогул,— можа, таму, што яшчэ не да канца была парушана псіхалагічная сувязь паміж ваенным часам, калі не лічыліся ні з самім чалавекам, ні з заступнікамі яго, і пасляваенным часам, калі яшчэ за першыя гады людзі не паспелі ўсвядоміць як мае быць, што цяпер усё за чалавека і ўсё для чалавека: як ні дзіўна, але багата што атаясамлівалася яшчэ. Разам з тым быў у Адама Ружанцова і абавязак перад Галкоўскім. Дакладней, не перад ім самім, а перад ягонай маткай, бо тая, як памірала, вельмі прасіла, забываючы нават на фізічныя пакуты:

— Ты, Адамік, прашу богам, не пакінь майго Іванньку. (Яна ўжо называла сына па-зацішанску.) Знайдзі яго, Адамік... У тым Магілёве... Знайдзі. Ён жа адзін у мяне на белым свеце...

Але што мог зрабіць тады пятнаццацігадовы Адам Ружанцоў? Тады наогул ніхто са знаёмых не разумеў як след, што здарылася з сынам Галкоўскай. Не ведалі таксама, як вядзецца і следства па яго справе: у

турму да яго хадзіла адна маці — ды і то, калі ёй лепшала,— і яна не мела ахвоты гаварыць пра гэта. І ў Зацішшы, таксама як і ў Зялёным Бары, надта здзіўлены былі, што не было над ім суда. Прайшла раптам чутка, што яго апраўдалі. Але то былі ўжо адны здагадкі...

Цягнік у абласны горад прыйшоў пад вечар, і Ружанцоў, дачакаўшыся на вакзале аўтобуса, паехаў адразу на будоўлю. Дарогу на азотнатукавы ён прыкладна ведаў. Яго не бянтэжыла нават, што рабочы дзень, бадай, кончыўся.

— Брыгада Галкоўскага? — Дзяўчына ў канторы заводакіраўніцтва доўга гартала нейкія табелі, пасля, як абураная, усклікнула: — Дык гэта ж бетоншчыкі! Так бы і сказалі адразу. А то — брыгада Галкоўскага! Ці ж у мяне тут адна гэта брыгада? Бетоншчыкі цяпер заняты на плывуне. Ведаеце, дзе аварыйны будынак?

Ружанцоў кіўнуў галавой — маўляў, ведаю,— хоць і не меў ніякага ўяўлення, дзе гэта. Але адчыніліся дзверы ў бакоўку, і адтуль выйшаў высокі мужчына з задуменным тварам. Гэта быў галоўны інжынер будаўніцтва. Ён паглядзеў на Ружанцова, пасля перавёў позірк на дзяўчыну:

— Таварыш да мяне?

— Не, Анатоль Сцяпанавіч,— сказала дзяўчына,— яму патрэбны Галкоўскі. Гэта, помніце, брыгадзір бетоншчыкаў.

Галоўны інжынер усміхнуўся. Пастаяў трохі пасярод пакоя, пасля кіўнуў галавой Ружанцову — маўляў, хадзем,— і рушыў да парога.

— Разумееце,— раптам разгаварыўся па дарозе галоўны інжынер,— калі закладвалі там жа, паблізу, будынак, ведалі — блізка ад паверхні плывун.— Ён не пацікавіўся, з кім ідзе.— Давялося забіваць жалезабетонныя палі. На дзевяць метраў у зямлю, быццам наскрозь. Цяпер будынак стаіць, як... І стаяць будзе! А тут і не падумалі пра плывун. Геадэзісты супакоілі. Сказалі, што грунт цвёрды. Сукіны дзеці!

Плывун ужо каторы дзень пагражаў разбурыць будынак. Адзін вугал будынка ўжо абваліўся ледзь не да самага даху, пад ім не было фундамента, і цэглу не мог

утрымаць нават бетон: усё паглынала густая пясчаная каша, перамешаная з торфам. Работы каля будынка вяліся і дзень і ноч. Але перамагчы плывун не маглі. Спачатку прыгналі былі экскаватар. Думалі, што той вычарпае плывун. Але экскаватар давялося здымаць — па-першае, ён не дапамагаў, а па-другое, убачылі, што і пад ім пачынае асядаць грунт.

На гэтым плывуне, ратуючы будынак, папрабавала свае сілы не адна брыгада. Цяпер працавала брыгада Галкоўскага. Начальства рашыла, што толькі яго бетоншчыкі здолеюць даць рады.

Спярша хлопцы падумалі загаціць плывун. Пачалі вазіць каменне, зрушвалі цэлыя валуны, пасля сыпалі цэмент, нарэшце дабраліся і да бетону. Але плывун быццам насміхаўся з брыгады, усмоктваў з аднолькавай прагаю ўсё, што толькі кідалі яму, і па-ранейшаму пагражаў будынку.

Бетоншчыкі хадзілі злосныя, абляпаныя плывуновай тванню. Нарэшце некаму прыйшло ў галаву — гарадзіць, трэба гарадзіць! І ўсе раптам з палёгкаю паглядзелі адзін на аднаго: сапраўды, у тынкоўшчыкаў таксама не бярэцца раствор за голую сцяну, робяць абрашотку. Значыць, і тут трэба прыдумаць штосьці падобнае.

Калі Адам Ружанцоў і галоўны інжынер будаўніцтва падышлі да аварыйнага будынка, там ужо ўсе — і інжынеры, і бетоншчыкі, і шафёры самазвалаў — ведалі, што нарэшце з плывуном пакончаць. Бетоншчыкі Галкоўскага рабілі з дошак першую клетку, каб паставіць яе пасля на плывун і вычэрпваць яго, залівaючы адваяваную плошчу бетонам.

Ружанцоў адразу пазнаў Галкоўскага. Высокі і шыракаплечы, той стаяў над абрывам, дзе шыпеў унізе ўспучаны плывун, і твар у яго — скуласты і чарнявы — быў трохі стомлены і нахмураны. Янка быў вельмі падобны на свой партрэт, які бачыў Ружанцоў у альбоме мастака Бараноўскага; нават тая самая пасмачка попельных валасоў спадала на яго лоб. Але гэта ўжо быў, вядома, не той Янка Галкоўскі, якога некалі ведаў Адам Ружанцоў. Гады, што прамінулі, зрабілі з падлетка мужчыну. Але было ў гэтым Галкоўскім нешта і ад зацішанскага Галкоўскага. Напрыклад, Янка па-ранейшаму, калі задумваўся, глыбока закусваў ніжнюю губу. І рукі ён гэтаксама трымаў у кішэ-

нях штаноў — засуне кулакі і адвядзе ад сябе локці, нібыта выварочваючы іх.

Але вось Галкоўскі павярнуўся, і нахмураны твар яго быццам зварухнуўся: на вочы яму трапіўся Адам, і ён адразу пазнаў яго, нейкі момант стаяў, як утрапёны, і нельга было здагадацца, рады ён сустрэчы ці не. Адам ужо збіраўся ступіць насустрач свайму былому сябру, але той раптам нібы спахапіўся чаго і адвярнуўся. Тым часам яго ўжо нехта клікаў: ужо гатова была першая клетка, збітая з дошак, і яе пачалі апускаць на плывун.

Брыгада Галкоўскага заставалася працаваць і ўночы: плывун не затрымліваўся ні на рыдлёўках, ні на шуфлях, і яго даставалі з клеткі вёдрамі, забіваючы яе бетонам. Адам Ружанцоў таксама не адыходзіў да самай поўначы ад аварыйнага будынка. Яго таксама захапіла ўсеагульная ўзрушанасць. Але да Галкоўскага ён не набліжаўся. Стараўся нават не трапляцца брыгадзіру на вочы — трохі бянтэжыла тое, што Янка раптам не захацеў падысці пры людзях, разам з тым не хацелася і замінаць у такі час.

Затое назаўтра, недзе ўжо ў другой палавіне дня, Галкоўскі сам прыйшоў па Ружанцова ў нумар гасцініцы, што была тут жа, амаль на будоўлі завода. Прыйшоў нечакана, падаў руку і нечага сумеўся.

— Я цябе адразу пазнаў,— сказаў ён Адаму.

— І я цябе таксама,— па-сяброўску ўсміхнуўся Ружанцоў.

Тады Галкоўскі сеў на крэсла, выпраставшы ногі на сярэдзіну пакоя, і прасядзеў так колькі часу з апушчанай галавой, быццам яму цяжка было гаварыць.

Ружанцоў падышоў да Галкоўскага, паклаў яму на плечы далонямі абедзве рукі, сказаў:

— Ты не ведаеш, як я рады, што мы нарэшце сустрэліся.

А той нібы чакаў аднаго гэтага прызнання — пацёр ад задавальнення адна аб адну рукі і зажмурыў павільгатнелыя вочы.

— Ну вось што,— сказаў Галкоўскі праз момант тонам вельмі занятага чалавека, якому нельга пярэчыць.— Хопіць сядзець тут. Хадзем да нас. Гэта недалёка. Во, амаль адразу за гасцініцай. Ужо і жонка мая ведае, што ты прыехаў. Хоча і яна пабачыць цябе. Хадзем, а то не паспеем — ёй у другую змену сягоння.

Галкоўскія жылі ў вёсцы, якая сваімі крайнімі дварамі падыходзіла да самай будоўлі,— яны здымалі там у гаспадара пакой, і Адам з Янкам прыйшлі туды яшчэ да жончынага адыходу. Янкава жонка, малая, як недарослая, але на дзіва прыгожая і рухавая жанчына, сустрэла іх на ганку, стала перад госцем і нечага пачала ўсміхацца, пазіраючы на яго ва ўсе свае шэразялёныя вочы, але гаворкі доўга не пачынала.

— Ну, вось, і ў Івана майго зямляк знайшоўся,— ледзь не прапела яна мяккім грудным голасам.— Вы гэта першы да нас завіталі,— дадала яна яшчэ ці то шкадуючы, ці то радуючыся, і, мусіць, здагадаўшыся, што далей пакуль няма пра што гаварыць, заспяшалася ў хату, на кухню.

Мужчыны зайшлі ў пакой — чатыры крокі ў адзін канец, чатыры ў другі.

— Вось так мы і жывём,— быццам парушаючы якую няёмкасць, пачаў Галкоўскі.— Не надта самавіта, але мы прывыклі. Увесь час пераязджаем. Сёння тут, а заўтра там. Як цыганы некалі. Затое завёмся будаўнікамі.— Сказаў і заўсміхаўся на ўвесь твар — яшчэ больш пачарнелы ад загару, з высокім, ледзь не квадратным ілбом.— І дачка ў нас ёсць. У школе ўжо. І таксама ў другую змену.

Жонка Галкоўскага, якую звалі Наталляй, спрытна і хутка сабрала на стол, зняла клятчасты пярэднік,— яна была тынкоўшчыца на будоўлі і ў яе пачыналася змена.

— Гэта добра, што вы прыехалі, Адам,— сказала яна, перапрашаючы за сваю вымушаную паспешлівасць.— А то ён часта пра вас гаварыў...— Яна памулялася, быццам хацела яшчэ што дадаць, але паглядзела на мужа: — Ты толькі ўжо не забудзь, што па Нюрку ісці сёння твая чарга.

Ружанцоў пачакаў, пакуль сціхлі на ганку Наталліны крокі, спытаў, быццам жартуючы:

— Цябе ўжо больш не завуць Янкам?

— Не,— усміхнуўся Галкоўскі.— Цяпер завуць па пашпарту, Іванам.

Ружанцоў кіўнуў галавой:

— Што ж ты не прыехаў? Нават не напісаў?

— Спярша было сорамна. Усё не мог забыць, як вялі мяне голага... без штаноў. Пасля даведаўся, што маці памерла.

Трохі ап'янелы, Ружанцоў сказаў, але нібы між іншым:

— Выходзіла тады, што гэта я прагаварыўся пра твой будан...

— Э-э-э,— махнуў рукой Галкоўскі,— добра яны зрабілі, што забралі мяне, а то невядома, чым бы яно ўсё скончылася.— І ўсміхнуўся без ценю на твары, быццам гаворка ішла пра нейкую даўнюю забаву.

Тады Ружанцоў апусціў галаву — Янкава абыякавасць да ягоных слоў нават збянтэжыла трохі: Адам так і не адчуў, ці паверыў той яму, і ад гэтага зрабілася ажно ніякавата.

Галкоўскі крутануў галавой, быццам адганяючы якое насланнё, пачаў зводзіць гаворку на іншае:

— Раскажы хоць, як там наша Зацішша? Як вашы?

І Ружанцоў стаў з ахвотаю расказваць пра Янкаў пасёлак, пра сваю вёску. Янка сядзеў па другі бок стала, застаўленага рознымі стравамі, уважліва слухаў і не перапыняў. І толькі на вуліцы, калі ішлі да школы сустракаць малую Нюрку, спытаў раптам, чырванеючы:

— Ну, а пра мяне... што там? Мусіць, і не помняць?

— Ды спярша расказвалі цэлыя легенды, а потым перасталі,— адказаў як ёсць Адам.

Тады Галкоўскі рассмяяўся на ўсю вясковую вуліцу:

— А ведаеш, што мне тады хацелі прышыць? Амаль усе справы, якія былі заведзены ў раёне. У міліцыі такі парадак — раз завёў справу, то ўжо абавязкова павінен раскрыць. Але самае дзіўнае — пра тое, што я накінуўся на Галузу, нават не ўспаміналі. Чамусьці рашылі маўчаць. Затое чаго толькі не прыпісвалі. Ну, і я таксама лапух яшчэ быў, усё падпісваў, што мне падсоўвалі, згаджаўся.— Ён нагнуўся, падняў з дарогі камень і адкінуў яго да нечага плота.— Але ж якраз гэта і дапамагло мне. У абласной пракуратуры раптам не паверылі, што адзін шаснаццацігадовы хлапец — гэта яны думалі, што мне шаснаццаць, а мне ж яшчэ не было,— дык што адзін шаснаццацігадовы хлапец, ды яшчэ вясковы, мог нарабіць столькі. Прыслалі ў раён свайго следчага. Цудоўнага чалавека. Паслухаў ён мяне, паляпаў па плячы і пачаў хадайнічаць, каб мяне выпусцілі. Але міліцыя заўпарцілася. Не хача даваць

задні ход, бо яшчэ ж і адказваць некаму давядзецца, што дарэмна знушчаліся. Та-а-а-кое там пачалося! Аж-но пра мяне на колькі дзён забыліся. І вось аднойчы зноў прыходзіць мой следчы, пытае: «Колькі табе гадоў?» Ну, я і кажу: «Пятнаццаць!» А следчы зноў пытае: «Хто гэта пацвердзіць можа?» — «Маці,— кажу,— хто ж яшчэ!» Аказваецца, калі мяне вадзілі, ужо з турмы, на медыцынскую камісію ў раённую бальніцу, каб устанавіць там мой узрост, то там мне далі на вока шаснаццаць гадоў, нават трохі больш. І ўжо метрыкі выпісалі. З непаўналетняга зрабілі мяне дарослым. Судзіць можна ўжо. І даць на поўную катушку. Бачыў учора плывун наш? Дык штосьці падобнае было і тады. Ледзь ужо не з галавой я сядзеў у твані. Здаецца, яшчэ б трохі, і ўсё. А тут следчы з вобласці...

— Як яго прозвішча? — спытаў Адам Ружанцоў, патрапляючы ў нагу з Галкоўскім.

— Ты ведаеш, таксама Галуза! Супадзенне якое! Цікава, а дзе ж той Галуза, праз якога я ледзь не злачынцам стаў?

— Хто яго ведае, можа, дзе спіўся.

— Мусіць, страшны чалавек быў. Гэта ж дадумацца разбурыць печ! Ну я, вядома, і не стрымаўся. А тут яшчэ маці як на тое плача. М-да, Галуза... Бачыш, на мой лёс спрабавалі паўплываць адным часам ажно два Галузы. Але якія яны не падобныя адзін на аднаго былі! Дык ты паслухай, я ж не даказаў. Следчы Галуза назаўтра пасля нашай размовы паехаў у Зацішша, пагаварыў з маёй маці. І тая пацвердзіла, што мне яшчэ няма шаснаццаці. Сказала нават, што недзе ў касцёле, дзе мяне хрысцілі, запісана ў ксяндза ў кніжках. Галуза зрабіў запыт туды, а праз тыдзень адтуль прыслалі выпіску: сапраўды, мне яшчэ не было шаснаццаці. Гэта канчаткова і пераканала раённага пракурора, выпусцілі мяне. А ты кажаш — легенда! Я сёння, вядома, жартую. Але тады чамусьці не адчуваў, што мне надта пагражае. Можа, таму, што раённы следчы ўсё намякаў — маўляў, не бойся, ты не вытыркайся на судзе, а прызнавайся, дык меней дадуць. А пра тое, што невінаваты зусім, ён, здаецца, і не задумваўся. Пад канец я ўжо таксама пачаў верыць — я злачынца. Ды і кармілі ў турме. Гэта таксама нешта значыла. Дома можна было рубіць хату цэлы дзень і

не паесці, а ў турме паложана было карміць. Але ў Зацішша мяне Галуза мой не адпусціў. Завёў у сталоўку, пакарміў, тады і пытае: «А можа, са мной паедзеш? У Магілёў? Паступіш там у фэзэо. Прафесію атрымаеш. Адтуль і маці напішаш». Падумаў я — сорамна было вяртацца ў Зацішша — і згадзіўся. І сапраўды, скончыў фэзэо, пачаў працаваць. Але маці так і не паспеў напісаць...

Галкоўскі пасля гэтых слоў колькі часу ішоў моўчкі, пасля павярнуўся да Ружанцова і зусім весела сказаў:

— А ведаеш, на чым хацелі заваліць мяне? (Дзіўна, але ж слоўцамі ён карыстаўся з таго часу!) Знайшлі тады ў будане селядца, якога не паспеў з'есці. Пячэння не было ўжо. Здаецца, табе апошняе аддаў. Але хітры жаркоўскі лавашнік. Сказаў, што бацьку майму застаўся вінаваты грошы яшчэ з даваеннага, дык хоць цяпер аддасць чым. І надаваў мне селядцоў, пячэння, халвы. Цікава, а яго пасля засудзілі?

— Здаецца, не. Але ў краме працаваць больш не дазволілі. Гэта я помню.

— Ладна, хопіць пра тое,— махнуў рукою Галкоўскі і пазяхнуў.— Усё ўжо даўно пераджыта і забыта. А ўспомнілася — таксама прычына ёсць.

* * *

Ужо быў вечар. За вёскаю, на пагорках, свяцілася сінімі агнямі аўтагенаў будоўля. І, можа, таму на вясковай вуліцы было як цямней, нягледзячы, што з вокан падала на дарогу святло. У садах і прысадах яшчэ па-летняму блытаўся ў лісці восеньскі вецер.

## Адна

Уначы гулі правады. Яны гулі на непагоду — па сцяне ўжо шоргала патроху, быццам хто шкрабаў па бярвенні тонкімі кіпцямі. Усціння ляжала на ложку пад ватнай коўдрай і ўсё слухала, слухала. І сёння ёй не спалася, і яна адно правальвалася ў небыццё, ды раптоўна прахоплівалася, і тады з жахам адчувала, як зноў пачынала стукаць яе сэрца,— ад гэтага старая

ўся халадзела і думала, што дарма астаецца на ноч адна, не бярэ каго да сябе ў хату.

Гэтае восені прасіліся настаўнікі — маладая пара, але Усціння адмовіла, сказала, што не мае ўжо сілы даглядаць, а там яшчэ, можа, прыедзе і свой хто.

Сваіх ажно чацвёра ў яе. Было больш, ды двое памерлі, а самага большага паранілі ў вайну, і ён сышоў у яе на руках крывёй. Цяпер Усцінніны хлопцы жывуць па гарадах. Трое жанатыя. Халасты адзін, самы меншы — Міцька. Старэйшыя, бывае, завуць маці да сябе, але яна як з'ездзіла да аднаго, Сяргея, то зняверылася і цяпер чамусьці лічыць, што сыны запрашаюць яе толькі з аднае далікатнасці, можа, нават таму, што вераць: старая ўсё роўна адмовіцца. Не заве яе толькі малодшы, які жыве адзін: яшчэ не жаніўся, хоць скора і будзе мець трыццаць. Да гэтага яна паехала б, але ён, як на тое, не запрашае — наадварот, кажа, каб жыла ў вёсцы, берагла гняздо, і гэта яе крыўдзіць. Яна, вядома, нікому не прызнаецца — не, яе сыны во! толькі згадзіся, любы забярэ! — але ў душы носіць затоеную, незласлівую крыўду. І наогул, Усціння лічыць, што каб у яе быў адзін хто, то даўно б яны жылі разам, і яна няньчыла б унукаў, а цяпер каторы і запрашае, дык нясмела, скажа — і палахліва адводзіць вочы.

Паехала Усціння была тады да Сяргея. Нявестка ліст прыслала, нават грошай на дарогу. «Прыязджайце,— просіць,— мама, жыць будзеце ў нас. Вы нам патрэбны. У нас з Сяргеем цяпер нелады, то прыязджайце, можа, пры вас ён суніменца...» Усціння прадала ледзь не за паўцаны карову, забіла дошкамі хату — і дзверы, і вокны, развіталася насаўсім з суседзямі, паехала. Пажыла там, памірыла нявестку з сынам, а пасля нявестка і кажа: «Дзякуем, мамачка, вось вам на дарогу, з'ездзіце яшчэ да Грышкі, пагасцюйце і ў іх». Усціння не паслухалася, паехала дамоў. Купіла зноў карову, стала зноў жыць адна: пакуль сыны не клічуць да сябе, значыць, у іх там усё добра.

Апошнім часам Усціння чамусьці думае больш пра Міцьку. Можа, таму, што ён быў апошні ў яе, нарадзіла яна яго, калі была ў гадах ужо, і ён доўга хварэў, а пасля трудна жыў у яе — дзяцінства яго прыпала на пасляваенную бясхлебіцу...

Правады гулі жахліва і жаласна, з нейкай асуджа-

най злосцю, быццам адчувалі, што вось-вось парвуцца. А Усцінвя ляжала пад коўдрай — балазе, цёпла было, услухоўвалася ў гэтае надакучлівае завыванне, як у незразумелую музыку, і думала сваю думу, думала і часта лавіла сябе на тым, што правады не давалі ёй дадумаць нешта да канца, трывожылі і не давалі. Часам яна гатова была нават вінаваціць сябе, што правяла і асвятленне,— што ні кажы, а лішні провад, які вось не дае спакою,— бо абышлася б і лямпай, тым больш што святло ў іх ад лакамабіля і яшчэ не ў кожнай хаце. Няхай бы лепей правялі каму іншаму, дзе яно больш патрэбна, тым жа маладым настаўнікам, што прасіліся да яе. Але ж гэты Балабкоў! Усцінвя ведала, што электрычнае святло першай ёй правялі, бо гэтага захацеў Балабкоў. Нездарма ж чужы, незнаёмы манцёр, які прыйшоў тады ўранні, спытаў, ці не родзіч ёй дырэктар саўгаса. Зрэшты, каб не Балабкоў, то Усцінвя шмат чаго не мела б на сваім двары — ні тых жа дроў, якія не паспявала папаліць за цэлы год, ні таго ж сена, аб якім ужо каторую зіму не мела клопату. Разам з тым Усцінні чамусьці здавалася — і гэта было самае недарэчнае,— што дырэктар саўгаса так стараецца для яе не столькі таму, што некалі дружыў з яе хлопцамі і, бывала, не вылазіў з хаты, колькі таму, што быў нечага злы на іх і цяпер рабіў усё назнарок, каб адно сказаць: маўляў, глядзі, цётка, які я вырас і якія твае сыны!.. Праз гэтую сваю несправядлівую падазронасць яна нават не вельмі радавалася, калі Балабкоў, праязджаючы міма, заходзіў да яе.

У хаце было цёпла і цёмна, а вочы гарэлі ад бяссонніцы і не хацелі зліпацца. Нарэшце Усцінвя перастала думаць пра сваіх сыноў, пра дырэктара саўгаса. Яна ўспомніла, што і сёння лягла на ложак не так, як трэба,— лягла галавою да печы. Забылася. І гэта тады, калі на печы заўсёды спіць кошка, якая часта, бывае, бегае да парога, але, каб скочыць на падлогу, спярша цаляе на ложак: крый бог, яшчэ ўскочыць на твар...

«Не, лепш такі і папраўдзе пушчу каго да сябе жыць»,— падумала Усцінвя. З гэтаю думкаю яна неспадзеўна заснула, а калі прачнулася — разбудзіла яе радыё,— то бралася ўжо на ранне: вокны пасінелі, на дварэ пашарэла. Усцінвя звесіла з ложка босыя ногі, нейкі час бяздумна глядзела ў цёмную пустэчу і толькі пасля таго, як адчула, што знізу цягне праз шчылі-

ны ў масніцах холадам, пачала шукаць, мацаючы, валёнкі. У споднім яна прайшлася, мякка тупаючы, па хаце, павярнула на сцяне ўключальнік і на момант зажмурылася ад зыркага святла. А калі глянула на вокны, то шыбіны зноў былі цёмныя, быццам ноч і не адступалася. Вада ў яе стаяла ў вёдрах на лаўцы ля прыпека, і яна пачала ўмывацца. Рукі доўга не слухаліся — не разгіналіся пальцы. Нарэшце Усцiння спаласнула твар — халодная вада апякла маршчыністую скуру, павекі адразу нібы палягчэлі. Тады яна цераз галаву нацягнула на сябе шырокую спадніцу, апранула суконную жакетку і пачала вілкамі вымаць з печы чыгуны, якія былі там з учарашняга дня.

Дровы ляжалі пад прыпекам, бярозавыя, амаль сухія, і старая не спяшалася кідаць іх у печ, падпальваць. Спярша пайшла даваць карове.

Ужо шмат у каго з комінаў валіў дым. Сёння ён не падымаўся, як у ціхую раніцу, проста ў неба, а хінуўся то ў адзін, то ў другі бок, нават слаўся па снезе, які ляжаў на саламяных стрэхах: вецер хоць і паспакайнеў, але быў парывісты, і цяжка было адгадаць, адкуль ён налятаў на вёску. Неба было чыстае і высокае, толькі пачырванела на ўсходзе. Яно яшчэ пакуль і не паказвала, што павінна замуціцца: пройдзе час — і за вёскай не ўбачыш ні свету, ні следу. Пазёмка мяла па нізе, нібы што дымілася, і ўсё гарнулася да сумётаў, платоў і сцен.

Карова рыкнула, пачуўшы гаспадыню, і, калі тая ўвайшла ў хлеў, тыцнула заінелаю пысай у ватоўку, лізнула рукі шурпатым языком. Усціння паднялася па лесвіцы на паддашак, скінула адтуль ахапак лугавога сена.

— Еш,— сказала карове, як разумнай,— я табе яшчэ і паранкі дам.

Яна доўга гладзіла рукой па халоднай поўсці і гаварыла карове нерастрачаныя ласкавыя словы. Пасля вярнулася ў хату, запаліла ў печы і пачала ўпраўляцца — не спяшаючыся, спакваля: яна ведала, што паспее і так за дзень перарабіць усё. Каб раней ёй гэты цяперашні дастатак, то й не трэба было б столькі гадоў гнявіць таго бога — адно жыві.

Калі Усціння падышла з вёдрамі да студні, там ужо стаяла Палага Родчышына. Маладзіца спытала:

— Цётка, ці не паглядзелі б вы сёння майго малога?

— А сама што?

— Нявыкрутка ў мяне. Паедзем з Міколам у Хоцімск. Можа, і вам што прывезці адтуль?

— Нічога мне, дзеўка, не трэба там.

Усціння ўзяла ў абедзве рукі па вядру — на карамысле яна ўжо не насіла вады — і пайшла ўгору, асцярожна ступаючы ў канаўкі, якія павыбівалі капытамі коні, ходзячы на вадапой, і ўжо зверху сказала:

— Дык ты прыводзь хлапца свайго.

Усціння несла па сцежцы цяжкія вёдры, і яны ледзь не адрывалі ёй рукі, а яна, здаецца, зайздросціла Палазе, якая была ў добрым кажуху. «І мне б такі на мае косці»,— думала старая і ўсё не магла даўмецца, чаму ніколі дагэтуль не з'яўлялася ў яе ахвота насіць кажух.

Сенцы былі расчынены насцеж, і ў хаце Усціння заспела паштальёна. Яна здзівілася, раптам адчула, як нядобра захаланула сэрца, бо паштальён да іх хадзіў з другой вёскі — чамусьці не знайшлі сярод сваіх чалавека на гэта. А паштальён адразу, не марудзячы, сказаў:

— Гэта я пенсію прынёс тваю. Учора разносіў усім, а табе не паспеў аддаць. Дык вось дамоў не пайшоў праз цябе. Начаваў у людзей.

Памаўчаў трохі і зноў сказаў:

— І пісьмо тут ёсць.

Хвала богу: пісьмо — не тэлеграма.

«Можа, ад Міцькі?» — з надзеяй падумала Усціння: ёй чамусьці хацелася, каб пісьмо было ад меншага. Усціння раптам заўважыла, што паштальён яшчэ не працверазіўся з учарашняга — вочы ў яго былі з мутнаю павалокаю і блішчалі, а пад вачамі віднеліся пухліны. Каб не затрымліваць чалавека, яна дастала з-за рамкі з фотакарткамі ручку, загорнутую ў паперку, выняла са шкафчыка, прымацаванага да сцяны, шкляную чарніліцу-двухдонку і пачала няўмела выводзіць на квітку сваё кароткае прозвішча. Паштальён стаяў нахіліўшыся, збоку, ледзь чутна, баючыся выдаць сябе, але Усціння ўсё роўна чула, як ад яго патыхала перагарам. Нарэшце яна распісалася, палічыла грошы і сунула хрусткія дзесяцірублёўкі ў кішэню ватоўкі.

Затым паглядзела, хмурачыся, на канверт — почырк сапраўды быў Міцькаў, і гэта ўзрадавала яе; сэрца ажно затахкала, стала прыемна, як у прадчуванні нечага добрага.

«Вось прыйдзе Палага і прачытае мне»,— рашыла Усціння і яшчэ раз, быццам баялася, каб не памыліцца, глянула на канверт.

Паштальён тым часам палажыў квіток у вялізную брызентавую торбу і, наўмысна бавячыся, пачаў зашпільваць.

— Галава нечага баліць,— зморшчыў ён нос; твар у яго стаў як у пакутніка.

Усціння прамаўчала. Тады паштальён пачаў зноў, але ўжо нібы вінавацячы яе:

— Гэта ж каб выспаўся па-чалавечы, а то вечна ходзі, пакуль не пааддаеш людзям іх грошы... Нават дамоў ніколі завідна не паспееш.

Усціння паспачувала, уздыхаючы.

Але паштальён не збіраўся выходзіць з хаты.

— У цябе не знойдзецца выпіць? — спытаў ён праз момант і неяк спалохана паглядзеў на гаспадыню.

— Дзе ўжо ў мяне тая гарэлка!..— махнула рукою Усціння...

— Тады б хоць гурковага расолу дала, ці што...

Усціння наліла з гладышыка расолу, падала карэц паштальёну. Той схапіў яго, паднёс к роту і пачаў, глёкаючы, піць. Усціння глядзела, як ён прагна піў, і нават не абуралася — сапраўды, небарака, забегаўся па хатах. Нарэшце паштальён выпіў расол, паставіў карэц, стукнуўшы дном аб стол, і патупаў да лаўкі, што была ля сцяны. Затым моўчкі кінуў на падлогу пад ногі сваю торбу, сеў на лаўцы, прыхінуўшыся плячом да аконнае лутк і.

— Мне ўпраўляцца трэба,— з дакорам сказала Усціння, але паштальён не пачуў яе, бо раптам заснуў, схіліўшы набок галаву.

Усціння спярша запарыла сечанку карове, занесла ў хлеў, пасля пачала таўчы бульбу. Гарачая пара апякала твар, займала дых. Старая часта спынялася, разгінала задубелую спіну, усё аддыхвалася, трымаючы над цэбрам сагнутыя рукі, якія чамусьці нават і цяпер зяблі ў яе. Цэбар было цяжка пераносіць праз высокі парог у сенцах, і яна паставіла яго, трошкі адпачыла: ёй з кожным днём станавілася ўсё цяжэй рабіць. Яна

зноў успомніла пра сыноў і падумала, што як асвяжуе свайго кабана, то першаму пашле пасылку Міцьку, бо ён там адзін. А кабан у яе вялікі, сала пэўна ж хопіць на ўсіх, і яна, як заўсёды, ажно колькі дзён будзе насіць на пошту праз усю вёску пасылкі сынам...

Ужо беглі па вуліцы ў школу дзеці. І сонца паспела выкаціцца з-пад зямлі, але не ўсё. Цяпер яно, чырвонае, патанала на небасхіле сваім ніжнім краем у сумётах. Здавалася, сонца прыкіпела там да нечага і яго ўжо нічым не падважыш.

Усцінне пабаялася, што ў кабана адбярэ хто яго мяшанку, і таму далёка не адыходзіла.

На плоце, крокі за тры, сядзелі дзве маленькія птушкі. Спярша Усцінні здалося, што гэта вераб'і. Але адна раптам ціха піснула і заспявала:

— Зінь-зінь, зінь-зінь, зінь-зінь...

Тады Усцінне здзівілася.

«Значыць, вясна ўжо хутка»,— з'явілася радасная думка.

Усцінне не ведала гэтых птушак, але іхняе «зінь-зінь» ёй было знаёма: узімку яны заўсёды лятаюць разам з вераб'ямі, а як толькі дасць адчуць сябе вясна, ужо недзе ў другой палове лютага, пачынаюць мяняць афарбоўку, выракаюцца вераб'ёў і спяваюць.

Птушкі сядзелі блізка, і Усцінне, прыгледзеўшыся, убачыла, што і хвасты іхнія даўжэйшыя за вераб'іныя. Галоўкі ў іх пажаўцелі ўжо, нават відны бурыя пярэсцінкі. Шыйкі, далей туды да плечыкаў, самі плечыкі і спінкі таксама пабурэлі.

Спяваў, мусіць, самец — быў ён трохі большы.

— Зінь-зінь, зінь-зінь...

Счакае трохі і зноў пачне:

— Зінь-зінь...

Самка слухала яго, раскрыўшы, нібы ад смагі, дзюбачку.

Слухала і Усцінне. Яна стаяла і баялася паварушыцца, каб не спалохаць, усміхалася, нават не заўважаючы сама таго.

Але нечакана віскнуў, як укушаны, кабан. Усцінне спахапілася, і калі павярнулася, то ўбачыла разам з кабаном ля цэбра нечага сабаку. Кабан стаяў, натапырыўшы хіб, быццам хацеў напасці на няпрошанага госця, а сабака тым часам прагна жэр вараную бульбу. Усцінне ў адно імгненне схапіла сукаватае палена, што

валялася ў снезе, і, злаўчыўшыся, выцяла ім сабаку. Сабака вякнуў з перапуду, адскочыў ад цэбра і нейк бокам, мусіць, баючыся, каб яшчэ не папала, пабег за хлеў. Усцiння пагладзіла рукой між вушэй кабана, нагнула цэбар, падклаўшы пад яго палена, і зноў паглядзела на плот. Але птушак там ужо не было. Праз нейкі момант з-за хлява, аблізваючыся, выйшаў сабака, узбег на сумёт, які пабраўся шаранам, і тады Усцiння ўбачыла, што гэта была шчэнная сучка — вялікі жывот свой яна ледзь не валачыла па снезе. Старой раптам нядобра зрабілася, што ўдарыла сучку.

«Каб жа знаццё, што шчэнная,— пашкадавала яна,— то ўжо неяк бы па-другому прагнала ад цэбра».

Сучка тым часам села на сумёце, пазіраючы на сваіх крыўдзіцеляў.

Яна, мусіць, чакала, пакуль адыдзецца Усцiння.

Сонца ўжо выплыла наповерх усё і цяпер ляжала вялізным чырвоным шарам на белым узгорку.

Нарэшце сучка страціла надзею пажывіцца яшчэ і пабегла, валёхаючыся, прэч ад вёскі, у поле, дзе вецер перамятаў шорсткі снег. Яна бегла ўвесь час угору, проста на сонца. І Усцiнні здалёк здавалася, што тая вось-вось дабяжыць да яго. Але сонца хутка адарвалася ад зямлі, і калі сучка апынулася на ўзгорку, яго не дастаць было...

Усцiння доўга глядзела на адзінокую чорную кропку, што варушылася паміж снягоў, глядзела аж да таго часу, пакуль не пачалі слязіцца на сухім ветры вочы.

## Шушанік

### 1

У невялікім, неасветленым пакоі іх было двое — Суздалеў і гаспадыня, яшчэ зусім маладая жанчына.

Дзень, што перагарэў на вачах і асыпаўся попелам за станіцаю ў стэпе, выдаўся, можа, занадта ўжо спякотны і для поўдня краіны. Таму нават цяпер, калі сонца даўно схавалася, зямля ўсё дыхала гарачынёй. Яна яшчэ не паспела вызваліцца і ад той соннай млявасці, якая ўлетку бывае на поўдні.

Суздалеў сядзеў насупраць расчыненага акна. На вуліцы, метраў за дваццаць ад дому, гарэў электрычны ліхтар, і святло, прабіваючыся праз пыльнае лісце акацый, трапляла на яго твар — смуглы, з вялікім ротам, доўгімі вейкамі і зусім звычайным, нічым не прыкметным носам.

Ціха і мякка, быццам у снег, падала ў садзе перад домам спелая курага. Над дахам цаглянага будынка, што быў добра відзен з акна, неўзаметку паварочвала свой коўш сямізорная Мядзведзіца.

Са станічнага парку, які пачынаўся адразу па той бок вуліцы, улівалася ў пакой, затапляючы яго да краёў, музыка.

Усё — і гэта цішыня, і гэта музыка, у якой мелодыі хоць і ішлі знізу ўверх, ад нізкіх нот да высокіх, стваралі ў душы нейкую няпэўнасць. Нават боязна было паварушыцца. І Суздалеў адно глядзеў перад сабой, маўчаў.

Гаспадыня тым часам ляжала на канапе, курыла. Суздалеву было чуваць, як зацягвалася яна папяросай, пускала дым, які тут жа вытыхаўся ў акно, і зноў зацягвалася, страсаючы попел у прадаўгаватую ракавінку.

Суздалеву не давала спакою адна думка, назойлівая, як камарыны піск над вухам.

«Гэта ж як тыя сляды на снезе... Толькі і бачыш да першай парошы»,— раптам параўнаў Суздалеў сваё цяперашняе становішча, і яму захацелася сказаць хоць што-небудзь услых, каб гэтым самым парушыць адчуванне няпэўнасці.

— І вы доўга жылі са сваім мужам? — вырвалася ў яго неяк само, хоць, здаецца, пра гэта і думалася ўвесь час.

Яна пачакала трохі.

— Не, каля двух месяцаў...

Агеньчык папяросы спачатку скокнуў угору, затым апаў, быццам на яго хто падзьмуў, успыхнуў раз-другі, асвятляючы твар жанчыны, і нарэшце паляцеў уніз, чыркнуўшы, як далёкая зорка, па цёмным небе.

— Паслухайце, выходзьце за мяне замуж! — І гэта сказаў ён таксама нечакана.

Жанчына ад здзіўлення прыўстала на ложку, абаперлася локцем на падушку.

— І тады я буду шчаслівая? — яна спытала гарэз-

ліва, нават з іроніяй, але ў голасе яе ўсё ж пачулася затоенае хваляванне.— Шчаслівая! Ну, вядома, шчаслівая! — Цяпер Суздалеву здалося, што яна нібы ўпершыню па-сапраўднаму задумалася над гэтым словам.— Не, да шчасця дарога больш цяжкая. О, якая цяжкая!..— Яна ўздыхнула, памаўчала і ўжо зусім спакойна дадала:

— Толькі вы нідзе больш не рабіце такіх паспешлівых прапаноў. А то, не дай бог, учэпіцца якая за неасцярожнае слова, і тады прапала ваша галава. Дзевак цяпер не вучы. Я ж, так і быць, адмоўлюся.

— Шкада! — Суздалеў і сам разумеў, што гаварыў недарэчнасці, адну за адной, але чамусьці не мог стрымацца.

— Хто ведае. Але я ўжо навучылася не парушаць парадку рэчаў. Па-мойму, хай застаецца ўсё так, як ёсць, бо можа і зусім не быць. А наконт... Ды што гаварыць... Хай будзе сорамна таму, хто пра гэта дрэнна падумае. І не абавязкова за ўсё плаціць... Дайце яшчэ папяросу!

Суздалеў намацаў на стале пачак, выняў з яго папяросу і падаў ёй. Сам не закурваў. Пакуль гарэла запалка, ён глядзеў на нахмураны жаночы твар, затым пасунуў бліжэй да ложка табурэт, на якім ляжала ракавінка, і перавёў позірк на сцяну. Святло, якое падала з вуліцы праз акно, дасягала пабеленай сцяны, але расплывалася і было невыразным.

Ён адчуў, што ўжо настае час развітвацца, і падняўся.

— Паслухайце, Іван, Іванка...— Жанчына першы раз ласкава назвала яго.— Паслухайце...— Штосьці перашкаджала ёй гаварыць.— Калі вы ўжо лічыце... Словам, я хачу, каб вы пабылі яшчэ са мной. Не магу заставацца адна. Раскажыце што-небудзь... Што-небудзь прыгожае-прыгожае...

— Казку?

— Ну, хоць бы нават пра тое, што сонца свеціць для ўсіх. Сёння і пра гэта гатова слухаць.

— Тады слухайце.— Над цёмным дахам усё паварочвала свой зорны коўш Вялікая Мядзведзіца.— Даўным-даўно, калі на зямлі яшчэ не было людзей, а былі адны лясныя пушчы ды азёры, у небе адбылася нечаканая спрэчка паміж зоркамі. Спрачаліся Вячэрняя зорка і Вялікая Мядзведзіца. Зоркі ўглядаліся на Зям-

лю, у вялікія азёры, дзе адбіваліся яны, як у люстрах, і ўсё не маглі высветліць, якая з іх прыгажэйшая... Аднойчы яны так заглядзеліся на сябе ў ціхай вадзе, што не заўважылі, як наблізіліся адна да адной і сутыкнуліся. Вячэрняя зорка не вытрымала, і ад яе адкрышыліся маленькія кавалачкі. Яны рассыпаліся па ўсёй зямлі. Адны траплялі на сушу, другія — у ваду, у тыя самыя азёры. І калі нарэшце ўзышло сонца, то ад распаленых кавалачкаў Вячэрняй зоркі на сушы засталіся халодныя камені, на якія паспела апасці раса, а на азёрах тым часам паявіліся кветкі — белыя лілеі. Але толькі адзін дзень гэтыя белыя лілеі пабылі кветкамі. Ужо ўвечары яны ператварыліся ў прыгожых жанчын...

— Калі гэта і няпраўда, то добра прыдумана! — раптам сказала гаспадыня, не даўшы ўсталявацца цішыні.

Суздалеў ціха засмяяўся.

— А я і не ведала,— працягвала гаспадыня,— што я родам з казкі. Лілея... Лі-ля... Сапраўды прыгожа. А ведаеце, як мяне завуць яшчэ? Шушанік. Так, Шушанік. Гэта па-армянску. Я нарадзілася ў Ерэване. І доўга жыла. Лічы, усё маё там засталося. І дзяцінства, і школа, і інстытут. Па размеркаванню вось трапіла сюды. Цяпер тут жыву. Армян тут многа. Вось заўтра паедзем у Горкую Балку, самі пабачыце.

Уначы, калі Суздалеў ішоў цераз сад, яго нечакана ўразіла тое, што неба над станіцаю чамусьці было не чорнае, паўднёвае, а самае звычайнае. Да гэтага яму не выпадала бываць на поўдні, але ён не адзін раз чуў, што паўднёвае неба павінна адрозніваццa. А тут выходзіла наадварот. На зямлю з бяздоння глядзелі ўсё тыя ж, амаль малочныя зоркі, да якіх ён прывык змалку. Яны і цяпер нясмела пераміргваліся над яго галавой.

Станіца спала.

Асцярожна, каб не нарабіць шуму, ён адчыніў брамку, ступіў на шырокую станічную вуліцу і азірнуўся. За акацыямі і абрыкосавымі дрэвамі свяцілася акно. У пакоі ўжо гарэла святло. Суздалеў не спяшаўся ісці. Ён доўга стаяў на месцы, пазіраючы на акно, і думаў, што гэтае акно, мусіць, запомніцца яму на ўсё жыццё.

## 2

У Пакроўскую Суздалева прывяла такая справа. Аднойчы ў музей, дзе працаваў Суздалеў, прыйшло пісьмо з далёкай краіны.

— Чытайце,— паклікаў Суздалева дырэктар музея і падаў ліст паперы, спісаны дробнымі рускімі літарамі. «Мне,— было напісана ў пісьме,— удалося нарэшце пабыць у Маскве, Ленінградзе, Адэсе і ў шмат яшчэ якіх вашых гарадах. У вашай краіне я знаходзіўся як турыст, але прыязджаў, бадай, з адною мэтай. І дзеля гэтае мэты я абышоў амаль усе буйныя мастацкія музеі. Быў у Траццякоўскай галерэі, быў у Эрмітажы, наведаў Рускі музей. Потым з'ездзіў у Адэсу, Кіеў, збіраўся заехаць у Новасібірск, але не хапіла часу. Нават у Мінск, хоць гэта і было па дарозе, не давялося трапіць. Уласна кажучы, можа, апошняя акалічнасць і змусіла звярнуцца да вас з гэтым пісьмом. А справа вось у чым. Я шукаў у вашых музеях калекцыю карцін, якія належалі некалі майму бацьку, графу. Там, здаецца, былі Рублёў, Трапінін, Карчэўскі, Гараўскі і шмат яшчэ хто. І асабліва адна карціна — Рэмбранта, якая з'яўлялася гордасцю нашага роду. Але мой бацька вымушаны быў пакінуць Расію праз вашу рэвалюцыю. Сам я ніколі не бачыў нашай калекцыі, бо нарадзіўся ў Бразіліі. Вядома, цяпер я і ў думках не маю дамагацца таго, каб вярнуць карціны, хоць і лічу іх уласнасцю нашай сям'і. Але ж я задаволены буду ўжо тым, калі даведаюся, што яны не загінулі. Мне чамусьці хочацца верыць, што наша калекцыя павінна недзе захавацца, і можа, нават у Мінску. Маёнтак майго бацькі знаходзіўся пад Шкловам...»

— Рэмбрант! — паківаў галавой дырэктар.— Тут ёсць над чым падумаць! Хоць Рэмбрант якраз і адпадае першы. Тут наш беларускі бразілец штосьці наблытаў. Мусіць, для большай важнасці. Ну, а наконт астатніх карцін, то і тут, скажу вам, таксама загадка. Справа ў тым, што ён ні адну з іх не называе ў пісьме. А наогул калекцыя такая, можа, і сапраўды была. Вы не верыце?

— Чаму ж...

— Тады бярыцеся за гэтую справу. Едзьце, шукайце! Шклоў жа не Рыо-дэ-Жанейра, ён трохі бліжэй адсюль. Не трэба забываць, што ў тых мясцінах жылі

Хадкевічы, Сіняўскія, Чартарыйскія, Пацёмкін, Зорыч. Усе багачы. Дык ці не маглі яны панацягваць у свае гнёзды і такіх мастацкіх каштоўнасцей?

Суздалеў выехаў у Шклоў на другі ж дзень. Канечне, ён таксама не спадзяваўся адшукаць на беразе Дняпра арыгіналы Рэмбранта. За сотні гадоў, якія мінулі з таго дня, калі не стала самаго галандскага жывапісца, людзі сабралі, відаць, усё, што напісаў ён, і, можа, нават што-небудзь далучылі лішняе. І цяпер было б наіўна думаць, што недзе яшчэ схавана сёе-тое з яго спадчыны. Але ж акрамя Рэмбранта ў пісьме ішла гаворка пра Рублёва, Карчэўскага, Гараўскага...

Месца, дзе некалі знаходзіўся маёнтак графа, не цяжка было знайсці. Нават цяпер, праз шмат гадоў, тут не забылі пра яго. Ад былога раскошнага палаца засталіся адны руіны. Відаць, у апошнюю вайну ён быў канчаткова разбураны. Паблізу яшчэ можна было заўважыць парослыя травой акопы: яны паабвальваліся ўжо і амаль зраўняліся з зямлёй.

Адзін цагляны карабок нагадваў, што некалі тут, на беразе Дняпра, узвышаўся прыгожы будынак. З таго боку, дзе быў парадны пад'езд, яшчэ захаваліся чатыры пілоны з закручанымі капітэлямі. Суздалеў заглянуў усярэдзіну. Дах увесь свяціўся на вялізных дзірках. Груды бітай цэглы былі густа заляпаны птушыным памётам. Пахла плесняю, хоць вецер і гуляў бесперашкодна ад адной сцяны да другой.

Сонца ўжо апускалася на лес. Збіралася на ноч. У нізіне, за якога паўкіламетра ад Дняпра, віднеліся стрэхі. Вёска была невялікая, але скрозь па ёй, ад першай да апошняй хаты, пераходзілі адзін у адзін сады. Цяпер там рыпеў журавель, выцягваючы з калодзежа на сваёй доўгай шыі драўлянае вядро.

Суздалеў пастаяў трохі ля руін і рушыў да вёскі. Праз якую гадзіну ён ужо ў прыцемках сядзеў і гаварыў з худым і касцістым старым, які паважна, чыста па-сялянску назваў сябе:

— Куксёнак, Захар Пятровіч.

І вось што расказаў селянін Суздалеву.

Пра тое, што ў Петраградзе бальшавікі адабралі ўладу ў Керанскага, у вёсцы даведаліся на другі дзень. Якраз пад той час паблізу, у Копысі, на пастоі была вайсковая часць. Палкавы камітэт разагнаў эсэраў і бундаўцаў і памог бальшавіцкай меншасці ўсталявац-

ца ў пасялковым Савеце. Па вёсках у тую ж восень пачалі дзяліць зямлю. Вядома, дайшла чарга і да графскага маёнтка. Граф перад гэтым некуды ўцёк. У палацы заставаўся немец-упраўляючы. Ён замкнуўся ў пакоі і праз запацелыя вокны з жахам пазіраў, як у полі сяляне гурмой хадзілі за даўгалыгім, прастуджаным каморнікам, якога некаму пашчасціла залучыць у вёску. Ім яшчэ і ў галовы не прыходзіла пайсці сюды, на бераг Дняпра, куды было звезена ўсё з палёў, дзе быў увесь хлеб. І вось аднойчы з Копысі вярнуўся Сямён Патапчык. Ён прывёз з сабою незнаёмага салдата. У Сямёнавай кішэні ляжалі ажно тры паперы. У адной з іх было напісана: «Копія. Магілёўскаму губрэўкому. Народны камісарыят асветы даводзіць да вашага ведама, што ў адным з маёнткаў, які знаходзіцца па нашых звестках у раёне Шклова, ёсць багатая калекцыя карцін. Просім удакладніць месцазнаходжанне і да прыезду туды асобага ўпаўнаважанага камісара забяспечыць недатыкальнасць і захаванасць». Другая ўжо зыходзіла ад губрэўкома: «Шклоўскаму павятоваму Савету рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. Копія Капыскаму валасному Савету. Губрэўком даводзіць да ведама двух Саветаў тэлеграму Наркамасветы. Просім удакладніць. Адказнасць за захаванасць ускладаецца на старшыню Капыскага валаснога Савета». І, нарэшце, трэцяя папера была мандатам, выдадзеным валасным Саветам рабочаму Капыскага кафельнага завода Сямёну Патапчыку, дзе было адзначана, што яму даручаецца ўся гэтая адказная справа па забеспячэнню «недатыкальнасці і захаванасці» мастацкіх каштоўнасцей.

— Да замаразкаў яшчэ ўправімся падзяліць зямлю,— сказаў Сямён мужыкам і паказаў рукою на графскі палац: — Цяпер трэба клапаціцца, каб было чым увесну засяваць гэту зямлю, бо можа здарыцца так, што ўсё пойдзе дымам.

Натоўп загудзеў і, нібы снежны ком, спушчаны з гары, пакаціўся па полі да Дняпра. І вось пад націскам дзесяткаў рук і плячэй ужо з грукатам расчыніліся дзверы графскага палаца. Усе рынуліся ў пакоі. Па лесвіцы, якая была ўслана воўчымі шкурамі, Сямён Патапчык узбег на другі паверх і апынуўся ў вялікай зале. Тут былі карціны. Адны — віселі на сценах, другія — стаялі на падлозе, прыслоненыя да сцен: не хапа-

ла месца. Рамы блішчалі пазалотай. На паліраваных багетах палавеў пыл. З каляровых палотнаў, самаздаволена ўсміхаючыся, пазіралі бесклапотныя, сытыя людзі... Буржуі... У залу пастулова набіваліся сяляне... Выгляд залатых рам, фарбаў на палотнах бянтэжыў іх. Хтосьці ў парозе ледзь не стагнаў:

— А матухны-бацюхны, колькі тут таго золата! А матухны-бацюхны!

Гэтыя словы, пэўна, паддалі Сямёну Патапчыку рашучасці, і ён пад воклічы адабрэння пачаў люта выдзіраць з рам палотны, на якіх былі намаляваны ненавісныя буржуі...

Назаўтра з Петраграда прыехаў камісар, нізкі, ля- дашчы, ўжо даўно немалады чалавек. На сярэдзіне яго доўгага носа сядзелі акуляры ў залатой аправе. Скрозь іх мрыйна глядзелі блізарукія вочы. Паціраючы пасінелыя рукі, камісар чакаў, пакуль Сямён адмыкаў ключом дзверы ў маленькі пакойчык, куды былі перанесены рамы з вялікай залы. Каля дзвярэй стаяў салдат. Ён знаходзіўся тут з учарашняга дня.

Нарэшце замок шчоўкнуў, і Сямён, сцёршы далонню пот з ілба, адчыніў дзверы.

— От яны, глядзіце!

Камісар ступіў цераз парог і спыніўся, спалохана пазіраючы то на рамы, якія былі акуратна, адна на адну, складзены на падлозе, то на Сямёна, які ўвесь свяціўся ад задавальнення.

**3**

У той вечар Суздалеў яшчэ доўга хадзіў па вёсцы, распытваў. І амаль усе, з кім яму даводзілася гаварыць, паўтаралі адно і тое ж. Але заставалася загадкай — ці ўсе карціны тады, у тую радасную і пакутлівую восень, спасціг аднолькавы лёс? Толькі Сямён Патапчык і салдат, што быў прыкамандзіраваны да яго, маглі б цяпер адказаць Суздалеву на ўсе яго пытанні. Але Сямён загінуў яшчэ ў грамадзянскую вайну, а салдат, якога прывёў Сямён з Копысі і які потым асталяваўся ў вёсцы, ажаніўшыся на Сямёнавай сястры, пасля апошняй вайны, якраз у самы галодны год, пакінуў гэтыя мясціны і рушыў кудысьці на поўдзень. Суздалеву спатрэбілася нямала часу, каб даведацца, у

які бок падаўся гэты салдат, цяпер адзіны чалавек, што мог адкрыць тайну.

І вось Суздалеў прыехаў сюды, у гэтую станіцу. Яму патрэбна было яшчэ дабрацца ў Горкую Балку, дзе жыў, як яму сказалі, Торлін, Сямёнаў швагер.

## 4

Па стэпе ехаць зручней з раніцы — пра гэта Суздалеву сказалі ў аддзеле культуры мясцовага райвыканкома, калі той, паведаміўшы пра сваю справу, прасіў для паездкі ў Горкую Балку машыну.

Так ён і зрабіў.

Узнімаючы за сабою пыл, машына нарэшце прамінула шэрыя станічныя гароды, і на спідометры чырвоная стрэлка пачала трымцець недзе на лічбе «100». Суздалеў сядзеў побач з шафёрам, мажным, паголеным — і галава і твар — дзецюком. Гэта быў райвыканкомаўскі шафёр, і Шушанік называла яго Пятровічам. Сама яна ехала на заднім сядзенні — ёй так захацелася. У прадаўгаватае люстэрка, прымацаванае над ветравым шклом, Суздалеву было відаць: яна драмала, прыхінуўшыся правым бокам да мяккай спінкі. Вочы ў яе былі заплюшчаны.

Учора, калі Суздалеў сышоў у Ціхарэцкай з поезда і піў на аўтобуснай станцыі пры саракаградуснай спёцы пракіслы морс — шклянку за шклянкай, да яго нечакана падышла гэта жанчына.

— Вы наважыліся выпіць усю ваду? — пажартавала яна і засмяялася.— А дарэмна, сягоння вам з гарачынёй усё роўна не зладзіць. Бярыце лепш вось гэта.— Яна пакорпалася ў сваім плеценым кошыку, які трымала за раменьчык у левай руцэ, і выняла адтуль вялікі яблык.— Ліце сваю ваду сюды! — Суздалеў паслухаўся і выліў на яблык са шклянкі астатак вады.

Пасля яны ехалі разам у станіцу Пакроўскую.

Затым быў той, учарашні, вечар.

І вось цяпер Шушанік ехала разам у Горкую Балку. Яна сама напрасілася ў адну дарогу: недзе ў стэпе, непадалёку ад Горкай Балкі, знаходзіліся саўгасныя авечыя статкі, і яна павінна была зрабіць банітацыю.

Суздалеў употай усё пазіраў на люстэрка. Шушанік не мяняла сваёй паставы. Толькі зрэдку варушыліся яе

губы. Здавалася, яна хацела ўсміхнуцца, але штосьці перашкаджала ёй.

Паабапал дарогі, ажно пакуль ставала вока, ляжаў стэп. Саламяныя сцірты, якія ўзвышаліся на гарызонце, былі падобны на вялізныя боханы толькі што спечанага белага хлеба. Стэп ужо сям-там перааралі пад азіміну — лапікі чарназёму вылучаліся сярод іржышча і кідаліся ў вочы здалёку. Суздалеў упершыню ўбачыў, як рана заканчвалася жніво. На корані пакуль стаяла адна кукуруза ды яшчэ сланечнік. І гэта тады, калі на дварэ быў пачатак ліпеня.

Нарэшце машына ў клубах пылу пераехала мост на шырокай, спакойнай рацэ і, лёгка падскочыўшы, спынілася як укапаная пасярэдзіне вуліцы ў Горкай Балцы. Шушанік сама адчыніла дзверцы і выйшла першая. Суздалеў счакаў трохі і таксама падаўся следам за ёю да нізенькай брамкі, праз якую вяла сцежка на шырокі двор, засаджаны дрэўцамі. Двор гэты, акрамя ўсяго, быў яшчэ поўны жоўтых і чорных качанят, якія, віцькаючы, бегалі чародкамі па жоўклай, высушанай сонцам траве і вышуквалі ў ёй прашкуркі. Пад высокімі драбналістымі акацыямі ўзвышалася, падобная на лакамабіль, летняя печка, неад'емны атрыбут тутэйшых і хутарскіх і станічных двароў. Комін гэтай печкі заканчваўся дзіравым вядром. Каля самай печкі стаяў застаўлены хатнім посудам доўгі стол. Дзве табурэткі таксама былі заняты посудам — на адной стаяў таз, а на другой — чайнік. На печцы ў пачарнелай ад сажы каструлі штосьці варылася, нягледзячы на позні час. З коміна праз вядро валіў белы дым.

На ганак выйшаў гаспадар — армянін, чорны і тлусты, як перавернуты ў стэпе чарназём. Убачыўшы Шушанік, ён раптам распасцёр рукі і, на дзіва хутка перабіраючы нагамі, рушыў ёй насустрач. Твар яго ўвесь расплываўся ва ўсмешцы. У вадзяністых вачах стаяла радасць. Гаварыў ён па-руску, але націск у словах рабіў на першым складзе, па-ўсходняму.

— Шушанік! Прыехала Шушанік! Эй, старая, дзе ты? Шушанік прыехала! — Ён гукаў некага і ажно захлёбваўся, як дзіця, ад захаплення.— Ну, цяпер мы ўжо цябе не выпусцім адсюль гэтак хутка!

Суздалеў стаяў і з цікавасцю пазіраў на армяніна. Той, здавалася, не заўважаў яго. Але хутка загаварыла Шушанік:

— Добра, дзядзька Арам, будзе па-вашаму. Вось толькі з'езджу яшчэ ў стэп і вярнуся. А пакуль пакіну ў вас вось яго,— яна паказала на Суздалева.

Армянін утаропіўся на незнаёмага чалавека, прыдзірліва агледзеў яго з ног да галавы, потым, нібы схамянуўшыся, яшчэ шырэй распасцёр рукі:

— Хто прыйшоў з табою, Шушанік, значыць, гэта мой госць,— ён зрабіў паклон у бок Суздалева і ўжо зусім гасцінна дадаў: — Будзь, дарагі, як дома.

Ад'язджаючы, Шушанік крыкнула ад машыны:

— Вы, дзядзька Арам, памажыце яму. А я да вечара абавязкова вярнуся.

Гаспадар вынес з белай мазанкі два плеценыя крэслы, паставіў іх у цяньку, пад акацыю, пасадзіў госця і сам сеў. Суздалеў, каб не бавіць дарма часу, з дзесяці слоў расказаў, што яму патрэбна ў Горкай Балцы. Армянін задумаўся.

— Торлін... Торлін...— Ён штосьці прыпамінаў.— Я знаў двух Торлінаў. Які твой — не ведаю. Толькі адзін з іх ужо даўно памёр. Гэта — старэйшы. А маладзейшы паехаў адсюль, на цаліну махнуў. Як абвясцілі, што цаліну за Каспіем будуць узнімаць, дык і паехаў Яшка, быццам тут зямлі мала было. Так што ў Горкай Балцы цяпер няма ніводнага Торліна. Я ведаю аддакладна, бо каму ж гэта ведаць лепш — яны жылі адным дваром зусім недалёка, праз вуліцу. Хочаш, павяду туды? Толькі навошта... Усё роўна... Ну, а на магілках... Хадзем тады на магілкі.

— Не, мне патрэбны быў жывы Торлін.

Армянін стаў настойліва запрашаць Суздалева ў дом. Той адмовіўся.

Сонца ўжо вісела высока ў небе. Было горача. На гародах смяглі, апусціўшы кацёлкі, пыльныя сланечнікі.

Суздалеў перайшоў на другі бок вуліцы і накіраваўся за Горкую Балку ў стэп. Хацелася пабыць на адзіноце. Няўдачы яўна спадарожнічалі яму. Са смерцю старэйшага Торліна, відаць, адышоў апошні сведка.

На ржышчы чарнела вузкая палоска ўзаранага чарназёму. Гэта праклаў першыя барозны трактар, і яны цягнуліся да самай ракі, берагі якой густа параслі чаротам. Шастаючы па ржэўніку, Суздалеў пакрочыў уздоўж баразны, мяркуючы выйсці да рэчкі. Недзе наперадзе білі па жалезе. Чулася кароткае:

— Лясь-лясь, лясь-лясь...

«Значыць, дарэмна прыехаў і ў Горкую Балку?» — не давала спакою Суздалеву думка.

Ля рэчкі, на беразе, метраў за дзесяць ад вады, стаяў шэры трактар. У ім корпаўся мурзаты трактарыст, малады хлопец. Калі Суздалеў падышоў зусім блізка, той выпрастаўся, паўглядаўся трохі, спытаў:

— Хочаш ракаў?—І, не чакаючы адказу, дадаў: — Тады насі салому. Вунь адтуль! — хлопец паказаў чорнай рукой на саламяную сцірту.

Суздалеў пацiснуў плячамі, абышоў без усялякае мэты трактар, дакрануўся да гарачага жалеза, пастаяў яшчэ хвіліну-другую ў задуменні і рушыў моўчкі да сцірты. Да яе было недалёка. І пацягнула Суздалева туды не таму, што раптам захацелася ракаў. Ён ішоў да яе і яшчэ сам не ведаў, ці будзе насіць тую салому. Але як толькі ўзяў аберуч першую ахапку, удыхнуў цёплае хлебнае паветра, дык ужо не раздумваў далей. Сціснуў, нібы ў клешчах, пшанічную салому і, трымаючы аберуч перад сабой, панёс ахапку да ракі. Пасля прыйшоў да сцірты яшчэ. Проста была такая ўнутраная патрэба хоць што-небудзь рабіць пасля размовы з армянінам, і ён старанна таптаў іржышча і праз некаторы час забыў нават пра тое, што наперадзе, калі нарэшце і паверыць трактарысту, яго чакаць будуць вараныя ракі. Здаецца, на дваццатай ахапцы Суздалеў адчуў стому. Узмакрэлы, ён паваліўся на пахучую капу, якая ўжо ўзвышалася на добры чалавечы рост непадалёку ад трактара, і раптоўна заснуў.

Спалася, як пасля вялікай дарогі,— хораша і доўга; не прачынаўся ён нават і тады, калі бралі з-пад яго салому на вогнішча. Нарэшце сонца павярнула на захад. Непадалёку завялі трактар. Матор зароў і разбудзіў Суздалева.

Трохі дыміла вогнішча. Каля яго сядзеў чалавек. Але гэта быў не той, што падгаварыў Суздалева насіць салому. Гэтаму было ўжо гадоў пяцьдзесят. Атрасаючыся, Суздалеў вылез з саломы. Ад той капы, якую нанасіў ён, засталася, можа, меншая палавіна — астатняя згарэла. Хвалюючыся, быццам чуючы за сабой віну, Суздалеў наблізіўся да вогнішча. Трактарыст шырока ўсміхнуўся, паказаўшы пракураныя зубы, і першы загаварыў, але з такім выглядам, быццам ён працягваў спыненую размову:

— Можа, чалавек сюды ўцякае ад тае работы, а тут яго прымусілі насіць салому. Дзіўна. Гэта ўсё Пецька. Кажа, дай, думаю, паспрабую паддурыць. Бо самому не хацелася насіць салому. Ну і плявузгнуў пра ракаў. Не спадзяваўся, што лёгка яму паддасіся. А выйшла, што пасля прыйшлося пашкадаваць. Прыходжу я, гэта, сюды з хутара, а ён давіцца са смеху, але совае ў рукі вядро — ідзі, кажа, налаві тых ракаў. Дык яно ўжо добра адно, што іх у гэтай рэчцы процьма. Толькі лезь у ваду ды збірай па дне. Вы на яго не крыўдуйце. Гэта мой, старэйшы. Усё яшчэ дзяцініцца. А ракаў мы, бачыш, наварылі. Еш! — Ён дастаў з-за пляча вядро, напоўненае ледзь не з каптарком чырвонымі ракамі, і паставіў перад Суздалевым.

Ракі былі вялікія. Сярод іх драбяза амаль не сустракалася. Клюшні здзіўлялі сваімі памерамі — яны былі нечым падобныя на гусіныя галовы.

Паназіраўшы, як Суздалеў далікатна раздзіраў на кавалачкі першага рака, трактарыст між тым спытаў:

— А ты што, можа, начальнік які?

— Не.

Трактарыст, відаць, не даў веры.

— Ну, а калі і начальнік, дык не вялікі, бо вялікія начальнікі ездзяць на машынах.

Ён ухапіўся рукамі за край вядра, пакорпаўся ў ім і вывалак за доўгі вус, здаецца, самага большага рака.

— Гляджу я на цябе і дзіўлюся — ты гэтых ракаў ясі з такім выглядам, быццам пабойваешся іх. Рабі вось як! — Трактарыст хуценька аблупіў клюшню, потым управіўся з шыйкай і нарэшце ўзяўся за ножкі.— Глядзі! — Ён вылузнуў з чырвонага панцыра самую сяродку, выкінуў адтуль штосьці чорнае, як тлустая нітка, сказаўшы, што гэта самае брыдкае ва ўсім раку, і ўчапіўся зубамі ў зеленаватае мяса.— Вось дзе самы смак!

Суздалеў зрабіў тое самае. Аказваецца, прыправа, якую трактарысты паклалі ў вядро, толькі тут і адчувалася па-сапраўднаму. Сок быў смачны. І Суздалеў мог нават без памылкі пералічыць усе прыправы — кроп, перац, соль...

Трактарыст спытаў:

— Ты нетутэйшы?

— Але.

— Адкуль жа?

Пачуўшы адказ, трактарыст ажно павесялеў.

— А ведаеш, пра што я зараз падумаў? Пра вашы беларускія лясы. Вось бы сюды іх, у стэп. Якая раскоша была б. Эх, каб да нашай зямлі ды вашы беларускія лясы. А я вашы лясы ведаю. Чуў пра горад Шклоў?

— Чуў.

— Ну, дык якраз мне там і давялося партызаніць,— трактарыст нечакана пачаў успамінаць і потым доўга апавядаў Суздалеву пра тое, як апынуўся недзе пад Оршай у акружэнні і ажно да восені сорак трэцяга года ваяваў у Магілёўскім партызанскім злучэнні.

Чалавек сваімі ўспамінамі пра знаёмыя мясціны нечакана даў думкам Суздалева іншы ход.

«А што, калі і сапраўды палотны былі да аднаго папалены тады Сямёнам Патапчыкам?» — падумалася раптам Суздалеву, і ён жахнуўся: нейкі трывожны неспакой упершыню за ўсю гэтую паездку пачаў авалодваць ім.

### 5

Гадзіны праз дзве на спадарожнай машыне Суздалеў паехаў у Ціхарэцкую, да цягніка. На стале ў дзядзькі Арама ён пакінуў пісьмо. «І ў Горкай Балцы я не спаткаў чалавека, які мог бы паведаміць мне пра лёс карцін,— пісаў Суздалеў Шушанік.— А пошукі, відаць, неабходна працягваць. Толькі для гэтага патрэбны больш надзейны план. Я ўжо гатовы пачаць усё спачатку. Не крыўдуйце на мяне. Вельмі не хацелася ехаць, не пабачыўшы Вас...»

## Чайкі на хвалях

Ціхамір стаяў на камені ля самага мора і, супакоены, трохі стомлены — ён толькі што вылез з вады,— глядзеў, як злаваліся, шыпелі ўспененыя хвалі, наганяючы адна адну. Спакойнае мора шумела, але шум гэты чуцён быў толькі зблізку — крокаў за сорак ад берага.

Захаплення морам не было. Яно прайшло ці не ў той нават дзень, калі Ціхамір прыехаў сюды. Тады стаяла

халадняватае надвор'е, і вада ў моры, і бераг, парослы чэзлымі соснамі, і неба над цёмна-сіняй, паморшчанай марской роўняддзю здаліся чамусьці надта звычайнымі, і пасля ўжо, як ні спрабаваў Ціхамір іначай глянуць на мора, яму не ўдавалася гэта. Адно хвалявала яго тут — гэта шум марскіх хваляў: было ў ім штосьці ад спрадвечнае неўтаймаванасці, і быў у ім таксама водгук далёкага і незразумелага гоману, які трывожыў душу.

Палоска, што яшчэ гадзіну таму бялела па ўсім небакраі між небам і вадой, цяпер пасінела, і адразу неба і вада сталі амаль аднаго колеру. Смуга апала, і скалісты левы бераг, які заходзіў далёка ў мора, нібы вырас на вачах, нават руіны манастыра, што былі на скалах, на самым мысе, цяпер можна было ўбачыць простым вокам.

Маўклівыя чайкі, з вялікімі галовамі і шырокімі, ледзь не буслінымі крыламі, цяжка кружылі над морам, пільнавалі рыбу, а Ціхаміру ўсё яшчэ не верылася, што яны і сягоння не сядуць на хвалі. Дзіўна, але за ўвесь гэты час ён так і не пабачыў іх на марскіх хвалях. Але ж, здаецца, дзеля гэтага — пабачыць чаек на хвалях — ён і ехаў сюды.

Праўда, спачатку быў той горад...

Гэта быў самы блізкі горад ад Дубраўкі, Ціхамiравай вёскі. І туды заўсёды ездзілі дубраўцы — спярша, да вайны, на кірмаш (і тады бацька прывозіў прыгожыя цацкі і смачныя ласункі), пасля, у галодныя пасляваенныя гады, па хлеб (і тады маці даставала з паласатае хусты расплюшчаны крамны бохан, якога павінна было хапіць на цэлы тыдзень). А Ціхаміру ўвесь час, пакуль рос ён, здавалася, што там, у горадзе, людзі жывуць неяк інакш, зусім не так, як жывуць яны, Ціхамір і яго маці, у вёсцы. Гэта выклікала спачатку захапленне, затым зайздрасць, але нарэшце настаў час, калі ён пачаў ненавідзець горад. Асабліва пасля таго, як аднойчы на начлезе ўбачыў горад пад ранне — яшчэ там не патухлі на вуліцах агні, а ўжо займаўся світанак, і над горадам шмат было святла — і электрычнага, і таго, што ішло ад сонца, якое збіралася вынырнуць за горадам; тым часам вёска патанала ў цемры, і Ціхаміру раптам падумалася, што гэта горад забірае і не пускае да яе святла. І нават пасля, калі Ціхамір ужо даўно не жыў у Дубраўцы і пабачыў

шмат якія гарады, той, першы горад, які выклікаў у ім па чарзе і захапленне, і зайздрасць, і нянавісць, аставаўся для яго чужым, дражніў успаміны сваёй недаступнасцю, больш таго, часам у Ціхаміравай душы ўзнікала зусім незразумелае, нейкае зацятае пачуццё да гэтага горада, быццам яны штосьці даўно не падзялілі між сабой. Выйшла так, што Ціхамір яшчэ падлеткам паехаў жыць у Сібір, да дзядзькі, бацькавага брата. Горада ён так і не пабачыў. Але забываць не забываў пра яго. І вось у гэтае лета рашыў наведацца — раптам падумаў, навошта вечна трызніць?

Горад яшчэ спаў, калі Ціхамір сышоў з поезда, і таму прыйшлося чакаць на вакзале. Можа, гадзіну Ціхамір размаўляў з міліцыянерам, які, перамагаючы сон, «дабіваў» сваю змену і быў ахвочы да слоў, пасля падсеў да дзядзькі. І таксама распачаў гаворку:

— Вось сына вязу,— пахваліўся дзядзька і паказаў на хлапца, што сядзеў трохі воддаль на лаўцы.— Вязу паступаць! — Ён так і сказаў — «вязу паступаць», і ў голасе яго пачулася пры гэтым гордасць і за самога сябе, і за сына.

— І думаеш — паступіць?

— А чаму б і не? — нібы насцярожыўся дзядзька.— Ён у мяне ўсё зробіць, што будзе сказана.

— А сам нябось таксама едзеш?

— Гэта не дзеля помачы — дзеля пafстраху.

— Значыць, камісію рашыў пастрашыць!

— Навошта камісію? — абурыўся дзядзька.— Я ж кажу, ён у мяне і без камісіі паступіць. Адно скажы.

— А без гэтага?

Дзядзька раптам сумеўся — мусіць, таму, што Ціхамір пытаўся даволі бесцырымонна, і таму ён быццам і не ведаў, як адказваць яму.

— Можна і без гэтага,— нарэшце знайшоўся ён.

Сын тым часам сядзеў на лаўцы і нібы не чуў, што распачалася размова пра яго. Наогул ён быў падобны нечым на традыцыйнага «жаніха», якога возяць паказваць нявестам.

— Разумееш, у нас з ім выйшла разнагласія...— пацішэў дзядзька.— Я яму — толькі на ляснічага, а ён блажыць, кажа — фізіка цяперака больш пірспякцiўная. І слова якое замысловае! Вучоны!.. Ладна, я і не пярэчу, няхай вучоны. На тое ён і еў ажно ледзь не дваццаць гадоў бацькаў хлеб. Я не супраціў. Але ж

адкуль яму, малакасосу, ведаць, што пірспякціўна, а што не? І вось я тут ужо кажу яму — хопіць. Тут дай бацьку падумаць. А як жа? Канечне! Вось таму я і еду, каб паставіць на сваім. Будзе мой Пецька здаваць на ляснічага. Толькі на ляснічага!

— А па цяперашняму часу, дык і сапраўды больш на фізіку,— сказаў быў Ціхамір.

— Ну, гэта яны няхай пашукаюць дурных у якім-небудзь іншым двары, а ў нас дурняў няма. Спярша розныя там атамы, шматамы, чых-чмых, а пасля ўсё жыццё па дактарах хадзі, ды яшчэ добра, калі... А то проста так — за ногі ды за дом. Не, я свайго сына сам. Куды скажу вось, туды і здаваць будзе.

Ціхамір кіўнуў галавой.

— А чым блага лясьнічаму? — заварушыўся дзядзька.— Як я пагляджу, то гэтым лясьнічым цяпер адно і жыць. Ані на іх засухі, ані начальства. Жывуць, як некалі тыя паны жылі — і мёд свой, і памідоры свае, і сала сваё, цэлая ж маёмасць, ніхто таго лесу не мераў.

Мусіць, гаварыў ён пра гэта не першы раз і, вядома, не першаму Ціхаміру, бо нават маўклівы сын яго пачаў моршчыцца, круціць галавой і ад нуды ўздыхаць.

— Тата,— сказаў хлопец праз нейкі момант,— ужо развіднела, я прайдуся трохі.

— Няўжо дзень? — неяк прытворна здзівіўся бацька.— Але ж ты пачакай,— сказаў ён сыну.— Вось зараз адчыняць буфет, пап'ём гарачага чаю. Да поезда паспеем яшчэ.— Ён памацаў нагою чамадан, які стаяў пад лаўкай, быццам хацеў упэўніцца, ці не прапаў той, і спытаў Ціхаміра: — А ў буфет, мусіць, і сапраўды хутка прыйдзе хто?

Ціхамір глянуў на гадзіннік — была ўжо шостая гадзіна, але ў вакзале яшчэ было цемнавата.

— Ды праз гадзіну адчыняць,— сказаў Ціхамір тонам бывалага паязджаніна.

У вакзале на лаўках драмалі людзі. Больш тут было вясковых, гэта відаць было нават па іхніх апратках — і маладыя ў кароткіх плюшаўках кабеты, і няголеныя, быццам пажаваныя дзядзькі, хоць, можа, і аднагодкі гэтых кабет. Ціхаміру раптам захацелася пашукаць знаёмых, і ён прайшоўся між лавак, але знаёмых не было, ды і наўрад ці адгадаў бы ён тут каго,

каб нават і былі: гады ж не так сабе ішлі. Іншая справа ў самой вёсцы.

У памяшканні сядзець стала халаднавата, і Ціхамір выйшаў на ганак. Там ужо нейкая старая, прымасціўшыся на сходках, прадавала летнія грушы. Міліцыянер стаяў ля яе кошыка, грэўся на самым раннім сонцы, задраўшы ўгору свой прыжмураны і яшчэ зямлісты ад начы твар.

Ціхамір купіў груш. Хацеў пачаставаць і міліцыянера. Але той адмовіўся:

— Не паложана, на пасту я.

— Дык ці ж хто ўбачыць тут? Начальства далёка,— сказаў Ціхамір.

Міліцыянер сярдзіта заматаў галавой і пачырванеў, але не таму, што сумеўся, проста раззлаваўся.

Ціхаміра гэта рассмяшыла. І ён пашыбаваў да калонкі. Спярша памыў адну за адной вялікія чырванабокія грушы, пасля рашыў і сам памыцца. Ён доўга, знарок не спяшаючыся, быццам меў з гэтага асаблівую асалоду, развешваў на жалезнай агароджы сваё адзенне — і пінжак, трохі памяты ў вагоне, і кашулю, ужо зарудзелую з каўняра, і майку, якую надзеў толькі на сённяшнюю ноч, калі пад'язджаў да станцыі. Вада ў калонцы была сцюдзёная, і Ціхамір з ахвотаю стаў пад шумны струмень.

Калі Ціхамір вярнуўся ў вакзал, там ужо працаваў буфет, і знаёмы дзядзька сядзеў за столікам насупраць свайго ціхманага сына.

— Чан яшчэ не закіпеў, чакаем вось,— сказаў ён Ціхаміру.— Садзіцеся мо з намі,— раптам перайшоў ён на «вы».

— А чаму абавязкова чакаць, пакуль чан закіпіць? — на ўвесь буфет спытаў Ціхамір, але ні да кога не звяртаючыся.— Першы чай мог закіпець і ў чайніку. Ёсць у вас чайнік? — паглядзеў ён на буфетчыцу, маладую, але ўжо растаўсцелую жанчыну.

— А чаму ж не? — нездаволена падняла яна левае плячо.— У нас усё ёсць. Але чаму чайнік? На такую процьму народу ды чайнік!

— Няхай лепш п'юць гарэлку,— пакпіў Ціхамір.

— А мне што? Няхай п'юць.

— Тады сто грамаў.— І Ціхамір паказаў на пальцах — на вялікім і ўказальным,— колькі гэта выйдзе.

— Хоць і пуд,— павесялела буфетчыца і, не ча-

каючы, пакуль падыдзе Ціхамір, рушыла да століка сама, трымаючы ў адной руцэ шклянку, а ў другой бутэльку.

— Толькі мне, папраўдзе, не болей ста грамаў,— пачырванеў Ціхамір.

— Няўжо?

Ціхамір па-блазенску падняў угору рукі:

— Не дзеля таго, каб напіцца, а для прафілактыкі. Пасля бяссоннай ночы. Прыйшлося вось пасядзець тут.

— Што ж гэта? Ай, не знайшоў нікога?

Жанчына наліла ў шклянку на вока гарэлкі і стала за Ціхаміравай спіной.

— А чаму ж не пастукаў у акно? — робячы масляныя вочкі, спытала яна.

— Не ведаў, якое тваё,— падладжваючыся пад яе гуллівасць, адказаў Ціхамір.

— То хоць у другі раз не праваронь,— прытворнаа ласкавым голасам паўшчувала яна і, таксама жартуючы — няўжо яшчэ як-небудзь дазволена на людзях! — правяла гарачай рукой Ціхаміру па спіне.

— Вясёлая кабетка! — пакруціў галавою дзядзька, калі буфетчыца нарэшце адышлася на сваё месца за скрынямі.— А што, можа, і самому прапусціць пару грамаў? Калі ён, той час, яшчэ будзе!

Буфетчыца і яму з ахвотаю наліла сто грамаў на вока.

Дзядзька пакруціў між пальцаў запацелую шклянку і, шырока расплюшчыўшы вочы, пачаў піць маленькімі глыткамі гарэлку, але піў ён яе з нейкім унутраным жахам, як п'юць малыя нясмачнае лякарства, і Ціхаміру было смешна глядзець.

— Х-х-халера, моцная, што той самагнёт,— аддыхваючыся, сказаў дзядзька.— Але ж гэта, мусіць, даўняга гону.

Закіпеў чай, і людзі за столікамі заварушыліся, пачалі падыходзіць да буфетчыцы і браць у яе талончыкі.

— Давай, сын, прынясі чаю,— сказаў дзядзька.— І вам таксама? — спытаў ён Ціхаміра.

— І мне,— кіўнуў галавой Ціхамір.

— Я ўсё гляджу на цябе,— зноў пераходзячы на «ты», пачаў дзядзька,— дык ты ці туташні, ці так адкуль?

— Так адкуль,— засмяяўся Ціхамір і, нібы спахапіўшыся, нахмурыў бровы.— А наогул, то я туташні.

— Адкуль?

— Цяпер жыву далёка адсюль. У Пракопаўску. А нарадзіўся ў Дубраўцы.

— Ведаю. Гэта ад нас недалёка. А чый жа будзеш?

Ціхамір назваўся.

— То гэта ж якога Філімонавага? Таго, што на млыне рабіў механікам? — Дзядзька раптам з падкрэсленай цікавасцю пачаў углядацца ў твар Ціхаміру.

— Не,— адказаў Ціхамір.

— Тады гэта, можа, твой бацька перад вайной быў за старшыню ў Дубраўцы?

— Здаецца, у начальстве мой не хадзіў. Як быў кавалём, так і на вайну пайшоў кавалём, там і загінуў. Не, у начальстве мой не пабыў.

— Але ж у Дубраўцы і цяпер многа Філімонавых,— сказаў у нейкай задумлівай адчужанасці дзядзька.— Сяго-таго нават я ведаю.

Сталі піць чай. Пасля, здаволеныя, доўга маўчалі. Нарэшце дзядзьку зноў зарупіла:

— Дык ты цяпер у Дубраўку?

Ціхамір паціснуў плячамі — хоць чалавек і сказаў, што Філімонавых шмат у Дубраўцы, але сваякоў Ціхамíравых сярод іх не было.

— Значыць, чакаеш аўтабуса? Хутка прыедзе,— супакоіў дзядзька.— З транспартам у нас цяпер добра. Аўтабусаў хапае. Як дзе спішуць у большым горадзе, то сюды і прысылаюць. Кажуць, вам усё роўна, што ламаць. Дарогі такія.— Памаўчаў і спытаў: — Ну, а як там у вас?

— І ў нас аўтобусаў хапае.

— Не, я не пра аўтабусы. Наогул, як там у вас?

— Жывём патроху.

— Кажуць, мяса не хапае?

— Штосьці не чуў пра гэта.

— Можа, халасты, таму і не чуў.

— Але ж кожны дзень еў мяса.

— Тады гэта не пра вас расказвалі,— адвёў вочы ўбок дзядзька.

Ціхамір заўважыў гэта і ўсміхнуўся.

— Ну, але ж, то не пра вас было,— пацвердзіў свае словы дзядзька і таксама пачаў усміхацца, быццам толькі што яго вызвалілі ад нечага вельмі непрыемна-

га.— Але ж трэба ўжо ісці на перон, хутка поезд будзе.— Ён падняўся, паглядзеў з вышыні свайго невысокага росту на Ціхаміра, які сядзеў за столікам, і раптам спытаў, быццам хацеў пераканацца яшчэ раз: — Значыць, ты Філімонаў? І з Дубраўкі?

— Філімонаў. І з Дубраўкі,— адказаў Ціхамір.

— Тады будзем знаёмы.— Дзядзька падаў руку і сказаў сваё прозвішча: — Дубянчук,— дадаўшы: — Васіль Прахоравіч. А гэта мой сын.— Ён паказаў на Пецьку, і той, мусіць, усцешаны ўвагай, пачырванеў.

Ціхамір выпрастаўся, паціснуў Дубенчуку руку і таксама пачырванеў, падумаўшы, што развітанне выйшла неяк па-смешнаму, быццам яны і не прасядзелі паўночы разам, а вось толькі цяпер сустрэліся і ўсталі з-за століка, каб замацаваць сваё знаёмства поціскам рук.

Бацька і сын пайшлі неўзабаве, узяўшы ў рукі па чамадану, а Ціхамір, аблакаціўшыся, нейкі час яшчэ бяздумна сядзеў на месцы. У буфет прывезлі піва ў бутэльках, і нейкія людзі пачалі насіць міма Ціхаміра скрыні, перакідваючыся словамі з буфетчыцай, якая зноў павесялела і бегала ад століка да століка, састаўляючы посуд. Праз акно Ціхаміру было відаць, як запаўнялі людзі прывакзальны скверык, выходзячы на перон. Яны некуды спяшаліся, ва ўсіх быў нейкі клопат, а Ціхамір сядзеў у буфеце, глядзеў і на людзей і на рэчы са спакойнай абыякавасцю чалавека, якому нічога не трэба. Ім завалодала раўнадушная лянота, і ўсе ранейшыя клопаты, якімі жыў ён колькі дзён у дарозе, і нават сама прычына, праз якую выбраўся ў гэтую дарогу, пачалі здавацца непатрэбнымі і пустымі.

У горад ужо не хацелася, больш таго, ён цяпер і ўявіць сабе не мог, што будзе рабіць там. Хоць ты бяры ды наймайся памагатым да гэтай буфетчыцы! Ціхамір правёў рукой па шчацэ, пацёр бараду. «А чаму б не пагаліцца?» — падумалася радасна.

У цырульні сумавалі два майстры — маладая заспаная жанчына і пажылы мужчына,— і Ціхамір быў першы кліент. Жанчына абвяла яго з ног да галавы позіркам сваіх лупатых вачэй, затым без кроплі цікавасці на твары адвярнулася да шкафчыка, дастала маленькія ножанкі і пачала падстрыгаць свае пазногці, на якіх віднеліся астаткі ярка-чырвонай фарбы. Муж-

чына тым часам па-маладому крутануўся на крэсле, ускочыў хуценька і сказаў, трохі шапялявячы:

— Прашу вось сюды.

Ціхамір сеў на цёплае крэсла.

— Што будзем рабіць? — спытаў цырульнік, і Ціхамір убачыў у люстры перад сабой яго зморшчаны твар з доўгім, быццам намаляваным носам.

— Пагаліцца, пасля, можа, і пастрыцца... Няхай і тут застануцца мае валасы.

— Галоўнае, каб галава не засталася,— чыкнуў цырульнік над вухам нажнамі, і Ціхамір у люстры ўбачыў, як ён усміхнуўся — усмешка выйшла кароткая, быццам чалавека перасмыкнула, і, можа, таму падалося ў ёй штосьці злавеснае.

Рукі ў цырульніка чамусьці дрыжалі, і было непрыемна сядзець, калі ён вадзіў брытвай па твары, але Ціхамір трываў да канца, нават сказаў майстру камплімент, а жанчыне, якая сумавала без кліентаў, паабяцаў, што зойдзе другі раз — вось толькі няхай адрасце шчэць, і ён абавязкова прыйдзе.

З цырульні Ціхамір выйшаў быццам другі — па-ранейшаму бяздумны, але па-новаму лёгкі: насвістваў, як лайдак, па-заліхвацку трымаючы рукі ў кішэнях.

Але весялосці і бяздумнасці ў яго хапіла да горада: у гасцініцы раптам не знайшлося месца.

— Камандзіровачных многа, а тут і памяшканне малаватае,— пачала тлумачыць яму адміністратарка.— Рэстаран пабудавалі? Пабудавалі. Спіртзавод пабудавалі? Пабудавалі. Пабудуюць некалі і гасцініцу.

— Мне вашае некалі... ведаеце куды? — раззлаваўся Ціхамір.— Мне сёння трэба недзе начаваць.

— Дык пераначуйце ў знаёмых.

— А вы пакажаце, дзе вашы знаёмыя?

— Ну, малады чалавек, яшчэ і гэтага захацелі! Кожны чалавек, які паважае сябе, павінен мець сваіх знаёмых і ведаць, дзе яны жывуць.

— А што рабіць тым, якія, напрыклад, не паважаюць сябе?

— Тых мы здаём у міліцыю,— спакойна адказала адміністратарка, але гэтым нібы давала зразумець, што шумець надта не трэба.

— Вясёлае жыццё ў вас.

— А што нам! Мы — не сталіца. Жывём, як умеем.

— Ну, а ўсё-такі, як бы ўладкавацца на ноч? — пачаў нарэшце паддобрывацца Ціхамір.

Жанчына таксама памякчэла.

— Адзін тут збіраецца ехаць начным поездам,— сказала яна,— тады і зойме це яго ложак.— І пажартавала пад канец: — Гадзін да дванаццаці з гакам можаце ў звальненні быць.

Але ні ў дванаццаць, ні ў гадзіну ночы ложак не вызваліўся. «Адзін» той нешта перадумаў ехаць начным поездам, і Ціхамір бадзяўся па цёмным горадзе амаль да самае раніцы. Затое пасля, калі ў гасцініцы нарэшце знайшлося месца — хтосьці неспадзявана выпісаўся, не дачакаўшыся рання,— Ціхамір спаў ледзь не за дваіх адразу. Прачнуўся ён позна. Паабедаў у новым рэстаране — самай звычайнай сталоўцы, але дзе падавалі (вядома, калі закажаш) к сталу гарэлку, нават каньяк, і бралі за абед адпаведна, як у рэстаране. Пасля абеду Ціхаміру зноў жыццё здалося не надта змрочным, і ён памалу пайшоў ад рэстарана па горадзе — спярша цераз невялікі, але ладна зацэнены сквер, пасярод якога на брацкай магіле падпольшчыкаў, партызан і салдат узвышаўся злеплены з цэменту абеліск, затым павярнуў на гарадскі рынак, дзе не было ўжо людзей, хоць і былі адчынены ларкі, і толькі хвілін праз дваццаць выйшаў на галоўную вуліцу. Вуліца гэта была забудавана новымі дамамі, стаялі нават сяміпавярховыя, але наогул горад быў сумны і такі ж брудны, як і чысты. Некалі ён быў абласным цэнтрам, і тады, казалі, хапала ўсяго тут. Нават свой цырк быў.

Адным словам, праўду казала адміністратарка гасцініцы — «мы — не сталіца».

Але Ціхамір сягоння адчуваў сябе неяк дзіўна — ён раптам паспакайнеў, яму нават здавалася, што ён ужо некалі быў тут і бачыў і гэтыя вуліцы, перакрытыя шмат у якіх месцах, бо залівалі асфальт, і гэтыя дамы — тыя, што цяпер будаваліся, і тыя, што будаваліся яшчэ, калі была тут за царом крэпасць,— і гэтыя запыленыя гароды ледзь не ў самым цэнтры, паміж драўляных дамкоў. Проста гэты горад быў падобны на ўсе астатнія. А наогул, Ціхамір ужо гатовы быў зноў пасмяяцца з сваёй задумы — узяць ды паехаць толькі дзеля таго, каб звесці нейкія рахункі з горадам. Аказваецца, Ціхамір нічога не меў да гэтага горада, таксама, мусіць, як і горад да яго.

Ля зачыненага газетнага кіёска Ціхамір доўга стаяў, усё перачытваў выведзенае нечай малапісьменнай рукой абвяшчэнне: «Прадаюцца арцісты і касманаўты». За пыльным шклом і сапраўды стаялі адкрыткі з артыстамі (кіназоркамі) і касманаўтамі. Па газетах, якія навалам ляжалі на прыстаўцы, поўзалі чамусьці чырвона-рабыя божыя кароўкі, і была ў іхніх рухах такая ж марудлівасць, як і ў самім горадзе, які нібы знясілеў ад гарачыні, гары і пылу.

І раптам недзе збоку пачуўся барабанны пошчак. На скрыжаванне вуліц выплыў у галаве пярэстай калоны піянерскі сцяг з сілуэтам Леніна на чырвоным палотнішчы. Пошчак быў такі моцны і адмысловы, а сцяг так развяваўся на ветры, якога дагэтуль і ўчуць нельга было, што ў момант змянілася ўсё наўкола, быццам нехта ўзяў ды адкінуў прэч і паўдзённую душную гушчыню і зацятую санлівасць. Калона павярнула к цэнтру, стала паднімацца ўгору, выцягваючыся ў адну тонкую нітку, і чырвоны сцяг затрапятаў пасярэдзіне вуліцы, а людзі, якія ў гэты час ішлі паўз дамы, пачалі спыняцца і сыходзіць на край тратуараў. А піянеры, ні на кога не зважаючы, уладна махалі загарэлымі рукамі ў такт сваёй узнёслай хадзе і ўдарам барабана. Яны не спявалі. Яны толькі шырока ўсміхаліся, і гэтая агульная іхняя ўсмешка перадалася неўзабаве людзям, якіх усё большала і большала на абодвух тратуарах.

Ціхамір таксама не ўтрымаўся, яго таксама падхапіла ўсеагульная ўзбуджанасць вуліцы, і ён заспяшаўся ўслед піянерскай калоне, быццам яму абавязкова патрэбна было дагнаць яе. Але калона разбудзіла цэнтральную вуліцу, хутка перайшла мост за плошчай, затым павярнула ў бакавую вулачку. Пошчак барабана паступова пачаў даносіцца прыглушана, і людзі, яшчэ колькі хвілін пачакаўшы нечага, сталі тушыць усмешкі на сваіх тварах, памалу разыходзіцца. Адстаў ад калоны і Ціхамір. Спачатку ён толькі прыцішыў хаду, пасля і зусім спыніўся. Але ўзбуджанасць яшчэ не скора прайшла. Ціхамір прыгадаў раптам, што ён ніколі не быў піянерам. Дзіўна, але ж і сапраўды не быў. А ўсё, вядома, таму, што само жыццё склалася так. Да вайны Ціхамір быў малы, пайшоў толькі ў першы клас, і ў піянеры не падыходзіў. Затым пачалася вайна. Але і пасля вайны ў Дубраўскай школе пія-

нераў не было — не хапала штату для піянерважатага. А пакуль дамагаліся ў райана штату — перарос Ціхамір. Адразу стаў камсамольцам. Праўда, аднаго разу загадчык школы, чалавек даволі ціхі і някемлівы, можа, праз сваю кантузію, якую прынёс з вайны, паспрабаваў быў завесці дубраўскіх дзяцей у раённы піянерскі лагер. Тады якраз прывезлі аднекуль фасолю, і змарнелых дзяцей, якія ўжо два месяцы нічога, акрамя шчаўя, не бачылі, рашылі падкарміць. Дзеля гэтага і быў арганізаваны той лагер. Аляксей Паўлавіч, так звалі загадчыка Дубраўскай школы, таксама рашыў падкарміць сваіх, балазе, што было недалёка да лагера, кіламетраў, здаецца, дваццаць пяць. Хадзіў туды з ім і Ціхамір. Але начальнік лагера нікога не прыняў, сказаў Аляксею Паўлавічу, што, маўляў, вашы неарганізаваныя, нават не прыняты ў піянеры, а наконт такіх ён, начальнік лагера, інструкцыі не атрымліваў, ды і «разнараду» на Дубраўскую школу не было, вось у наступнае лета можна будзе прывесці, дарэчы, тады і лагер павялічаць. Ціхамір і цяпер помніць, як яны пасля супакойвалі па дарозе ў Дубраўку Аляксея Паўлавіча, а той усё моўчкі ўздыхаў і быў чорны, як хмара. Наогул, вучні любілі свайго загадчыка. Самі яны маглі над ім учыняць злосныя жарты, але не любілі, калі яго крыўдзіў хто-небудзь іншы, і стараліся не даваць у крыўду.

Думкі пра дзяцінства апаноўвалі паступова: спачатку ўспаміналася толькі тое, што ляжала на паверхні памяці, але з кожнай хвілінай выплывала з закуткаў усё новае і новае, варушылася ў сэрцы, як жывое, і забытая Дубраўка, якую ён успамінаў часам з жахам — праз вечную галадоўку, спярша ў вайну, а затым і пасля вайны, ажно да самага сорак сёмага года,— дык вось цяпер тая Дубраўка раптам нібы паблізела яму, і ён нават пачынаў хваляваца ад таго, што хутка пабачыць знаёмыя хаты пад пахілымі вербамі, хоць пакуль і не было рашэння падавацца туды. Рашэнне такое прыйшло пазней, калі ён зразумеў, што Дубраўку яму ніяк не абмінуць.

У Дубраўцы ўжо быў поўдзень, калі прыехаў туды Ціхамір на калгаснай машыне, якая трапілася яму ў горадзе, нават не трапілася — яго пасадзіў на яе паставы міліцыянер пасля таго, як той папытаўся дарогі. Незнаёмы шафёр, няйначай прымак, калі, вядома, ён

быў наогул з Дубраўкі, а не з якой іншай вёскі, давёз Ціхаміра да самае кузні. Ціхамір спачатку быццам і не пазнаў Дубраўкі, бо надта паменела хат на вуліцы, і на месцы былых падворышч буялі дзяды, палын і крапіва: нікога не знайшлося ў Дубраўцы, каб заняць апусцелыя сядзібы. Хаты стаялі далёка адна ад адной, нават паміж гародамі віднеліся выганы, дзе валёхаліся гусі. Вёска нагадвала нечым вышчарблены грэбень. Насупраць кузні, дзе разыходзіліся вуліцы — адна пад гару, другая к возеру, што было за якога паўкіламетра ад вёскі,— па-ранейшаму, як і ў тыя часы, калі жыў тут Ціхамір, стаялі таўшчэзныя бярозы, і на адной з іх, на самай макаўцы, Ціхамір убачыў знаёмае буслінае гняздо. Праз нейкі час ён пачаў пазнаваць і хаты. Ляксейкіну, што ля могілак, Аўгінкіну, якая стаяла над раўком, Шквараву... Незнаёмыя былі толькі новыя хаты, пастаўленыя пасля. І наогул, у Дубраўцы цяпер новых было ці не больш, чым нават старых, і гэта кінулася Ціхаміру ў вочы, як толькі ён пайшоў па вуліцы, бліжэй да таго паваротка, дзе некалі знаходзіўся іх двор. Людзі Ціхаміра не пазнавалі, яны, бадай, і не ўзіраліся, каб пазнаць, а ён тым часам угледзеў і старую Міколіху, якая калісьці ганяла і Ціхаміра па сваім садзе, і Навума Бажка, што заўсёды, як помніць Ціхамір, быў конюхам, і вечна хворага Мялешку, які кожную восень збіраўся паміраць, але дажыў вось і дагэтуль. Нарэшце Ціхамір убачыў і знаёмыя вербы, што раслі пад іхнім акном. Хата стаяла тая ж самая і на тым жа месцы, але людзі, якія цяпер жылі ў ёй — маці Ціхамірава прадала хату, як сабралася ехаць гады праз два пасля вайны ў Сібір,— не ведалі Ціхаміра, бо гэта былі ўжо нават не дубраўцы, а прыезджыя, і хату яны куплялі таксама з другіх рук. Першая пазнала Ціхаміра баба Параска, якая некалі бабіла яго і да якой ён бегаў кожнае свята па яйкі.

— А вось пастой-тка,— сказала яна і прыжмурыла свае выцвілыя вочы,— ці пазнаю-тка я цябе! Ужо надта падобны ты на свайго бацьку! Ага, Хадоскін сын!

— Угадалі, баба Параска,— узрадаваўся Ціхамір.

— Ого, я цябе не толькі ў Дубраўцы пазнала б! Я цябе дзе хочаш пазнала б!

— Дзякуй, баба Параска!

— А за што дзякаваць? Ты яшчэ мяне не аб'еў і

не абпіў. Вось хадзем да нас у хату, пасядзім, пагаворым.

У Парасчынай хаце, куды яны дайшлі па агародах, стаяў летні халадок, ад якога адразу зрабілася прыемна, і было трохі цемнавата, бо святло з вуліцы пранікала толькі праз два нізенькія акенцы, ды і тыя былі пазатыканы анучамі. Баба ўвайшла ў хату, спытала трохі грубавата:

— Есць будзеш?

— Дзякуй...

— Ну, тады пачакай. Захочаш — смачней будзе.

Яна села на табурэт, але Ціхаміра не запрасіла. Тады Ціхамір сам сеў.

— Ну, расказвай, хлопец, як там матка твая, Хадоска? Жывая, здаровая?

— Дзякуй, жывая і здаровая.

— Тады хвала богу. Няхай ён беражэ яе. Як жа вы там у той Сібіры мадзееце?

— Нішто сабе. Маці пенсію даюць, і я зарабляю.

— Адны і жывяце?

— Але, адны.

— А што ж гэта ты не жэнішся? Здаецца ж, пара?

— Нявесты яшчэ не знайшоў,— засмяяўся Ціхамір.

— Глядзі, а то дзеўкі на старых халасцякоў глядзяць, як на хвальчовых.

— Нічога...

— Ну-ну, глядзі.— Баба Параска таксама засмяялася, але смех у яе выйшаў такі, быццам яна ўсхліпнула.

За абедам баба Параска зноў спытала:

— Дык як там Хадоска жыве?

— Дзякуй, здаецца, няблага. І ад людзей не адстае, і людзей не пераганяе.

— А ты стаў культурны. Усё дзякуй ды дзякуй. На кожным, лічы, слове. Нябось вывучыўся недзе, можа, у начальніках ходзіш?

— Вучыцца вучыўся, але не на начальніка. На заводзе раблю. Інжынерам.

— Значыць, па бацьку пайшоў. Майстрам.— Старая памаўчала, затым, нібы дадумаўшы што да канца, сказала: — А вось жа жывуць людзі і акрамя як тут. І робяць нешта, і хлеб ядуць. А тады ж, у першыя гады пасля вайны, шмат хто адсюль паехаў, мо заўва-

жыў на вуліцы — і тых няма, і тых. Цяжка было жыць, ну, людзі і ратаваліся як маглі. І твая матка таксама. Ну, што яна магла адна? Вось і павезла цябе да дзядзькі. Але цяпер у нас людзей паболела. Праўда, свае так і не вяртаюцца, мусіць, нядрэнна прыжыліся на старане, затое чужыя. У нас жа саўгас цяпер. Во, і ў вашай хаце зацехнік жыве.— Яна паглядзела Ціхаміру ў вочы, спытала, як пра нешта надта патаемнае: — А не забываецца пра вёску? — І сама ж адказала: — Вядома, гняздо сваё не забудзеш.

Ціхамір пражыў у бабы Параскі тры дні. Знайшліся ў вёсцы і знаёмыя, і даўнія сябры, якія паабзаводзіліся сем'ямі, паскупелі, але засталіся шчырымі і такімі ж наіўнымі, адным словам — дубраўцы. Памёр Аляксей Паўлавіч. Замест старой школкі цяпер у Дубраўцы была васьмігодка. І наогул шмат што ў Дубраўцы абнавілася. Так здавалася Ціхаміру. І калі прызнацца, то яму не надта хацелася ад'язджаць, і адпачынак яго яшчэ не скончыўся, але ж вінавата была яго прытворная далікатнасць — маўляў, дзякуй, паеду, бо я ўжо і так нарабіў клопату бабе Парасцы. Думаў, цяжка будзе развітвацца, і таксама дарэмна. Як толькі схавалася з вачэй вёска, прыйшоў спакой, і хваляванне, якое трывожыла апошнія гадзіны, улеглося, пачуцці адразу прытупіліся, і тыя кіламетры, што былі паміж вёскай і горадам, Ціхамір праехаў у кабіне самазвала, балакаючы з шафёрам пра звычайныя жыццёвыя дробязі — пра рыбу, якая перавялася ў рэчках, пра жалуды, якіх шмат з'явілася на дубах; смяшыў анекдотамі маўклівага саўгаснага трактарыста, які ехаў у горад лячыць жывот. Адным словам, Ціхамір ехаў здаволены і супакоены. Але спакой гэты ўжо быў такі, ад якога яму не хацелася ў горад. Ён ведаў — толькі спыніся ў горадзе, як увечары ўжо абавязкова будзеш у Дубраўцы. А падавацца зноў туды, пасля таго як развітаўся з вяскоўцамі і сябрамі-таварышамі, быццам і непрыстойна, па крайняй меры, Ціхамір сам лічыў, што рабіць такія выверты несур'ёзна і легкадумна. Таму ў горадзе ён толькі і затрымаўся, каб забраць у гасцініцы пашпарт. А ўвесь астатак дня прасядзеў на станцыі, у тым самым буфеце, дзе піў чай з Дубенчукамі — мусіць, трохі дзікаватым бацькам і надта спакойным, ледзь не блажэнным сынам.

У буфеце Ціхамір і пачуў пра чаек, якія сядзяць на хвалях... Пра іх гаварылі за столікам, застаўленым пустымі бутэлькамі, адслужыўшыя матросы. «Чайкі на хвалях... чайкі на хвалях... Дзіўна, няўжо і сапраўды чайкі могуць сесці на хвалі?» Ціхамір адсунуў ад сябе бляшанку з недаедзенымі шпротамі, падняўся з-за століка і выйшаў з буфета...

...Ён не стаў чакаць поезда на Маскву. Цяпер яго дарога была да мора. Няважна да якога — абы на хвалі садзіліся чайкі.

* * *

А маўклівыя чайкі ўсё луналі над морам, і было ў іхнім замаруджаным палёце, у іх зацятым маўчанні нешта засмучальнае і таямнічае. Але на хвалі чайкі па-ранейшаму не садзіліся і, мусіць, не збіраліся садзіцца.

Мора шумела. За чорнымі каменнямі, аблепленымі зялёнымі водарасцямі, ужо закіпалі хвалі і, абрынуўшыся, кідаліся на бераг.

Над мокрымі пляжамі, што цягнуліся астраўкамі ўскрай мора, разносілася знаёмая песня:

...Долетайте до самого солнца
И домой возвращайтесь скорей...

Голас спевака і клікаў да сонца, і тым жа часам раіў вярнуцца дамоў... Ціхамір падняў галаву. Але да сонца было надта далёка. Яно вісела, пабялелае, над морам і балюча калола вочы.

Бліжэй было дадому. І Ціхаміру раптам радасна зрабілася ад тае думкі, што ў чалавека ёсць дом і што заўсёды можна вярнуцца туды.

## Залатая рука

Конь дарогу знаў. Ён сам павярнуў каля гумнаў і міма лесапілкі патрухаў па наезджанай дарозе да ракі, дзе крокі за два ад берага стаяў абледзянелы паром. Ужо каторы тыдзень на зямлі ляжаў снег, і людзі ездзілі на санях, а рака ўсё не замярзала: па вадзе плы-

лі адны шараны.

Дзядзька Хвядос кінуў мне на рукі лейцы, саскочыў на снег і ўзяў каня за аброць: пачалі паціху спускацца к вадзе.

— Трэба неяк забрацца на паром,— сказаў я.— Можа, падгонім яго бліжэй?

— Сядзі!.. Тут неглыбока. Уз'едзем і так.

Конь падышоў да ракі, спыніўся.

— Ну-ну, чаго стаў! — Дзядзька сеў на сані, забраў ад мяне лейцы і замахнуўся пугай: — Но-о-о!

Конь абламаў капытамі тонкі лядок ля самага берага, ступіў колькі крокаў па халоднай вадзе і, коўзаючыся, узышоў на паром.

— Бяры мае рукавіцы,— сказаў дзядзька.— Ідзі папацей.

Я падышоў да парэнчаў, ухапіўся за віты трос і што ёсць моцы пачаў цягнуць. Паром не кратаўся. Ён быў цяжкі — на кожным бервяне бліскучы лёд.

— Давай разам.— Дзядзька таксама ўзяўся за трос.

Нарэшце паром здрыгануўся і, пагойдваючыся, паволі паплыў да другога берага.

— Ну вось, хутка і дома будзем...— Дзядзька Хвядос перастаў памагаць, чамусьці паглядзеў на свае рукі і адышоўся, каб пільнаваць каня.— Але дзе там хутка! — нібы спахапіўся ён.— Гэта па-нашаму дык хутка. А калі... Ну, адным словам, як даваў Мацей каня па цябе ехаць, то і паперку даў, накладную. Сена трэба на ферму прывезці ад стагоў. Кажа, па дарозе. А мне што? Мацей — брыгадзір. І дзядзька твой. Прыедзем — пабачыш, адразу прыйдзе. Любіць, калі госці бываюць.— Ён задумаўся аб нечым, пасля разважліва сказаў: — А што, хіба Хвядос не такі? І Хвядос не адстаў. А стагі дык і папраўдзе не далёка ад дарогі. Вунь, бачыш, на сухіх грудах, пад самы лес?

Стагоў было некалькі. На іх сядзелі снежныя шапкі. Асабліва кідаліся яны ў вочы здалёк,— далей трохі была цёмна-сіняя сцяна рослага лесу. Стагі стаялі па той бок старога рэчышча, і трапіць да іх, пакуль не падмерзла, можна было толькі па кругавой дарозе, якая вяла ад парома спачатку на Топкую Гару, пасля паварочвала ўправа і, агінаючы вялікую затоку — дзербеш, міма пенькамочча падыходзіла к лесу, на сухія груды.

Мы пераправіліся цераз раку хутка. Прывязалі паром і пусцілі каня на кругавую дарогу.

Калі плылі на пароме, было яшчэ відна, а як пад'язджалі да стагоў, то на лузе ўжо ляжаў паўзмрок. Снег пацямнеў, нібы хто разліў па ім крушынавае чарніла. Над вёскаю, што засталася па другі бок ракі, мусіць, чуючы блізкую ноч, насіліся жывою хмараю вароны.

Вецер дзьмуў едкі, вадзяністы.

На грудах, збоч дарогі, пракінуліся лапікі чорнай зямлі. Спачатку іх было мала —усяго некалькі няроўных разорын, але чым далей мы ехалі па грудах, тым усё часцей яны трапляліся і нарэшце пайшлі скрозь.

— Гэта ж дзікія свінні парылі! — толькі цяпер здагадаўся я.

— А ўжо ж...

— Ды многа іх тут!

— Хапае. Анагдысь казалі, што Адам Мамонаўскі вепрука паганяў. Але ў кубел не паклаў. Не пацэліў. Раззлаваў толькі. О, яны часам тут штучкі выкідваюць!.. Аднаго разу вяпрук дык нават у вёску не пабаяўся забрысці. Палез праз агароджу на ферму і павёў за сабою свіны статак. Два дні шукалі па лесе. Добра, што ваўкі яшчэ не напалі, а то б наеліся сала.

Дзядзька гаварыў гэта і ўсё не адводзіў вачэй ад разорын; і яму было цікава, як парылі, нібы ўзаралі, сваімі лычамі дзікія свінні сухія груды. Пад снегам зямля была сырая.

— Ім цяпер, гэтым дзікам, яшчэ раскашуха... Снег невялікі.— Дзядзька павярнуў галаву — у яго бледны твар, жывыя вочы, вакол іх сабраны хітрыя зморшчыны, на качыным носе таксама шмат зморшчын, а доўгая рыжая барада закрывае грудзі, вецер прыцiскае яе да паношанага шыняля.— Я вось падумаў... Ці выжыў бы чалавек, каб яго пусціць на такі самапас?

— Неяк жа ён жыў...

— Калі?

— Ну тады, даўно...

— Ага, жыў...— з неахвотаю згадзіўся дзядзька.

Конь часта фыркаў, касіўся на бакі, але бег прытка. Голы асінавы лес тым часам то адступаў ад сухіх грудоў, то падступаў зноў, і тады відаць былі ў нізінах, на краі маленькіх балоцвін, вываратні: мусіць, тут у сваю волю пахадзіла бура.

Дзядзька Хвядос прыязджаў па мяне на Астраўскую Развілку, дзе спыняецца хоцімскі аўтобус, і мы за дарогу паспелі нагаварыцца — я ведаў ужо ўсе вясковыя навіны. І таму быў вельмі здзіўлены, калі неспадзявана ўбачыў на дарозе Ягора Случанку.

— Здароў, Харытонавіч! — крыкнуў дзядзька, стрымліваючы каня.— Ты б саступіў з дарогі, а? Даў бы нам праехаць. А там і сам нябось стаміўся нагамі снег мясіць. На сані сядзеш. У нас якраз да цябе дзела ёсць.

Случанка крыва ўсміхнуўся і зрабіў некалькі крокаў у снег ад дарогі. Стаў там, павярнуўшыся тварам да нашых саней, і глядзеў, як мы праязджалі міма. Быў ён апрануты ў кажух, пашыты з авечых шкур. Шапка-вушанка была вялікая, сівая: ці то казліная, ці то барсуковая. Яна глыбока налазіла на лоб. У Ягора з сабою было ружжо, і ён трымаў яго пад пахай, палажыўшы ствол на правую руку.

Спачатку я глядзеў на Случанку збоку, але хутка сані параўняліся з ім, і тады я ўбачыў ягоны твар. Некалі гэты чалавек быў таўстаморды, з бычынай шыяй: выглядаў асілкам сярод нашых мужыкоў і, як помню я, усё жартаваў, стоячы за прылаўкам: «Пі вінцо — будуць чырвоныя шыя і ліцо». Цяпер у Ягора твар змардаваны, худы, парослы белым шчаціннем. Скура сабралася з усяго твару пад бараду і павісла там. На нас ён глядзеў неяк спадылба, і вялікія вочы яго слязіліся, можа, нават ад ветру.

Дзядзька запыніў каня і сказаў:

— Ну, Харытонавіч, садзіся.

Той выйшаў на дарогу, патупаў на месцы, аббіваючы снег з валёнак, палажыў не спяшаючыся ружжо на сані — ствалом на розвальню, і толькі пасля гэтага ўскарабкаўся сам.

— Нат-ка, тут вось у мяне паперка табе,— дзядзька выняў з кішэні накладную і стаў падаваць Случанку.

— Навошта яна мне? Зважыць усё роўна няма як.

— А ты паедзеш з намі і на вока прыкінеш, колькі на гэтыя сто кілаграмаў сена трэба. Раз пастаўлен на дзела, значыць, павінен адказваць. У нас табе не шарашкіна кантора.

— А я што? — Случанка нібы зазлаваў, раптам выхапіў з дзядзькавых рук накладную, разгарнуў, па-

сапраўды вельмі непакоіла становішча, у якое ён трапіў.

Тым часам развіднела. Вынырнула з-пад пагоркаў сонца. Мы ішлі міма вёсак. Людзей пакуль не сустракалі. Толькі чуваць было, як часам зарыпяць, абуджаючы ранішнюю цішыню, вароты ды рыкне раз і другі карова. А раз неяк, калі мы праходзілі паўз гарод, увязаўся за намі сабака. Кідаецца і брэша на ўсю ваколіцу, быццам паказвае: «Вось яны, трымайце іх!»

А неўзабаве мы паслалі настаўніка ў вёску. Ён сам папрасіўся, бо некаму ж трэ было ісці разведаць. І пакуль ён хадзіў, перагаварылі між сабой.

— Навошта бралі яго? — учапіўся Канаплёў.

— Маўчы,— сыкнуў на яго Цыркін.

Па ўсім было відаць, што Цыркін апраўдваў мяне. Пэўна, размова з настаўнікам, якую яны вялі пад раніцу, уразіла яго. Таму я сказаў хутчэй дзеля Канаплёва:

— Хай ідзе. На базу, вядома, мы не пацягнем яго. Пачакае дзе паблізу, пакуль прыйдзе атрад, а там вырашым.

— Яшчэ невядома, ці вернецца ён цяпер,— агрызнуўся Канаплёў.

Але настаўнік вярнуўся. А перад вечарам мы былі ўжо непадалёку ад нашага лесу. Усё небяспечнае, здавалася, асталося ззаду. Мы з палёгкай уздыхнулі і зайшлі адпачыць у алешнік, што рос астраўком каля самай дарогі. За паўкіламетра адсюль была вёска. А збоку, крокаў якіх за дзвесце, зноў былі відаць кусты. Яны паўкругам агіналі вёску, не падступаючы надта блізка да яе, і цягнуліся некуды, аж пакуль ставала вока. Мы ляжалі на траве, якую абышла каса, і цешыліся думкай, што хутка ўжо скончацца дарожныя пакуты. І раптам пачулі галасы!.. З вёскі ішлі немцы. Іх было каля двух дзесяткаў.

Сядзець у алешніку не мела сэнсу. Ён быў вельмі рэдкі і да таго ж без лісця — восень стрэсла ўсё на зямлю. З дарогі нас мог заўважыць кожны, нават калі і не прыглядаўся б надта. Трэ было неяк дабегчы да кустоў. Але як ты памкнешся куды, калі наперадзе роўнае поле і бегчы давядзецца ўвесь час на вачах у ворага.

Мы нібы прыраслі да зямлі, разгубіліся.

І раптам здарылася нечаканае: настаўнік амаль

сілком выхапіў у мяне аўтамат, які я трымаў хворай рукой.

— Я застануся тут,— усхвалявана зашаптаў ён, і ў голасе яго пачулася рашучасць.— Я буду страляць, а вы — бяжыце.

Ён неяк вінавата ўсміхнуўся і адвёў свае сумныя, у акулярах вочы. Было відаць, як перасмыкнуўся і пабялеў яго твар.

«Навошта табе гэта?» — са злосцю падумаў я, але прамаўчаў, бо ў той момант сам не здольны быў прыняць якое-небудзь рашэнне: нібы адабрала розум.

Немцы між тым падыходзілі ўсё бліжэй. Яны гучна размаўлялі, відаць, не спадзяваліся напаткаць у прыдарожным алешніку ўзброеных людзей. Мы ляжалі і насцярожана чакалі, і от яны ўжо зусім блізка. І ўсё бліжэй, бліжэй...

Тады і грымнулі нашы стрэлы. Першы ўдарыў з майго аўтамата настаўнік, а за ім і мы: я з нагана, а Канаплёў і Цыркін з вінтовак. Немцы разбегліся і заляглі. Цяпер ніхто з нас, здавалася, і не думаў пакідаць алешнік. Але зноў пачуўся голас настаўніка. На гэты раз ён ледзь не крычаў:

— Што вы марудзіце!

— Не гарачыся! Будзем адыходзіць разам! — сказаў я, хоць ужо і не верыў, што гэта выратуе нас.

І мы ўсё адступалі і адступалі на край алешніку, не перастаючы страляць. І разам з намі быў настаўнік. І тады, у тую страшную і цяжкую для нас хвіліну, на мяне нечакана нахлынула цёплае, да болю шчырае пачуццё да гэтага чалавека, які па дарозе сюды, магчыма, насустрач смерці, моўчкі цярпеў і наш недавер да сябе, і абразлівую велікадушнасць.

Мне тады захацелася абняць настаўніка, папрасіць у яго прабачэння і... ці мала яшчэ чаго хацелася мне. Ды толькі не час быў.

То прыгінаючыся да зямлі, то раз-пораз падаючы, беглі мы да лесу, туды, дзе быў наш паратунак. Я дрэнна бачыў тое, што рабілася наўкол. А калі ўпаў і агледзеўся, паўзлі за мною толькі Цыркін і Канаплёў. Настаўнік застаўся ў алешніку. Ён па-ранейшаму біў кароткімі чэргамі з аўтамата.

І мы чакалі яго, аж пакуль не ўбачылі, што па алешніку ходзяць немцы...

Вацура даўно збіраўся ў гэты лясны кут. Бадай, з таго самага часу, калі вярнуўся з вайны — на першым жа годзе як пачало шчымець сэрца, дык ужо мала і адпускала: нават у сне бачыліся тыя расцяробы і печышчы, дзе правёў не адну, а цэлых дзве доўгія зімы (цёплае лета ў разлік у партызанах не бралася — звычайная вайна) то ў зямлянках, сырых і душных, то ў буданах, дымных і халодных. Чалавека цягнула сюды памяць сэрца. Тут загінула яго жонка — чарнавокая смуглая Наста.

Пахавалі Насту на левым беразе Палужа, пад дубамі, куды ніколі — казалі людзі — не заплывае вада, нават вясной.

І вось Вацура ідзе адтуль. Магілы Насцінай пад старымі дубамі ён не знайшоў. На тым месцы, дзе была яна, ён убачыў адну разварушаную зямлю — хтосьці зноў засыпаў яму, але сыры пясок асеў, паправальваўся.

Дзяўчынка, якой ці было і дзесяць гадоў,— на ўзлеску яна шчыпала ў вялікую, пашытую з палатна, кайстру шчаўе,— сказала Вацуру:

— Не, дзядзечка, парцізанку перавязлі адсюль. Пазалетася іх усіх звазілі да Малых Выселак, што ля Гарэлага балота. Кажуць, брацкая магіла там. Дык і нашых выкапалі, павязлі, і салдат, якія пабіты, і парцізан.

— А ты ж адкуль?

— Вэ-э-эн,— дзяўчынка паказала рукой за раку, на саламяныя стрэхі,— там была вёска.

«Вусаўка»,— успомніў Вацура. Ён паўглядаўся трохі, хацеў нават успомніць, каго ведаў у гэтай вёсцы, але дарма: памяць нібы з густога туману выхоплівала адны твары — ледзь улоўныя, як сцёртыя медзякі, і не прыгадвалася ніводнага прозвішча.

— Дык ты, значыць, з Вусаўкі?

— Угу.

— І бацька ў цябе ёсць?

— А як жа без таткі! — здзівілася дзяўчынка і засмяялася, паказаўшы зялёныя зубы.

— Чаму ж так далёка заходзіш? Няўжо не баішся адна?

Дзяўчынка хмыкнула, пацiснула плечкамі:

— Тут жа шчавель глядзіце які! — Яна выняла з кайстры жменьку зялёнай травы і паказала Вацуру.— Во, бачыце, бытта конскі. Я ўжо даўно хаджу сюды. I летася, і пазалетася... тады, як парцізанка ляжала тут... не баялася. Чаго мне баяцца? Ета толькі Пецька Аўгінкін пужае мяне. Кажа, парцізанкіна душа засталася тут і кругом лятае. Хітры Пецька, думае, так і збаюся.— Дзяўчынка памаўчала, затым неяк вінавата ўсміхнулася: — Яму што!.. У яго баба ёсць. Яна ў шчавель ходзіць. А ў нас няма каму. Танька яшчэ маленькая. Адна я большая. Дык і гусей пасу, і ў шчавель хаджу. А сянні яшчэ і ў школу нада. Буракі палоць пойдзем у калгас. Дык я наскубу тут етага шчавеля і пайду. Зараз во і пайду.

Дзяўчынка і сапраўды хутка пайшла. I калі адыходзіла, то нават не азірнулася на Вацуру, быццам спалоханая...

Ад Палужа да Малых Выселак — кіламетраў дзесяць. Цэлая дарога.

Галава ў Вацуры поўная думак — як у дарозе. Але яны нейкія неакрэсленыя. Можа, таму, што неспакойныя — то мільгацяць хутка-хутка, то паволі выплываюць аднекуль адна за адной і, не затрымаўшыся, сунуцца далей, як пёрыстыя аблочкі, што часам бачыш на небе.

...Калі Клятнянская брыгада вырывалася з блакады, яны — Вацура і Наста — ужо былі разам. Разведчык Сцяпан Вацура прывёў Насту ў штаб брыгады перад самай блакадай, якраз у той час, калі немцы займалі навакольныя вёскі. У брыгадзе яшчэ ніхто не ведаў пра блакаду. Не вельмі далёка, за якія сто кіламетраў, стаяў фронт. Таму ў штабе спачатку палічылі, што гэта адтуль на час зацішку, які настаў пасля цяжкіх баёў, немцы адводзілі свае патрэпаныя палявыя часці. Але, здаецца, на трэці дзень паявіўся батальён эсэсаўцаў з сабакамі-аўчаркамі, і партызанская разведка данесла, што на чыгуначнай станцыі немцы пачалі згружаць з платформаў танкі. Партызаны насцярожыліся.

Вацуру паклікаў да сябе камісар брыгады. З камісарам у класе — тады штаб памяшчаўся ў Будзянскай школе,— абапёршыся локцем на край стала, сядзеў пануры начальнік разведкі Навікоўскі. Ён і пачаў гаворку.

— Трэба ў горад ісці,— сказаў Навікоўскі, не паднімаючы на Вацуру вачэй.

— Ну...

— А ты, Вацура, не нукай! — раптам раззлаваўся начальнік разведкі.— Ты спярша ўнікні, а пасля можаш нукаць!

— Ты сам, Мітрафанавіч, супакойся,— заступіўся за Вацуру камісар; ён прайшоўся ад стала да сцяны, пастаяў там, углядаючыся ў акно, і затым ужо звярнуўся да Вацуры: — У горад сапраўды трэба ісці. У нас там увесь гэты час быў чалавек. Цяпер яму пагражае небяспека. Учора мы туды паслалі Ягужынскага. І Ягужынскі папаўся. Ён ведаў канспіратыўны адрас. Абставіны складваюцца так, што мы вас павінны...

— А Стасю не давяраеце? Тады...

Камісар паморшчыўся і глянуў на начальніка разведкі.

— Ты ў мяне, Вацура, сягоння дагаворышся! — зноў ускіпеў Навікоўскі.

Вацура выпнуў грудзі, падабраўся. Ён разумеў Навікоўскага,— начальнік разведкі перажывае за Ягужынскага, шкадуе Стасіка, якога прывёў сюды ў сорак першым з-пад Гродна.

«Нябось па мне ён гараваць не стане»,— нібы пазайздросціў Вацура.

Камісар адказаў на нечаканае Вацурава запытанне спакойна, але з дакорам у голасе:

— Мы нават і не задумваліся над тым, давяраць Ягужынскаму ці не. Я ж вам кажу — абставіны складваюцца. Важна тое, што мы давяралі Ягужынскаму. А цяпер ён у гестапа. Вы разумееце, што гэта значыць?

Вацура па-блазенску паціснуў плячамі: яму чамусьці не падабаліся сёння ні начальнік разведкі — пануры, натапыраны (Вацура бачыў такім Навікоўскага першы раз), ні камісар — занадта разважлівы.

— Ягужынскі ведае канспіратыўны адрас,— працягваў камісар.— Гэта дастаткова, каб нам з Мітрафанавічам не спаць. Ягужынскі ў гестапа. Таму вам трэба як хутчэй трапіць у горад. Трэба вывесці нашага чалавека адтуль. Пакуль Ягужынскі будзе ў гестапа, яму пагражае арышт. Так, толькі так мы павінны думаць, седзячы тут, Вацура! Разумееце?

Начальнік разведкі пакутліва пацёр рукою пераносіцу і стомлена закрыў далоняю вочы.

— Я цябе папрашу, не, я табе загадваю, Вацура, не лезь там, куды не трэба,— сказаў ён, але ўжо зусім ціха.— У цябе сваё заданне. Выконвай яго. Стасіку ты не паможаш...

У горадзе Вацура адшукаў патрэбную кватэру, пастукаў у дзверы — спачатку тры разы, затым яшчэ і яшчэ, ажно чатыры разы запар паўтараў стук. Адчыніла яму дзяўчына — невысокая, надзетая па-хатняму, нават босая. Яна асцярожна, быццам баючыся, узяла з яго рук ключ.

— Чаму гэты? — здзівілася яна.

Вацура развёў рукамі.

Тады дзяўчына зноў спытала:

— Дзе Ягужынскі? Я ўчора яго чакала.

Вацура апусціў галаву і сказаў:

— Стах у гестапа. Я прыйшоў па вас. Хадземце адсюль. Гэта загад камісара.

Дзяўчына разгубілася:

— Але ж камісар яшчэ не ведае, што заўтра немцы будуць наступаць!

— Ведае! — супакоіў Вацура, хоць і не быў упэўнены, што ў штабе брыгады сапраўды вядома пра гэта.

У той жа дзень яны прыйшлі ў лес. Штаб перабраўся з Будзянскай школы за Гарэлае балота. Туды і прывёў Вацура сваю спадарожніцу. Пачыналася блакада. Здаецца, на чацвёрты дзень у партызан засталіся толькі дзве саракапяцiміліметровыя гарматы, якія стаялі на галоўных дарогах, пры ўездзе ў лес. А яшчэ праз дзень не стала і іх. І тады прарваліся танкі. Камандаванне брыгады адвяло свае атрады за Гарэлае балота. Для немцаў яно яшчэ было недаступнае. Яны не паспявалі ўсю адлегласць прайсці з баямі за дзень, і на ноч даводзілася адыходзіць назад, каб не застацца ў лесе. Але паступова варожыя снарады пачалі рвацца і за Гарэлым балотам, у апошнім лагеры.

Вацура быў ва ўзводзе разведкі, і яму часта здаралася бываць каля штаба, але спадарожніцы сваёй ён там ніколі не бачыў. Хлопец ужо нават забыўся пра яе, як раптам яго паклікалі да камісара. У камісаравай зямлянцы была і яна.

— Вы адзіны яе ведаеце тут,— сказаў камісар.— А нам якраз і трэба, каб у яе было як менш знаёмых. Сёння ўначы мы паспрабуем прарвацца па балоце. Нам

памогуць. Дык глядзіце, каб яна не трапіла да немцаў. Сваім таксама не вельмі паказвайце.

Брыгада вырвалася з блакады ў тую ж ноч. Перад тым партызаны спалілі ў гумне эсэсаўскіх аўчарак. І гэта шмат каго выратавала ад смерці, асабліва раненых. З Гарэлага балота, пасля таго як пачаўся бой, партызаны выходзілі групамі, каму з кім патрапіла: брыгада была рассеяна, і ніхто не ведаў, дзе знаходзіўся штаб яе. Вацура таксама адстаў — ноч цёмная і сумятлівая, людзі адно страляюць, крычаць ды бегаюць. І, як на тое, асколкам снарада параніла дзяўчыне нагу. На купіне перавязалі рану, і Вацура панёс сваю падапечную на руках — пад нагамі хліпала ржавая балотная вада. Тым часам партызаны прасоўваліся наперад. Вацура не паспяваў за імі. Адставаў усё больш і больш. З балота давялося выходзіць адным. Колькі дзён яны шукалі брыгаду, але дарэмна: партызаны падаліся ў Мглінскія лясы. А немцы стаялі вакол балота, лавілі тых, хто адстаў, дабівалі параненых. Вацура больш за ўсё непакоіўся за Насту — нарэшце яна назвала сябе: далей таіцца не мела сэнсу. І тых пятнаццаць дзён, якія яны правялі разам, можа, самых цяжкіх і шчаслівых у іх жыцці, якраз хапіла, каб потым, калі іх адшукалі партызаны ў вёсцы і прывялі ў штаб, Наста сказала:

— Я застануся тут, і нікуды не трэба больш пасылаць мяне!

Вацура нават цяпер, праз колькі гадоў, добра помніць, як абразліва лаяў яго, заганяючы ў чырвань, Навікоўскі, пачуўшы пра Насціну выхадку.

— Што, іншай бабы сабе не знайшоў? — камандзір разведкі ад злосці ажно не знаходзіў сабе месца — хапаўся за кабуру, тупаў нагамі.— Ты толькі ўнікні сваёй галавой! Ты нам сапсаваў усё! Усё! Ёй не ў лагеры месца! Яна разведчыца, асаблівая разведчыца, падпольшчыца, а ты... ты не разведчык, ты проста!..

Але Навікоўскі вельмі хутка забыў пра гэта і перастаў дакараць — Наста падружылася са Сцяпанавымі хлопцамі і стала лепшай разведчыцай у брыгадзе.

У тое ж лета Наста загінула: падарвалася на міне.

...Недзе ў гушчары сасновага лесу цюкаў па кары чырвоны дзяцел. Пахла нагрэтай смалой і багуном з дурнап'янам.

Да Малых Выселак можна было ісці і па Гарэлым

балоце. Вацура адшукаў бы на гэтай вялікай імшарыне ўсе сцежкі — запомніў яшчэ з партызанкі. Але па балоце ён не пайшоў — падаўся па наезджанай дарозе, што вяла міма маўклівага шведскага кургана, на якім вялі ад спёкі дзікія ружы. Дарога ўвесь час то аддалялася ад імшарыны, губляючыся паміж дрэў, то падыходзіла зноў, і тады адчувалася ў настоеным паветры сырасць. Вацура чуў у вайну, што засталася гэтая імшарына ад возера. Возера пастулова зарасло, зрабілася маленькім, і там, дзе некалі плёскаліся хвалі, стала багна, якая пакрылася мохам. Пасля на ёй павырасталі чэзлыя сосны. Паявіліся сухія груды. На іх і трымаліся партызаны ў блакаду.

Ля Малых Выселак тады палягло шмат народу. Там і пахавалі першых партызан. Пасля, калі брыгада вярнулася з Мглінскіх лясоў і яшчэ амаль год стаяла за Палужам, ля Малых Выселак непрыкметна выраслі партызанскія могілкі.

Вацура падыходзіў да Малых Выселак, калі сонца павярнула на захад. Стрымліваючы хваляванне, набліжаўся ён да знаёмай паляны. Брацкую магілу ён убачыў яшчэ здалёк. Яна была абнесена чыгуннай агароджай. За агароджаю — чырвоныя кветкі, здаецца, мак.

Вацура абышоў агароджу, дакрануўся рукой да яе. Сонца напаліла чыгун, і далонь апякло як агнём.

Стаяла глухая цішыня, якая бывае, можа, толькі на дне магілы.

Непадалёку ўзвышалася вялікая скрыня, збітая з нячэсаных дошак. З аднаго боку яе — знізу і зверху — дошкі былі паадрываны, відаць, ужо не адзін чалавек заглядваў туды. Праз шырокую шчыліну знізу Вацура спачатку ўгледзеў мармуровы вянок, затым босыя ногі; зверху віднелася апушчаная галава мармуровай жанчыны. Яе прывезлі на паляну, каб паставіць на брацкай магіле.

На паляне Вацура прабыў нядоўга. Яго чамусьці пачала бянтэжыць панурая маўклівасць блізкага балота і тая неадольная цішыня, якая панавала тут; яна прыгнятала нават, і ён хутка адчуў сябе адзінока. Але і за тыя лічаныя хвіліны, пакуль ён стаяў на паляне, Вацура зразумеў раптам, што для яго Насціна магіла застанецца назаўсёды пад дубамі і што разварушаная

зямля на ёй цяпер будзе на ўсё жыццё, як старая, нявылечаная рана...

Вацура прайшоў, задуманы, праз усю паляну і там, на ўскраіне балота, нечакана ўбачыў жанчыну, якая вынесла ў рэзгінах ношку сырой травы і пачала растрэсваць яе ў хмызняку на прагаліне, што была знарок працярэблена,— па баках ляжалі ссечаныя зялёныя елачкі, малады асіннік і яшчэ нейкія дрэўцы, белыя дубцы якіх вытыркаліся з-пад бярозавых венікаў. Жанчына пачула Вацуравы крокі, азірнулася. Але не выпрасталася. Нагнуўшыся, не пераставала растрэсваць рукамі трубчасты хвошч з пажоўклай асакой. Толькі рухі сталі запаволеныя, быццам яна сумелася. У вялікіх вачах яе, якіх яна не зводзіла з незнаёмага чалавека, стаяла насцярожанасць.

— Ці ж яно высахне тут? — здзівіўся Вацура.

Жанчына маўчала.

— Згніе, кажу!

— Затое цалей будзе,— жанчына разагнула спіну, узялася за рэзгіны.

— А то памагу вынесці на сухое,— сказаў Вацура.

— Не варта.

— Чаму?

— Ды так.— Жанчына глядзела на Вацуру з недаверам, але неўзабаве нібы пасмялела, раптам сказала: — Тады ўжо з балота памог бы вынесці,— і ціха засмяялася.

— Што ж, можна і з балота.— Вацура падышоў бліжэй і стаў побач: жанчына была яму трохі вышэй пляча; яна ўзняла на яго неспакойныя, нібы зацэненыя вочы — нарэшце ён разгледзеў іх — і неяк спалохана загаварыла:

— Што вы? Я пажартавала. Я сама. Ды і няма ўжо травы. Тут уся. Я за раз прынесла ўсю.— Яна трохі пастаяла, нібы раздумвала — ісці ці яшчэ пачакаць, затым, здзіўленая нечым, паціснула плячмі: — Ну, я пайду.— І пайшла.

А Вацура стаяў і слухаў, як на імшарыне заціхалі яе крокі. Вяртацца назад, у горад, было позна: ужо мала заставалася да вечара. Але і ў вёску ісці адразу, прасіцца на ноч, не хацелася. «Паспею»,— махнуў рукою Вацура і, агледзеўшыся, сеў на веніку.

У кішэні ў яго была газета, якую ён купіў яшчэ ўранні, у гарадскім кіёску. Вацура выняў яе, але па-

спеў прабегчы вачамі толькі па загалоўках — неспадзявана вярнулася жанчына.

— Ай, дык вы яшчэ тут! — усклікнула яна.

Вацура падняўся.

— Вы не рады?

— Не,— прызналася жанчына.— Вы што, упаўнаважаны, ці як?

— Я сам па сабе.

— А я падумала...

Голас у жанчыны быў мяккі, прыемны; сама яна была ў тым узросце, калі пра чалавека кажуць — яшчэ не стары. Гаварыць з ёй было лёгка.

— Я некалі партызаніў тут,— прызнаўся Вацура.— Дык прыехаў вось, паглядзець захацеў, па слядах сваіх пахадзіць.

— А-а-а,— неяк расчаравана сказала жанчына.— Мой таксама тут у партызанах быў.

— Хто?

— Прахвір. Можа, чулі?

Вацура наморшчыў лоб.

— Не, штосьці не помню,— сказаў ён.— Але ж гэта добра, што і ён тут партызаніў. Мне б да яго, пагаварыць...

Жанчына ўздыхнула:

— З ім ужо не пагаворыш. Яшчэ тады, з лесу, прыйшоў хворы...

Колькі часу яны стаялі на прагаліне і маўчалі. Нарэшце жанчына спахапілася:

— Трэба ісці... Ужо вечар.— Яна ні аб чым не спытала, а проста сказала: — Пойдзем.

Ішлі міма брацкай магілы — іншай дарогі тут у Малыя Выселкі не было.

— Мой заўсёды бегаў сюды,— сказала раптам жанчына і паказала рукой на чыгунную агароджу.— У яго таварышы тут пахаваны... былі. Дык ён магілы даглядаў. Кожную вясну штосьці рабіў. А пазалетася выкапалі іх. Ды яшчэ і з іншых месц панапрывезлі.

— Чаму ж не паставілі помнік? — спытаў Вацура.— У крыні стаіць?..

— Ды ўжо каторы год. На магілу ніяк не занясуць. Кажуць, немца прывезлі. Выкапалі недзе, памыліліся і вырылі. Разам са сваімі паклалі ў магілу. А ці праўда — хто ведае... Ета ж каб рабіць адразу, як вайна

скончылася, а цяпер... Проста, можа, не дарабілі чаго, вось і марудзяць.

Жанчына гаварыла пра гэта спакойна і, падалося Вацуру, нават абыякава. Яго ажно перасмыкнула. Раптам зрабілася крыўдна. Але Вацура прамаўчаў. Ён зноў пачаў думаць пра Насту, успомніў пра вусаўскую дзяўчынку, што гаварыла яму сёння ўранні пра «пардзізанкіну душу», якая лётае пад дубамі на беразе Пацізанкіну душу», якая лётае пад дубамі на беразе Палужа. Але словы жанчыны, якія ён толькі што пачуў, надалі яго думкам і другі кірунак — неспадзявана ён адчуў сябе вінаватым перад Настай: надта доўга ён збіраўся на яе магілу...

Яны падыходзілі да альховых кустоў, якія пачыналіся за канавай, што была перад вёскай, і Вацура азірнуўся, апошні раз глянуў на паляну. Чырвонае сонца нібы засела на вершалінах далёкіх соснаў і кідала на паляну цені. На нейкі момант Вацуру нават здалося, што ён бачыць, як растуць яны. За чорнай чыгуннай агароджай, ад якой таксама лёг на траву рашотчаты цень, чырванелі маўклівыя кветкі,— пэўна, мак.

## У горад

Яна не думала ехаць у горад. Яна ні разу не пабыла ў горадзе, нават калі жыў там сын. Цяпер сын быў у арміі, служыў на крайняй поўначы, а ў горадзе жыла нявестка. Але пазаўчора сын прыслаў пісьмо, і яна раптам нібы спахапілася, што не ведае нічога пра сваіх, гарадскіх, можа, маладзіца там адна не спраўляецца з дзіцём і гаспадаркай — некалі ж і сама была маладая...

Якраз стаяла восень. А яна паспела ўжо выкапаць на сядзібе бульбу — управілася. Праўда, на гародзе заставалася ў зямлі трохі буракоў, можа, кош ці два, але надвор'е пакуль стаяла яснае і нават бярозы на бальшаку былі зялёныя. Зімы — ані блізка. Дык чаго чакаць? Пакуль той снег, то яшчэ не адзін раз можна абярнуцца ў горад і назад. А карову яна прыпаручыць каму. Чалавек яшчэ дзякуй скажа, бо малако пакуль у каровы ёсць, будзе даіць. Адзін толькі клопат, што папасвіць. За дваром таксама хто-небудзь паглядзіць.

Яна схадзіла на гарод, пазбірала ў адну кучу аль-

ховыя тычкі, якімі падпірала ўлетку фасолю, паправіла сваю расадніцу — чамусьці дошка адна завалілася — і, супакоеная, колькі часу пастаяла на апусцелых градах, сашчапіўшы рукі, глядзела перад сабой невідушчым зрокам, быццам спрабавала ўбачыць нешта за той мяжой, куды ўжо не сягае вока. Пасля пайшла ў краму па гасцінцы малой унучцы. Крама была ажно на другім канцы вёскі, і яна доўга ішла па няроўнай вуліцы і сустракала на ёй знаёмых людзей. Казала ўсім: вось збіраюся ў горад, а людзі ў адказ усміхаліся ёй: адны хвалілі яе, другія зайздросцілі ёй. І ў краме яна таксама расказала, што заўтра паедзе ў горад праведаць нявестку, бо сыну яшчэ трэба служыць. Крамнік доўга выбіраў гасцінцы, але, акрамя цукерак у бліскучым мяшочку — ён сказаў, што гэта венгерскія,— нічога не выбраў: у горадзе ёсць усё — і халва, і селядцы, і кансервы з фасолі, нават сметанковае пячэнне, а вось цукерак венгерскіх можа і не быць там. Яна ўзяла ажно два мяшочкі цукерак, загарнула іх у паперу — крамнік не пашкадаваў сягоння і кавалак паперы,— пачала развітвацца: спярша падала руку падабрэламу крамніку, пасля калгаснаму конюху Васюціну, які прывозіў у краму хлеб з пякарні, што была за сем вёрст, тады ручкалася амаль без разбору — хто падаваў руку ёй, таму падавала і яна. А як выходзіла з крамы, конюх Васюцін сказаў:

— Ты б адшкадавала рубель ды ўгасціла, то, можа, падвёз бы заўтра. Мне ж сем вёрст кругу — не дарога.

— Э-э-э, каб толькі гэтай бяды. Я і сама яшчэ дайду да тае станцыі,— адказала яна.— Ты не глядзі, што я старая, я яшчэ маладым тваім, калі захачу...

Людзі, што былі ў краме, засмяяліся, і ёй самой стала весела. Але конюх Васюцін усё яшчэ не адводзіў ад яе сваіх вачэй, і яна сказала, каб не пакідаць у таго ніякай надзеі:

— А я, можа, яшчэ пайду на Бакуны, да гравійкі. Кажуць, там цяпер грузавое таксі ходзіць.

Назад яна ішла гародамі.

Да цёмнага яшчэ ставала часу, і ёй захацелася паглядзець на сваю пяньку, што мокла ўжо ці не тыдзень у Тараськавай сажалцы.

Корч, які ляжаў на снапах, быў трохі ссунуты, але пянька была на месцы — снапы праглядвалі скрозь ваду. Тады яна ўзяла палена, што валялася недалёка

ад сцежкі, і пасунула корч па жэрдках на ранейшае месца. Сёлета раптам на сотках урадзілі каноплі. То ўжо гадоў, можа, дзесяць не сеяла іх — навошта займаць зямлю, якой і так небагата,— а гэту вясну нечага надумалася, разжылася насеннем і пасеяла на той паласе, што ў наддатках. Цяпер вось пянька мокне ў сажалцы, а каноплі яна патрохі таўчэ і ўранні снедае, мачаючы бульбу. Пяньку яна хацела здаць нарыхтоўшчыкам, але перадумала — у сваёй гаспадарцы таксама аборкі патрэбны. А то ж дзе гэта відана, каб не было на чым нават курыцы задавіцца, ды і рэзгіны ўжо даўно пара пераплесці, можа, нават новыя зрабіць.

Хата яе стаяла на глухой вуліцы, якая выходзіла сваімі апошнімі дварамі на пустку, дзе раней быў брыгадны двор. Гэта была адзіная вуліца ў вёсцы, дзе замест вербаў і таполяў людзі саджалі пад вокнамі хат рабіны. Як нехта першы пасадзіў даўным-даўно, стаўляючы сваю хату, так ужо ніхто і не перайначваў — садзіць проці свайго двара маладыя рабіны стала завядзёнкай. Цяпер рабіны павырасталі, і ўся вуліца ад іх была чырвоная.

Ад сажалкі ісці было нядоўга, можа, хвілін дзесяць, і дарога заняла небагата часу, але вечар наставаў хутка, і калі яна апынулася ля сваёй хаты, сонца ўжо недзе зайшло пад хмарамі за лес. На вуліцы ўвачавідкі пашарэла, а рабіны сталі чырвона-чорныя, як перапелыя. На суседнім двары нехта кышкаў ці то на птушак, якія ўсё яшчэ лапаталі крыллем на дрэвах, ці можа, на курэй, што пазніліся і не хацелі садзіцца на куросадню. Яна занесла ў хату цукеркі, палажыла іх у хатыль, дзе ўжо былі загорнуты два кавалкі сала, якія збіралася завезці нявестцы, паважыла на руцэ хатыль — ці цяжка будзе ў дарозе — і села на ўслоне, павярнуўшыся да акна: з поля яшчэ не прыгналі каровы, трэба было дачакацца.

Яна ні аб чым не думала, проста сядзела, стомленая ад збораў, доўгай хады, і глядзела — зноў невідушчым зрокам — праз пасінелае ад вечаровай шэрані шкло на знаёмую вуліцу.

Прыйшла на двор карова, і яна дастала з кутка, што ў парозе, сваю патанчэлую за шмат гадоў даёнку, выйшла на ганак. Карова тыцнулася пысаю ў даёнку, але адвярнулася, закінула рогі на спіну і ціха, як паскардзілася, рыкнула гаспадыні ў вочы. А тая павесі-

ла даёнку на цвік, што тырчаў у лутцы, і вынесла з сянец кош з дробнай бульбай. Яна перадумала даіць карову — тая прыйшла з поля амаль галодная; трэба было падкарміць хоць трошачкі, а тады ўжо брацца за вымя.

«Хто ж гэта сёння пасвіў? — падумала яна з дакорам і тут жа пачала апраўдваць: — Якая цяпер трава! — Але і зазлавала: — А-а-а! Каб гэта на добрага гаспадара, той бы знайшоў, дзе накарміць жывёлу, яшчэ колькі тае травы...»

* * *

Аставалася зрабіць сёння яшчэ адно — схадзіць згаварыцца на гэтыя дні, пакуль будзе ў ад'ездзе, з суседзямі. Яна ўжо ведала, да каго трэба пайсці. Да Сіманёнкавых. Бо ў іх цяпер усе дома, нават меншая дачка вярнулася. Ды яна ж і не так сабе да іх звяртаецца — няхай гэтыя дні забіраюць яе малако.

У Сіманёнкавых вячэралі. Вялікая сям'я іхняя сядзела за сталом, і сама Сіманёнчыха сказала:

— Садзіся-тка і ты, Аўгінка.

— Не, я не з-за гэтага зайшла. Дзякаваць богу, не галодная. Другое ў мяне. А там яшчэ і карова не доена.

— Нешта яны сёння без малака вярнуліся,— сказала малодшая Сіманёнкава дачка.

— Дык я ж таму і паставіла сваёй бульбы кош.

— А мы сваёй бульбы не даём,— уздыхнула Сіманёнчыха.— У нас і без яе ёсць каму бульбу есці.

— Але ж.

— Тады ты хоць прысядзь дзе,— сказала гаспадыня.

— Ды няма калі. Я ж кажу, карова там, на двары, недзе даядае ўжо кош.

Кузьма Сіманёнак, які ўвесь гэты час еў і маўчаў, нарэшце выцер аб далоню сваю лыжку, палажыў на край стала і ўсміхнуўся:

— Пагуляй, цётка. Карове таксама патрэбен час, каб перавесці тваю бульбу на малако.

— На ўсё патрэбен час.

Сіманёнак спытаў:

— Кажуць, едзеш да сына?

— Не, да нявесткі. Сын жа служыць яшчэ.

— Ну, гэта ўсё адно — ці нявестка, ці сын. Адным жа домам жывуць. Кажуць, муж і жана — адна сатана.

— Ды адна. Паеду вось заўтра. Хацела з'ездзіць трохі пазней туды, як ужо ўчыстую ўправімся, але надоечы сын пісьмо прыслаў. За сям'ю перажывае. Дык паеду, праведаю. Хто ж іх там пашкадуе, як не свой.

— Ты гэта ні разу і не была там? — спытала гаспадыня.

— Не.

— Чаму ж гэта? Хіба не звалі?

— Неяк не сабралася.

— А яны, цяперашнія, не надта і хочуць, каб мы да іх ехалі,— сказаў Сіманёнак.— Вунь наш. Колькі я намякаў яму, але толькі летась прыслаў, што прыязджай.

— Абы ім там добра жылося, а мы ўжо як-небудзь і самі...

— Твая праўда, суседка,— згадзілася гаспадыня.— Дык што ты да нас?

— А хачу, каб за маім дваром хоць прыглядзелі. Там не трэба нічога рабіць. Усё пароблена. А за каровай трохі давядзецца пахадзіць. Вы ўжо і малако сабе тады бярыце.

— А што, нам малако цяпер і тваё не лішняе будзе,— нібы павесялеў гаспадар.— У нас і за тваёй каровай пахадзіць каму ёсць. Можаш ехаць.

— А я ўжо неяк вам аддзячу. Можа, прывязу што.

Сіманёнак засмяяўся і сказаў жартам:

— Ты сама хоць прыязджай. А то ўпадабаеш там гарадское жыццё, вяртацца не захочаш. Ці была ж ты калі ў вялікім горадзе? Не? Дык глядзі, не насмяшы там. А то, казалі, адна такая прыехала, а там трэба па дыванах... Ледзь паспелі нейкія чуні даць.

— Дываны — гэта, мусіць, у багатых, а мае — рабочыя, і ён і яна. Дзе там дываны!

— Там, у горадзе, і рабочыя з цілявізарамі жывуць.

— Няхай дае бог. Але я загаварылася з вамі. Трэба ісці. Там жа яшчэ карова. Дык вы не адкажыце, паглядзіце ўжо...

Калі яна вярнулася дамоў, карова стаяла пасярод двара і жавала жвачку; бульба была паедзена, і ля плота валяўся пусты кош.

* * *

Прахапілася яна адразу, як задымілі на вёсцы першыя хаты. Яна не стала ўпраўляцца — пакідала ўсё, як ёсць, на Сіманёнкавых. Пачала збірацца ў дарогу. Умылася, адзелася спакваля і стала снедаць, запіваючы хлеб халодным малаком. Але елася без смаку. Пачало рупіць, што дарма ўчора не схадзіла да старшыні,— можа, той будзе пасылаць на станцыю машыну. На машыне, вядома, хутчэй. Нарэшце яна пастаяла ля стала, быццам у нерашучасці, потым пачала хуценька загортваць усё, што было недаедзена.

Плюшаўка яе вісела пад марляю на сцяне, над самым ложкам. Яна падышла, адкінула марлю і, перш чым апранацца, правяла рукой па слізкай, як нешта жывое, пале. Купляную апратку гэтую яна надзявала звычайна на святы. Але ж у горад ездзяць таксама не часта.

Вуліца была ў парадзелых поцемках. За ноч пахададала, і зямля пад нагамі стала цвярдзейшая, як падмарозіла.

Яна запынілася на момант ля сваіх весніц: якой дарогай ісці — ці адразу на станцыю цераз паплавы і далей, на Гайкоўшчыну, ці на Баханы, хоць гэта дарога і даўжэйшая.

«Не, лепей пайду я да гравійкі,— нарэшце развамыла яна.— А то каб не сталася, як з той варонаю, што напрасткі заўсёды лятала, а дома ніколі не бывала».

Ужо на выхадзе з вёскі, якраз на тым месцы, дзе раней стаяў замшэлы крыж, яе раптам аклікнулі:

— Каму й та не спіцца?

Чалавек ступіў на дарогу, і тады яна пазнала старога Хомку, палявога вартаўніка.

— Гэта ты, дзядзька? — нібы ўзрадавалася яна.

— А ты што — у злодзеі, ці як?

— Да сына трэба. Паеду вось.

— Што, захварэў?

— Ён жа ў мяне служыць яшчэ.

— Дык ты ў часць?

— Гэта ж недзе на самай поўначы. Туды, мусіць, цягнік не ходзіць.

Хомка спытаў:

— Дык ты цяпер на Баханы?

— Ага.

— А чаму ж не паплавамі? Сюдою ж бліжэй.

— Там, кажуць, грузавое таксі яшчэ ходзіць.

— Гэта як калі. Нашы вярнуліся ўчора з раёна, то ехалі на абы-якой. Таксі, кажуць, паламалася.

— Але там гравійка. Можа, якая падбярэ. Усё-такі па гравійцы болей ездзяць.

— Яно яшчэ і тут можа паехаць машына. Здаецца, ці не павязуць сёння здаваць валоў. Учора выбракоўвалі. Ды і мне ажно да самай Гайкоўшчыны. Там яшчэ нашы стагі. Дык, можа, пойдзем? Удваіх вesялей.

— Ды радасці вялікай няма адной у поцемках.

Яны павярнулі на дарогу, што вяла на Гайкоўшчыну, пайшлі ўздоўж па сцежцы, што была вытаптана на абочыне. Ішлі і пацііху гаманілі, здаволеныя сваёй неспадзяванай кампаніяй.

Па два бакі ад іх ляжала поле.

За другім паваротам пачаўся сасоннік, і пабялелая на полі дарога зноў стала губляцца.

На паплавах, можа, за вярсту ад стагоў, яна нібы спахапілася:

— А што, дзядзька, ты хутка вернешся?

— Хто яго ведае. Мне на далёкі луг таксама трэба.

— А мне хоць ты вяртайся зараз. На гародзе ў мяне асталося трохі буракоў, а я, пустэча такая, здаецца, забыла пасунуць жардзіну на пералазе. Крый бог, залезуць свінні, наробяць бяды. Дык, можа б, ты паглядзеў там майго пералазу?

— Перакажу каму з суседзяў. А можа, і сваёй бабе скажу.

— Дык ты ўжо хоць не забудзь, скажы, неяк аддзячу пасля. Ай-яй-яй, як гэта я апраставалосілася!

— Добра. Пагляджу на твой пералаз. Але ты мне таксама там, у горадзе, зрабі што. Хачу ўсё ліхтарык сабе электрычны, каб раз — і гатова, а то як гэта хадзіць па цемнаце. Вось каб узяла і прывезла мне ліхтарык. Там, мусіць, не тое што ў нашых магазінах, там павінна хапіць усякіх. Дык не палянуйся, купі. Бачыла, які ў Сіманёнкавага хлапца?

— Ці ж я прыглядалася? Свеціць у вочы нечым, ну і свеціць.

— Жучок! — сказаў Хомка.— Яму не трэба ні ба-

тарэйкі, ні... Адно ціскай: жужжыць ды свеціць сабе сам.

— Тады куплю жучка. Так і спытаць?

— Халера яго ведае, як там пытаць, але ж язык і да Кіева давядзе. Ты толькі не бойся, я ж не за так цябе прашу. Грошы аддаць пасля магу.

— Што мне твае грошы, ты мне паправіш вароты ў хляве. Нешта шула павярнулася, дык вароты цяпер і не прычыняюцца як след.

Больш яны не рахаваліся.

Тым часам развіднела.

Хомка сказаў праўду, што збіраліся везці на станцыю выбракаваных калгасных валоў: машына дагнала яе за Гайкоўшчынай.

У кабіне побач з шафёрам сядзеў заатэхнік, чалавек новы ў калгасе і малады, таму старой жанчыне прыйшлося залезці ў кузаў і праехаць большую палавіну дарогі з валамі, трымаючыся рукамі за борт.

Праз паўгадзіны машына пад'язджала ўжо да райцэнтра. З-за Чортавай гары спачатку вынырнула тонкая, як запалка, труба льнозавода, пасля паказаліся дахі дамоў. Нават дзіва было: не думалася, што так хутка дабярэцца да станцыі. Цяпер да цягніка аставалася яшчэ многа часу, і яна стала прыкідваць у галаве, чым займецца ў горадзе. Трохі раней у яе была патрэба ў райвыканкоме — тады бабы даходзілі лесу, дык і яна хацела перасыпаць свае сенцы. Але ўсё лета сёлетняе патраціла то на сена, якога не хапала, то хадзіла ў калгас, бо маладыя не паспявалі, адным словам, знайшлося клопату.

Машына спынілася ля пякарні, амаль у самым цэнтры гарадка, дзе жылі заатэхнікавы сваякі, і заатэхнік першы вылез з кабіны, глянуў у кузаў на валоў і, нібы нечакана ўбачыўшы там старую жанчыну, зарагатаў. Тады і яна нібы ачомалася, заварушылася між валоў і пачала прабірацца да задняга борта.

І шафёр вылез з кабіны. Гэта быў таксама не свой, а прышлы, і яна яго не ведала, хоць некалькі разоў бачыла ў вёсцы, калі той праязджаў па вуліцы на машыне. Шафёр абышоў машыну, пастукаў ботам па коле.

— Не змерзла, цётка? — спытаў ён.

— Дзякуй табе, дзетка. Падабраў, даў бог, даехала.

Яна хацела даць грошы, але шафёр пачырванеў

і адмовіўся. Тады яна паправіла свой хатыль на спіне і, узрадаваная, пайшла да сквера, за якім былі магазіны. На станцыю яна цяпер ужо не спяшалася і паехала туды аўтобусам толькі пасля абеду, калі асталося гадзіны дзве да прыходу цягніка з Варажбы. Дзіва, але сёння яна чамусьці не адчувала ў сабе ніякай стомы — столькі пахадзіла, столькі пацёрлася, а трымалася, як маладая.

На станцыі народу было небагата, і яна хутка пазнала там сваю знаёмую — Куліну Карзянкову з БахаПоў. Быў час, калі яны разам жылі і разам гулялі на вечарынках. Куліна пазнала яе таксама і кінулася да яе, пасля пацягнула на пустую лаўку, далей ад акенца білетнай касы.

— Якая неспадзеўка, якая неспадзеўка! — пляскала рукамі Куліна.— Ты таксама на таксі прыйшла садзіцца? — Яна і праўда была вельмі рада.— Сёння дажджу няма, таксі павінна пайсці. Гэта ўчора нешта ў ім паламалася. Але ж, пэўна, паспелі паправіць. Цягнік гэты вось як прыйдзе, тады і таксі паедзе. Нас тут небагата. Забярэ ўсіх.

— А я не дамоў.

— Што ж гэта?

— Сын жа ў мяне ў горадзе. Да нявесткі з'ездзіць надумалася.

— Значыць, к сыну едзеш...— Куліна сказала гэта нібы з неахвотай і раптам пацішэла, як збянтэжаная.— А мае развяліся,— сказала яна праз момант і паківала галавою.— Не ўжыліся. Але я дык свайго не віню. Гэта, мусіць, тая...— Счакала трохі і зноў пачала: — Казала ж дурню, бяры якую-небудзь ад нас, цішэй будзе. Дык не, пагнаўся за гарадской. А што яны там, гарадскія, могуць? Ні цягавітасці, ні руплівасці. А твой што, таксама на гарадской жанаты?

— Ага, у горадзе жыла.

— А як жа яны, дружныя?

— А хто іх там ведае? Гэта ж каб з імі жыў, то знаў бы. А так — не жаляцца, ну і слава богу.

— Але ж яны там, у горадзе, адразу як лейчына пападае пад хвост, то і бягуць разводзіцца. Бывала ж, самі таксама жылі, і пасварышся, не без таго, нават з сінякамі паходзіш, і ты яму, і ён табе, але ж маўчыш, бо жыць трэба. А гэтыя адразу бягуць па судах. Сходы нейкія прафсаюзныя выдумалі, суды, сядзяць там і су-

дзяць адзін аднаго. А які суд можа быць між сваімі. Паліваюць там адзін аднаго гразёю. Вядома, калі людзі пасудзяць языкамі, то жыць не захочаш, ну, то і... разводзяцца. Гэта ж добра, што бог пакуль засцярог ад гэтага вёску.

* * *

У горад яна прыехала на другі дзень к вечару. Ішоў дождж, і ёй доўга не ўдавалася сесці на аўтобус. Яна ўжо ведала, на які ёй трэба садзіцца, каб трапіць у новы мікрараён; нават падказалі людзі, дзе бульвар Каліноўскага; але кожны раз, як яна спрабавала зайсці ў аўтобус, яе адпіхвалі ўбок — людзей на прыпынку было многа, таму, можа, што ішоў дождж, і ўсім чамусьці трэба было на адзін аўтобус. Спярша яна была разгубілася і пакрыўдзілася на людзей, але неўзабаве нехта падказаў ёй, каб заходзіла ў аўтобус праз пярэднія дзверы. Яна так і зрабіла. У аўтобусе нейкая добрая душа ўступіла ёй сваё месца, і яна села ля акна, паклаўшы хатыль на калені. Плюшаўка яе размякла на дажджы, і да яе цяпер брыдка было дакрануцца. Народу ў аўтобусе было паўнютка, людзі шумелі, чамусьці лаяліся з праваднiцай, а тая таксама не давала спуску і ўсё казала, каб яны гаварылі пра гэта не ёй, а старшыні гарсавета. Седзячы ехаць было ўтульна, хоць і цеснавата. Побач сядзеў нейкі гарадскі дзядзька. Ён цяжка, са свістам у грудзях, дыхаў, але яна не вельмі слухала і ўсё глядзела праз акно на гарадскія вуліцы, якія ўжо свяціліся, як размаляваныя. Яна бачыла людзей, якія, нягледзячы на макрэчу, хадзілі па вуліцы і, здаецца, нават не спяшаліся.

Аўтобус доўга кружыў па горадзе, быццам на адным месцы, і ёй здавалася, што ён будзе ехаць цэлую ноч.

За спіною ў яе нехта пачаў наракаць:

— Цяпер не дачакаешся сухога. Будзе да самага снегу ліць без перашчуку.

Але другі чалавек супакоіў:

— Не, гэта ненадоўга. Перадавалі сёння, што маразы пачнуцца.

— Лепш ужо маразы, чым гэтак.

Нарэшце праваднiца крыкнула:

— Наступная — бульвар Каліноўскага.

Яна была ўсхапілася са свайго цёплага месца. Але дзядзька, які ўсю дарогу праехаў з ёй, павярнуўся да яе і сказаў:

— Мне таксама цяпер сходзіць.

Тады яна села зноў, але ўся насцярожылася, быццам не паверыла чалавеку. Нарэшце дзядзька таксама заварушыўся, падняўся. Аўтобус спыніўся, і людзі, прыціхшы пад канец, зноў зашумелі, пачалі пасоўвацца да дзвярэй.

Яна выходзіла з аўтобуса апошняя.

Дождж, мусіць, не збіраўся перашчукаць.

Вуліца тут ужо не так свяцілася, як у цэнтры горада. Хоць і гарэлі ўсюды ліхтары, але было цёмна навокал.

Яна адышлася трохі далей ад аўтобуса, пачала азірацца. Трэба было шукаць той дом, дзе жыла нявестка. Тым часам людзі, з якімі яна ехала, хутка разыходзіліся, хаваючыся за дамамі. Яна пастаяла яшчэ ля аўтобуса, нібы баялася адысціся ад яго, каб не згубіцца, пасля перайшла вуліцу і падалася за людзьмі.

— Дзе тут сто пятая кватэра? — спытала яна ў чалавека, які ўжо адчыняў дзверы ў пад'езд.

Чалавек спыніўся, падумаў і спытаў:

— А па якой вуліцы?

— Па гэтай, па Каліноўскай.

— А дом які? Які нумар дома?

— Дваццаць сёмы.

— Тады гэта праз дом. Вось ідзіце туды.

Яна прамінула адзін дом, падышла да другога. Людзей не відаць было. Нават спытаць няма ў каго. Тады яна зайшла ў пад'езд ад дажджу, спадзеючыся таксама, што хто-небудзь выйдзе.

Хвілін праз дзесяць яна ўсё ж адважылася і пастукала некаму ў дзверы.

— Хто там? — пачулася з кватэры.

Яна разгубілася і сказала:

— Гэта *я*.

Але дзверы не адчыніліся.

— Хто ты? — дапытваўся мужчынскі голас з-за дзвярэй.

Нарэшце яна сабралася і сказала:

— Мне сто пятую кватэру.

— Так бы і гаварыла,— з палёгкай уздыхнуў нехта за дзвярмі.— Гэта ў чацвёртым пад'ездзе.

Сто пятую кватэру яна знайшла на пятым паверсе.

Адчыніла ёй нявестка. Спачатку нявестка быццам і не пазнала свякрухі, але, пазнаўшы, здаецца, не абрадавалася.

— Што гэта вы так раптам? — пацiснула плячамi нявестка.

— Надумалася вось і прыехала,— сказала свякруха.

Нявестка прапусціла яе ў калідорчык.

— Распранайцеся тут.— І зноў сказала, як незадаволеная: — Такая мокрая ўся.

Свякруха сцягнула з сябе сваю плюшаўку і, як прысаромленая, здранцвела ў калідорчыку. Тады нявестка ўзяла з яе рук мокрую апратку і занесла на кухню.

— А на ногі надзеньце Андрэевы тапкі,— сказала нявестка.

Свякруха патрохі пераадзелася, зайшла ў пакой. Яна і да гэтага ведала, што ў сына кватэра на адзін пакой. Казаў, што на два пакоі не дайшла чарга. У кватэры было чыста і цёпла. Пасярэдзіне стаяў круглы стол, засланы абрусам. Ля сцяны, бліжэй да акна, былі выстаўлены крэслы. На невысокім століку амаль на куце стаяў прыёмнік. Акно было занавешана — ад столі да падлогі — клятчастай занавескай.

— А дзе ж мая Ніначка?

— Ды вось, на канапе,— паказала нявестка.

Сапраўды, на канапе, якая была ля сцяны, што насупраць акна, сядзела з кніжкаю ў руках маленькая дзяўчынка і насцярожана глядзела на госцю сваімі бліскучымі вачанятамі.

— А мая ж ты ўнучачка! Дык ты ўжо і чытаеш?

— Малюнкі гляджу,— сказала дзяўчынка.

— А бабку сваю пазнала?

— Бабка паехала ў Маскву, да Генкі.

— Што ты там гаворыш? — паправіла Ніну незадаволеная маці.— Гэта таксама твая бабка.

— Мая? — здзівілася дзяўчынка.

— Пастой-тка, вось я дам зараз табе цукерак, тады ты па-другому загаворыш...

Але цукеркі дзяўчынка не стала есці, паклала побач з сабой і зноў пачала гартаць кніжку. Пасля сказала:

— А мне баба Каця прыносіла, як ехала да Генкі, вафлі і дзве шакаладкі.

— І я табе заўтра куплю шакаладку. Ну, хадзі да мяне.

Дзяўчынка не паварушылася. Тады бабка сама пакнулася ўзяць яе на рукі. Але ўнучка раптам заплакала. З кухні на плач яе выскачыла маці, падхапіла дачку на рукі і пачала суцяшаць яе:

— Ну, што ты, маленькая мая, гэта ж праўда твая бабка, не палохайся.

Дзяўчынка супакоілася, і маці яе сказала:

— Будзем піць чай, а то наша бабка з дарогі, холадна ёй.

— Я ўжо нагрэлася,— сказала свякруха.

— А што гэта вы такім надвор'ем надумаліся ехаць? — спытала нявестка.

— Каб жа знаццё, што яно такое будзе, то ўжо і не паехала б. Але ж Андрэй прыслаў пісьмо...

— Што ён там такое напісаў?

— Нічога, але я падумала, што чалавек трывожыцца за сям'ю. Дык вось і прыехала.

— А што сям'я? Я цэлы дзень на рабоце, а Нінка ў садзіку.

— Гэта добра, але ж яму, пэўна, рупіць там...

Ужо за сталом дзяўчынка спытала:

— А ты, мама, тэлевізар пойдзеш сёння глядзець?

— Што ты гаворыш? — як ад прыкрасці, паморшчылася яе маці.— Маме тваёй няма калі дыхнуць. Вось і бабка твая прыехала.

— А я паглядзела, як вы тут жывяце, магу заўтра і назад збірацца,— пакрыўдзілася раптам свякруха.

— Што вы, што вы! Я не падганяю вас,— нібы спахапілася нявестка.— Жывіце ў нас.— І закрычала на дачку: — Я вось зараз пастаўлю цябе ў кут. Ты ў мяне пагаворыш!

Дзяўчынка прыціхла, нагнулася над сваім кубкам. А маці яе стала апраўдвацца.

— Дзеці растуць хутка,— сказала свякруха.

Дзяўчынка пасядзела трохі насупленая, потым падняла вочы на бабку і спытала:

— А вы праўда мая бабка?

— Ці ж ты мяне не помніш?

— Не.

— А як прыязджала да мяне і з таткам і з мамкай?

Дзяўчынка перавяла позірк на сваю маму:

— Праўда, мама?

— Праўда.

— Але ж ты ніколі не гаварыла, што ў мяне ёсць другая бабка.

* * *

Уначы яна прачнулася на кухні ад таго, што раптам на ўсю кватэру рыпнула пад ёю раскладушка, на якой паклала яе спаць нявестка. Хацела павярнуцца на другі бок, але раскладушка пачала рыпець зноў, і яна спалохалася, каб, крый бог, не разбудзіць нявестку і ўнучку.

Ляжала, не варушылася і думала, як хутка, можа, нават заўтра, паедзе на станцыю па білет: у аўтобусе ўчора гаварылі пра маразы, якія, нарэшце, пачнуцца, дык трэба спяшацца дамоў — у яе на гародзе яшчэ сядзелі ў зямлі буракі. Але пра гэта думалася без сялянскай нецярплівасці, быццам цяпер яна засынала ў сваёй вясковай хаце, на печы, а не на раскладушцы ў кухні ў сынавай гарадской кватэры.

## Птушыныя сны

Сярод ночы Андрэй прачнуўся, сеў на пасцелі і зноў адчуў у грудзях боль.

Андрэй добра ведаў гэты боль. Цяпер ён даймаў яго часта. І тым не менш Андрэй яшчэ ні разу не схадзіў да доктара: баяўся пачуць страшную праўду.

Хвароба і змусіла яго прыехаць у Бары.

Яна пачалася неяк пасля аднаго сну. Так, спачатку быў той сон.

...Далёка-далёка распасцерлася попельна-зялёная зямля. Над зямлёю, на фоне чорнага неба, лунаў Андрэй, заграбаючы рукамі густое паветра. Яму хацелася ўзляцець да самага сонца, туды, дзе трохі воддаль быў відзён шчарбаты месяц, а побач — плюскалі, як заплаканыя, зоркі. Але нейкая сіла навальвалася на яго зверху і не давала ўзняцца вышэй...

Цяпер Андрэй сядзеў на ложку, прыхінуўшыся спіною да голай бярвенчатай сцяны, ад якой пахла сасновай смалой. Ён быў амаль спакойны. Але яму ўсё ця-

жэй было не паддавацца непрыемнаму пачуццю. Нейкае цьмянае ўсведамленне пакінутасці авалодвала ім.

У сваёй нечаканай хваробе, у гэтых прыступах болю, якія паўтараліся і выклікалі трывогу, Андрэй бачыў прыкмету нечага нядобрага. Але ж яму падумалася, што ў маці, дома, як толькі ён апынецца там, усё абыдзецца. І вось ён учора прыехаў.

Маці спала ў пярэдняй хаце, і Андрэй не хваляваўся, што неспадзявана разбудзіць старую. Ён злез з ложка, прайшоў босы да акна і сеў там на ўслоне, паложыўшы рукі на падаконнік. З вечара была прыадчынена фортка, але Андрэю чамусьці здалося, што ў хаце не хапае свежага паветра, і ён расчыніў акно напята. З палісадніка, дзе раслі вішні, адразу дыхнула халадком летняе ночы; ад кіслага паху зямлі закружылася галава; за гародамі, на старой грэблі, гучна заквакалі жабы, нібы чакалі, пакуль Андрэй падыдзе да акна, паслухае.

Салавей, пэўна, даўно падавіўся асцюком, бо ўжо настаў час — за гумнамі, дзе паабапал дарогі распусцілі жоўтыя кудлы бярозы, высыпаў ячмень; толькі на гэтых жаб пакуль яшчэ не знаходзілася ўправы: восень была далёка.

Болю ў грудзях Андрэй цяпер не адчуваў. Затое млела, калацілася сэрца.

Было чутна, як недзе пад ложкам шашаль тачыў бервяно.

«Рана ж ён завёўся,— падумаў Андрэй, шкадуючы новую хату, на якую маці нарэшце-такі ўзбілася пасля двух пажараў.— Цікава, чаго гэтаму чарвяку не хапае, што ён такі нястомны? Грызе і грызе, пераціраючы на парашок сухое дрэва. Канечне, і ў яго нешта там сваё. Але ж вось з-за гэтага «свайго» ён сапсуе матчыну хату... І праз колькі год пасыплецца на рассохлыя плінтусы, пад якімі заціснуты канцы пакарабачаных масніц, жоўтая чарвяточына».

Андрэй стомлена паклаў галаву на халодныя рукі. У яго раптам з'явілася такое адчуванне, быццам яму ўжо нельга засынаць сёння, бо можна не дачакацца раніцы. І ён пачаў баяцца пасцелі. Хутка ў яго ўжо наават сілы не было ступіць і кроку ў той бок, дзе бялелі памятыя падушкі. А шашаль па-ранейшаму сумна тачыў бервяно. Ён толькі, здавалася, заціхаў на момант, нібы задумваўся, ці падавацца далей, потым зноў па-

чынаў варушыцца — і дрэва, сухое, як косць, хрустала і хрустала. На покуце, каля самых абразоў, спакойна адлічваў секунды гадзіннік. За акном, там, дзе на гародах, можа, да самага неба лета прапахла зямлёю, кропам і гурковым цветам, ляжала ноч.

«Трэба хоць тут схадзіць у бальніцу,— падумаў Андрэй.— Мусіць, там пабачу і Ларысу».

Ларыса... Яна ўжо каля года працавала ў бальніцы, калі Андрэй пазнаёміўся з ёю на школьным вечары. Але на другое лета Ларыса неяк раптам выйшла замуж і нават не напісала яму.

Пасля, гады праз два, ажаніўся і Андрэй. Але няўдала.

Было ў іх з жонкай і дзіця, маленькая белагаловая дзяўчынка. Але жонка ўсё дакарала, што дзяўчынка ўдалася ў бацьку і таму непрыгожая. А сама бадзялася недзе і прыходзіла дамоў п'яная. Нарэшце аднаго разу сказала:

— Я магла б выйсці замуж. І тады б не вісела на тваёй шыі. Але ён не хоча жаніцца. Няма дзе жыць. Вось каб кватэра...

Андрэй трохі — усяго адну ноч — падумаў, потым моўчкі сабраў свой чамадан і аддаў ключ.

...Неяк у маленстве Андрэя джыгнула пчала. Маці прывяла яго тады на гарод выбіраць гуркі. Андрэй стаяў на мяжы і доўга з дзіцячай цікаўнасцю сачыў за той пчалой. Яна брала мёд, пералятаючы з адной кветкі на другую. А яму чамусьці здавалася, што пчала садзіцца не на тыя кветкі, на якія трэба. «Чаму гэта яна такая падкая на гурковы цвет, калі побач гарбузовы? З выгляду ён таксама жоўты званочак, але ж які вялікі! У ім адным столькі таго нектару, колькі на ўсёй гурковай касе». І Андрэй раптам перакульнуўся жывоцікам цераз граду, падкраўся да пчалы і асцярожна, каб не задушыць, сціснуў яе ў пальчыках. Ён хацеў перанесці яе на гарбузовую кветку, каб яна там, на дне гэтага вялікага жоўтага званочка, набрала сабе спажывы. Ён хацеў дапамагчы ёй. А яна джыгнула яго...

Ведама, дурная!

Андрэй успомніў цяпер пра гэты выпадак і бездапаможна ўсміхнуўся.

Ноч між тым збывалася: быццам яе перасыпаў хто, як пясок, з аднае пасудзіны ў другую — і ў апошняй усё прыбаўлялася.

Шашаль тачыў бервяно... Тахтыкалі на покуце старыя ходзікі... Квакалі несупынна на грэблі жабы...

Наваліўшыся грудзьмі на падаконнік, Андрэй маўчаў.

Ён нібы ўслухоўваўся ў самога сябе: па-ранейшаму баяўся лажыцца на сваю пасцель.

...У гэту ноч Андрэй зноў лётаў над цёмнай зямлёю. Ён нібы падзяліўся надвое — адзін лунаў у паветры, а другі, з падкурчанымі нагамі, ляжаў і дзівіўся: як гэта чалавек трымаецца ўгары на адных руках.

Нават у сне ў Андрэя не адрасталі крылы.

* * *

Уранні прыйшоў доктар.

Прыйшоў Казадой — галоўны ўрач участковай бальніцы.

«Гэта маці сама яго паклікала»,— жахнуўся Андрэй.

Спачатку нейкі час было чуваць, як тупаў Казадой у пярэдняй хаце: Андрэева маці нешта гаварыла яму. Голас яе быў прыглушаны і трохі ліслівы.

Андрэю даўно не ляжалася на пасцелі, і ён наважыўся ўставаць, але прыход Казадоя затрымаў яго — раз паявіўся доктар, то трэба ляжаць, хоць бы дзеля таго, каб рабіць выгляд, што ты сапраўды ледзь перажыў гэту ноч, бо недарма ж маці турбавалася: гэта ж пакуль старая дабралася да таго пасёлка!..

У хаце пахла гарэлай бульбай: тапілася печ і недзе на загнетку сыходзіла гарачай парай адваранка.

Нарэшце Казадой пераступіў парог. Быў ён шыракаплечы і рослы. Але яму было ўжо далёка за пяцьдзесят, і таму ён прыкметна сутуліўся. Гэту перамену Андрэй заўважыў адразу. І яшчэ Андрэй не мог не адзначыць — бровы Казадоя, некалі густыя і чорныя, цяпер сталі амаль белыя.

Маці ціха ўвайшла ўслед за Казадоем і стала насупраць акна, схаваўшы пад фартухом свае парэпаныя, прапахлыя зямлёю і дымам рукі. Твар у яе быў чамусьці разгублены, і ўсім выглядам сваім — прыгнечаным і насцярожаным — яна нібы падкрэслівала, што доктар у хаце нездарма.

Казадой тым часам не паспяшаўся, як звычайна робяць дактары, падсесці да хворага. Ён і тут, на гэтай

палавіне хаты, пачаў пахаджваць з аднаго кутка ў другі. Ад яго цяжкай хады запішчалі масніцы.

— А я збіраўся ўжо сам да вас.— Андрэй сказаў гэта такім тонам, быццам хацеў загладзіць перад Казадоем нейкую віну.

— Ужо столькі разоў мог прыйсці і не прыйшоў,— Казадой засмяяўся.— Відаць, ты, хлопец, сапраўды захварэў, бо нездарма ж цябе пацягнула ў пасёлак.— Вочы яго раптам хітравата загарэліся.— Дык кажаш, прыехаў да нас лячыцца? З горада? Падалей ад прафесараў, ад клінікі? Але ж часта здараецца — чалавек здаровы, а ў галаву раптам забярэ што і тады ходзіць, палохае другіх.

Казадой пакорпаўся нечага ў сваім пацёртым доктарскім саквояжыку, які ён кінуў на ўслоне, затым падсунуў нагой табурэт бліжэй да ложка, сеў.

— Ну,— мякка сказаў ён, паставіўшы Андрэю на голыя грудзі халаднаваты стэтаскоп.

Андрэй выпрастаўся. І раптам адчуў, як цяжка яму стала дыхаць. Нешта сціснула грудную клетку. Зноў, як і ўчора, калі ён прачнуўся сярод ночы, у галаву палезлі розныя думкі, і ўсю яго істоту ўжо адольвала тое непрыемнае, нават жудаснае пачуццё, якое ведаў ён з самага пачатку хваробы. Ён ляжаў, заміраючы ад хвалявання халоднага страху, і насцярожана чакаў.

Нарэшце Казадой выціснуў з сябе першае слова:

— Так!..— І прыняў стэтаскоп.

Але сказаўшы гэтае кароткае слова, ён змоўк, нібы задумаўся над тым, як і што яму гаварыць далей, каб не памыліцца. І Андрэю, які ўсё яшчэ не мог саўладаць з сабою, здалося, што Казадой не адважваецца сказаць у вочы праўду.

— Лёгкія твае здаровыя,— счакаўшы трохі, пачаў Казадой.— Але мускулатура такая вялая. Паглядзі.— Ён узяўся за кісць Андрэевай правай рукі.— Ты, брат, даўно ўжо не браўся ні за сякеру, ні за лапату. Можа, нават малатка не бачыў гадоў пяць. А пра сэрца... Сэрца тваё таксама магло быць больш весялейшае. Павялічана яно, здаецца. Але гэта нічога. Пройдзе.— Казадой усміхнуўся.

Перад тым як пайсці, Казадой, нібы між іншым, прапанаваў Андрэю:

— А можа, пойдзеш са мной у Зацішша? — І, не чакаючы адказу, растлумачыў: — Там хлопчык Пала-

гі Максімкавай нагу прабіў на ражне. Учора. Дык і сёння перавязаць трэба. А нас цяпер у бальніцы мала. Сёй-той адпачывае. Лета. Я думаю, ты не адмовішся. Табе гэта карысна. Дык згода? Тады снедай, а я пакуль загляну ў школу — дзельца маленькае ёсць.

— Дык, можа, і вы разам з Андрэем з'ясцё? — спахапілася маці.

Але Казадой стрымана адмахнуўся:

— Што ты, Аксюта! Пабойся бога, я ўжо! Ляжаць няма калі, дык і ем рана.

Ён зачыніў свой саквояжык і выйшаў, ляснуўшы клямкай.

Праз колькі часу і Андрэй выйшаў на вуліцу.

За гародамі дзіцячы голас спяваў вясельную песню. Хтосьці не ведаў слоў і таму бясконца паўтараў:

Мамачка мая, я ўжо не твая...

Над зямлёю дробна праменілася сонца. Лес, што падступаўся па левы бок да самых Бароў, здавалася, блішчаў, і гэты яго бляск быў чамусьці ненатуральны, не лясны,— там, паміж соснаў і елак, раслі асіны, і, відаць, гэта яны, мокрыя ад расы, серабрыліся на сонцы. Лес маўчаў. Затое над пасінелым ад цвету бульбяным полем, угары, нават вышэй за сонца, не даваў сцішыцца раніцы жаўранак. Сонца, вялікае, бясконца і роўна ліло на зямлю чыстае святло, нібы спрабуючы затапіць яе ім; жаўранак, маленькі, шэры камячок, які недзе згубіўся ў гэтым акіяне святла, пасылаў на зямлю сваю дрыготкую, але прыгожую песню. І было штосьці агульнае і ў гэтай адзінокай жаўранкавай песні і ў акіяне сонечнага святла. Нечым адным — прамяністым і звонкім — поўнілі яны сёння вясковую раніцу.

У Андрэя зноў, як і ўначы, калі ён расчыніў акно ў палісаднік, закружылася галава. Аднак адчуванне цяпер было іншае — раптам нібы рукою некуды адвяло ад яго ранейшую трывожную хваравітасць.

Ранейшыя страхі, якія ўначы прымушалі халадзець яго, цяпер здаваліся нявартымі ўвагі.

Андрэй дакрочыў так да школы і сеў там на лаўцы, каб пачакаць, пакуль выйдзе Казадой. Ён адхінуўся назад, на пакатую спінку зялёнай лаўкі, і пачаў глыбока дыхаць, быццам хацеў уцягнуць у сябе ўсё, што маглі прыняць душа і цела.

«Я мог бы зараз праглынуць усё, каб толькі наталіць сваю прагу»,— падумаў Андрэй.

Па сцежцы, якая паўз школу вяла да возера, ішлі касцы. Іх вёў за сабой Кузьма Новік, барадаты чалавек, які ўжо за сваё жыццё прайшоў па лугах такі пракос, якога хапіла б, можа, да самай Масквы.

Касцы трымалі на плячах косы.

На косах было сонца...

І Андрэю раптам захацелася самому пабегчы ўслед за касцамі.

* * *

«Трэба спытаць у маці, ці ёсць у яе каса,— падумаў ён.— Трэба спытаць яшчэ сёння, каб яшчэ паспець да вечара і накляпаць».

Высокі і сутулы, Казадой лёгка ішоў па дарозе.

Андрэй ледзь паспяваў за ім.

Калі за паваротам вынырнулі першыя зацішанскія двары, Казадой збочыў на сцежку і па загараддзі прывёў Андрэя да нізкага перелаза. Палагіна хата стаяла трохі далей, наводшыбе, пасярод куцобістых вербаў. На гародчыку, што пачынаўся адразу за пуняй, корпалася сама Палага: падаткнуўшы падол палінялага плацця, жанчына падбівала матыкай бульбу. Яна не заўважала мужчын, ажно пакуль яны не апынуліся на вузкай, закіданай лебядою і свірэпкай мяжы. Убачыўшы, нарэшце выпрасталася. Але не апусціла падол, стаяла так, чакаючы, пакуль падыдуць бліжэй,— з заголенымі трохі вышэй каленак нагамі.

— А я ўжо думала, вы сянні не прыйдзеце,— прапела яна грудным голасам, звяртаючыся да Казадоя, і раптам заспяшалася да хаты.— У мяне там зараз такое, што і ўявіць цяжка,— загаварыла яна.— Гэта ж як наскочыў мой на ражон, дык і не хаджу на калгасную работу, села, бы на тое гняздо. І куды мальца з пакалечанаю нагой дзенеш? Адно ў хаце. Як перавязалі ўчора нагу, дык ляжыць, бедны, на ложку. Блага, што сумаваць не даюць. З усяе вёскі дзяцей панапрыводзілі. Поўная хата. Маткам жа няма калі сядзець, бо ў полі работа чакае. Якраз цвіце ўсё. Трэба палоць.

Зараз пабачыце, што ў гэтай хаце робіцца. Чысты дзіцячы сад.

Палага паставіла да сцяны матыку і, адчыніўшы варотцы, збітыя з дарніц, прапусціла мужчын на свой двор.

Андрэй яшчэ не забыў, як пасля вайны Палага пела на ўсе Бары:

Цераз поле яравое
Я, няшчасная, прайдусь,
Цераз Гітлера сляпога
Векавухай застаюсь...

— Паеду адсюль,— казала яна дзяўчатам, калі тыя збіраліся ўвечары пад чые-небудзь вокны, каб неяк зглуміць час да поўначы.— Паеду, і ўсё. Чаго больш чакаць? Не сядзець жа ўсё жыццё ў дзеўках. Замуж трэба выходзіць. А тут за каго выйдзеш? За гэтых саплякоў? — Гэта яна мела на ўвазе такіх падлеткаў, як Андрэй.— Не, за гэтых саплякоў нам не выйсці. Для іх свае нявесты падрастаюць. А нашы жаніхі — там! — Яна махала рукой у які-небудзь бок, і пры гэтым трэба было разумець, што іхнія жаніхі засталіся дзе толькі змаглі — адны на Зяелаўскіх гарбах, другія на Венгерскай раўніне, а трэція... Трэція хоць і вярнуліся з вайны, але ў Бары не прыехалі...

Але Палага адно пераехала з Бароў у Зацішша. Там пуставала Лукашова хата — вайна параскідала яго сям'ю па свеце, і ніхто пасля не вярнуўся пад саламяную страху,— дык Палага і перабралася са сваімі дзецьмі ў Зацішша. Яна нарадзіла дваіх яшчэ ў Барах, а трэцяга, якраз таго, што цяпер ляжаў пакалечаны,— ужо тут, у Зацішшы, і ніхто не ведаў, ад каго былі ў яе дзеці. Затое ўсе ведалі маці гэтых дзяцей...

У хаце сапраўды было шмат дзяцей. Дзеці, відаць, добра ведалі Казадоя, бо адна дзяўчынка раптам захліпала і, учапіўшыся за Палагіну руку, пачала цягнуць цераз парог:

— Цёць, я баюся. Доктар будзе ручку калоць.

Большых дзяцей гэта рассмяшыла. Казадой тым часам ужо нешта рабіў, схіліўшыся над ложкам, на якім ляжаў Палагін хлопчык. Сама Палага выйшла ў сенцы. Дзеці ўтаропіліся на Андрэя — ён быў ім незнаёмы — і, падышоўшы бліжэй, абступілі яго з усіх бакоў.

У хаце было многа сонца: адразу кідаліся ў вочы голыя сцены — пачарнелыя, заседжаныя мухамі,— падзёўбаная падлога. І не было ў гэтай хаце нават добрага стала — у куце стаяла толькі штосьці падобнае на стол: на нячэсаныя круглыя козлы, пэўна, жаночай рукой, былі пакладзены колатыя плашкі.

Усё ў гэтай хаце выглядала так, быццам чалавек, які ўсяліўся ў яе, яшчэ не паспеў абжыцца.

— Ну вось, цяпер твая нага зажыве,— нарэшце падаў свой голас Казадой.— Хочаш, каб яна хутчэй зажыла?

— Ыгы,— згадзіўся хлопчык, пазіраючы на забінтаваную ступню.

Увайшла Палага. Яна прынесла з сенцаў гарлач з малаком і наліла ў зялёную кружку. Казадой, не чакаючы запрашэння, выпіў. Потым наліў сам, але больш не стаў піць, падсунуў кружку Андрэю:

— Пі, Андрэй! Малако халоднае. Добра... Чаму нам з табой не выпіць малака ў Палагі, а? Ну, ну, пі!

* * *

Было далёка за поўдзень, калі Андрэй выйшаў па выгане да калгаснай стайні і паўз яе пашыбаваў да возера.

Ён ішоў на пасеку, невялікі расцяробчык, які быў непадалёку ад лугу. На гэтым расцяробку даўно ўжо не было вулляў, але з таго самага дня, як яго раскарчавалі пад нечую пасеку, ён так і не зарастаў больш.

Уранні Андрэй яшчэ не ведаў, ці пойдзе ён на пасеку нават у бліжэйшы час.

Вінаваты ва ўсім быў доктар Казадой. Той раптам, нібы між іншым, але з пэўным настроем у голасе, сказаў:

— А як перапалашылася Ларыса Аркадзьеўна, калі прыйшла да нас твая маці! Ты б, Андрэй, толькі ведаў. Гэта ж яна мяне і выправадзіла ў такую рань лячыць цябе. Што робіць твая хвароба з людзьмі!..

І вось цяпер Андрэй спяшаўся на той самы расцяробчык, які яны з Ларысай некалі лічылі сваім. Растаючыся, яны ніколі не дамаўляліся прыходзіць туды назаўтра, але ж адно лета заўсёды, калі спадала к вечару спёка, Андрэй ішоў за тры кіламетры і чакаў

там, ля ракі, пакуль па абрывістым беразе збягала да яго Ларыса ў сваім лёгкім плацці. Тады ён браў яе за гарачую руку і вёў праз увесь луг на ўзлесак.

Цяпер Андрэй, вядома, не спадзяваўся сустрэць там Ларысу. Ён нават не быў гатовы да такой сустрэчы, хоць у душы і тлела глыбока захаваная надзея.

А Ларыса прыйшла.

Яна ўжо стаяла на краю пасекі і глядзела яму насустрач. У правай руцэ яе была знаёмая з чорным касынка.

— Гэта ты? — сказала яна слабым голасам, як толькі Андрэй апынуўся побач, і затым быццам спалохана прашаптала: — Андрэй!..

Андрэй глядзеў на ўсхваляваную Ларысу і думаў пра тое, што ніколі не бачыў жанчыны прыгажэй за яе. Як зачараваны глядзеў ён на яе твар — трохі завострany, увесь у карычневым загары. У вачах яе, глыбокіх і сініх, ужо, напэўна, назаўсёды асеў ледзь прыкметны, але непазбежны смутак.

Нешта падобнае адначасова і на любоў і на боль неспадзявана заліло Андрэева сэрца. Ён зрабіў яшчэ адзін, толькі адзін, але апошні крок і, не адказваючы на яе словы, абняў яе. Яны засталіся стаяць нерухома, і кожны раз, калі Андрэй датыкаўся сваёй шчакой да яе шчакі, то адчуваў, як загаралася яна.

— Я дрыжу ўся,— сказала Ларыса.— Пойдзем, Андрэй... Пойдзем туды...— І яна паказала рукой на высокія елкі, якія падпіралі на краі пасекі неба.

Ларыса гарнулася да Андрэя і, заглядваючы яму ў вочы, цалавала твар. Здавалася, яна не ведала ні ўнутранага непакою, ні раскаяння.

— Бачыш, я прыйшла сама,— гаварыла Ларыса такім тонам, быццам Андрэй ёй не верыў і яна цяпер спрабавала пераканаць яго.— Я ўчора пачула, што ты прыехаў. Але ўчора я не пайшла, бо ведала, што цябе таксама не будзе.

У Бары Андрэй вяртаўся на сконе дня. Ён падыходзіў да возера, калі раптам адчуў пах дыму. Спачатку Андрэй падумаў, што паблізу хтосьці расклаў вогнішча. Але прайшоў час, і дым пачаў пранікаць на дарогу скрозь ельнік. Над возерам, калі яно нарэшце паказалася паміж дрэў, яго ўжо назбіралася многа, і ён плаваў над ім, як густы туман. Недзе займаўся пажар.

Стаялі спякотныя дні. І таму не дзіўна было пры

такой гарачыні, якая высушыла на цэлы палец зямлю, успыхнуць якому-небудзь шыгаллю ці саломе.

Па вузкай прасецы, што вяла ад возера на сасновы майдан, Андрэй выскачыў на печышча — высокі курган, на якім некалі гналі з бяросты смалу,— і спыніўся, пераводзячы дыханне, каб агледзецца. Гарэла кіламетра за якія паўтара. Агонь ужо абняў увесь малады лес. Полымя шугала высока ўгору, і адтуль даносіліся крыкі.

Андрэй рынуўся наперад, быццам яго падштурхнуў хто, і пабег насустрач пажару. Дым лез у рот, сляпіў вочы. Малады асіннік балюча хвастаў па твары.

Андрэй яшчэ не прабег і палавіны адлегласці, як пачаў задыхацца.

«Спыніся... Спыніся... Спыніся...» — нібы папярэджваў хтосьці. Але мозг Андрэеў быў разгарачаны. Ногі зусім не слухаліся. І ўвесь Андрэй быў як заведзены. Ён ужо калі б і захацеў, дык, пэўна, не мог бы спыніцца. Нарэшце зямля пахіснулася пад яго нагамі, закружылася і затым неяк лёгка, нібы заслонка, перакулілася дагары. Андрэй паваліўся, уткнуўшыся тварам у цёплы мох.

Яму мроілася, што ён усё ж пайшоў тады, уранні, за касцамі... Кузьма Новік цяпер хітра пазіраў на яго сваімі чорнымі цыганскімі вачамі і чамусьці гагатаў, выскаляючы жоўтыя, але здаровыя, цесныя, як у каня, зубы. Яму раптам захацелася падурэць, і ён выдумаў абрад пасвяшчэння ў касцы. Кузьма сілаю соваў у рукі Андрэю дзесяціметровае кассё, якім можна было прапароць нават неба, і ўсё не адступаўся ад Андрэя:

— Што ты паказваеш нам свой пашпарт.— Андрэй чамусьці і сапраўды трымаў у руцэ свой пашпарт.— Хочаш адбыцца пашпартам? Не. Пашпарт твой нам не патрэбны. Мы не прывыклыя да яго. Самі не маем, дык і не гонімся за чужымі. Не, Андрэй, пашпарт нам хоць і не паказвай. Калі хочаш стаць у рад з намі, дык дахтавай з кішэні чырвонец ды кастыляй у краму. Як, хлопцы, хопіць нам тры паўлітэркі ці не?

Хлопцы тым часам прысядалі ад смеху і таксама штосьці гаварылі Андрэю наперабой.

Пасля зрабілася цёмна і ціха. Некуды зніклі касцы, і Андрэй застаўся на лузе адзін. Ён пастаяў трохі, здзіўлены. Але яму стала сумна, і ён, узмахнуўшы рукамі, як крыламі, здавалася, паляцеў, заграбаючы пад

сябе густое паветра, спачатку над лугам, потым над лесам і, нарэшце, убачыў з вышыні сваю вёску.

Да яе падыходзілі касцы...

Яны неслі з лугу на косах сонца...

...Гэта быў апошні Андрэеў палёт над зямлёй.

## Трэція пеўні

Дэмабілізаваны салдат — рослы дваццацігадовы хлопец Андрэй Сячнёў дабіраўся ў Старую Рудню. Там жыла Андрэева знаёмая. Дзяўчыну звалі Зосяй, і была яна, кажуць, адзіная дачка ў бацькі і маткі. Андрэй ні разу не бачыў Зосі, ведаў толькі па фотакартцы — пазнаёміў іх стрыечны Зосін брат, з якім Андрэй служыў у арміі. Іван неяк пахваліўся, што ёсць у яго сястра — адно заглядзенне. І Андрэй напісаў пісьмо, пасалдацку, маўляў, жадаю завочна пазнаёміцца і «жду атвета, як салавей лета». Зося адказала хутка і недзе к Кастрычніцкаму святу прыслала фотакартку. Дзівіліся на яе ўсім узводам. Нават лейтэнанту паказвалі. Сапраўды, дзяўчына на фотакартцы выйшла прыгожая: тугая каса перакінута цераз правае плячо і ляжыць жгутом на высокіх грудзях; галава павернута трохі набок, і ў цёмных вачах стаілася ўсмешка, якая непрыкметна перадалася ўсяму твару і зрабіла яго яшчэ больш прывабным. Думка ўсяго трэцяга ўзвода была адна — і не модная, а прыгожая, самы раз: адбыць спярша армію, пасля пасватацца. Але даслужваць да канца і не прыйшлося. Неспадзявана захварэла Андрэева маці, якая адна жыла ў вёсцы, і райваенкамат пачаў хадайнічаць, каб радавога Сячнёва дэмабілізавалі раней часу. Андрэя дэмабілізавалі. Прыехаў ён дамоў, у Валаськоўню, у канцы чэрвеня, а цяпер стаялі першыя дні ліпеня. Якраз адцвіталі жоўтым цветам ліпы ў прысадах, і ў калгасе ўпраўляліся з лугам. Паўсюды пахла прывялым сенам і маладым кропам. Вясковыя бабы ўжо спрабавалі мацаць на гародах скараспелую бульбу. Андрэева маці пачакала колькі дзён, пакуль сын зноў прывыкаў да вольнага жыцця ў вёсцы, пасля пачала прыспешваць з жаніцьбай.

— Давай, сын, вядзі маладую гаспадыню ў хату.

А то не маю сіл во, і адзін бог ведае, колькі пралежу пластом етак.

Маці ўжо і нявестку мела на воку. Круглікаву Таццяну, з якой Андрэй перад самай арміяй некалькі разоў прыстояў пад вязам, што рос на вясковай вуліцы. А ў вёсцы ўжо так — раз стаялі, значыць, заўлёткі. У маці, вядома, былі свае разлікі. Дзяўчына скончыла васьмігодку і каторы сезон рабіла на калгаснай ферме, мела там за работу добрыя грошы — цяпер жывёлаводам у калгасах няблага плацяць,— і хворая жанчына падумала, што на адны нявестчыны заробкі можна будзе за год які памяняць падгнілае ніжняе бярвенне ў хаце, перабраць дор на страсе і купіць маладзейшую карову, бо гэта нечага заялавіла. Ды і сын таксама ж будзе недзе рабіць, грошы прыносіць. Вядома, каб Андрэй уладкаваўся ў лясніцтве, была б нават лафа, тады б не трэба хапаць з-пад ног самога чорта сена тое — у лесе яго касі не перакосіш, заробак у лясніцтве таксама пэўны, гэта не ў калгасе, калі год на год не прыходзіцца і адзін час надта густа, а другі амаль пуста.

Андрэй слухаў матчыны развагі, а сам усё думаў пра Зосю. Яму ж вельмі не хацелася засылаць сватоў да Круглікавых. Усё хваліў Зосю, гаварыў маці, што гатовы паехаць хоць сягоння ў Старую Рудню, каб прывезці ў Валаськоўню. Але тая стаяла на адным: ёй патрэбна была нявестка свая, са свае вёскі, ды пакладзістая, каб можна было жыць з ёй, бо невядома яшчэ, як чужая паглядзіць на хворую свякруху. Нарэшце маці зразумела, што сына не ўгаворыш, і здалася.

Але як Андрэй праходзіў паўз возера, што было за вёскай, то ўсё ж убачыў Таццяну: тая мыла на кладках бялізну. Андрэй яшчэ здалёку пачуў, як нехта лупіў пранікам пад гарою — на кладках валаськоўцы здаўна пралі бялізну,— але не думаў, што гэта будзе Таццяна. І калі пазнаў яе, то неяк быццам утарапеў. У вёсцы яны бачыліся ўсяго адзін раз, ды і то здалёку, тады, як дэмабілізаваны салдат, яшчэ ў пагонах, праходзіў паўз іхні двор у сельсавет станавіцца на воінскі ўлік.

Цяпер яны стаялі адно насупраць аднаго, як спаложаныя. Асабліва была ўзрушана Таццяна. Пачырванелая, яна сціскала ў левай руцэ жмут пакручанай бялізны, а правую, з мокрым патанчэлым пранікам, тры-

мала за спіной. Падол чорнай Таццянінай спадніцы быў падаткнуты, і загарэлыя, як налітыя, дзявочыя ногі былі аголены вышэй каленак. Ад нечаканай сустрэчы дзяўчына, відаць, забылася апусціць падол, і калі нарэшце зразумела гэта — хутчэй за ўсё па Андрэевых вачах,— то яшчэ больш сумелася і хуценька адвярнулася, нібыта дзеля таго, каб пакласці на дошку бялізну. Андрэй таксама адступіўся на крок, лёгка, нібы красуючыся, пераскочыў цераз невялікую, але гразкую купіну і, абгінаючы ракітавы куст, што рос ледзь не з самай вады, узышоў на кладкі з другога канца.

— Здароў,— зухавата павітаўся Андрэй.

— Добры дзень,— ціха прагаварыла Таццяна.

— Колькі тут камаро-о-оў,— адразу ж за гэтым сказаў Андрэй.— І як ты яшчэ трываеш іх?

— Ці ж гэта многа? Вось каб ты пад самы вечар пастаяў!

— Трэба, каб хто-небудзь адганяў,— пажартаваў Андрэй.— Што ж гэта ты? Ці няма каму?

— Ды вось...— Таццяна нагнула галаву да левага пляча і ўздыхнула раптам з палёгкай, быццам ёй толькі што было даравана штосьці.

Тады Андрэй спытаў, але так, нібы між іншым:

— Што ж ты на танцы не ходзіш у клуб?

— А калі мне хадзіць,— як зазлавала дзяўчына.— На ферме занята ажно да цёмнага, пасля дома трэба памагаць. Добра, што яшчэ і так...— яна запнулася,— паспяваеш выспацца.

— Хто ж гэта спіць цяпер? Так і праспаць можна ўсё. У дзеўках астацца.

— Нічога, возьме хто-небудзь,— з неахвотаю, як пра нешта абрыдлае, сказала Таццяна.

Пастаялі, памаўчалі. І Андрэй зноў спытаў:

— А што ж не пісала?

— Не пісала, і ўсё! Ты адно прыслаў, і я адно напісала.

— Няўжо толькі адно прыслаў? — прытворна здзівіўся Андрэй.

Таццяна адмахнулася ад камара, што цаляў на шчаку, нагнулася і ўзяла ў рукі той самы жмут бялізны, які трымала перад гэтым, пачала раскручваць яго.

— Ну, хопіць,— сказала яна Андрэю,— пагаварылі і дос! А то не паспею памыць. Хутка вечарэць пачне. А там каровы прыйдуць.

Дзяўчына, мусіць, саромелася варушыць бялізну пры Андрэю, таму зноў выпрасталася, але ўжо нават не паглядзела на яго — позірк яе карых, трохі прыплюснутых, як у татаркі, вачэй сігануў ажно пад той бераг возера, дзе серабрылася маленькімі лускамі палоска ціхай вады: здавалася, што вада падсвечваецца з дна. Палоска была нешырокая, затое ляжала вялізнай падковай паўз самы бераг, агінаючы ледзь не паўвозера. Балотны сасновы лес, што падступаўся да берага, адбіваўся ў вадзе, перавернуты дагары, і над зубчатым карункам макавак стаяла тая ж нерухомая аблачынка, што і на небе, але ў вадзе яна была ажно жоўтая па краях, быццам толькі што пачала, як салома, дыміцца. Возера было спакойнае, не толькі без хваляў, але таксама без рабаціння, як і павінна быць у нявестраны дзень, і над ім, шмат у якіх месцах, таўклі мак камары, утвараючы жывыя слупы, што губляліся высока ўгары. Недзе з левага боку, непадалёку ад лазовых кустоў, паміж якімі бялелі шапкі вадзянога кропу, што густа парос на купіне, жыравала рыба-драбяза — адтуль даляталі ледзь чутныя ўсплёскі.

Таццяна стаяла на кладцы, унутрана ўся насцярожаная, але з выгляду нібыта абыякавая. І гэтая абыякавасць раптам не спадабалася Андрэю — ён падумаў, што Таццяна паводзіць сябе так наўмысна, каб абразіць яго. Андрэй таксама хацеў паказаць сябе — маўляў, і мы не лыкам шытыя, але не знайшоў слоў і тым жа шляхам, як узыходзіў на кладку, пачаў абыходзіць ракітавы куст, каб выбрацца на сухое. Калі ж хлопец неўзабаве апынуўся на сцежцы, якая вяла ад возера на дарогу, Таццяна неспадзявана гукнула:

— Куды гэта ты навастрыўся так?

Яна глядзела на Андрэя насмешлівымі вачамі.

— Таварыша трэба праведаць,— схлусіў Андрэй.— Разам служылі.— І, чамусьці ўзрадаваны сваім выдуманым адказам, прыспешыў крок.

Ужо на дарозе, пазарастанай травой — цяпер мала хто ездзіў па ёй,— Андрэй пачуў, як глуха, быццам з надрывам, ляснуў па дошцы пранік адзін раз, другі, трэці...

Да ракі, на якой была прыстань, Андрэй ішоў да самага вечара. Параход на прыстань прыплываў раніцай, амаль на світанні, і хлопцу не было чаго спяшацца. Праз усю дарогу настрой у яго быў добры. Асаблі-

ва здаволены Андрэй застаўся сваёй сустрэчай з Таццянай. Да гэтага Андрэю па прастаце хлапечай здавалася, што ў вёсцы, як ён прыедзе з арміі, дзяўчына будзе прыставаць да яго. Але абышлося нават без дакораў. Больш таго, Таццяна зрабіла выгляд, што паміж імі наогул нічога не было. І таму Андрэй, нібыта насуперак, спрабаваў уявіць сабе, як сустрэне яго Зося, як ён будзе хадзіць з ёй па Старой Рудні, а пасля абодва паедуць да ягонай маці, і ў вёсцы тады скажуць — Андрэй прывёз аднекуль пісаную прыгажуню.

* * *

На прыстані людзей было мала. Калі прыйшоў туды Андрэй, на беразе ракі, што плыла пад жалезабетонны мост, над якім узвышаліся нядаўна пафарбаваныя рашотчатыя фермы, сядзелі на дзвюх лаўках адны бабы, мусіць, з далёкіх вёсак. Вясковыя заўсёды заяўляюцца сюды яшчэ завідна, каб у цемнаце не збіваць ног: машыны к вечару перастаюць хадзіць па дарогах — не пад'едзеш.

Бабы адпачывалі на лаўках, занятыя гамонкай, і нават не паглядзелі, як падсеў да іх дэмабілізаваны салдат.

Андрэй хаця і не спяшаўся ў дарозе, але непрыкметна нават для самога сябе стаміўся і адчуў гэта толькі цяпер, як апынуўся на прыстані. Аказваецца, пятнаццаць кіламетраў — таксама дарога. Тым больш што сёння не трапілася спадарожная машына. Таму ён не стаў расхаджваць па прыстані, адразу ўгледзеў месца на лаўцы і сеў, выпрастаўшы ногі ў запыленых ботах, і расшпіліў гаплікі на каўняры салдацкага мундзіра.

А сонца ўжо садзілася. За ракою быў відзён сасновы лес, і яно спакваля апускалася на яго, займаючы агністым марывам і неба вакол сябе, і шапкі дрэў. Сонца выглядала цяжкім, быццам перагружаным.

Побач з прыстанню, можа, за паўсотню крокаў ад яе, быў стары парк, у якім апрача паўсыхалых яблыняў у алеях раслі ліпы і вязы. Адна алея, шырокая, з уходжанай дарожкай, цягнулася ўздоўж высокага берага ракі да самага моста, што злучаў у адно шашу і абедзве часткі райцэнтра.

Паступова Андрэева галава вызвалялася ад гара-

чай цяжкасці, якою напоўнілася ў дарозе, і ён неяк неўпрыкмет пачаў прыслухоўвацца, пра што гаварылася на лаўках. Проста словы самі западалі ў вушы.

На гэтай лаўцы, дзе сядзеў Андрэй, босая і яшчэ маладая жанчына, падобная на цыганку — твар драбнаваты і смуглы, вочы з бліскучай вільготнай чарнатой,— пыталася ў хмурай, трохі лупатай цёткі, якая чамусьці не паказвала свае рукі з-пад фартуха, павязанага на зялёным жакеце:

— А еты ваш... кажысь, Храмцоў? Ды ты яго, пэўня, ведаеш, адразу за школай жыве. Яшчэ і хата ў яго пяцісценка, помню. Мы ж раней да вас па соль хадзілі, калі магазіна свайго не было. Дык еты, кажуць, таксама вярнуўся пасля ізвяшчэння. Ці не ад самае фінскае нічога не падаваў аб сабе. Я неяк убачыла яго маладзіцу з малым да пытаюся ў людзей, чаму ета ў яе, можа, унук? Не, кажуць, свой. Тады і гавораць, муж абясціўся, прыйшоў. Во, бачыш.

— Ды ўжо ж,—ківала галавой суседка.— Храмцоў і праўды знайшоўся. Але дайжа не гаворыць, дзе быў. Усё глядзіць сабе пад ногі і не гаворыць. А людзі кажуць, што на валавяных рудніках за нейкую правіннасць. А Хванасчын, тэй дык недзе і прапаў. Цяпер й сын яе, у гадах хлопец быў, як паехаў тады на цаліну, дак таксама нячутна. Спярша Хванаска хадзіла ўсё, плакала, а я дак думаю — калі б што якое з ім выйшла там, дык ужо б даўно паведамілі. Сама міліцыя прыслала б.

— І я кажу. Не іголка. Але глядзі-тка, якая хаманея.

— А што ж Хванаска розыск не пасылае?

— А як ты яго пашлеш. Можа, хлопец дзе натварыў чаго, хаваецца, дак сама паможаш яшчэ. Тады не рада будзеш.

— Яно-то так...

Андрэю нецікава было слухаць, як жанчыны расказвалі адна адной пра вясковыя жахі, і ён праз нейкі час падняўся з лаўкі. Падышоў да ракі. Паўз ваду, можа, яшчэ ў самы дзень, прайшліся гусі, і на мокрым пяску засталіся лапчатыя сляды. На сцежцы, што спускалася з абрывістага берага насупраць парку, валялася пер'е.

Андрэй убачыў сцежку, узышоў па ёй на абрыў і глянуў наўкруг. Драўляны райцэнтр патанаў у зялё-

ным сутонні. Толькі па той бок ракі, дзе знаходзіліся раённыя ўстановы, узвышалася некалькі мураваных будынкаў, якія панавалі над усім, ды яшчэ царква, што стаяла, здаецца, пасярод зарослых могілак, кідалася ў вочы сваімі купаламі.

Можа, нават таму, што навокал было многа прастору, хлопцу раптам стала няўтульна, быццам чаго не хапала, і ён пачаў думаць аб тым, што аставацца на прыстані на ноч, магчыма, і не варта і ці не пашанцуе яшчэ сёння сесці на якую-небудзь баржу, што паплыве міма.

Сячнёў збег з крутагору, каб папытацца на прыстані ў дзяжурнага.

— Можа, што якое,— паморшчыўся ў адказ дзяжурны.

І Андрэю нічога больш не аставалася, як падацца зноў да лавак. За гэты час людзей там паболела — на траве-мураве стаялі чамаданы, хатылі, кошыкі. У адным кошыку сядзелі куры. Каля ног нейкага дзядзькі — круглатварага, з вялікім носам — ляжаў з высунутым языком жоўты сабака.

Андрэй падышоў блізка і пачуў, як чарнявая, падобная на цыганку жанчына сказала некаму:

— Ну чаго ты, дзеўка, будзеш тут нашы плёткі слухаць? Схадзіла б у кіно, ці што. Во ноч ета ўся наперадзе. А во і кавалер табе.— Яна павярнулася да Андрэя.— Яму таксама, бачу, няма куды падзець сябе. Дак, можа, яшчэ і жаніхом будзе.

На самым канцы лаўкі, мусіць, поплеч з гаспадаром сабакі, сядзела дзяўчына. Яна ўгледзела Андрэя і апусціла вочы. А чарнявая жанчына ўсё глядзела на малайцаватага дэмабілізаванага салдата, гарэзліва ўсміхалася, быццам паддавала яму рашучасці.

— А што, можа, і сапраўды пойдзем? — нарэшце не ўтрымаўся ад спакусы Андрэй.— Калі ў кіно не трапім, то на танцы пэўна ўжо.

Тады дзяўчына ажно сумелася. Але на дзіва згадзілася.

Кіно пускалі ў РДК. А дарогі туды было якраз столькі, каб не паспець разгаварыцца. Затое яны паспелі на апошні сеанс. Паказвалі «Несмяротны гарнізон». Андрэй гэты фільм бачыў адзін раз яшчэ да арміі, пасля глядзеў разы са два ў арміі.

Недзе на сярэдзіне сеанса ў зале раптам людзі за-

варушыліся, і тады Андрэй пачуў, як па даху зашумеў дождж (і адкуль яго так хутка нагнала!),— было такое ўражанне, быццам там, наверсе, нехта здзіраў бляху, якой быў пакрыты Дом культуры. А яшчэ хвілін праз колькі проста над дахам загрымеў гром і на галовы гледачоў пацурчала дажджавая вада. Дах працякаў толькі ў адным месцы — пасярэдзіне залы, таму людзі падняліся з тых месцаў і пасталі ля сцяны на праходзе.

Сеанс скончыўся, калі дождж перашчук. Ды ненадоўга. Не паспелі сысці з ганка апошнія гледачы, як з цёмнага неба зноў лінула. І ўсе пачалі разбягацца, хавацца — хто пад стрэхі, хто на ганкі дамоў. Андрэй са сваёй напарніцай таксама пабеглі ўздоўж вуліцы. Ім адразу пашанцавала. На ганку аднаго дома гарэў ліхтар, і яны кінуліся туды. Гэта была пошта — яны прачыталі гэта на шыльдзе, прыбітай над ганкам. Цяпер над імі ўжо нават не капала, але маланкі так няшчадна паласавалі ноч, разрываючы на шматкі цемнату, а ўдары грому так скаланалі зямлю, што ажно жахліва было стаяць на адкрытым месцы. Таму Андрэй намацаў клямку, і дзверы ад штуршка расчыніліся ледзь не напята. У калідорчыку стаяла ўздоўж сцяны лаўка, і Андрэй з дзяўчынай, узрадаваныя, селі.

— Ну вось, цяпер адсюль і да раніцы не выберашся,— сказаў Андрэй, выціраючы хустачкай твар.

Дзяўчына выціскала рукамі падол сваёй сукенкі — было чутна, як цурком лілася на падлогу выціснутая дажджавая вада. Андрэевы словы асталіся без адказу — нібыта дзяўчына прапусціла іх міма вушэй. Тады Андрэй спытаў:

— Вам не холадна?

— Не.

Але Андрэю здавалася, што дзяўчына дрыжыць уся. Ён памаўчаў і зноў спытаў далікатна:

— Вы няпраўду кажаце? Вам жа холадна!

— Трошкі,— нарэшце прызналася яна, але нібыта спалохалася нечага.— Не... Гэта таму, што адразу з душнага клуба. Зараз сагрэюся.

— Хочаце, я аддам вам свой мундзір? — сказаў Андрэй.

— Не, не трэба.

Андрэй не паслухаўся і, перш чым распрануць мундзір, пасунуўся бліжэй да дзяўчыны. Неўзабаве Анд-

рэева рука дакранулася да мокрай сукенкі, пад якой адчула гарачае цела. І адразу рука быццам прыкіпела, хлопец не адняў яе. К галаве раптам прыліла кроў, і Андрэй, здаецца сам таго не жадаючы, пачаў абдымаць дзяўчыну, адшукваючы яе твар. Але дзяўчына сабралася ўся ў адно і, пасля кароткага замяшання, адпіхнула са злосцю Андрэя, упёршыся рукамі ў яго грудзі. Андрэй адразу ачомаўся. Хацеў нешта сказаць, але дзяўчына адбеглася да дзвярэй і, адчыніўшы іх, скочыла ў навальнічную цемнату.

* * *

Параход, звычайны кацер-трамвайчык, адплываў ад прыстані ў тумане. Пасля нечаканай начной навальніцы з праліўным дажджом раптам аднекуль узяўся над ракой гэты туман — у ліпені такое здараецца рэдка, але сёння белае воблака вісела над вадой у рост чалавека. Рачны трамвайчык выступаў з яго толькі верхняй часткай, і пасажыры, якім не хапіла месца на лаўках, што стаялі на палубе, сабраліся ля парэнчаў і з дзіцячай цікаўнасцю глядзелі ўніз. Андрэй таксама стаяў ля борта.

Дзень займаўся сонечны — ужо на ўсходзе чыстае неба то патухала раптам, то загаралася зноў, быццам яго спяшаўся хто падпаліць там і не мог адразу.

Тое, што здарылася там, у калідорчыку на пошце, Андрэй помніў усё, а растлумачыць нават сабе свае паводзіны няздольны быў. Але ж Андрэй акрамя гэтага адчуваў яшчэ і віну, якая цяпер бянтэжыла яго: ён так і не пабег учора за дзяўчынай. Адно выйшаў на ганак. І на прыстань прыйшоў, калі навальніца аціхла і дождж перастаў. Праўда, ён усё ж пашукаў вачамі яе на прыстані, у маленькай і душнай чакальні, сярод спаўшых вясковых баб, якія палеглі хто дзе — адны проста на падлозе, на сваіх хатулях, другія на лаўках. Але дарэмна. Дзяўчыны, здаецца, не было ў чакальні. І ад гэтага па Андрэевай спіне прабег ажно халадок. Спакой да хлопца прыйшоў толькі незадоўга да першага гудка на рацэ. Па прыстані тады ўжо хадзілі людзі, і на мокрых лаўках, што на беразе ракі, сядзелі тыя ж самыя жанчыны і той жа вясковы дзядзька з сабакам. Была з імі і яна.

На параход грузіліся гамузам, быццам людзі бая-

ліся, што той не забярэ ўсіх. Андрэй нават не паспеў прыкмеціць, дзе размясціліся яго знаёмыя.

Чым далей параход адплываў ад райцэнтра, тым радзейшы станавіўся туман. І неўзабаве, як толькі асталіся ззаду паплавы, а раку сціснулі паміж сабой падмытыя абрывістыя берагі, туману зусім не стала. Пасля навальніцы вада была ажно мутная. На хвалях, што разыходзіліся ад бартоў, гойдалася пасушаная трава — мусіць, недзе ўначы пазносіла вадой копы.

Нарэшце Андрэй адступіўся ад парэнчаў, пачаў патрохі аглядацца. Дзядзьку з сабакам ён пазнаў адразу. Пасля заўважыў і тую цыганаватую жанчыну, якая ўчора падбіла Андрэя пайсці ў кіно. Жанчына сядзела на нейкай скрыні, падобнай на куфар, грэлася на сонцы.

— А-а, зяцёк! — заварушылася яна, як падышоў Андрэй.— Што ж ета ты не ўтрымаў нявесту? А я падумала — сваццёй буду.

Жанчына пасунулася на скрыні, паказала рукой на пустое месца:

— Садзіся, зяцёк.

Андрэй сеў.

— Але ж нявеста чамусьці ўчора адна прыбегла.— Жанчына глядзела на Андрэя і смяялася яму ў вочы.— Да ў самы дождж. Да адна. Няўжо так скора да етага дайшло там?

Тады Андрэй спытаў, чырванеючы:

— Дзе гэта яна?

— Во, і етага не знаеш! Куды ж ты глядзеў? А мы яе прапілі. Адразу ўранні. Пасватаўся другі, ну, і прапілі.

Андрэй бачыў, што жанчына жартуе.

— Але ж дзіўна вы яе прапілі. Нават угледзець ніхто не паспеў.

— Каму цікава было, той паспеў.

— Павязло, значыць, дзеўцы,— сказаў Андрэй і прытворна ўздыхнуў.

— Уздыхай не ўздыхай, а песня спета. Было не зявацъ.

— Значыць, не мой лёс.

— Значыць, не твой.

Жанчына засмяялася і пачала супакойваць Андрэя:

— Да ты не вешай галавы, салдат! Яшчэ ўсё мож-

на паправіць. Яснае дзела, калі ты сам захочаш етага і наша дзеўка табе люба-дорага. Дак я парадую ўжо цябе. Не прапівалі мы яе. Не прапівалі. Падумалі, што ёй лепей падыходзіш ты. А той... Той і пачакаць можа.— Яна хітра паглядзела на хлопца, пакруціла галавой.— А сам нябось адрас у кішэні маеш?

— Чый? — не зразумеў Андрэй.

— Яснае дзела, Люсін.

Тады Андрэй сказаў, што яны не паспелі пазнаёміцца і ён ажно да гэтай хвіліны не ведаў яе імя.

— Што ж,— пацiснула плячамі жанчына і зрабіла посны твар.— Значыць, і папраўдзе твае дзялы дрэнь. Але як будзеш паважаць мяне за сваццю, дык ужо скажу, выдам сакрэт. Завуць яе Люся, а прозвішча Губская. Робіць на швейнай фабрыцы. У горадзе. Гэта блізка. Таму яна часта і прыязджае да бацькоў. А сёння паехала ў горад. Заступаць у змену. Пабыла з намі на прыстані ноч і пайшла на аўтобус. Яшчэ да парахода етага. А ты і не заўважыў. Э-э-эх, а яшчэ кавалер. Ну, дык як яно? Праўда, што Люся не дала адраса?

— Як на духу праўда.

— Дык, можа, даць?

— Не.

— Чаму ета?

— Ды так вось...— Андрэй развёў рукамі.— Свая ёсць... нявеста. Еду вось.

Жанчына недаверліва скасіла на Андрэя вочы.

— Ага,— пачала яна, нібыта пагражаючы,— дак ты ета марочыў галаву і Люсі і мне? А я-то думала, словы дарэмна траціла, угаварвала. Думала, на вяселлі чарку вып'ю.

— Нічога, на Люсіным вяселлі вы яшчэ вып'еце,— супакоіў Андрэй жанчыну, стрымліваючы сябе, каб не засмяяцца.— Калі, вядома, будзеце гэтаксама старацца, як і цяпер. Дзяўчына яна прыгожая, хлопцы знойдуцца.

— А ты адмаўляешся?

— І рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць.

— Паспеў ужо награшыць?

Нарэшце абодвум — і Андрэю і жанчыне — надакучыла блазнаваць, і тая сказала ўжо зусім сур'ёзна, патушыўшы гарэзлівыя агеньчыкі ў вачах:

— Ну, а куды, салдат, едзеш, калі не сакрэт? Мы, бабы, любапытныя. Нас ета хлебам не кармі, а дай...

Адным словам, пажывеш з бабай, будзеш сам ведаць. Далёка едзеш?

— У Старую Рудню. Гэта за...

— Знаю. Нам жа па дарозе.— Яна зноў стала жвавай, і зноў у вачах яе заскакалі чорцікі: далібог, яе бабка, мусіць, усё ж была цыганкай! — Не, цяпер ад мяне ты нікуды не дзенешся. Чарку абавязкова паднясеш на вяселлі. Значыць, у Старую Рудню. А да каго ж тама?

Андрэй сказаў.

— Гэта да якіх Захарошавых? — не зразумела жанчына.

— Ну, што дачка ў іх Зося,— пачырванеў Андрэй.

— А-а-а,— у голасе жанчыны пачулася расчараванне,— дык і ты туды? Тожа мне галава! Знайшоў сякеру пад лаўкай. І доўга ты шукаў?

— Ды так... доўга.

— І дарэмна! — Жанчына даверліва паклала руку на Андрэева калена.— Ты ета паслухай, салдат. Там ужо колькі перабыло тых жаніхоў! Люся Губская ўсё ж лепей за Зосю. Ета табе кожны ў Рудні скажа. Пакуль не позна — павяртай аглоблі на другі двор. Дак яшчэ і сваццёй буду. І не адной сваццёй, а і раднёй. Ета ж мая пляменніца, Люся.

На Андрэевым твары з'явілася кплівая ўсмешка.

— А я гляджу, чаму вы расхвальваеце яе!

— Бо хвалю свой тавар. І не які-небудзь, а як мае быць, з кораня. А ты пра Зосю. Да яна не паспявае нават аблізвацца, як тая...

Андрэй ажно сцепануўся і не знайшоўся, што адказаць.

«Чаму яна такая?» — падумаў Андрэй пра жанчыну. Ён ужо хацеў падняцца ды адысці, каб не пачуць што-небудзь яшчэ больш брыдкае, але нечакана да іх падышоў дзядзька з сабакам. Сабака высунуўся наперад і ўтаропіў чырвоныя вочы ў чалавека ў салдацкай форме. На палубе ўжо было горача — сонца паднялося, і сабака ўвесь хадзіў ходырам, хаўкаючы абвіслай зяпай, з якой вытыркаўся мокры, быццам крывавы язык.

— Ну, дзеўка,— сказаў дзядзька, звяртаючыся да жанчыны,— хутка і наша прыстань. Нават сабака чуе, што блізка дом, не хоча ляжаць.

— А я тута сватаю салдата,— сказала жанчына.

Дзядзька з усмешкай спытаў:

— Да каго ж, да сябе?

— Дзе там ужо! — Жанчына махнула рукой і, як ад нечага непрыемнага, паморшчыла твар.— Да Люсі нашай.

— Ну, а жаніх, што жаніх?

— А ён да Зосі Захарошавай едзе.

— Што ж, Кузьма Захарошаў добры гаспадар,— паважна сказаў дзядзька, мусіць, адабраючы Андрэеў намер.— Не благі будзе цесць. Да і нявеста дзеўка, здаецца, нічога. Прыглянецца хоць каму.

— Дак і я яму пра ета! — усклікнула жанчына.

* * *

У Старую Рудню Андрэя прывёў Рыгор Заляпей — так звалі дзядзьку з сабакам. Жанчына з цыганскім тварам жыла ў пасёлку, што знаходзіўся за паўкіламетра ад вёскі, і ім было не па дарозе ад самай ракі, дзе стаяў дэбаркадэр. Андрэя нават узрадавала гэта — ужо не трэба будзе стрымліваць сябе, бо пасля таго як жанчына нядобра загаварыла пра Зосю, у хлапцовай душы з'явілася непрыязнае адчуванне, якое паступова перайшло ледзь не ў зацятую злосць.

Вёска Старая Рудня была вялікая, здаецца, двароў на чатырыста без малага, і ўся яна ляжала на трох узгорках, аперазаных павысыханымі рэчышчамі. Тольні па адным яшчэ цёк ручай, зарослы дзе сітняком, дзе аерам, а дзе проста асакой. Цераз гэтае рэчышча быў перакінуты драўляны мост, і пад ім стаяла вялікая лужына, па якой плавала качынае і курынае пер'е.

Хаты ў вёсцы былі неаднолькавыя — адны яшчэ новыя, часам нават пад чарапіцай, як на поўдні, а то больш пад шыферам, з ліштвой на аканіцах, з варотамі ў двор, другія, наадварот, зусім несамавітыя — і гэтых болей — пад саламянымі стрэхамі, якія параслі мохам і дзе-нідзе паправальваліся ўжо, з адкрытымі для ўсіх вятроў падворкамі.

— Дак яно ж як бывае,— сказаў на гэта Рыгор,— калі ў дома гаспадар не гультай, то й хата будзе і прыбудовы. А калі адна баба... Які тады з бабы спрос? І на гаспадарку не ўзаб'ецца, і ў жыцці не папнецца.

Над хатаю Кузьмы Захарошава ўзвышаўся грэбень тэлевізійнай антэны.

— А ета Кузьмова...— паказаў, як на сваю, Рыгор.— І цілівізір у яго.— Ён яшчэ колькі крокаў прайшоў з Андрэем.— Ну, а цяпер ідзі,— нарэшце сказаў, быццам пасылаючы на подзвіг.

Хата Захарошавых, пяцісценная, стаяла як наводшыбе, вокнамі глядзела на калгасны сад, што пачынаўся за вясковымі праслами, а тынам, які абкружаў увесь шырокі двор разам з пуняй і свірнам, была адгароджана ад таго самага рэчышча, на дне якога ў зараснíках хаваўся ручай.

Праз фортку Андрэй узышоў на двор і, ледзь не задыхаючыся ад хвалявання, якое апанавала яго, ступіў на высокі, пакусаны свіннямі ганак. Ён ужо ўзяўся быў за клямку дзвярэй, каб трапіць у сенцы і там пастукацца ў хату, але нехта паклікаў:

— Гэй, салдат!

Андрэй крута, па вайсковай звычцы, павярнуў галаву. З-пад павеці, пад якой стаялі калёсы з паднятай на дузе аглобляй, выходзіў Зосін бацька — хударлявы, у мокрай ад поту сацінавай кашулі, якая была расхрыстана на грудзях і звісала паверх падсуканых штаноў. Андрэй паспеў разгледзець і твар, і густыя, яшчэ чорныя бровы над дапытлівымі, ажно ўедлівымі вачамі, гарбаты нос, шчокі трохі ўпалыя, але са здаровай загарэлай скурай.

— У хаце нікога няма,— сказаў нарэшце Зосін бацька і наблізіўся да ганка, на якім усё яшчэ стаяў у нерашучасці дэмабілізаваны салдат.— Вам каго? — спытаў гаспадар досыць ветліва, нават трохі лісліва — прынамсі, так здалося Сячнёву.

— Я... разумееце... Я...— пачаў нясмела Андрэй.— Я Андрэй Сячнёў.

— Ы-гы,— чамусьці ў нос, глуха і быццам нездаволена сказаў Захарошаў і кіўнуў галавой; пастаяў, як у нерашучасці, пацёр далонню левую шчаку, выскаляючы да самых кутнікаў зубы.

— Але,— дадумаў нешта да канца Зосін бацька,— а Зосі якраз няма дома. Паехала ў раён. Трэба нейкія кніжкі палучыць там. Яна цяпер заадно і ў бібліятэцы і ў хаце-чытальні. Ну, раз ужо так выйшла, то зразумела... Зося недзе хутка вернецца.

— Нічога, я пачакаю,— ступіў Андрэй з ганка.

— Але ж мне самому на стайню трэба,— сказаў Захарошаў,— падушку памяняць на калёсах. Тая з'ез-

дзілася, воз куляецца, а цяпер якраз сена возяць. Дак брыгадзір нарад даў. Нават з брыгады зняў. Мы цяпер кароўнік будуем у Альхоўні.— І, нібы перапрашаючы, дадаў: — Урэшце, я таксама не забаўлюся. Толькі і дзела таго, што паставіць замест старой падушкі новую. А там і гаспадыня мая недзе з гародаў прыйдзе. Так што, глядзіце самі.

— Мне таксама трэба да знаёмых схадзіць.

Стрыечны Зосін брат, з якім Андрэй служыў у арміі і які, уласна, больш за ўсіх вінаваты быў у тым, што Андрэй апынуўся ў гэтай вёсцы, прасіў наведаць заадно і ягоную цётку. Цётка жыла адна, была ўжо, як кажуць, у глыбокай старасці, і Іван, які жыў да арміі з бацькамі ў райцэнтры, часта прыязджаў да яе ў Старую Рудню, заўсёды прападаў па цэламу лету ў вёсцы. Андрэй, вядома, не мог адмовіць сябру яшчэ тады, а цяпер, калі ўсё роўна трэба было чакаць, пакуль вернецца з райцэнтра Зося, гэта раптам ратавала нейкім чынам.

Старая жанчына, падслепаватая і згорбленая, была вельмі рада саслужыўцу свайго пляменніка.

— Ну як жа ён там? — спытала яна перш за ўсё.

— Служыць,— адказаў Андрэй.

— Не хварэе?

— Не.

Старая пажавала губамі.

— А ці добра вас там кормяць?

— Хапае,— адказаў Андрэй.— Цяпер нават кампот і масла даюць.

— Ну, кампот дак ета не наяда. Я во, бывае, цэлую каструлю накіпячу яго, балазе, што яблыкі свае, а масла... Ну, масла есць можна, каб яго толькі паболей давалі.

Старая паўглядалася ў Андрэя і нечакана сказала:

— А нешта ж ты ўсё роўна худы, хлопец.

Андрэй расплыўся ў спагадлівай усмешцы:

— Да арміі быў худзейшы. Там яшчэ адкармілі.

— Не, хлопец,— не паверыла старая.— Худы ты. Можа, і Іван такі? — занепакоілася яна.

Андрэй паціснуў плячамі.

— Ладна,— сказала старая,— што ўжо гаварыць! Во зараз пойдзем у хату. Ужо бацьві-і-іння, пэўня, уварылася. Будзем есці. Там і раска-а-жаш. Я та-

бе і гарэлкі наллю. А ты мне за ета пісьмо напішаш. Івану трэба паслаць.

— Але я хацеў бы перш вады, каб памыцца.

— Тады бяры вядро. Вунь, на жлукце стаіць, ля сцяны. А калодзісь вэ-э-энь, адразу за гародам. Толькі глядзі ўжо, не ўпусці там вядра.

Андрэй схадзіў да калодзежа-жураўля, разагнаў там нечых качак, што паласкалі свае шырокія дзюбы ў вадзе, якая сцякала крокі за тры ў ямку, прынёс на выцягнутай руцэ вядро, поўнае вады, раздзеўся да пояса і пачаў умывацца. Вада была халодная, але маладое цела прымала яе без дрыжыкаў, толькі спярша, калі Андрэй лінуў на спіну з кружкі, захаланула было ў грудзях і падвяло пусты жывот. Мыўся Андрэй доўга, зацята, адчуваючы ў гэтым вялікае задавальненне. Вада пырскала ва ўсе бакі, трапляла на запыленыя боты, на галіфэ — сонца ўсё высушыць! Нарэшце Андрэй павесіў на калок кружку і яшчэ да таго, як пачаць выцірацца рушнікам, які вынесла з хаты старая, ціха засмяяўся, як шчаслівы.

Над падворкам вісела цёмна-блакітнае неба, а на гародзе, што быў за хатай, цвіў жоўта-белым цветам прывялы бульбоўнік. Пад праслам, у дзядах, капашыліся ў пяску куры. Над галавой гулі пчолы — у іх была тут дарога, па якой яны лятаді з вулляў на грэцкае поле.

Андрэй нацешыўся харaствам летняга дня, аднёс і паставіў на ранейшае месца вядро — вады ў ім было яшчэ больш, чым напалавіну, пасля пачаў нацягваць на сябе майку, на якую таксама пырскала вада.

Ад гарэлкі Андрэй у хаце адмовіўся. Старой гэта спадабалася — цалей будзе. Яна заткнула пакуллем бутэльку і паставіла яе ў кут пад бажніцай.

Бацвінне яны елі разам — з адной глінянай міскі самаробнымі драўлянымі лыжкамі; сцішаная, старая сядзела па той бок стала, што быў ад сцяны, сёрбала быццам з неахвотаю, як за кампанію, цёплае і не надта смачнае варыва. Але пад канец спытала:

— Ты ета сам не п'еш ці, можа, па хваробе якой?

Андрэй паклаў на пашкрэбаны стол лыжку, усміхнуўся:

— Проста мне яшчэ патрэбна зайсці тут...

— Да каго ж?

— Ды так... да адных тут...— Андрэй раптам заса-

ромеўся і не сказаў старой праўды, адчуваючы ў душы таксама нейкую боязь, можа, нават таму, што сёння ён ужо быў пахваліўся гэтак і, аказалася, на сваю галаву.

* * *

Па Андрэя да Іванавай цёткі прыйшла сама Зося — калі расказаў бацька, дзяўчына здагадалася, куды той пайшоў. Тым часам ужо было далёка за поўдзень. Сонца нахілілася, і на зямлі пачалі даўжэць цені.

Яны як бы нясмела падалі адзін аднаму рукі.

— Прыехаў,— сказала Зося.

— А ты не чакала?

Дзяўчына пацiснула адным плечыкам, зрабіўшы недаўменны выраз на твары. Тады Андрэй сказаў, супакойваючы яе:

— Я ж пісаў табе... і ў апошнім пісьме таксама.

— Ці мала каму хто і пра што піша,— раптам сказала Зося.— Абяцанкі-цацанкі, а...— але яна не сказала «дурню», падабрала замест гэтага слова іншае, як ёй здавалася, бяскрыўднае,— а некаму радасць!

Але Андрэй усё ж адчуў крыўднае для сябе ў Зосіным адказе — была ў ім нейкая, можа, нават знарочыстая абыякавасць, быццам і сапраўды нічога не значыў ягоны прыезд. Хлопец яшчэ глядзеў на Зосю як у захапленні, а галаву ўжо засціў патрохі гарачы туман, які бывае звычайна ад разгубленасці. Зося стаяла зусім блізка, можа, крокі за два, і выгляд у яе быў чамусьці як насцярожаны. Была яна, на здзіўленне, не падобная на тую Зосю, да якой прывык хлопец на фотакартцы. Тая была з мілай усмешкай, што выпраменьвалася з вачэй і вабіла сваёй мяккасцю, у тае была таксама прыгожая каса, якая ляжала на высокіх грудзях. А гэта стаяла перад ім без касы — была пастрыжана пад хлопца, як гэта робяць цяпер гарадскія дзяўчаты, а ў вачах замест ранейшай усмешкі застыў нібыта недавер.

— Дзе ж твая каса? — спытаў, перасільваючы сябе, Андрэй.

— А хто цяпер косы носіць? — Зося ўскінула галаву, быццам збіралася бараніцца.

— З касою было прыгожа,— сказаў Андрэй.

— Ну, гэта як каму,— спакойна, невыразным гола-

сам адказала Зося і сашчапіла перад сабой рукі, хруснуўшы пальцамі.— Але ж хадзем да нас. Бацька казаў, каб я прывяла цябе.— І гэта яна гаварыла такім тонам, быццам сапраўды выконвала бацькава даручэнне.

Па дарозе яны адчувалі няпэўнасць паміж сабой і гаварылі больш пра Зосінага стрыечнага брата, Івана. Здавалася, Зосю больш нішто не цікавіла. І Андрэй з ахвотаю расказваў пра свайго сябра, пра хлопцаў, з якімі служыў, адчуваючы заспакоенасць і задаволенасць у тым, што нібыта перажываў усё нанава.

Зосін бацька сустрэў Андрэя ў новай кашулі, зашпіленай на ўсе гузікі, і ў хромавых ботах ■ аддудуранымі халявамі — мусіць, ён толькі што вярнуўся з крамы, бо на стале ў пярэднім пакоі стаяла бутэлька маскоўскай гарэлкі з зялёнай, пэўна мясцовага спіртзавода, наклейкай і дзве бляшанкі рыбных кансерваў. У хаце знаходзілася і Зосіна маці, ужо састарэлая жанчына, якая адразу падхапілася з крэсла, што стаяла каля сярэдняй сцяны, і першая прывіталася.

— Добры дзень,— сказала яна мяккім голасам, а сама акінула вачамі госця, спыніўшыся даўжэй за ўсё на твары, і, здаволеная, раптам сумелася, быццам толькі цяпер адчула, што рабіла гэта надта адкрыта; жанчына пабыла яшчэ трохі ў хаце, затым выйшла з заклапочаным тварам у сенцы.

— Ну, давайце знаёміцца,— падаў руку і Зосін бацька.— Дазвольце даведацца, як мне зваць-велічаць вас?

— Андрэем,— пачырванеў Андрэй.

— Ну, а мяне тады Кузьмом,— і не ўтрымаўся, дадаў: — Прахвіравічам. — Усміхнуўся. — Бацьку етак звалі. Мы, брат, старамодныя, не тое што...— Але не сказаў, што меў на ўвазе.— Але ж хадземце ў тую хату. Тут і без нас ужо ведаюць, што рабіць.— Ён далікатна падштурхнуў госця да дзвярэй-філёнак і прапусціў у другі пакой — вялікі, поўны святла і з густам прыбраны.— Во-о-ось, пасядзім тут, пакуль што да чаго, пагаворым.

Кузьма памацаў рукой на шафе, дастаў шкляную попельніцу, падобную на рыбіну, і паставіў на стол перад Андрэем:

— Можаце курыць.

Але Андрэю курыць не хацелася.

— Дзе вы служылі? — пацікавіўся Зосін бацька.

— У Малдавіі,— адказаў Андрэй.

— Цёплая краіна,— сказаў на гэта Зосін бацька.

— Але, горача там,— згадзіўся Андрэй.

— А ў якім родзе войск, калі не сакрэт? — не пераставаў дапытвацца Зосін бацька.

— У артылерыі,— адказаў Андрэй.

Гаспадар пакруціў галавой, паморшчыўся.

— А ета ў нас, у калгасе, не лічыцца нават за прафесію. Вось каб хаця танкіст, то адразу можна на трактар. А артылерыст...

— Дык я, уласна, не самы артылерыст. Я толькі служыў у артылерыі, а быў там вадзіцелем артылерыйскага цягача.

— Ну, ета ўжо, бадай, тое, што трэба. І пасведчанне ёсць?

— Маю.

— Значыць, цябе ўсюды з рукамі адарвуць.

У пярэднім пакоі жанчыны — маці з Зосяй — ляскалі посудам. Зося нават колькі разоў заходзіла і ў гэты пакой, дзе размаўлялі мужчыны, брала за шырмай то рушнік, то абрус. І кожны раз, як яна праходзіла ад парога да шырмы і назад, Андрэй паспяваў непрыкметна кінуць свой зацікаўлены позірк, у якім староннияму чалавеку можна было заўважыць штосьці падобнае на пажадлівасць. Зося цяпер ужо была як перайначаная, мела вясёлы выгляд, здаецца, ажно свяцілася, быццам ёй расказвала маці на той палавіне штосьці надзвычай прыемнае. Паступова Андрэй пачаў лавіць сябе на тым, што ўвесь час неадольна думае пра адну Зосю і што яна сапраўды вельмі прыгожая, нават гэтая яе хлапцоўская прычоска падабалася больш, чым тая каса, яна рабіла дзяўчыну падобнай на студэнтку, якая прыехала да бацькоў на канікулы.

Нарэшце Зосін бацька запрасіў госця зноў у пярэдні пакой, да стала. Там ужо ўсё гатова было — і выпіўка і закуска. За стол усе садзіліся чынна, як стараверы, ажно Зося, якая адчула гэта, ледзь не пырснула ад смеху, але бацька перахапіў яе ўсмешлівы позірк, нахмурыў лоб.

Жанчыны амаль не пілі — адно прыгубілі чырвонага віна з маленькіх шкляных чарак. Ім чамусьці не сядзелася за сталом. Спярша выйшла гаспадыня, за ёй

Зося. Затое гаспадар з Андрэем выпівалі спаважна і, як кажуць, грунтоўна: спачатку па адной — за знаёмства, затым па другой — ужо дзеля бяседы, каб ішлацякла, пасля па трэцяй — за Андрэеву маці, няхай дае ёй гасподзь здароўя... Нарэшце гаспадар, які, здаецца, ніколечкі не п'янеў, адсунуў сваю шклянку — маўляў, пагрaшылі трохі, цяпер за справу.

— Ну, а к нам чаго... прыехаў? — спытаўся ён без хітрыкаў.

Андрэй таксама ўжо быў у такім стане, калі прытварацца не было чаго. Сказаў:

— Хачу пасватацца да Зосі.

— Ета дзела пахвальнае,— заківаў галавой гаспадар.— Толькі чаму адзін прыехаў? Раз ужо рашыў пасватацца, дак сватоў трэба засылаць адразу. Як у людзей.

— Трэба ж было перш з Зосяй... я так думаў.

— Значыць, праведаць прыехаў? Ну што ж, ета таксама дзела пахвальнае. Паглядзі, пагавары, а я са свайго боку таксама скажу. Ты мне падабаешся. Я ета табе адразу гавару. Чаго нам таіцца? І сабой ты нічога, хоць яно і не мне з табой мілавацца, а тое, што ўмееш баранку круціць, таксама добра. Адным словам, нам ты падыходзіш. Але павінен табе сказаць адразу — калі што, дак жыць будзеш тут, у Рудні, вось у етай хаце.

— Але ж у мяне там, у Валаськоўні, хворая маці!..

— А ў нас тут дачка. Разумееш, адзіная! І мы са старой не збіраемся адсылаць яе ад сябе. Няхай будзе яе шчасце на нашых вачах. У нас у хаце ўсяго хапае. І калгас добры, і вёска неблагая. Я табе магу пасаг паказаць хоць зараз. Так што рашай.

— Але як Зося? Сама? — падняў галаву Андрэй.

— А Зося і сабе і нам не вораг. Яна таксама ведае, дзе яе шчасце.

— Але ж я з ёй пагавару,— упарта сказаў Андрэй.

— Можаш гаварыць, але не спадзявайся. Ета я табе точна кажу. Ну што ў вас там, у Валаськоўні, гаспадарка, ці што?

— Тады, можа, матку перавезці сюды і наогул пераехаць?

— І етага не раю рабіць.

«Чаму гэта ён так?» — сцяўшы зубы, падумаў Андрэй; хмель, што закружыў яшчэ пасля другой шклян-

кі галаву і зрабіў цяжкім цела, стаў раптам хутка вытыхацца, а Андрэй нечакана стаў цверазець; гаспадар нібы адчуў гэта і ўзяўся за бутэльку.

— А-а-а, што тут доўга гаварыць,— сказаў ледзь не плаксівым голасам Зосін бацька.— Мы, старыя, ужо трохі пажылі,— пры гэтым ён меў на ўвазе, вядома, не сябе, а толькі адну Андрэеву маці.— Цяпер вам трэба жыць. А мы ўжо будзем глядзець, каб не перашкаджаць вам. Жывіце сабе ды радуйцеся.

Андрэй са злосцю і тугой глянуў на Кузьму Захарошава і апусціў галаву.

* * *

Уночы Андрэя разбудзілі пеўні. Ён павярнуўся на бок і паглядзеў на свой ручны гадзіннік з фасфарычнымі стрэлкамі — было недзе каля трэцяй гадзіны. «Мусіць, гэта ўжо трэція»,— падумаў Андрэй пра пеўняў.

Вокны ў пакоі, дзе гаспадары палажылі спаць Андрэя, былі расчынены, і галасы пеўняў далятаді ледзь не з усяе вёскі. Пачынаў, здаецца, Захарошавых певень. Крычаў «ку-ка-рэку» і хлопаў крыламі — «хлоп-хлоп-хлоп». А тады ўжо, быццам спахапіўшыся, крычалі пеўні на астатніх дварах.

Некалі Андрэй сам мог паддурваць валаськоўскіх пеўняў — акурат падладжваўся пад іхняе ку-ка-рэку і ляпаў сябе далонямі, як крыламі, па грудзях. Але ішлі на яго падман звычайна тыя пеўні, што былі на канцавых дварах: спрасонку ім цяжка было на вялікай адлегласці здагадацца, што гэта недзе жартуе чалавек.

Цяпер Андрэй слухаў пеўняў у Старой Рудні і амаль з жахам думаў пра сябе, пра Зосю, пра яе бацькоў.

З самім гаспадаром ён, здаецца, усё ж пасварыўся за сталом.

Пагаварыў ён учора і з Зосяй. Яна паслала яму на ложку і трохі затрымалася ў гэтым пакоі. Тады Андрэй і загаварыў з ёй.

— Праўду ён табе казаў,— заступілася Зося за бацьку.— Можа, ты думаеш, што я не выйшла б да

гэтага замуж? — нібы з дакорам спытала яна і засмялася пустым смехам.

Андрэй паклікаў яе, узяў за руку. Зося паддалася спярша, пасля спахапілася, вырвала сваю руку.

— Вось распішамся, тады і будзем хадзіць,— сказала Зося.

«Мусіць, праўду гаварыла пра яе тая жанчына на параходзе»,— нядобра падумаў Андрэй і, стыдаючыся сваёй думкі, стаў увесь гарачы.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

А ў начной цемнаце, якая пачынала радчэць — патрохі бралася на ранне, голасна спявалі пеўні. Ужо трэція.

## Цар і мой прашчур

У Горках, невялікім драўляным мястэчку, што тулілася паміж лясоў на берагах Капылкі, Проні і Парасіцы, гулі царкоўныя званы. Людскі натоўп, як кажуць, валам валіў па самай шырокай вуліцы на ўскраіну мястэчка, дзе ўзвышаліся блакітныя купалы святога Георгія. Сёння на малебне меўся прысутнічаць рускі цар Пётр. Учора ён прыехаў у мястэчка і адразу ж пажадаў бачыць айца Васілія.

— Вось што, голубе,— сказаў цар,— мы тут нядаўна разгавеліся былі, дык час ужо і грахі замаліць. Заўтра адпачнеш ад службы. Сам буду чытаць «Апостала».

Айцец Васілій, які першы раз на сваім жыцці бачыў жывога цара наогул і не ведаў аб набожнасці гэтага, быў збянтэжаны. Вядома, ён адразу расказаў аб сваёй размове з царом матухне Парасцы. Тая пляснула рукамі, завохкала і пабегла да суседкі, жонкі прыстава.

К раніцы вестка абляцела ўсё мястэчка.

— Кажуць, у яго чатыры нагі і чатыры рукі,— палохаў местачкоўцаў на царкоўным цвінтары вядомы ўсім Горкам гарбаты жабрак Ладымер.

Абапіраючыся на кій, ён не зводзіў вачэй з вуліцы, адкуль вось-вось павінен быў паявіцца цар.

«Не можа ж такі багаты чалавек прайсці міма, каб не кінуць у руку яфімку»,— думаў сабе жабрак.

Тым часам у натоўпе ля царквы гаварылі пра вайну, што пачалася з каралём Карлам, і пра тое, што ў рускім табары ўжо выстрайваліся пешыя і конныя царовы палкі.

Але дарэмна жабрак спадзяваўся. Цар пад'ехаў да царквы з другога боку, зусім не па той вуліцы, і непрыкметна прайшоў за алтар. Жабрак здагадаўся пра гэта толькі тады, як людзі сталі заходзіць у сярэдзіну царквы.

З адчыненых дзвярэй пачуўся голас цара. Гэта Пётр выйшаў на клірас і пачаў чытаць тэксты з «Апостала». Браць удзел у малебнах было яго звычкай. У Троіцкую царкву, што непадалёку ад Сената, ён, напрыклад, прыязджае звычайна са сваімі прыдворнымі пеўчымі і становіцца з імі на правым клірасе.

Але Горкі не царская сталіца на Няве. Тут усё было па-іншаму. Нават у вачах людзей заўважалася не столькі ціхая пакорлівасць, якая павінна выклікацца знаходжаннем у святым месцы, колькі простая зацікаўленасць асобай цара. Не тоячыся, прысутныя пазіралі яму проста ў рот, і толькі самыя набожныя асянялі сябе «крестным знамением».

Малебен ішоў у гонар рускай зброі. Хоць сёлета яшчэ і не было дасягнута колькі-небудзь прыкметнай перамогі над шведамі, наадварот, пад Галоўчынам, што паміж Магілёвам і мястэчкам Бялынічы, царовы палкі пацярпелі паражэнне, але сіплаваты голас гасудара ўсяе Русі не скупіўся рассыпаць пахвалу свайму воінству.

Перад тым як пайсці ў царкву на малебен, Пётр Аляксеевіч пазнаёміўся з рашэннем ваеннага савета: «Паколькі непрыяцель маршыруе к Магілёву, а гэтае месца падрыхтаваць да асады цяжка, то прыгаворана: перабрацца на другі бок Дняпра, стаць усёй кавалерыі і коннай пяхоце ад Шклова да Магілёва, сачыць за варожымі абаротамі і куды паверне — к Смаленску ці на Украіну — старацца папярэдзіць».

Савет адбыўся ў Шклове і ці не ўпершыню за колькі год прайшоў без удзелу цара: Пётр у той час святкаваў у Пскове свой дзень нараджэння.

Сёння Пётр Аляксеевіч збіраўся пакінуць Горкі, на якія ён не паспеў як след паглядзець, каб наведаць

стаяўшы пад Дрыбінам Праабражэнскі полк. А перад тым было запланавана аб'ехаць таксама войскі, што размешчаны ў ваколіцах Горак. Ноччу сюды падышла дывізія генерал-паручніка Аларта. З пісем Шарамецева і Меншыкава Пётр ужо ведаў, што палкі Аларта ўдзельнічалі ў галоўчынскім баі. А бой гэты не выходзіў з галавы цара. У данясеннях военачальнікаў нічога адметнага не гаварылася аб ім, таму аб прычынах няўдачы цяжка было меркаваць пакуль. У тым жа, што пад Галоўчынам не ўсё адбывалася так, як пісалі яму генералы, Пётр не сумняваўся. Ён хоць і расхваліў князю-кесару і Далгарукаму сваіх падначаленых, аднак сам, у душы, насіў іншае.

У цара быў круты, неспакойны, але настойлівы характар. Калі ён ужо браўся за што, дык даводзіў да канца, не шкадуючы ні людзей, ні сродкаў. Магчыма, таму і не заўсёды яму даносілі паднаготную той ці іншай справы. Ні Шарамецеву, ні Меншыкаву, ні таму ж князю-кесару Рамаданаўскаму часам не хацелася, каб ляцелі з плеч галовы сяброў-таварышаў, тым больш што штрафы, якія накладваліся царом на вінаватых, закраналі і іх саміх. Цар, бясспрэчна, здагадваўся пра гэта, таму расследаванне па кожнай справе назначаў сам. Галоўчынскія падзеі ён таксама збіраўся расследаваць. Гэта цяпер і займала, бадай, найбольш яго думкі.

Калі б не было такога клопату, Пётр Аляксеевіч з задавальненнем, да самазабыцця служыў бы малебен. Але падзеі апошніх дзён моцна непакоілі яго, і неўзабаве яму ўжо рупіла як найхутчэй закончыць папоўскі занятак. І калі б у царкве цяпер прысутнічаў хто з яго блізкіх ці нават тых, каму дагэтуль даводзілася хоць раз бачыць цара на кліpасе, то абавязкова чалавек заўважыў бы, як цярплівасць і ціхманая пакорлівасць паступова змяняліся на яго смуглым твары нервовасцю і нецярплівасцю. Але побач нікога не было. Нават Аляксей Кікін, царскі дзяншчык, і той заняты быў конямі за царкоўнай агароджай.

Апошні радок з «Апостала» быў прачытан Пятром Аляксеевічам ужо зусім без захаплення.

Айцу Васілію, які здзіраў з яго шырокай, сутулай спіны рызу, цар сказаў:

— А на алтар мне табе класці няма чаго. Сам бедны, хоць і цар, бо вайна. Гарматы патрэбны.

Пры гэтым ён так агледзеў вачамі царкоўнае начынне, што айцец Васілій падумаў: «Знікаў бы ты хутчэй адсюль». Яшчэ стаяла ў памяці тое, як у час азоўскага паходу з многіх цэркваў былі паздыманы званы, з якіх нарабілі потым гармат. «Цьфу, цьфу, згінь!»

Цар аддаў айцу Васілію «Псалтыр». Але раптам перадумаў, забраў назад кніжку, напісаў на тытульным лісце: «Чытаў у Горках ліпеня 10 дня Пётр».

* * *

Вайсковы лагер размешчаны быў вярсты за дзве ад Горак, на голай і адкрытай з усіх бакоў мясцовасці, і Пётр Аляксеевіч яшчэ здалёку прыкмеціў белыя панчохі і трохвугольныя капелюшы салдат. Палкі стаялі на стойцы «пад ружжо». Ад сонечных праменняў паблісквалі, кідаючы па салдацкіх тварах люстраныя зайчыкі, багінеты. На левы фланг была звезена артылерыя. Каля адной з гарматаў дыміўся фітыль.

У лагеры ўжо ўсё падрыхтавана было да сустрэчы. І як толькі Пётр пад'ехаў да левага фланга, генерал-паручнік Аларт даў знак рукой. Познюю раніцу скалануў гарматны стрэл. Аларт павярнуў каня і памчаў насустрач цару. Даклад быў кароткі — Аларт, як кажуць, ужо скарачаўся на хаду, бо насуплены цароў выгляд не толькі стрымліваў яго, але і палохаў. «Ну, вось, падсунулі мне паны генералы адказваць за пабітых салдатаў перад царом,— падумаў Аларт.— Няхай бы сам Рэпнін ехаў сюды ды дакладваў». Пётр Аляксеевіч тым часам тарганул за повад свайго каня, і той стаў бокам да генерала. Барабаны адразу ж забілі «паход», і салдацкія шэрагі, узяўшы на «каравул», рушылі па пляцы. Цар, зрэдку ўзнімаючы руку, прымаў парад. Амаль упоравень з ім выехаў наперад Аларт. Два генералы і некалькі палкоўнікаў, таксама конныя, спыніліся ззаду. Неўзабаве да іх далучыўся і царскі сакратар Макараў. Шарамецьеў, якога выклікаў цар для высвятлення «быўшага трэцяга ліпеня дзела», яшчэ не прыехаў: яго чакалі ў другой палавіне дня.

Рота за ротай маршыравалі перад царом па пляцы, станавіліся на свае ранейшыя месцы. Нарэшце Пётр Аляксеевіч пачаў агляд. Першымі, каго выбраў ён, былі, вядома, артылерысты.

Два дні таму назад з Сямёнаўскага двара і было прывезена сюды дваццаць батарэй і дзесяць марцір. Капітан Генрых Бормат, які суправаджаў артылерыю ў Горкі, аддаў цару рапарт.

Цар уважліва аглядаў кожную гармату, а было іх тут каля паўтысячы: толькі порах і ядры ледзь памяшчаліся на трыццаці вазах. Такога папаўнення даўно ўжо не паступала ў армію.

Пётр Аляксеевіч меў слабасць да артылерыі. Ён сам насіў чын бамбардзіра і вельмі ганарыўся ім, не раз падкрэсліваючы гэта перад сваімі фельдмаршаламі. Меў ён звычку пагутарыць і з самімі артылерыстамі. Не абышлося без размовы і гэты раз.

— Што гэта ў цябе? — спытаў ён раптам рэдказубага гарматчыка, які трымаў у руках баннік.

Артылерыст не чакаў, што да яго звернецца цар, і разгубіўся. Вушы і твар яго заліла чырвань. Некалькі разоў ён спрабаваў вымавіць «баннік», але слова гэта засела недзе ў горле і ніяк не хацела вылятаць адтуль.

— Ба-а-ба...— дарэмна намагаўся вымавіць небарака. Ажно цару ад гэтага зрабілася няёмка.

— Прысылаюць мне нейкіх заік! — раззлаваўся ён і паглядзеў на капітана Бормата.

Той стаяў непадалёку і еў вачамі артылерыста. На цара ён баяўся глянуць.

— Бабнік,— падказаў раптам нехта ззаду.

Генерал Аларт і сакратар Макараў здзіўлена пераглянуліся. На твары Бормата тым часам з'явілася гідлівасць. Цар павярнуў галаву і адразу ж убачыў чалавека, які адважыўся кінуць непрыстойны жарт. Той быў рослы, шыракаплечы артылерыст. Ён нават і рот яшчэ не паспеў закрыць.

— Што ты сказаў?

Позіркі цара і артылерыста сустрэліся. У вачах аднаго з іх стаяў гнеў, у вачах другога — смех.

— Баннік! — ледзь не крыкнуў артылерыст і, смеючыся, па-ранейшаму аднымі вачамі, працягваў глядзець на цара.

— Так,— кіўнуў Пётр і падышоў да артылерыста.— А што перад гэтым казаў?

Артылерыст маўчаў. Той-сёй з салдат заўсміхаўся.

— Хто такі?

— Наводчык Андрэй Кажаноў, твая царская вялікасць!

— Дурань, не твая царская вялікасць, а пан бамбардзір!

— Так точна, пан бамбардзір!

Цяпер ужо ніхто не смяяўся. Усе чакалі, што будзе далей. Нейкі момант Пётр Аляксеевіч раздумваў, потым насмешліва сказаў:

— Пабачым зараз, які ты наводчык. Хадзем.

Пераступіўшы горку ядраў, ён падышоў да гарматы і, паказваючы ў бок лесу, што віднеўся за якога паўкіламетра адсюль, дадаў:

— Бачыш вунь тое дрэва?

— Бачу.

— Пацэліш?

Адступаць не было куды, і артылерыст, скінуўшы з сябе кароткі кафтан і закасаўшы рукавы ніжняй кашулі, зрабіў крок да марціры. Нейкі час ён прымерваўся, пасля адсыпаў і дасыпаў порах, выбіраў ядро. Затым папрасіў фітыль. Заставалася толькі падпаліць затраўку. Тыя, хто стаяў каля гарматы, бачылі, што артылерыст рабіў сваю справу вельмі ўпэўнена. Зразумеў гэта і Пётр Аляксеевіч.

— Раскажы лепш, як будзеш страляць,— прапанаваў ён артылерысту.

Акінуўшы вачыма прысутных і ўбачыўшы на тварах маўклівую спагаду, артылерыст паглядзеў у той бок, куды была наведзена гармата і дзе стаяла дрэва, у якое трэба было пацэліць.

— Каб стрэліць, спярша трэба ведаць,— выцер ён з ілба пот,— колькі пакласці пораху, затым на колькі градусаў марціру паставіць і пасля стрэльнуць. А калі на прызначанае месца страляць, тады, узяўшы дыстанцыю, шукаць па табліцы градусы, якія ўжо былі перад гэтым, і той жа мерай шукаць, як далёка першая бомба лягла...

Пётр Аляксеевіч ужо чакаў усяго, толькі не гэтага. Дакладнасць у тэорыі стральбы можна было пачуць з вуснаў капітана Бормата, спецыяліста па артылерыі, выпісанага з Прусіі, але не ад мужыка. Вядома, умельства яго можна было аднесці за кошт салдацкай спраўнасці і стараннасці, але Пётр убачыў у гэтым нешта большае. Тут ужо быў відавочны вынік таго вялікага

засеву, які столькі гадоў рабіў цар, каб вырасціць сваіх Алартаў і Борматаў.

«А чаму ён дагэтуль без чына?» — раптам прыйшла цару думка, і ён упершыню заўважыў, што на артылерысту брудная ад поту кашуля, а на нагах ледзь трымаюцца стаптаныя башмакі. Дарагі чырвоны плашч Аларта, на адны толькі абшлагі якога пайшло не менш дзесяці аршынаў англійскага сукна, купленага недзе ў Суражскім радзе, здаўся цару знявагай, ажно закарцела збіць з напышлівай генералавай галавы капялюш з высокім пяром і пахадзіць па ім нагамі.

Слухаючы, як Кажанаў дакладваў правілы далейшай прыстрэлкі, Пётр ужо думаў над тым, якім бы чынам пахваліць салдата, каб даць зразумець, што ён даруе яго непрыстойнасць. Як толькі Кажанаў змоўк, Пётр па-хлапечы молада, гучна крыкнуў:

— Ура-а-а! — і кінуўся да артылерыста, каб прытуліць у абдымках, але дужыя рукі батарэйцаў нечакана падхапілі цара і пачалі гушкаць.

— Дзе ты навучыўся ўсяму гэтаму? — спытаў Пётр Аляксеевіч у артылерыста, калі батарэйцы асцярожна паставілі яго на зямлю.

— Пад Нарвай.

— Ад каго?

— Ад цябе.

— Пачакай, пачакай! А чаму я цябе не помню?

— Не ведаю. Але ты яшчэ паеў тады мае сухары і паабяцаў тытуню прыслаць.

— І не прыслаў?

— Не.

— Глядзі ты! Значыць, падманіў? Макараў, а ты не помніш пра гэта? — спытаў цар свайго сакратара і, не чакаючы адказу, сказаў артылерысту: — Давай хоць зараз закурым.

Але колькі ні лазіў ён па кішэнях, кісета з тытунём не знаходзіў. Не было паблізу і Аляксея Кікіна, які змог бы выручыць яго. Той-сёй з артылерыстаў пырскаў ужо ад смеху. Нарэшце пад жарты батарэйцаў прызнаўся:

— Згубіў кісет недзе. Пакаштуем зноў твайго.

Артылерыст дастаў свой кісет. Падаў цару. Той набіў тытунём піпку. Прыкурыў.

— А сам адкуль будзеш? — спытаў цар артылерыста.

— Я, пан бамбардзір, беглы.
— Што значыць беглы?
— Ну, беглы...
— Ад каго збег? Чый?
— Ад Радзівіла.
— Значыць, не з майго царства?
— Не.
— А даўно ў маім войску?
— Гадоў дзесяць ужо.
— І як жа ты ўцёк ад свайго князя?
— А нам блізка там. Мы на самой мяжы з вамі. Гэта недалёка ад Крычава. Таму і ўцякаем у тваё царства, калі туга даводзіцца.
— Люты князь?
— Не ведаю. Але арандатары ў нас. Гэтыя лютыя. Абдзіраюць як ліпку.
— Ты вось што, Макараў,— павярнуўся цар да свайго сакратара.— Прывядзеш яго заўтра да мяне. З'езджу вось у Дрыбін, тады і паклічаш. Нам пагаварыць з ім трэба. Ды прыадзень як след. А то ажно сарамна.— І зноў загаварыў да артылерыста: — Толькі ты больш нікому не прызнавайся, што беглы. А то мне давядзецца спрачацца з-за цябе з саюзнікамі. Кароль польскі цяпер саюзнік наш. Так што... Як прозвішча?
— У князя зваўся Кажан. А ў тваім войску завуся Кажанавым.
Пасля дзёрзкіх, вясёлых і шумных артылерыстаў пяхота здалася зусім не цікавай, і Пётр Аляксеевіч пастараўся хутчэй закончыць агляд.

## Тайна адной экспедыцыі

### I

Сведкам эпохі штучных спадарожнікаў Зямлі больш, чым каму, трэба ўспамінаць пра герояў і мучанікаў навукі, справа рук якіх рэалізуецца зараз. Нараджаючыся, новы свет быў заліты крывёю не толькі тых, хто паміраў у барацьбе супраць тыранаў, але і тых, хто заваёўваў прыроду, хто набліжаў нас да перамогі над ёй. Карыстаючыся прадметамі прывычнай

тэхнікі — самалётамі, электрычнымі і атамнымі рухавікамі — хто падлічыў, на касцях і крыві колькіх сотань герояў замешана жалеза і алюміній гэтых машын? Некалі французскі астраном, даследчык Марса і Месяца, Каміль Фламарыён падвёў вынік ахвярам і выявіў: з часу братоў Мангальф'е, зрабіўшых першы ў свеце аэрастат — папяровы шар, напоўнены дымам,— і бяспрыкладна смелай спробы разанца Кракутнага і да стварэння першых апаратаў пасажырскай авіяцыі, за дзвесце год, у Еўропе разбілася 650 лятальных апаратаў і ў два разы больш людзей аддало жыццё за тое, каб мы маглі камфартабельна несціся на беласнежных крылах «ТУ-114».

Але ці памятаем мы іх?

Стары свет, забраўшы ў піянераў вялікіх адкрыццяў усё «адчувальнае», што толькі маглі яны даць, і ўзнагародзіўшы падчас нават зорамі «пур лемерыт» і віцмундзірамі тайных саветнікаў, выкідваў іх, часцей за ўсё, на сметнік гісторыі, у пятыт энцыклапедычных пaслоўнікаў, у пыльныя груды архіваў — могільнік пацукоў.

Мала хто памятае зараз імя Андрэ, мала хто памятае чалавека, што праклаў дарогу Амундсену,— хоць некалі імя гэта і было на вуснах кожнага. Яно грымела на плошчах і вуліцах, у залах тэатраў. Тое, што ён задумаў, магло б быць параўнана сапраўды з незвычайнасцю, нават нейкаю ўтрапёнасцю, калі б Андрэ не быў чалавекам, розум якога не меў сабе роўнага ў гісторыі геаграфічных адкрыццяў.

На шары, які можа ў любы момант стаць цацкай вятроў,— на паветраным шары ляцець на полюс. Пралёт над тысячамі кіламетраў лёду... несціся ад краю да краю праз тысячы кіламетраў лёдавай пустыні, перамагчы або загінуць, а магчыма, і тое і другое.

## II

У зале Стакгольмскага універсітэта сустракалі Нордэншэльда. Ззянне люстраў і барабанны гром аркестра надавалі сустрэчы тую асаблівую ўрачыстасць, ад якой несла нечым нязведаным і недасягальным.

Нордэншэльд ужо стары. Але голас яго па-ранейшаму свежы і звонкі. Многа дарог прайшоў гэты чала-

век. Твар яго стаў бронзавым ад шматлікіх вятроў, але вочы, з якіх усё яшчэ пырскаюць іскаркі неўтаймаванай маладосці, не змагла крануць нават Арктыка.

— У два тыдні пройдзена семдзесят кіламетраў. Яшчэ праз тры — сто... Горы Паўночна-Заходняй Грэнландыі перагарадзілі дарогу. Двое людзей і дзесяць сабак загінулі,— расказвае Нордэншэльд пра сваю нядаўнюю паездку.

Медны голас лунае з аднаго канца залы ў другі, вяртаецца зноў да трыбуны, бударажыць, хвалюе.

А ў гэты час, абрываючы лісткі запісной кніжкі, нікому невядомы шведскі інжынер робіць падлікі. Ён прыйшоў сюды, у гэтую залу, паслухаць свайго славутага суайчынніка і адначасова атрымаць нейкі штуршок, узважыць жыццё гэтага чалавека, каб глыбей зазірнуць у сваю даўнюю мару, якую да пары да часу ён трымае ў тайне.

— За цэлую гадзіну не прайсці і паўкіламетра... Не, гэтак нікуды не варта!

На высокім ілбе інжынера то паяўляюцца, то знікаюць густыя маршчыны, рука нервова водзіць бліскучы аловак, з-пад якога на паперу кладуцца слупкі лічбаў і мноства незразумелых ліній.

«Чалавек асуджаны на гібельныя і бясплённыя мукі да таго часу, пакуль будзе імкнуцца к полюсу, вязнучы па калена ў снезе і замярзаючы на ільдзінах, пакуль не ўзнімецца вышэй іх, пакуль не праплыве над імі, як птушка, па паветры»,— думае Аўгуст, і ў галаве яго ўсё больш выразна і акрэслена вызначаюцца дэталі будучага апарата. Ён ужо даўно не чуе гукаў аркестра і слоў Нордэншэльда. Позірк яго вачэй накіраваны на невялічкі лісток паперы, дзе намалявана штосьці накшталт шара.

План амаль гатовы і ясны ў агульных рысах. Але аб ім трэба маўчаць. Шырокія і расплыўчатыя здагадкі, пустая фантазія і паспешлівы энтузіязм — добрыя спадарожнікі для пражэкцёраў і майстроў «перпетуум мобіле», але не вартыя для людзей навукі.

У апошні раз пад белакаменнай столлю залы гучыць барабанны гром аркестра. Лікуючы натоўп бурна і весела выносіць на руках Нордэншэльда і... выцясняе на вуліцу інжынера механікі і матэматыкі Аўгуста-Саламона Андрэ.

З гэтага часу рукі і мозг яго не ведаюць спакою. Доўгія вечары, якія раней Аўгуст праводзіў з сябрамі на Эстпландзе, вядомай сваімі першакласнымі кафэ, цяпер паглынала работа. Чарцяжы, формулы. Яны, нібы здані, тоўпяцца перад вачыма не толькі днём, але і па начах, у сне. Невялікі рабочы стол завалены мадэлямі, якія амаль кожны дзень мяняюцца. Дапытлівы розум вынаходцы крэсліць іх і выкідвае. А знаёмыя пры сустрэчы смяюцца:

— Пан Андрэ стаў дзіваком.

Смяецца таксама і чыгунны пачвара Густаў Ваза; да яго калі-нікалі прыходзіць інжынер, каб падзівіцца з металічных карпарантаў, што пацешна б'юцца на бутэльках і рапірах. Тут, ля маўзалея, дзе некалі Свантэ Арэніус — фізік і астраном — разважаў аб велічы Сусвету, цяпер закаханыя шукаюць для сябе ўтульныя мясціны.

Жыццё мяняецца. Мяняецца хутка і неспадзявана, асабліва для Аўгуста Андрэ.

Адзіны сын упсальскага правінцыяльнага чыноўніка хацеў вучыцца. Але бацька быў няўмольны.

— Хопіць глупства. Ідзі на службу ў магістрат.— У адплату за выслугу бацькі тут гатовы былі ашчасліваць і сына. Пры гэтым зусім нямногае і патрабавалася — дастаткова было мець прыгожы почырк і ўслужлівы характар.

І вось у адзін з дажджлівых восеньскіх вечароў Аўгуст пакідае бацькаў дом, каб парадніцца з нястачай і адчаем. У слясарнай майстэрні, куды ён паступіў практыкантам, плацілі мала, нягледзячы нават на тое, што малады чалавек, які скончыў толькі лэнную школу, здзіўляў усіх незвычайнай вынаходлівасцю і тэхнічнай кемлівасцю. Знаёмыя і сябры раставалі, нібы дым,— ніхто не хацеў важдацца з блудным сынам. Пры сустрэчы, гледзячы на чорныя, запэцканыя дзёгцем пальцы, яны ківалі галовамі:

— Пайшоў малады Андрэ ад бацькі, такога шаноўнага і паважанага ўсімі чалавека... і што з ім сталася!..

Жыццё цікавала за ім, спрабавала вылучыць зручную гадзіну, каб сціснуць блуднага сына жалезнымі абручамі, закілзаць цуглямі нястачы і кінуць на сваю шэрую плынь.

Толькі дарэмна. Калі няма хлеба — ёсць летуценні. А ў душы маладога Андрэ іх столькі, што хопіць, каб адрывацца часам ад прывычных упсальскіх вуліц, дзе на кожным рагу за ім сочыць мяшчанскае вока і сыта ўсміхаюцца сваімі мутнымі вокнамі дамы.

Цяпер да яго часта ў думках прыходзіць дзяцінства з яго чароўнымі, дзіўнымі казкамі. Багатая фантазія Андрэ здольна на ўсё. Вырвацца б з ціскоў, у якія хоча заціснуць яго жыццё, вырвацца і ўзняцца вышэй гэтых вуліц, ляцець і ляцець.

Гэтая думка не пакідае яго і тады, калі ён становіцца доктарам механікі і матэматыкі, калі ўжо ведае, што шмат загінула «з'ехаўшых з глузду» смельчакоў, спрабаваўшых адарвацца ад зямлі.

Ды не трагічны канец усіх смелых стрымлівае Аўгуста Андрэ. Па-ранейшаму яго душыць нястача і не дае яна яго фантазіі стаць сапраўднасцю.

Але смелых заўсёды сцеражэ нечаканасць.

Нечаканым і дзіўным было таксама і шчасце Аўгуста. Пасля смерці бацькі ў банку засталіся грошы, накопленыя ім у тайне і... невядома на якія патрэбы.

А ў хуткім часе чыноўнікі Стакгольмскага дзяржаўнага бюро патэнтаў, якім штодзённа даводзілася акуратна падшываць «да справы» дзесяткі ўсялякіх праектаў, зарэгістравалі яшчэ адзін.

— Доктар Андрэ надумаў займацца паветраплаваннем,— перашэптваліся цяпер знаёмыя.

Аднак план усё яшчэ не быў раскрыт. Андрэ здагадваўся, што з яго кпяць і, разам з тым, не ўяўляюць, што азначае гэтае паветраплаванне. Пад насмешлівымі позіркамі знаёмых Аўгуст рабіўся яшчэ больш замкнёным і адзінокім. Ды і што скажаш людзям? Ім трэба паказаць! Толькі тады прымусіш паверыць іх у тую справу, якою жывеш сам. А паколькі зрабіць гэта не так проста, дык самае лепшае — маўчаць і не зважаць ні на кпіны, ні на насмешкі, ні на спачуванні.

1885 год Андрэ праводзіць у Парыжы. Кожны дзень узнімаецца ў паветра, спрабуе разгадаць тайну кіравання шарамі. У вядомай майстэрні Рэнера і Крэбса ўсё да яго паслуг. Тут многа праслаўленых аэранаўтаў. Яны адчуваюць душу Андрэ і гатовы дапамагчы пачынаючаму калегу ўсім.

А ў тыя дні, калі Андрэ застаецца адзін, ён вельмі шкадуе, што на яго радзіме няма вось такіх людзей і

што дагэтуль не наладжана там аэрасправа, на якую шведы ўсё яшчэ глядзяць, як на пустую забаву. Перапіска з французскімі вынаходцамі дырыжабля Буласенам і Ленэ ўносіць у праект Андрэ новыя штрыхі і раскрывае перад ім новыя гарызонты.

Надыходзіць пара заняцца і вывучэннем палярнага басейна. І Андрэ едзе ў Трамсё. Там метэаралагічная абсерваторыя. Карты і вынік назіранняў, зробленыя ў ёй, дапамагаюць удакладніць кірункі вятроў, бліжэй пазнаёміцца з кліматам. На гэта ідзе цэлых два гады. Тут жа, у Трамсё, у глухіх і мёрзлых краях, Андрэ сустракаецца з Нільсам Стрындбергам.

Калі Андрэ заканчваў універсітэт, Нільс яшчэ толькі пачынаў вучыцца. Палітыка іх раздзяляла. Стрындберг, нарвежац па крыві, песціў мару аб незалежнасці радзімы, гарланіў: «Гэй, Нарвегія», біўся ў цесных піўнушках-скляпках, размахваючы бутэлькамі і сцяжкамі студэнцкіх карпарацый. Андрэ, наадварот, быў строгі і маўклівы. Ён хмурнеў, слухаючы выкрыкі шавіністаў. Тое, што ён не спачуваў Стрындбергу, было ясна. Але навука, адпачынак у гарах і гукі ражкоў у Грэнвентальскай даліне збліжалі іх. Праўда, Андрэ даўно ўжо шчыра не размаўляў з Нільсам, але сяброўскае пачуццё, якое нарадзілася яшчэ на вуліцах Упсала, не праходзіла.

Рады быў Андрэ, сустрэўшы Нільса ў гэтых глухіх паўночных мясцінах.

— Чуў я, што ты калісьці збіраўся лятаць,— нібы між іншым пацікавіўся Стрындберг.

— Так, збіраўся і збіраюся,— спакойна адказаў Аўгуст. А ў позірку, якім праца́ў яго Андрэ, Стрындберг прачытаў:

— Ну і што?

Тут жа, у Трамсё, Аўгуст даверыў сваю тайну Нільсу Стрындбергу. Гэта быў першы чалавек, які даведаўся пра самы просты і, разам з тым, самы смелы, нават да вар'яцтва смелы, план.

Гледзячы на вугалі, тлеўшыя ў каміне, Андрэ расказваў:

— Ляцець трэба па прамой: Шпіцберген — Полюс — Берынгаў праліў. Узняцца лепш за ўсё, бадай, на Шпіцбергене, але пачакаць вятроў. Затым, калі яны летам падзьмуць на поўнач, наладзіць шар і на вышы-

ні прыкладна дзвесце метраў ляцець з хуткасцю трыццаць — трыццаць пяць кіламетраў у гадзіну...

Ідэя, распрацаваная ў самых дробязных тэхнічных дэталях, выглядала так. Вялізны шар у 4800 кубічных метраў з папярочнікам у 26 метраў размяшчаўся ў абалонцы з трохслойнай шаўковай тканіны. Парус і гайдроп, які павінен цягнуцца па зямлі, забяспечаць магчымасць хоць да некаторай ступені кіраваць палётам: камбінацыя гэтых двух прыстасаванняў, апрабаваных Аўгустам у 1895 годзе, дазваляе ўхіляцца ад кірунку ветру на 27—28 градусаў.

Няшчасны выпадак — зачэпка ці завязка гайдропа ў ільдзінах, таксама прадугледжаны: канат робіцца ўнізе больш тонкі. Дзе тонка, там і рвецца. Якар, які выпадкова зачэпіцца, тут жа адарвецца ад карзіны.

Карзіна, абсталяваная, як крытая каюта, падымае трайны прыпас гайдропаў, санкі, складную лодку, правізію на чатыры месяцы для трох чалавек, трыццаць паштовых галубоў і столькі ж прыбораў «бутэлькавай пошты». У мора скідваюцца і плаваюць буйкамі бляшанкі з пісьмамі. А каб яны не былі раздаўлены льдамі, напаўняюцца сціснутым паветрам да дваццаці атмасфер. Акрамя таго, побач з чатырма тысячамі кубаў гаручага газу тут будзе палаць, рыхтуючы аэранаўтам абед, спіртавая кухня. Перад прыгатаваннем ежы яе мяркуецца апускаць на канаце ўніз — на дзесяць метраў ніжэй карзіны і на пятнаццаць метраў ніжэй абалонкі шара. Ад «кухні» да карзіны працягнецца эластычная трубка. Унутры яе — шнурок. Пацягнеш за яго — і пры дапамозе спецыяльнай спружыны запалка сама чыркае аб карабок і падпальвае спірт. Падзьмеш у трубку — і ён гасне.

Гэтая віртуозная прадуманасць кожнай дэталі, гэтая бездань дасціпнасці і выдумкі, у дадатак да заведама наіўнага — з нашага цяперашняга пункту погляду,— тэхнічнага матэрыялу і прымушае пакланяцца забытаму генію інжынера Андрэ. Можна здзекавацца зараз з яго «кухні» і «аўтамата-запалкі», але нельга забываць, што задачу палёту на полюс Андрэ вырашыў практычна, у адпаведнасці з тэхнічным стылем сваёй эпохі, вырашыў, давёўшы яе да мяжы магчымасці. Так і аднесліся да праекта гэтага чалавека яго сучаснікі. Ніхто з кампетэнтных у гэтым не палічыў ідэю Андрэ

бязглуздасцю, ніхто не пасмяяўся з яе. Наадварот, усе прызналі сур'ёзнасць і рэдкую дакладнасць плана. Нордэншэльд блаславіў маладога калегу і, натхнёны, прапанаваў сябе ў спадарожнікі. Сваякі і знаёмыя ледзь адгаварылі старога. Нават кароль шведскі, улюбёны ў свой запаведнік догаў, і той пакінуў на нейкі час сваіх сабак і паабяцаў «суайчынніку ўсялякае садзеянне». Маладыя людзі ўсяго свету, аматары прыгод, навязваліся Андрэ ў спадарожнікі аж да таго часу, пакуль ён не паведаміў праз газету, што бярэ з сабою сваіх сяброў: Экхольма і Стрындберга.

## III

У пачатку чэрвеня 1896 года шхуна «Вірго», зафрахтаваная для экспедыцыі Андрэ, разводзіла пары на набярэжнай Трамсё. Кран, беражліва і павольна, пераносіў на борт шхуны мяккую, схаваную ў тканіну, аграмадзіну — абалонку шара. Андрэ хваляваўся. Капітан шхуны не хацеў адплываць у зюйдвеставы вецер. Для Аўгуста ж гэты вецер быў ратункам — аддаўшыся ва ўладу яго, толькі і ляцець да сваёй мэты, далёкай і заманлівай.

Стакгольмскія карэспандэнты мерзлі тут жа, праклінаючы і праводзіны, і шар з яго пілотам, і полюс з яго страшэнным холадам.

А пад вечар, калі апошнія балоны з газам былі дастаўлены на шхуну, капітан урачыста і важка сказаў:

— Вецер сціх, мы спрачаліся дарэмна!

Андрэ пацісnуў яму руку і спакойна загадаў:

— На борт!

Але сталася так, што акалічнасці не дазволілі ў гэты раз адправіцца туды, куды так імкнуўся гэты нястрымны чалавек. Як толькі была зроблена спроба ўзняцца ў паветра, высветлілася: фірма, на якой рабіўся аэрастат, унесла самавольныя папраўкі ў чарцяжы, і шаўковыя сценкі атрымаліся занадта тоўстымі. Цягавая сіла аказалася недастатковай. Неабходна было павялічыць яе.

Цэлы дзень Андрэ ледзь не бегаў па беразе, лаяўся, не звяртаючы ўвагі на суцяшэнні сяброў. Але што зробіш? Прыніжаны і раззлаваны няўдачай, на змярканні ён распарадзіўся адплываць у Трамсё.

Увесь час, пакуль шхуна плыла да берагоў кантынента, інжынер прасядзеў у адведзенай яму каюце, адзін са сваімі думкамі. І толькі калі на гарызонце паказаліся агні Трамсё, ён выйшаў на палубу.

Сустрэўшаму яго капітану порта, жартуючы, сказаў:

— Я недастаткова яшчэ вывучыў мову тунгусаў.

Палёт быў адкладзены на год.

А якім ён здаўся Андрэ доўгім і нудным! Зноў раз'езды, цяганіна і надакучлівыя размовы, падчас з людзьмі, якія не мелі нават малейшага ўяўлення аб задуманай ім вялікай справе і якіх займаў ва ўсім гэтым толькі адзін бок — крыклівая атмасфера, створаная вакол палёту «на верную пагібель». А тут, як назло, яшчэ захварэў прафесар Экхольм, верны яго памочнік. Хвароба прымусіла Экхольма адмовіцца ад удзелу ў экспедыцыі.

У завірусе і дзікай скачцы запоўненых турботамі дзён прайшла восень, затым зіма. Надышла і мінула вясна. Настаў час збірацца. І зноў вакол палёту — сенсацыя. Хвалюецца не толькі Швецыя — хвалюецца ўся Еўропа.

Андрэ быў рады. Рады былі і гаспадары гётэборгскіх гасцініц, перапоўненых шматлікімі прадстаўнікамі «сталічнага свету». Прыехаў на праводзіны і Нордэншэльд. Расчуліўся стары і доўга плакаў.

Пакуль на кананерку «Свенсксунд» пагружалі экспедыцыйную маёмасць, Андрэ блукаў між прычальных слупоў, удыхаючы смалу і соль; усе тут праводзілі яго ў дарогу і ніхто... Ён быў адзінокім, адзінокім усё жыццё; пражытыя гады мінулі, нібы ў тумане. Але ён не думаў пра гэта. Ён хваляваўся за сваіх спадарожнікаў, за тых, хто быў гатовы падзяліць з ім невядомае. Экхольм так і застаўся хворым. Новы спадарожнік, інжынер Ялмар Фрэнкель, малады і зусім незнаёмы, парэкамендаваны яму Нордэншэльдам.

Нельга было таксама адмовіць, як нельга было і рассмяяцца ў твар зяцю Нордэншэльда, капітану Сведэнборгу, што напрасіўся суправаджаць экспедыцыю аж да самых астравоў. Сведэнборг песціў мару таксама ляцець на полюс — хвароба Экхольма падала яму надзею: а ці не мог захварэць у апошні момант яшчэ хтонебудзь? Капітан накручваў вусы — ён плыў «кандыдатам» і шчыра жадаў, каб яго шчаслівыя канку-

рэнты яшчэ тут, на набярэжнай, скруцілі сабе галовы.

Праводзіны і ўрачыстасць некалькі злавалі Андрэ. Ён ніколі не згадзіўся б адпраўляцца адсюль. Ён хацеў бы сесці на «Свенскзунд» у ціхім Трамсё і шкадаваў, што гэта ад яго не залежыць.

Чыясьці рука мякка дакранулася да спіны інжынера. Перад ім стаяла дзяўчына.

— Беражыце яго, Аўгуст, дарагі,— шаптала яна.— Толькі верачы ў вас, я адпускаю майго хлопчыка...

Андрэ спачатку не разумеў, чаго хоча ад яго гэтая фрэкен. Але па тым, як яна глядзела на Стрындберга, здагадаўся — гэта Нільсава нявеста. Той часта расказваў аб ёй, але так і не пазнаёміў.

Стрымліваючы здрадніцкае перасмыкванне шчок, Андрэ адвярнуўся і пакрочыў да кананеркі. Крапасныя гарматы аддалі салют, і на «Свенскзундзе» ўзвіўся гюйс і вымпел.

Да астравоў плылі не вельмі доўга.

Але вецер... Ён дзьмуў з паўночнага захаду. Наўкола гулялі раз'юшаныя хвалі, і толькі метэаралагічныя назіранні суцяшалі: усхваляваны цыклонам, акіян павінен хутка супакоіцца. Вецер зменіць кірунак. А пакуль — Стрындберг чакае ад сваёй нявесты пісьмаў, Фрэнкель і Сведэнборг рэжуцца ў карты, і ўсе нібы забылі, чаму плылі сюды, з якою мэтай спяшаліся ў Акіян смерці...

Дні ішлі, лета праходзіла. Андрэ бачыў, якімі вачыма глядзелі на яго адарваныя ім ад усяго жывога, паверыўшыя ў яго справу людзі. Ён заўважыў таксама, як ледзь-ледзь прыкрытай ухмылкай змяіліся вусны і здзекваліся схаваныя пад дзяснамі жоўтыя клыкі рэзідэнта, што час ад часу наведваў Дацкі востраў.

— Эол і Барэй у змове супраць вас: не хочуць пускаць у сваё буйнае царства,— ад яго жартаў несла пахам семінарскай латыні, а ўваччу струменілася:

«Дурань, ты змог сваімі штучкамі перавярнуць цэлую дзяржаву, ты парушыў спакой усяго свету. Пачакай жа, хутка раскрыецца ўся твая бязглуздзіца і цябе з тваімі спадарожнікамі засадзяць, як пудзіл гарохавых, у жалезны дом...»

Сутаргава, да болю ў зрэнках, Андрэ ўглядаўся з

дня ў дзень у чашкі анемометраў і хваляваўся. Нарэшце ў паветры адчулася штосьці няўлоўнае, новае. І раптам чашкі на мачце закружыліся ў адваротны бок. Нібы электрычная іскра прабегла па маленькаму драўлянаму доміку, і Фрэнкель рэзка адсунуў убок карты, а на твары яго выступіла бледнасць, якую бяссільны быў сцерці нават бляск толькі што выйграных у Сведэнборга крон і ёрэ.

Тры дні і тры ночы набухаў вадародам шар. Пругкі і бліскучы, як лысая галава волата, нібы загнаны ў клетку раз'юшаны звер, ён ірваўся праз драўляныя скляпенні.

А ў нядзелю рэзкі свісток парахода адарваў позірк людзей, занятых падрыхтоўкай да палёту, у бок мора. Паштовы пакетбот уваходзіў у гавань. Быў поўдзень. Вецер ачысціў неба ад хмар, пад сонечнымі праменнямі ззялі ледзяныя шапкі гор.

Апошняя пошта, апошняе «бывай» з Еўропы. Андрэ ўскрываў пісьмы хутка, чытаў няўважліва. Вось пісьмо ад Нордэншэльда. «Мара гэта нязбыўная,— пісаў жаласлівы стары.— Трымайце курс на мыс Бароу ў Аляссцы, там вы знойдзеце цёплае жыллё і людзей». Далей ішлі тэлеграмы, пісьмы, газеты, зноў тэлеграмы. І адна — «катэгарычна раю даведацца, ці ёсць на полюсе цвёрды кантынент, а калі ёсць, то абавязкова вазьміце ўзоры горных парод і карысных выкапняў».

Узвод марской пяхоты, які толькі што высадзіўся на бераг, паходным маршам падыходзіў да ангара. Медныя трубы аркестра раздзіралі на кавалачкі цішыню.

«Згодна з рашэннем, у нядзелю, 11 ліпеня 1897 г., у 10.35 раніцы,— пісаў Андрэ,— мы заняліся падрыхтоўкай да палёту, і ў гэтую мінуту, у 2½ гадзіны апоўдні, гатовы ляцець».

Аддаючы напісанае капітану, Андрэ абняў бывалага марака і рашучым крокам узышоў па лесвіцы, каб заняць у кашы сваё месца.

Пятнаццаць чалавек асцярожна адвязалі канат. Шар ірвануўся ўверх і павіс на апошніх вяроўках, метраў у пяці над зямлёй.

— Інжынер, мы павінны назваць ваш аэрастат «Арлом»,— крыкнуў капітан і пачуў адказ:

— Хай будзе так...

Аркестр зайграў гімн. А калі прагны вецер падхапіў і панёс шар прама на поўнач, абрываючы апошнюю сувязь з зямлёй, Нільс Стрындберг сунуў у рукі Андрэ пісьмо, атрыманае перад гэтым ад сваёй нявесты.

«Дарагі Нільс,— пісала яна.— Усё скончана, і вы ўжо ляціце на полюс, мой маленькі герой. Швецыя будзе помніць імёны Андрэ, Фрэнкеля, Стрындберга, будзе ганарыцца імі не менш, чым імем Густава Вазы. Мой Нільс, перад вашымі справамі і славай дробязнымі і бескарыснымі пакажуцца справы ўсіх Карлаў і Напалеонаў. Яны пралівалі кроў. Вы ж адкрыеце нам невядомы свет. Вы — герой, і я не ведаю, ці дастойна быць вашай жонкай. Нільс, хлопчык, калі ж мы ўбачымся? Я доўга трымалася і вось адчуваю — больш не ў сілах. Нільс, хлопчык, вяртайся да мяне хутчэй...»

Паклаўшы галаву на калені Андрэ, Нільс плакаў.

А ў гэты час зачараваныя і скамянелыя людзі на Дацкім востраве глядзелі на знікаўшую за гарызонт чорную кропку. І калі яна схавалася, усе адчулі нясцерпны боль у зацёкшых шыях.

* * *

Ішоў час. Прыціхлы свет, выправадзіўшы Андрэ і яго спадарожнікаў, чакаў вестак. Але іх не было. На ўсім узбярэжжы акіяна вяліся назіранні. Аб'ява Рускага геаграфічнага таварыства, прызначаная для расклейкі ў мясцовасцях Паўночнай і Усходняй Сібіры, апавяшчала ў тыя дні:

«Вятры могуць занесці шар гэты ў Расію ці Сібір, дзе ў такім выпадку людзі, якія знаходзяцца ў кашы шара, дадуць магчымасць яму спусціцца на зямлю, як гэта паказана на малюнку, уяўляючым спуск паветранага шара ў аколіцах Пецярбурга.

...Паветраны шар не можа прычыніць шкоды нават дзецям. Таму не толькі не трэба асцерагацца шара,— а тым больш людзей, якія знаходзяцца ў кашы,— але неабходна дапамагчы ім ласкавым і добрым прыёмам, як дарагім гасцям».

Хваляванне, звязанае з палётам «Арла», не пакідала людзей увесь 1897 год. Але дарэмна шукалі яны на старонках газет вестак аб Андрэ і яго верных спадарожніках...

## IV

Прайшло шмат год.

За гэты час паспеў загінуць піянер авіяцыі Ота Ліліенталь, які начапіў на сябе фігурныя крылы і скочыў з Ман-Менільскай гары, пакінуўшы нашчадкам, як навуку, дыяграму сувязі паміж лабавым супраціўленнем і пад'ёмнай сілай крыла, сваю паляру, вымучаную і аплачаную жыццём. Авіяцыя імкнулася наперад па касцях Андрэадзе, Мацыевіча, Несцерава.

У марознай імгле Ледавітага акіяна і ў такім жа густым і раз'юшаным віры новых дзён зніклі, згінулі назаўсёды Андрэ і яго спадарожнікі.

А людзі, нарэшце, адкрылі полюс.

Але хто?

Па заліву Эванса, дзе сутыкаюцца землі Бафінава, Саутгетманава і Лабрадор, між таросамі шыбавалі нарты. Сабакі, запрэжаныя ў іх, беглі прама на захад, туды, дзе пачынаецца Гудзонаў заліў. Апоўдні чалавек, што сядзеў на нартах і якога ў Даніі называлі Кнудам Рамусенам, паглядзеў на секстант і ўбачыў — той паказваў каля двухсот кіламетраў пройдзенага за ноч шляху. Яшчэ дзве гадзіны хуткай язды, і перад вачыма вырасла факторыя, за якой віднеўся паштовы пост.

Гэта быў мыс Рэзалюйшын, што азначае «Рашэнне» — рашэнне ісці далей па прываблівa гібламу шляху.

Вялікі Гудзон рассцілаўся ва ўсе канцы.

Рамусен доўга стаяў, любуючыся краявідам. Затым накіраваўся ў будынак. Адчыніў дзверы і ледзь не збіў з ног дзікаватага чалавека, захутанага ў скуры. З-пад іх выглядвалі толькі вочы, мутныя, з крывавымі жылкамі, ды кавалачак шчакі, жоўтай і зморшчанай. Не слухаючы слоў прабачэння, чалавек закрычаў штосьці і збег уніз.

— Хто гэта? — спытаў Рамусен у каменданта факторыі.

— Невядома хто. Называе сябе пастарам. Гаворыць, трыццаць год не бачыў еўрапейцаў.

Камендант на момант задумаўся, нібы ўспамінаючы штосьці, затым зусім ціха дадаў:

— Вяртаецца паміраць на радзіму...

Увечары, калі Рамусен сядзеў каля распісанага ча-

роўнай папараццю акна і слухаў радыё, увайшоў клерк:

— Пастар памірае. Просіць зайсці на два словы.

Рамусен кіўнуў у знак згоды і пачаў апранацца.

У лячэбніцы, уткнуўшыся жоўтым тварам у падушку, ляжаў чалавек, да якога ўшчыльную падкралася смерць. Каля яго стаяў доктар, адзіны на ўсе гэтыя сто тысяч квадратных кіламетраў. Тут жа знаходзіўся і клерк. Чалавек паміраў.

У паўзабыцці ён намагаўся штосьці сказаць, але голас яго зрываўся. Доктар уліў у яго васковую руку, пакрытую сінімі жыламі, камфару і паднёс шклянку з грогам.

Пастар на момант ажыў. Зноў загаварыў, але цяпер ужо гучней.

— Раскажыце ў Еўропе... У 1900 годзе накіраваны сюды місіянерскай службай Таранта, я паехаў далёка за Гудзон, к праліву Ланкастэра, дзе, як мне казалі, жывуць плямёны эскімосаў, што ні разу не сустракалі белых. Гэта аказалася няпраўдай: яны бачылі белых, яны нават стралялі ў іх з лукаў. Але мяне пашкадавалі. Дапамагло заступніцтва майго спадарожніка, іх родзіча, трапіўшага некалі ў Канаду і вывучаўшага англійскую мову. Мяне пашкадавалі, але ўзялі ў палон і павялі з сабой яшчэ далей, туды, дзе зараз размешчана факторыя Манмаранскі-Лэк. Там былі толькі лёд ды пустыня...

Пасля тыднёвага прабывання ў дружалюбным палоне мой спадарожнік-эскімос, які неадлучна знаходзіўся пры мне, сказаў, што са мной будуць размаўляць правадыры клана. Я пайшоў. Старыя і хітраватыя фізіяноміі эскімосаў не зычылі нічога суцяшальнага.

«Ці праўда, скажы нам,— пачаў адзін з іх, відаць, важак,— што ў далёкай краіне, дзе жывуць вашы белыя людзі, бываюць вялікія шатры, якія лятаюць па паветры, нібы птушкі?»

Я адказаў, але нават і не падумаў, чаму задалі мне такое пытанне дзікуны. Назіраючы за тым, як слухалі яны перакладчыка, я заўважыў, што эскімосы насцярожыліся і з нейкай трывогай пераглянуліся.

«А ці праўда,— змяніўшымся голасам зноў спытаў важак,— што шатры гэтыя зроблены з тонкай

скуры, якая з выгляду зусім не падобна на скуру звяроў?»

І на гэтае пытанне я адказаў... І тады, спяшаючыся і перабіваючы адзін другога, насядаючы на майго эскімоса, яны расказалі жахлівую гісторыю, з якой я зразумеў толькі, што... за некалькі гадоў да маёй размовы на тэрыторыі іх клана, прыблізна на 65 ° паўночнай шырыні і 90° заходняй даўжыні, спусціўся з неба паветраны шар. З яго выйшлі белыя людзі. Іх было трое. Гэтыя здані, як называлі іх эскімосы, хацелі спытаць штосьці, але іх ніхто не разумеў...

Пастар больш не мог гаварыць. На яго зноў найшло забыццё.

І доктар і клерк, палічыўшы, што яны ўсё ўжо зрабілі для паміраючага, выйшлі. Каля пасцелі застаўся адзін Рамусен.

Пасля поўначы пастар закончыў расказ эскімосаў.

«Белыя прыкладвалі да пляча нейкія бліпічастыя трубкі і выкідвалі з іх агонь, забіваючы птушак. Злыя духі запаланілі гэтых людзей, і мы вызвалілі іх ад насланння...»

— Што ж вы зрабілі з імі? — спытаў я.

«Мы іх забілі»...

## Гэты дзень

Гэты дзень бывае кожны год. Часцей ён настае асмужаным, з даляглядам, ахутаным блакітным марывам. Але заўсёды — і тут нічога не зробіш, каб і хацеў,— з адзнакай восеньскага ўвядання ў прыродзе, калі ўжо за ваколіцай на траве калышацца змакрэлае павуцінне, а на дарогу падае з дрэў, што растуць у садах і прысадах, закружанае лісце. Здаецца, вось-вось недзе над галавой у цябе закурлыкае жураўліны клін, уносячы кудысьці на крылах з нашых шырот гарачае і духмянае лета. І кожны нібыта міжволі прыцішыць хаду, закіне галаву, каб паглядзець угору, чуйна прыслухацца — аказваецца, сапраўды ёсць унутраная патрэба ўлавіць у небе трывожны крык выраёвае птушкі, аказваецца, за лета ўжо вырас неўпрыкмет у душы сум па ім.

Зразумела, што ў вёсцы свае прыкметы гэтага дня, у горадзе — свае. Але паўсюль адзін і той жа вонкавы малюнак — раптам па нялюдных яшчэ з ранку брукаваных вуліцах, па пясчаных дарогах і тупкіх сцежках, як у тую вясну раўчукі, што ўтварыліся з бруістай расталай вады, паімкнуць у гаваркім імпэце да школ з чырвонымі і белымі кветкамі ў руках трапяткія, радасныя хлапчукі і дзяўчынкі. Гэтая ўзбуджанасць іхняя, гэтая радасць неўзабаве перададуцца дарослым, няважна, ёсць у каго дома школьнікі ці не, і тады ўжо зусім не міжволі кожны пачынае ўспамінаць свае першыя верасні, сваіх настаўнікаў.

Я таксама згадваю... Але першую настаўніцу не ўспомню ў твар, нават імя не назаву. I не дзіва!.. Па той ранняй памяці маёй прагрукатала вялікая вайна, выціснула амаль усё даваеннае (а яго ў маім жыцці было ўсяго сем няпоўных гадоў) і засталася адна сама, з грукатам і горкім дымам, з зарывам пажараў, з жахамі і доўгім чаканнем вызвалення...

Затое трохі пазнейшае ў памяці трымаецца моцна.

У сорак трэцім фронт цераз нашу мясцовасць пракаціўся назад у глыбокую восень і ўжо цэлы месяц недзе грукаў на рацэ Проня, калі ў вёску, затуленую з усіх бакоў лясамі, дарэчы, яна так і завецца — Вялікі Бор, па першым снезе прыйшла ў сялянскім кажушку маладая прыгожая жанчына. Гэта была Вольга Пятроўна Азарава, якую ў Касцюковічах, дзе працавалі ўноў створаныя адміністрацыйныя ўстановы, прызначылі к нам дырэктарам школы-сямігодкі. (Перад гэтым Вольга Пятроўна пахавала ў Машавом свайго памёршага маленькага сына і страціла на вайне мужа.) А школа наша, якая адна не згарэла на ўсю вёску, можа, таму, што будавалася некалі наводшыбе, у сасонніку, тым часам стаяла быццам наросхрыст — без дзвярэй і шыбін у вокнах. На падлозе ў класах бялеў шорсткі снег, з канца ў канец цёмнага калідора гуляў едкі вецер. Не засталося за час акупацыі ні абсталявання, ні прыбораў. Здавалася, да вясны нават заходзіць туды не кожны адважыцца, не тое што захоча вучыцца. Аднак Вользе Пятроўне, нягледзячы на асабістае гора, энергіі было не займаць, і неўзабаве, лічы, праз некалькі тыдняў, як яна прыйшла ў вёску, мясцовыя цесляры, якія па старасці ці проста па нямогласці заставаліся дома, навесілі ў лутκі новыя дзверы, пазабівалі дошкамі пус-

